# Змест

**ПЕРАКЛАДЫ**



**КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ**

# ВЕРАСЕНЬ ПАЭЗІЯ

яўгенія кабяк  наста дадонава
бажэна мацюк  рагнед малахоўскі
людміла сіманёнак  павал змітрук
уладзімір някляееў



# Яўгенія Кабяк

паэтка. Вучаніца 9 класа Наваполацкай гімназіі № 1.
Нарадзілася ў 2004 годзе ў Наваполацку.
Жыве ў Наваполацку.

# Стыгматы душы

***

Заўтра маё за трыма замочкамі:
марай, мрояй і хмарай.
Мара свеціцца сінімі вочкамі,
Мроя мірыцца з днём пазалочаным,
Хмара ж сябруе з цёмнаю ночкаю,
Хмурыцца, ўецца,
Крыху злуецца,
Храмам нябёсным здаецца...
Мараю хмары дожджычак льецца.
Мрояю мары месячык трэцца
аб зорную бездань неба.
Хмараю мары боль прызнаецца
у лусце чэрствага хлеба.

***

Каб не балела,
Не трэба раніць...
Каб не мялела,
Не трэба ганіць.
Раны ад стратаў —
Яны як стыгматы.
Стыгматы душы
Немагчыма злячыць,
Немагчыма аддаць...
Іх можна душыць,
Іх можна крышыць,
А можна змаўчаць...



# Наста Дадонава

паэтка. Студэнтка 4 курса філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Нарадзілася ў 1998 годзе ў Талачыне на Віцебшчыне. Жыве ў Гомелі.

# Каб памятаць...

## З чаго пачынаюся я?

З чаго пачынаюся я?
З вясновага першаквецця,
з трэску сухога галля,
якое ламае вецер,
з бялютка-чырвоных сцягоў,
з крыві, што кіпіць у жылах.
З чыстых спрадвечных багоў,
што дух наш мацуюць сілай.
З легендаў палескіх дубоў,
з гісторыі пакаленняў,
з простых забытых слоў,
што мудрасць вякоў праменяць.

З чаго пачынаюся я?
З уласнага меркавання.
З курганнай смугі ў палях,
з маўклівай тугі кахання.
Са скрухі пустых хацін,
з усмешкі й слязы дзіцяці.
Са сноў, што вярэдзяць спамін
аб цёплых руках маёй маці.
Са слаўных сыноў краіны —
Максіма і Кастуся,
з біблейскіх радкоў Скарыны —
з іх пачынаюся я!

## Талент

*Анатолю Сысу*

А талент, нібы дзіцё,
таму не душыце рукамі
тое, у чым жыццё
пульсуе крыві радкамі.

Не душыце й не біце яго,
бо сёння яму толькі сем.

Ад лёсу узяць свайго
нічога яшчэ не паспеў...

Мабыць сёння яму крыху скрушна,
дык навошта яго яшчэ біць.
Міласэрнасцю поўніце душы,
і не трэба з памылак кпіць.

Крый вас Божа — паэтаў біць,
гэта зробіць жыццё за вас...
Не душыць — ўсёй душой любіць...
І надыдзе іх зорны час.

## Беларускім змагарам

Ёсць людзі-слупы —
стаяць.
Ёсць людзі-ідэі —
не падаюць.
Ёсць людзі-радкі —
баляць.
Ёсць людзі-надзеі —
радуюць.
Ёсць я —
і стаю я тут,
адное жаданне маючы —
забыцца на ўсё вакол,
забыцца на ўсё, каб памятаць...



# Бажэна Мацюк

паэтка, перакладчыца. Аспірантка філалагічнага факультэта БДУ. Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Бярозка», «Маладосць», «Полымя». Аўтар зборніка «Самасць» (2017 г.). Нарадзілася ў 1991 годзе ў Вілейцы. Жыве ў Мінску.

# Зліцца з восенню...

***

*Я перастаю баяцца вар'яцтва,*
*калі бачу зблізу тых, хто хворы на яго.*
**Вінцэнт Ван Гог**

Так, мы вар'яты. Можна не баяцца
І не хавацца, бо вядома ўсім:
Мы блазны, скамарохі і паяцы —
Знаходзім фарбы ў белі сцюжных зім
І бачым лепшых на агульным фоне,
Смяёмся з тых, хто слухаць не мастак,
Не б'ёмся перад моцнымі ў паклоне,
Не прадаём святое за пятак,
І талент не па крытыцы змяраем,
І словы не кідаем проста ў бруд,
На дробязі-знявагі не зважаем,
Не ломімся ад дробязных пакут.
Між намі ёсць закон, даўно прыняты:
Рабі ўсё тое, што ніхто не мог.
Вітаю вас, сябры, мы ўсе вар'яты!
І гэтаму я рада, далібог!

## Я і ты

Не прыйсці да цябе, не сысці ад цябе
і ніколі з табой не застацца:
Ты бы Холмс, я ж разгублены Ватсан —
Ты зрываеш лавіну авацый,
Мне прысуджана толькі трымацца
І маліцца ізноў за цябе.

Не прыйсці за табой, не сысці за табой
і ніколі цябе не пабачыць:
Ты адказ, я ж умова задачы,
Ты натхнёны, жывы і гарачы,
Абавязак нічога не значыць
Мне падораны колісь табой.

Не прыйсці праз цябе, не сысці праз цябе
і ніколі табой не сагрэцца:

Ты fortissimo, я толькі mezzo,
Ты біццё ўсхваляванага сэрца,
Мне ў каханні ніхто не клянецца,
Бо чужы не заменіць цябе.

***

Ты не пускаеш мяне ў свой горад, свой лёс і сваю галаву —
Я плачу праз тваю недатыкальнасць, свабоду і блізкасць.
І гэта не каханне — я гэта ніяк не назаву,
Але на дарозе абранай лёд, небяспечная слізкасць:
Калі нас вынесе — то ратунку не будзе, прабач, не шукай.
Машыну не паправіць, пасажырам чакаць дапамогу:
У некага зламаная ў трох месцах правая рука,
Ў мяне — дык жыццё. Ды й за гэта варта дзякаваць Богу,
Бо адчуваю сябе жывой яшчэ, чулай — таму і баліць,
І цела — не каменнае, а здольнае моцна крывавіць...
Магчыма, нават дождж мне на твар перастане калісь ліць —
І твой пацалунак бяздушны болей не будзе гаркавіць.

***

Дзве зморшчыны на лбе — нібы багацце:
Душы прыкмета і глыбокіх думак.
Знясіленасць і стому мне прабачце —
Збіраю боль ваш у нялёгкі клунак,
Кладу ў валізы цяжкасці пакуты,
Збіраю ў чамадан ізноў праблемы,
У торбу нават важкі страх упхнуты,
Сумненні, недаверы і дылемы.
Не зводзіце вачэй з мяне варожа,
Бо выгляд ваш на дзіва чараўнічы,
Мне ж зморшчыны на лбе так непрыгожа
Душа намалявала на абліччы...

## Маёй мове

Праз сотні год, пакут і скрыжаванняў
Цябе забыць я болей не баюся:
Крыляе над зямлёю белы бусел,
Дае жыццю святло выратавання.
Старому, маладому і дзіцяці

У вершах і радках няўдалай прозы
Нясу цябе — не спраўдзяцца прагнозы,
Што будзеш ты не вартым дня закляццем,
Што ты нямко бяспраўная, благая —
Пакрыўдзіць, перайначыць кожны можа.
А я кажу, што ты гучыш прыгожа,
Нібы пяе ў душы струна тугая.
Твой ціхі спеў — мой лёс. Мая пакута
І шчасце — за цябе заўжды змагацца,
Дазволь мне толькі беларускай звацца
І да цябе навечна быць прыкутай.

***

Маё бяссонне — твой, каханы, грэх.
Маё бяссілле — нашая правіна.
Я буду падаць з паламаных стрэх
Шматпавярховак — і наперад спінай...

І свой адчай я з некалькіх прычын
І з некалькіх нагод даўно складаю:
Мая душа хацела на спачын,
Даводзіцца ж то ў рай, то ў пекла з раю...

Пакінь мяне без болю і без слёз.
Змяняць жыццё, упэўнена, складана,
Ды я пайду пытацца наўсур'ёз
Пра шлях свой у Талмуда і Карана.

## Незнаёмцу

Ты засынаеш, бы вакол не наша ноч,
Як быццам з днём і сам падаўся адпачыць,
А я прашу ў нябёсах поўню: «Не суроч!
Не кроч
за намі, каб да раніцы сачыць!»

Ідзі за мной. Не паварочвай галавы.
Вяду туды, дзе нас чакае зарапад
І ціхі спеў гучыць аркестраў духавых,
А Вы
(ці ты?) вяртаешся назад...

Табе (ці Вам?) я не скажу і пары слоў,
Начныя фарбы растлумачаць пачуццё:
У ім і шчасце адзавецца крыкам зноў,
І кроў
          пральецца — так загадвае жыццё.

Вы засынаеце. Ажно да нематы
Сціскаю зубы, каб не крочыць шпарка ўзбоч.
Удзень мы пешкі шэрай золі і слаты.
А ты,
        чужы, падараваў мне гэту ноч.

## Геній

Здаецца мне, што лепшай быць — не мэта:
Са світкі ці падранага саета
У футра пераскочыць не рэзон,
Бо ўсе сышлі, застаўся толькі ён,
Пісьмовы стол, пісьменнікава крэсла —
Я крэсліла, а лёс хацеў, каб счэзла.
Ды слёз на твары нешта не было:
Ля печы — абгарэлае крыло,
Другое — даламанае — за спінай.
І дзякуй, што мяне не лічыш віннай
Хаця б у першародным не-граху.
Спытацца ў неба сіплым шэптам «Who
Est Ён?» — і не чакаць ужо адказу.
Пісьмовы стол. Пісьменніцкую фразу
Разрэзалі бязглузда на шматкі,
Сацкалі з іх не-гукі, два глыткі
Атруты, кімсьці знойдзенай у слове.
Ён любіць вас у піку мне, панове.
Ён будзе тут — яму не трэба змены.
Пісьмовы стол. І побач ён — пісьменны.

***

Ісці наперад — а трапляць назад...
Усё цыклічна і ўтварае кола.
Змяніў кастрычнік мокры лістапад:
Вакол ні фарбы — безнадзейна-гола,

Замоўклі гукі — спее цішыня,
А развітанні сталі добрай звычкай —
Калі не змог тугу сваю прыняць,
Табе яе даставяць электрычкай.
Зімовы подых зноў прыснежыць скронь,
Завеяй першай выстудзіць дарэшты —
І скамянее белая далонь,
Не адгукнецца на чужое «Дзе ж ты?»
Святло — не з лямпаў, шчырасць — не з прысяг,
І адзінота — не з пустэчы ночы...
Усе пачаткі маюць свой працяг,
Таму і мы назад наперад крочым.

***

Расплюшчыць вочы — і ўдыхнуць цябе з паветрам.
І быць шчаслівай праз звычайны лёгкі дотык,
Хоць вельмі страшна адкрывацца перад светам,
Бо я рабыня і ўладальніца самоты.

І пацалункам пачынаць вясновы ранак,
І светлай думкай пра расквечанае заўтра,
Хоць недзе ў сэрца недалечаная рана,
Бо адзіноты вечнай я і тэкст, і аўтар.

Пачуццям здацца — і не думаць пра расстанні,
Так усміхацца, бы не прыйдуць болей слёзы.
Давай не разбірацца, потым што настане,
І не чакаць хвіліны, дзе ўсё будзе позна.

## Зліцца з восенню

Восень ідзе на дыбачках па сталіцы,
Жоўтыя пальцы гладзяць маё валосcе,
Плашч на плячах яшчэ не паспеў стаміцца,
А парасон ад неба хоць кроплю просіць.

Толькі задуха кіне трымаць за горла,
Сівер аддасць загад разагнаць лістоту.
Восень ужо малюе маё мандорла —
Цела няўцямна чуе іржавы дотык.

Ціша шукае кветкі рудой вяргіні
І абрывае хутка — на падарункі:
Хопіць казаць пра восень, што нешта гіне.
Чырвань з майго валосся пляце карункі...

## Споведзь паэткі

Будзённасць вёрстаў не дае імпэту,
Ды на зямлі трымае разуменне:
Не я сабой напоўніла планету,
А свет — маё святое напаўненне.
І я, пакуль нясу павіннасць гэту,
Не маю права на падагульненне:

«Апошняя вярста маёй Галгофы
Не стане ні шчаслівай, ні адчайнай,
На твары ні наступстваў катастрофы,
Ні следу перамог — усё звычайна,
А ведам не зайздросцяць тэасофы —
Я не раскрыла невымоўных тайнаў».

Ад першых вёрст прысуджанай дарогі
Не здолела адстойваць гучна мову,
Ды з ёю падымалася на ногі,
Каб з годнасцю маліцца Богу-слову.
Яно глядзіць з вышынь — і позірк строгі:
«Жыві напоўніцу, не трэба напалову».



# Таццяна Казановіч

**паэтка, празаік, музыка, драматург, тэатральны рэжысёр. Заснавальнік і кіраўнік музычнага гурта «Тутэйшыя». Друкавалася ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў горадзе Рымаржаў (Чэхія).**

# Не забудзь мяне, неба...

***

Беражыце сябе і пачуцці свае
Не кідайце ў адчаі долу,
Палюбіце сябе, ўсё прабачце сабе,
Не аддайце на глум чужому.

Я не ведаю: як бы квітнелі сады,
Калі б гэта было без патрэбы.
Вы паверце сабе ды паверце ў сябе,
Ў кожным з нас ёсць кавалачак неба.

Не спяшайцеся жыць, пажывіце цяпер,
Без напружання і без плёну.
Беражыце сябе і пачуцці свае,
Бараніце ажно да скону.

***

Вось і ноч надышла,
Раптам стала спакойна.
Тое, што хвалявала,
Паглынуў неба цень.

Стала самой сабой,
Нават дыхаю вольна,
У далёкім мінулым
Застаўся мой дзень.

Дзень трывог, сумных дум,
Спадзяванняў, чаканняў,
Дзень, дзе разам з табой
Мне ніколі не быць.

Ну, а што з ночы ўзяць?
Ёсць у ночы прызванне:
Сэрца прысак гарачы
Ў святле зорак таіць...

***

Галіны чорныя глядзяць у неба,
Забіўся ў хмары птушыны крык.

Былое ўсё больш не патрэбна,
Твой твар у ночы халоднай знік.

Згубіць надзею, каб зноў вярнуцца,
Чакаць вясну, але не жадаць.
Так лёгка можа свет пахіснуцца,
Так цяжка зноў яго збудаваць.

Назад у мінулае — за адказам,
Але сустрэць там пытання цень,
Што так балела не пройдзе з часам,
Ні праз стагоддзі, ні ў гэты дзень.

Ніякіх ісцін і пастулатаў,
Ёсць наша стаўленне да ўсяго.
І гэта вера, і гэта праўда,
Што побач з болем стаіць дабро.

Нам застаецца паверыць у Бога,
І папрасіць яго трошкі сіл,
Ісці адзінай сваёй дарогай,
І ведаць: шчасце ты не згубіў.

## Мова

Вясковую дзяўчынку ўсе жыхары любілі,
І як яна спявалі, і гэтак гаварылі.
Ў халодны дзень марозны сэрцам сагравалі,
А летам карагоды вакол яе сплятталі.

Падзьмулі злыя ветры, аж дахі нахілілі,
З усходу ў вокны гнулі і з захаду студзілі.
Жадалі яны знішчыць вясковую дзяўчынку,
Схавалі людзі ў лесе яе, як журавінку.

Расла яна, квітнела, але каб не пачулі...
Хіба што толькі ў спевах ад роднае бабулі.
Дзяўчынку звалі Мовай, яна дасюль жывая,
Чаму ж мы, беларусы, на ёй не размаўляем?

***

Дожджык, перадай мае слёзы,
Скажы яму — я шчаслівая,

Дакраніся да сэрца ягонага
Срэбнымі пералівамі...

Так ласкава, і так пяшчотна,
З подыхам ветрыку летняга,
Абдымі яго так асцярожна
І патаемна.

***

Не забудзь мяне, неба,
Не пакінь без надзеі.
У руках маіх стрэльба.
Я не ведаю: дзе я.

З чым мне трэба змагацца?
У што верыць, маліцца?
Як бы мне не застацца,
Не згубіцца, не спіцца?

Вы пачуйце, аблокі,
Як маё б'ецца сэрца.
Як яно моцна хоча
Сонца промнем сагрэцца.

Вы ляціце упарта
У сваім накірунку.
Вы скажыце вятрам там:
Я чакаю ратунку.

Хай падзьме вецер моцны,
Пыл навокал уздыме,
Вырве з коранем сосны,
Што душою гнілыя.

Хай апалае лісце
Да нябёс дакранецца.
А яны, як калісьці,
Вернуць веру у сэрца.



# Рагнед Малахоўскі

паэт, фотамастак, музыка. Аўтар паэтычных кніг: «Беражніца» (2005 г.), «У дзённай мітусні» (2012 г.), «Жыві!» (2014 г.), «Кахання радок» (2016 г.), «Клічнікі дажджу» (2016 г.), «Выгнаннік дзьмухаўцовага раю» (2016 г.), «Прочность огня» (2018 г.). Нарадзіўся ў 1984 годзе ў п. Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). Вырас на Нарачы, жыве ў Мінску.

# Шлях слязы...

## паролі

усё міне
і застанецца толькі шум
а хто ж пад фотаздымкам лайк паставіць
адмін засне
ў яго сваіх хапае дум
а нас не будзе
нас ніхто не ўспомніць і не ўславіць

міне жыццё
ды застануцца ўсе паролі
не будзе іх каму
ўзламаць і перайначыць
з нас кожны граў
свае адведзеныя ролі
камусьці гэта ўсё было патрэбна значыць

## эпоха спажывання

прачынаюся на золку
прасціны пахнуць сэкандхэндам
пачынаю адчуваць сябе
учорашнім днём
схаваным ад свету
перажытым
што ўжо быў ва ўжыванні

ужываю каву
ужываю пах свежай ружы
падараванай апошнім прыхільнікам
ужываю пару мацюкоў
калі акідваю вокам
ранішні беспарадак у пакоі

беспарадак у пакоі
беспарадак у свеце

беспарадак у галаве
схіляе да думкі

заняцца інтэрнэт-шопінгам
хутчэй бы і гэты дзень
стаў былым ва ўжыванні

## чорная скрыня

слепіць вочы блакіт
у вушах новы хіт
на радары чыста
паветра празрыстае
ды месца гэта магніт
для тэрарыста

ні на полі цудаў
ні на што дзе калі
ні на мінным полі
ці проста ў полі
нават у алкаголі
не знайсці такога хэдлайнера

я чорная скрыня
на борце авіялайнера

## мары

усё што калісьці мы намарылі
пахавала пена аліварыі
апынулася па-за сістэмай
назаўсёды забытай тэмай

засталіся сябры і падпісанты
пазашлюбныя дзеці
палюбоўніцы
лісты да санты
над нараччу вецер

## памяць

дзень памяці продкаў
дзе б адшукаць кнопку
што вяртае да нас старых
крыжык
акенца
штрых

## вочы слязьмі напоўняцца

засталіся тата і мама
пошта без спама
навальнічнае неба
ад краю да краю
а мяне магчыма чакае
паветраная яма

на развітанне
ні аб чым не прасіў
і ты маё каханне
ні аб чым мяне не прасі
на мове чужой прэса
усміхаецца сцюардэса
схавалася шасі

## піксель

думак густы кісель
берагі з часам размываюцца
хто доўга затрымаецца
таго змые плынь

рэчышча шукае рака
гэта не янь і не інь
чорны піксель
знакамітага мастака

марыў стаць выключэннем
а стаў правілам

## няма праблем

на пары
ты сядзіш на парце
і вышэй за цябе
толькі лектар-паркінсонік
спрабуе тлумачыць
праблемы ўзаемаадносін
жанчын і мужчын

жанчыны кахаюць вушамі
мужчыны баяцца прыгажосці

а я без праблем
пільную цябе
з паралельнага свету
еду ў падводным трамваі
лавіць невядомую рыбу
якая таксама
не мае ніякіх праблем
акрамя мяне

## нуль

запомні момант гэты
у бязлюдным двары
спалі з вершамі ўсе газеты
дзіця са школы забяры
і бяжыце ад снайперскіх куль
бо мы часцінкі планеты
якой паставілі нуль

## дэфект

кожны хто бачыў гэта
аказваецца быў з дэфектам
памада з вільготным эфектам
на вуснах дажджу
расфарбавала недарэчна аўтастраду
я на яе гляджу
з нябёсаў колеру шакаладу

употай
уратаваўся адзінотай
а ўнізе аўтастрада разразае краіну
напалавіну

спынілася машын калона
дзікі крык
пасярод газона
паламаныя спіцы майго парасона

## трыццацідвухгадовы

абяцаў табе паказаць парыж
чаравікі начысціў крэмам з воскам

але ты па-ранейшаму спіш
з тым гламурненькім неданоскам

патанае ў глянцы
ні адняць ні дадаць
але дзеля цябе ні на што не гатовы
ну а я аніяк не магу прадаць
мерседэс трыццацідвухгадовы

таму ты па-ранейшаму спіш
бо хацела жыцця бесклапотнага з лоскам
трыццаць два
а ўжо стаўлю крыж
чаравікі начышчаны крэмам з воскам

## выпадкова

толькі адзін раз
бачыў цябе ў жыцці
калі прыязджала пажарная
ты бегла полымем па лісці

заканчэнне лета
не абяцала нічога новага
ты стала цяжарная
ад паэта
выпадковага

## шлях слязы

недарэчная сварка скінула маскі
агаліла нервы
загнала душу ў адзіны кут
пакуль не зняважаны брыдкаслоўем

навошта запавольваю злое імгненне
зацікаўлена ўзіраюся
у павуцінкі-зморшчынкі
ля тваіх насцярожаных вачэй

не жадаю чуць словы
не жадаю хавацца ад рухаў
падпарадкоўвацца хлусні

пытанні і адказы
яснасць і непаразуменне
мінулае і будучае
усё ў вачах
мітуслівых
узрушаных
непрадказальных

перапоўнены сасуд пачуццяў
надрыўна лопаецца
знясіленыя вочы
нараджаюць няпрошаную слязу

імгненне запаволена
але наперадзе яе непазбежная пагібель
сляза звар'яцела гарыць і таму апякае

яна ўпілася ў твар і нахабна дзярэ скуру
далонь цягнецца яе змахнуць
але ў хваляванні памыляецца
і дакранаецца да запаленых вуснаў

сляза жадае спакою
раўнавагі
упэўненасці
забудуцца прычыны і наступствы
паўстануць новыя муры чалавечых адносін
пераасэнсуем каштоўнасці.

сляза настойліва знойдзе свой шлях
яна як лёс
як жыццё
як чалавек
хоць і не заўважаем
але рана ці позна
праходзім гэты горкі шлях
спрадвечны шлях слязы

## дабранач

няхай не засынае Бог
над гэтай акрываўленай зямлёй

няхай не знікне свет
у гуках калыханкі

няхай на ланцугу
ды хочацца так жыць
залізваць раны
выпіваць на свята

дачцэ спявае мама калыханку
а Ён глядзіць на іх
стомленымі соннымі вачыма
і запаўняе розум
думкамі аб вечным
абы толькі не заснуць

спытаць бы ў Яго
чаго чакаеш ад нас
неразумных
можна толькі здагадвацца
і верыць
Бог не хоча
нашага знікнення

## астрал

калі не стае шчырасці
і застацца з табой
азначае быць расстраляным
агрэставымі вачыма
у знак пратэсту супраць рэчаіснасці
устану з пакамечаных прасцін
і паспяшаюся выйсці
з перакрэсленай стомай пустыні
напрасткі ў сталіцу

напарстак раструшчанага сонца
перасцерагае ад настальгіі
што ў абрысах стагоддзяў
абрастае злоснымі наступствамі

часта ўяўляю сябе містычнай істотай
час такі самадастатковы

станцыя кастрычніцкая
найлепшае месца для расставанняў
і новых незапланаваных сустрэч
а на паверхні перамагае страх
і стогнуць праспекты
застаецца толькі выйсці
са скамянелага статку
і ўвайсці ў астрал

## ідэя

напачатку была ідэя
ды ніхто не сказаў ёй
што ідэальных не бывае
яна пыхлівая і капрызлівая
пажадае падпарадкаваць сабе ўсё

сустрэнуцца ідэйныя людзі
прамовяцца высокія словы
з перайначанай ідэі
пачнецца ідэалогія
і захлынецца
у ідэалагічна правільным
ідыятызме

## вясна

першы курс
на студэнтку ля дошкі раве
неда...аханы лектар

пад вакном
папяровы караблік плыве
у калектар

## Зоркі

на стылым небе
бразгаталі зоркі
як дробныя манеты ў кішэні
мяняў валюту
ля залатой горкі
пачуваў сябе нязвыкла
ходзячай мішэнню

на гарбатым пляцы
пасля кавярні
пісаў санеты
што ўсіх дасталі
бразгаталі зоркі
у пабітай шклянцы
калі ўсе паэты
спалі

## вобразы

рысы дажджу гатычныя
у паветры з пахам азону
пад тэксты старога шансону
вобразы малююць эратычныя

для кагосьці гэта проста вада
кропель бясконцыя копіі
патанае ў антыўтопіі
вечаровых аблокаў слюда

і ў вачах тваіх бачыў я готыку
ты маіх пачуццяў рабыня
а я пандоры таемная скрыня
дастаткова аднаго толькі дотыку

## абанент

памяняў
тарыф
нібыта зняў
сакрэтнасці грыф
са свайго існавання
а тэма кахання
па-ранейшаму не раскрыта
завёў іржавае карыта
увёў каардынаты GPS
прыняў ад аператара СМС
і хоць учора ў клубе
крыху перабраў
твой нумар правільна набраў
ды выраз пачуў банальны
абанент часова недасягальны

## аплявуха

па тваёй новай аве
я зразумеў
як усё было на самай справе
але чамусьці
крыло далоні
апякло ад шчакі да скроні
вырашыў забыцца
і пайсці пагаліцца

## вай фай

спытаў у выпадковага анёла
які пароль ад вай фай
стала ўсмешка ў анёла
як кола
тут пароляў няма
гэта рай

злавіў вай фай
і ліст адаслаў
са словам адзіным
бывай

## фон

павышаецца фон
электрамагнітных завей
ты кладзеш свой айфон
на мой хуавэй

ты не любіш дызайну алдскульнага
а мне хочацца новую кроў
ды няма ў нас нічога агульнага
толькі сотні агульных сяброў

мы стварылі сабе турму
дзе штовечар грашым
каб належаць адно аднаму
уключаецца вібрарэжым

вочы сінія-сінія
глядзяць на мяне аднаго
рэгіянальныя лініі
нас вязуць у баранавічы
невядома чаго

## дзве канстанты

думкі з варожай інтанацыяй
чакалі жорсткага кампрамісу
ад станцыі да станцыі
мы
дзве канстанты
у вайберы смайлы прымалі
і фактаў канстатацыі

не выкарабкацца з крызісу
затуманеныя галовы
проста матэрыял чалавечы

абяцалі сабе не прывязвацца
верылі ў простыя словы
спявалі пра простыя рэчы
а бывае часта
надыходзіць момант
калі патрэбна проста ўзяць
і адсекчы



# Людміла Сіманёнак

паэтка. Аўтар паэтычных кніг: «У люстэрку» (1996 г.), «Разгорнуты сусвет» (1999 г.), «Незабыты шлях» (2011 г.). Нарадзілася ў 1975 годзе ў г.п. Обаль на Віцебшчыне. Жыве ў Віцебску.

# Жывая вада

***

Нібы ў чатыры творачы рукі —
Мы з Богам, дабрасліўцы ды зладзеі —
Ўсё дадаем няроўныя радкі.
Тлусцее кніжка. Вокладка старэе.

Падсумаваўшы высілкі усе
Сутворчасці спрадвечна-небяспечнай,
Рыхтуецца выданне пакрысе
Пад крыжам стаць у шыхт бібліятэчны.

***

Ёсць душа, як сцяна, непахісна-глухая,
Што ў сябе ані промня святла не пускае,
Скарбы ў ёй ці лайно — аніяк не спазнаеш,
Покуль лавай эмоцый сцяну не зламаеш.

Ёсць душа, як люстэрка, — любуйся сабою,
Не шукай дачынення з паверхняй чужою,
Каб на вострае шкло ў парыванні ахвочым
Не скалечыць навечна далоні і вочы.

Ёсць душа-дыямент — не сапраўдны, дык штучны,
Дзе на кожнае грані агеньчык выключны.
Тут ад кропкі пагляду, прадбачлівы дружа,
Выпадае, пашчасціць табе ці не дужа.

А бывае, знаходзіш душу, як крыніцу,
Дзе струменьчык святла да паверхні бруіцца,
Што натхнёна напоіць і вусны, і сэрца,
Дасць у спёку астыць, а у сцюжу сагрэцца.

Ды няшмат будзе чыстых крыніц ля дарогі —
Любяць чэрці ў іх мыць капыты або рогі...

***

Дарэмна хваля светлага натхнення
Змывае асцярогу з галавы,

Бо наш Парнас — у багне пад карэннем,
Забыты, непатрэбны, ледзь жывы.

Майго гнязда галінка не ўтрымае,
Тупым сярпом спадзевы абкашу.
Цень прышласці паціху накрывае
Зняверана-спакойную душу.

Без мары аб прытулку ці начлезе
Прашу забыцца кінутай адну,
Як зрэзаную кветку, што не лезе
Ў часовую бліскучую труну.

***

На доўгі век ці на хвілінку,
У небе крэслячы сляды,
Яшчэ не ведае сняжынка,
З кім побач ляжа і куды.

Ці то пры полюсе ў сумёце
Заблішча зоркай снегавой,
Ці то ў нясконччаным палёце
Жывой абернецца вадой.

На нос шчаслівага дзіцяці
Або на покрыва труны...
На чалавека як ні ўпасці —
Не датрываеш да вясны.

***

Хваля віхляе, кружляе, пятлюе,
Хуткі фінал свой прадбачліва чуе,

Плынню хавае далёкія згадкі,
Бляклых пялёсткаў палошча ападкі,

Гладзячы светла-зялёныя травы,
Плаўна кладзецца на бераг смуглявы.

След бесклапотна мінулае долі
Лёгка ў нябыт адплывае без болю.

***

Ты дарэмна мяне пытаеш
Пра вытокі, шляхі, прычыны.
За люстэркам жыве чужая,
Невядомая мне жанчына.

Па-за срэбна-празрыстай сценкай,
Дзе прынад і вабнотаў многа,
У яе расхінутых зрэнках
Гінуць промні святла жывога.

***

Б'е струмень па начоўках — звініць у вушах
І дрыготкаю рук аддаецца.
Дамавік адвячоркам узлазіць на дах
І адтуль, нечапаны, смяецца.

Не баіцца старэнькай антэны крыжа
І цікуе ў выдатным настроі:
Бліскавіцы халодным мільганнем нажа
Цёмна-сіняе покрыва крояць.

Мае час, пазіраючы ўніз на краі,
Падлічыць у прамоклым сутонні,
Колькі кінутых рэчаў за ноч ручаі
На аздобу русалкам прыгоняць.

***

У акіянскай русалкі як трэба:
Жэмчуг, каралі ды золата з неба,
А у рачной не хапае пялёсткаў
Шчыльна укрыць чалавечыя косткі.

Гонячы зайздрасць да пышнай сяброўкі,
Ціха ўздымае круглявыя броўкі,
Леташніх гуляў хавае правіны:
Цягне шкілет у бузу-багавінне.

Стомлена чэша карэньчыкам косы,
Сочыць апошнія промні з нябёсаў,

Цешыцца плоткамі ў дне і сабою:
Хтосьці ж апоўначы йдзе за вадою...

***

Водсвет поўні з-за хмары міргнуў угары
І, ў шуканні дачаснай магілы,
Павярнулі раку да вытокаў вятры,
З кожным подыхам трацячы сілу.

Затрымаць маладосць ды каханне яшчэ
На паўночы амаль удалося.
З першым промнем да мора рака пацячэ
З відарысам таго, што збылося.

***

Мой Цмок жыве ў глыбокім акіяне,
Куды з вышыняў промень не дастане,
І п'е струмень падводнае ракі,
І песціць неабдымныя бакі,
І жывіцца мільёнам трылабітаў —
Сучаснікаў гісторыі забытай,
Калі я валадарыла зямлёю,
Паловай мора, шчасцем і табою.

***

Непрыкметна штораз падыходжу сюды
Сілкавацца намерам прынадным:
Дакрануцца балюча-халоднай вады
І ступіць у яе неаглядна.

Кінуць выклік лагодна-разважнаму дню
У чаканні нязнанай пацехі,
І смяротную раптам спазнаць глыбіню
І няўменне трымацца паверхні.

Пасміхайся сабе. Ты, вядома, прывык
Да мігцення жаночых настрояў.
Пачакай-пачакай, мой сівы Вадзянік.
Я вярнуся. Я буду тваёю.

***

Лістота, як падраны парашут,
Вісіць у небе, тоячы трывогу.
На дне ракі імя тваё пішу,
Каб зоркі не заўважылі нічога.

Шчупак драпежна зыркае здаля,
А хваля у віры травою круціць.
Нас не сурочаць неба і зямля,
Бо вецер дна не можа скаламуціць.

Русалка спачувальна падміргне,
Хоць, ведама, ёй справы дужа мала,
Ці хутка твань руку маю глыне,
Што неабачліва імя тваё пісала.

***

Як мітусіць стракаты карагод,
Сачу з-за ценю соннага пагурка,
Нібы чужая, бо таму сто год
Праз злое слова сталася Снягуркай.

Наблізіцца, жахнуцца, адступаць
Ад берагу, дзе стылы вір бруіцца.
Ёсць рэчы, пра якія лепш маўчаць —
Прынамсі, да пары, пакуль маўчыцца.

Стаміўшыся бяздзейнасцю сваёй,
Вакол пагурка тройчы крутануся
І па-над незамерзлаю вадой
У лёгкім парыванні нахілюся.

Не прычакаўшы новую зіму,
Снег паплыве халоднаю ракою
І, ўсцешаная, гэты лёс прыму,
Як лепшае, што збудзецца са мною.



# Павал Змітрук

паэт. Аўтар паэтычнай кнігі «Хінжа» (2005 г.). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Дукарка на Пухаўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Ля бурштынавых пацеркаў...

***

Балядашы бяроз,
жырандолі кляновых палітраў
запаламіся свечкамі
ад лістападных дыханняў.
Гэты лес нібы Храм,
дзе мы шлюбную шэпчам малітву,
і прытулак для нас,
безнадзейна цяпер закаханых.
Нібы радасны дом,
дзе нарэшце жыве дараванне
за натхнёныя барвы
маіх лістабояў мінулых.
Ў гэты восенны шолах
зліліся і нашы дыханні,
і ў вачах тваіх неба маё
назаўжды патанула.

...і кляновыя шаты
ірдзеюцца, як жырандоля,
і рассыпаў святло
балядаш лістападных бяроз.

***

З першым снегам цябе, Яснавокая,
з белым полем.
Вось і ўсё — лістабой адгалёкаў,
адсвavоліў.
Скрозь, як вокам сягнуць, замалёвана
белай цішаю.
Нібы аркуш для верша для новага,
што напішацца.
Ты — насуплены верабейка мой,
Носік — змерзлаю дзюбкаю.
Як жа ўсцешна мне саграваць цябе,
мая любая.

І пазябласць тваю як жа соладка
крадаць вуснамі.
З белым садам цябе, Яснавокая.
Снежна-русая.
І пасля, у нацепленай хаце,
на грудзёх тваіх сон мой застыне.
Каля дзвюх адхуканых пацеркаў...
Ля бурштынавых.

***

Разлілася валошкамі
небасінь на палях.
Не тапчы ты іх ножкамі,
Яснавокая.
Не тапчы іх каленькамі,
не губі іх красу,
дай цябе як маленькую
на руках панясу.
Будзе схоўны пагорачак —
дзе ён дзенецца...
Ах ты, гузікі, гора-горачка,
на сукенацчы...
Колас з коласам шчытна так
сорам наш абаўе,
дзюбкі вытыркнуць цыцачкі,
птушаняткі мае.
Ах, ці хто грэхаводзіў так
ў гэтым полі.
Можа потым на споведзі
што й адмолім...

Будзеш паняй валошкавай,
найпякнейшай красы...
Не тапчы ты іх ножкамі,
не страсі з іх расы.

***

...а салоўка на зоркі спяваў нібы з нотаў,
шчырай споведдзю ўсцешваўся перад Сусветам.
Дагарала вясна Шляху Млечнага кнотам
у астатнюю ноч напярэдадні лета.

Дагарала ўдакон, безнадзейна наўроспыл.
...незваротнасць пачатку, бязвыйснасць скanання...
Белы вэлюм з учорашніх йгрушавых кроснаў
Белым дымам сышоў, дапалаўшы дазвання.

І ані не хацелася чуцца паэтам,
ні каго — ратаваць, ні за нешта — змагацца.
Так бывае.
Каханне пачне разгарацца
у астатнюю ноч напярэдадні лета.

***

...ах, ну як там сад наш, ну як вясна,
як там шал вішнёвы за вокнамі,
як ты цэлы дзень без мяне адна,
Яснавокая...

А салоўка ў штрыфелі давідна
не змаўкае...ну як так можна!
Не хадзі ў вечаровы сад адна —
мне трывожна.

І салоўкавых вершаў пра ўсе Сусветы
без мяне не слухай,—
я вярнуся адзіным тваім паэтам
без нуды, без скрухі.

І табе ўспатоленай раскажу
што ўначы напішацца.
Удваіх з табой — як пасля дажджу —
не надыхацца.

***

Не хачу разбудзіць ані позіркам,
ані дотыкам,
шчэ хвілінку паспі гэтак соладка,
Яснавокая.
Не крану твайго сну нават думкамі
найласкавымі,
найхарошшымі, найнясумнымі,
мая самая...
Хай не з першага промня, хай з трэцяга

блісне радасцю,
бо світанак з табой як не стрэціцца —
дзень не зладзіцца...
Разблакітнела неба за вокнамі
быццам возера —
я цябе разбудзіў, Яснавокая.
Позіркам.

## Даўні верш для дачушкі

Пойдзем, Галінка,
з табой праз лясок, праз зайкаў лясок. Там ручаінка
як паясок, як твой паясок.

Там, дзе люструючыся ў вадзе,
ў чыстай вадзе,
дзетак вавёрка ў арэшнік вядзе,
снедаць вядзе.

Там ані бякаў, ні злыгі няма
там, а яшчэ
пернік для зайкі
Ягінька сама
з кменам пячэ.

Там Дзед Гаюн
на рабінавым пні
ягадным днём
Скажа:
«Хадзі да мяне, дзеўчанё,—
сядзь адпачні».

Там нібы котачка
лашчыцца мох,
ўецца з-пад ног,
пойдзем, Яснотачка,
ў казку тваю,
пойдзем удвох.

## Малітва

О Госпадзе, хай буду я распнуты
нялітасцю Тваёю цераз край,
калі ўчыню хоць некаму пакуту

наўмысна і бязвіннаму. Карай.
Карай, які б ні быў я небагаты,
ці ў колас пляц мой, ці адно ў асці,—
карай, калі хоць шпунт з бацькоўскай хаты
на грошы памяняю пры жыцці.
Карай, калі катораму з няўклюдаў
ў нявыйснай багне не падам руку,
але, як хочаш, а Тваіх іудаў
пакіну на асінавым суку.
Карай, як прад Табою зманным буду,
мацней чым я сябе караю сам,
але, сустрэўшы хама ці паскуду —
ім без сумневу іхнім і аддам.
Карай — што помста для мяне — адхланне,
за злыгу — злыдню, здрайцу — за ману,
карай жа ж мне маё недараванне,
бо здрайцу помстай я не абміну...
Карай, што не аддаў для Беларусі
той кволай пядзі, што ў маім ілбе,
карай, што я
дасюль Табе малюся,
хоць не заўсёды верую Табе.

## З нагоды аднае сустрэчы

...цякла бяседа за сталом,
пра свет пра цэлы,
нібыта скручаным камлём
у печы тлела.
А вочы ў кожным у ілбе
сядзелі хітра,
ані імпэту тут табе,
ані палітры.
Што ж за мастак нас звёў такі
суздромна шэры,
і вось жа, ў локаць ад рукі,
на ганак дзверы.
Начорта — думаў — я ў жыцці
у вашым здаўся,
начхаць бы мне на вас,— сысці...
А я застаўся.



# Уладзімір Някляеў

паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000 г.). Аўтар кніг паэзіі: «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Кон»; прозы: «Лабух», «Цэнтр Еўропы» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні. Жыве ў Мінску.

# Знічы кахання

*(З новай кнігі)*

## Ліст да Вольгі

Калі мяне не стане, не сумуй!
Я так хачу, каб ты не сумавала,
Каб з губ, што мне шапталі пацалуй,
Усмешка сарамліва не знікала,
Каб не губляла ты мяне нідзе,
Каб не шукала ў снах, на фотаздымках,
Каб днём і ўночы ты ў маіх абдымках
Хавалася, як ластаўка ў гняздзе.
На тым шляху, што выбраны не намі,
На тым, які нам Божа даў, вяку
Я праз цябе з віною і грахамі
Прайшоў, нібы праз горную раку,
Дзе берагі іскрылі, як каралі,
Дзе й следу не пакінула брыда!..

Я не баюся Божага суда,
Бо ты мяне абмыла, як вада,
Якою пры хрышчэнні абмывалі.

Няхай і гэты свет — і той міне,
Ды не міне імгненне, што між імі,
Паміж удыхам з выдыхам мільгне,
Паміж тваімі вуснамі з маімі,
Што зблізіліся так — да нематы,
Зліліся гэтак, што ні я, ні ты
Іх разамкнуць, разліць, разняць не ў стане,
Што я тваё, а ты маё дыханне.

Ніводны міг у лёсе не дарма.
Я болей стаў тваім, чым ты сама,
І больш, чым сам я, ты маёю стала,
Такая сіла нас спляла, з'яднала,
Што большай сілы на зямлі няма
Ані ў людзей, ні ў птушак, ні ў звяроў,
Каб разняла нас ці жывых, ці мёртвых, —
Хіба што можа разарваць аорты,
Але й тады злюцца кроў і кроў.

*20.03.2019, Мінск — Вільня*

## Знічы кахання

Нібы жар-птушкі ў чарадзе
У вырай ранні,
Плывуць па небе і вадзе
Знічы кахання.

Мігцяць скрозь цемру са смугой
І скрозь аблокі,
І сярод іх мільгае мой —
Ужо далёкі.

Каханая!.. Я не забыў,
Пра што я мроіў,
Калі агонь той запаліў
Тваёй рукою.

Калі паплыў ён па рацэ —
Той зніч высокі!..
Калі я ўбачыў на руцэ
Яго апёкі.

Калі мы сталі над ракой —
Рука з рукою,
Калі я ўсёй сваёй крывёй
Стаў той ракою...

*13.06.2019, Лунд*

## Аліва

*Вользе*

Ён моўчкі крочыў берагам марскім.
Ягоныя сляды змывалі хвалі
І адбягалі... Потым цалавалі
Сляды жанчыны, што ішла за ім.

Ён не глядзеу, ці йдзе? Ён шлях пачаў
І доўжыў так, нібыта йшоў да мэты,
Якой? Ніхто не ведаў, апрача
Яго самога і жанчыны гэтай.

За імі шлях не рассыпаўся ў прах,
Бо самі йшлі яны, куды хацелі,

І разам з імі па сваіх шляхах
Звяры і птушкі беглі і ляцелі.

Днём грэла сонца. Ноччу грэў касцёр.
Яны ішлі — нічога не шукалі.
Пілі ваду, што працякала з гор,
І елі сыр, што пастухі давалі.

Калі ісці стамляліся, плылі.
Спаць клаліся пад вечнаю алівай.
І ён спяваў нараніцы, калі
Яна з ім прачыналася шчаслівай.

У ёй аліва вечная цвіла,
Якая йсці яму давала сілу,
Ён вёў яе, яна яго вяла
Ад небасхілу і да небасхілу.

На іх сляды, што йшлі вакол зямлі,
Пакаліся сляды дачкі і сына...

Бог ведае, куды яны ішлі...
І хто быў ён... І хто была жанчына...

*09.09.2018, Ліда Марыні, Салента (Італія)*

## Магдалена

*Магдалене Дашкевіч*

У кожны міг сканчаецца дарога —
І тут жа пачынаецца наноў,
І доўжыцца дарога з ласкі Бога,
І атуляе нас Яго любоў,
І наша да Яго любоў святая,
Як ластаўка, крыляе і ўзлятае
Да ясных і засмучаных нёбёс,
Туды, дзе кросны Божыя, дзе лёс
Жывою ніткай ткуць для нас анёлы,
Каму самотны, а каму вясёлы,
Ды ўсім такі напяты — аж звініць!..

І калі раптам абарвецца ніць,
Спагада
Упадзе

Слязою
Божай
На скрыжаванні ўсё і раздарожжы —
І ружай прарасце асот сухі,
І збаўца пацалуе Магдалену,
І грэшнікам даруе ўсе грахі.

*12.05.2019, Лунд, Швецыя*

## Марыя

Прамоўленыя сэнсы ўсе, якія
Прамовіць людзям дадзена.
Марыя!
Прашу цябе, маўчы! Не паўтарай
Таго, што чуў ад розных і ад многіх —
Сляпых, глухіх, бязрукіх і бязногіх —
Пра смерць, пра грэх, пра пекла і пра рай.

Марыя! Толькі Бог адзін між намі.
Нікога больш. Нічога. Ты грахамі
Напоўнена спакусліва таму,
Што ўбачылася гэтакай Яму —
Такой і будзь, як Ён стварыў, малю!..
Як Ён, Марыя, я цябе люблю,
Як Ён, Марыя, я цябе кахаю,
Цалуючы, удыхваю душу,
І калі нават я з табой грашу,
Ягонымі рукамі абдымаю,
Ягонымі рукамі калышу.

Як Ён, табой любуюся... Марыя!
Усе твае грахі Гасподзь укрые,
Ты — сон Ягоны, ты — Ягоны міт,
І каяцца ні ў чым ты не павінна,
Як каяцца ні ў чым не мусіць гліна,
З якой паўстала грэшная Laліт.

Ёсць ты і Ён. Астатняе — пустое,
І ў пустаце, калі захоча Бог,
Пераліецца грэшнае ў святое,
І Ён табе даруе нават тое,
Што ў райскім садзе даравацъ не змог.

Марыя, спі! У Бога на плячы
Маўчы пра смерць і пра жыццё маўчы,
Бо ўсё сказалі мёртвыя й жывыя,
Бо ўсім, што ёсць і будзе на зямлі,
Напоўніліся сэнсы ўсе, калі
Бог выдыхнуў імя тваё,
Марыя...

*6.05.2019, Швецыя, Лунд*

## Любоў

*Людміле Гембіцкай-Някляевай*

Каб даў мне жыццё
Бог нанова пачаць,
Спытаў бы: «Навошта, Бог?..»
Я ўсё прачытаў, што хацеў прачытаць,
І ўсё напісаў, што змог.

Упоперак тундры
І ўздоўж Каракум
Змятаў я плашчом, дзе ні йшоў,
Аднолькавы пыл і аднолькавы тлум
Далёкіх і блізкіх шляхоў.

Ад краю да краю,
А рэшта — за край,
Паўсюды, дзе сеяўся лёс,
Адразу ж па ім пасяваўся адчай
І рос ад зямлі да нябёс.

Але і адчай той,
І тлум той, і пыл,
І прывіднасць свету ўсяго
Я гэтак любіў, як хапала мне сіл,
Крыві і дыхання майго.

І так, як адчайна любіў,
Як кахаў,
Я выдыхну ў неба душу,
Удзячную Богу за тое, што даў, —
І большага не папрашу.

*5.03.2019, Мінск*

**Ілюстрацыі Уладзіміра Вішнеўскага.**



# Ульяна Зяткіна

празаік. Студэнтка 2 курса філалагічнага факультэта БДУ. Друкавалася ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 2000 годзе ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

# Уцёкі ад самой сябе...

Яна мыла рукі, схіліўшыся над ракавінай у душным ванным пакоі, і баялася падняць вочы на сваё адлюстраванне ў люстэрку. Ёй станавілася не па сабе ад думкі, што тая, хто глядзіць на яе ў люстэрку... гэта і ёсць яна сапраўдная, што такой бачаць яе ўсе.

Яны бачаць яе ярка-зялёныя вочы і рэдкія вейкі, зафарбаваныя мяшкі пад вачыма і шырокія бровы. Несхаваны ад іншых яе вузкі нос і слабавыяўленыя скулы, тонкія бледныя вусны і ямачка на падбародку. Шнар на правай скроні бачны лепш за ўсё, таксама як і шырокая вена на ілбе.

Аднак яна сябе не бачыць. Калі няма люстэрка, то яна нават не ведае, што знаходзіцца на яе твары. А калі мы чагосьці не бачым, мы прыдумваем гэта самі. І яна можа прыдумаць сабе любую асобу. Пакуль не бачыць сваё адлюстраванне ў люстэрку. Змываючы з рук чорную фарбу пасля чарговай спробы намаляваць сваю душу на палатне, яна прымушае сябе не глядзець у люстэрка. Калі яна ўбачыць гэты твар, то не зможа пераканаць сябе, што сёння яе клічуць Юнона.

І яна загадкавая, летуценная і вясёлая. Яна любіць малінавага колеру памаду, чорныя кароткія сукенкі і злёгку няхайны каласок з валасоў на галаве. Ёй падабаецца граць на піяніна і чытаць рускую класіку. Так, мабыць, яе можна назваць рамантычнай. Ёй падабаюцца французскія камедыі і ірландская музыка. Яна любіць купляць кожную раніцу свежыя гваздзікі і піць зялёны чай. Ёй цікава назіраць за прахожымі і разглядаць вітрыны крам з сувенірамі. Ёй хочацца пайсці на курсы фатаграфіі і навучыцца гатаваць бісквіт. У яе такія простыя і лёгкія жаданні.

Тым, хто яе не ведае, яна можа здацца легкадумнай, хоць на самай справе яна вельмі нават адказная. А яшчэ яна клапоціцца пра рыжага ката, якога сустракае па дарозе на пошту. Сяброў у яе няшмат, затое яны верныя і добрыя, і ёй падабаецца нагадаць ім, як яна моцна любіць іх, часцяком ладзячы прыемныя сюрпрызы. Яна чакае вясну, каб паехаць у Фларэнцыю, і лета, каб здаць міжнародны экзамен па англійскай мове.

На самай справе Юнона даволі цікавая, і калі з ёй сысціся, то ніколі не пашкадуеш, што сябруеш з такой мілай дзяўчынай. Яна не падставіць і не нагрубіць, не зманіць і не пакіне ў цяжкую хвіліну.

Юнона нашмат прыемней за тую, якая малявала сваю душу. Тая дзяўчына была жорсткай і помслівай, а Юнона зусім не такая. У Юноны зусім іншая прырода і адрозны ад іншых твар. Да таго часу, пакуль яна не паглядзіць у люстэрка і не ўбачыць у ім сябе.

Твары заўсёды ўсё псуюць.

Як бы яна хацела сарваць сваю скуру, выціснуць вочы, зламаць нос і разадраць вусны. А пасля замяніць гэта на новае і нікому незнаёмае. Мяняць тва-

ры кожны дзень, кожную гадзіну, кожны раз, калі яе стары твар ёй надакучыць. Калі твар яе распавядае пра яе ўсю праўду, кажа занадта шмат.

Аднак усё, што ёй застаецца, гэта прыкідвацца, што твар іншы. Не заўважаць, што яе твар ні разу не змяніўся. Пераконваць сябе, што там, у люстэрку, арэхавыя вочы і вострыя скулы, пульхныя вусны і чырвоны румянец. Нешта такое, што падыходзіць ёй сённяшняй.

Як бы яна хацела быць не сабой, а ўсімі адразу!

Выключыўшы ваду, Юнона агледзела пахнучыя чарніцамі рукі, зусім чыстыя, без рэшткаў фарбы. Яна была гатовая. Пасля таго, як яна насуха выцерла рукі белым ручніком, яна закрыла вочы, нават зажмурылася і асцярожна выйшла ў цёмны калідор. Толькі пераканаўшыся, што люстэрка знаходзіцца далёка, Юнона адкрыла вочы. Гадзіннік на сцяне насупраць паказваў апоўдзень. Трэба было збірацца ў кіно. Юнона паспяшалася ў пакой, дзе на ложку ўжо ляжала падрыхтаваная чорная сукенка.

# Дом

— О, глядзі! Самая выдатная настольная лямпа на свеце! Проста ўяві мой кававага колеру стол і гэтую крэмавую лямпу на ім.

Сяброўка нават не зірнула.

— Чым цябе не задавальняе тая, што зараз там стаіць?

— Ёй ужо некалькі гадоў. Пара ж нешта мяняць у жыцці.

— Пачні са сваіх звычак.

Так мы хадзілі ўжо больш за гадзіну па велізарным гандлёвым цэнтры «Замак», запоўненым крамамі з мэбляй, прадметамі для дэкору, бытавымі прыборамі і ўсім астатнім, што так нам усім трэба, каб зрабіць свой дом самым камфортным і ўтульным на свеце.

Веста ўжо некалькі дзясяткаў разоў гучна цокнула, дэманстратыўна закаціла вочы і паўтарыла, што чарговае барахло ніяк не палепшыць маё існаванне. Але я не звяртала на гэта ўвагі.

Пазаўчора мы з маім хлопцам моцна пасварыліся, і я зараз павінна была ліць слёзы і хавацца пад коўдрай. Але я прыняла больш правільнае рашэнне — забыцца з дапамогай невялікага абнаўлення ў кватэры. Калі шчыра, такія «абнаўленні» я рабіла раз у месяц дык дакладна. У жніўні ў маёй спальні з'явілася велізарная штучная папараць, а на кухні міска з дэкаратыўнай садавінай. У верасні я не змагла прайсці міма мяккага пуфіка ў калідор, вялікага люстэрка ў гасцёўню. У мінулым месяцы маімі пакупкамі сталі плед, паднос для ежы, падлогавая статуэтка фламінга.

Як можна зразумець, я траціла на бясконцае добраўпарадкаванне кватэры ўсе грошы, як нехта спускае іх на вопратку ці касметыку. Веста ж аддавала перавагу адкладаць грошы на паездку ў Рым і не «захамляць», як яна гаварыла,

сваё жыллё. Хоць нашы думкі ў пытанні, на што траціць зробленыя грошы, разыходзіліся, мы ўсё адно падтрымлівалі адна адную, як, напрыклад, сёння, калі Веста пагадзілася прайсці са мной па «Замку».

— Ты не хочаш знайсці іншае хобі? Скажам, катанне на конях, вышыванне, кулінарыя.

— А чым дрэнна тое, што мне падабаецца?

— Які ў гэтым сэнс?

Пачуўшы гэта пытанне, я так і стала пасярод крамы з лямпай у адной руцэ і з дэкаратыўнай падушкай у другой.

— Мой дом становіцца ўтульней. А ва ўтульным доме і душа чалавека супакойваецца і расцвітае.

— Дзе ты такое прачытала?

— Я гэта сама адчуваю.

— Няўжо рэчы прымушаюць тваю душу квітнець? Душа знаходзіцца ўнутры цябе, а рэчы — звонку. Ніякай сувязі.

— Усё, хопіць. Я ўжо наслухалася за сёння. Дапамажы лепш дастаць вось тую скарбонку, мой палец паказваў на верхнюю паліцу стэнда, дзе чакалі пакупнікоў мілыя драўляныя куфэркі для захоўвання ўпрыгожванняў ці нейкіх цацанак.

Веста пакорліва пацягнулася да паліцы.

Калі мы выйшлі з крамы, дождж ужо перастаў ісці. Як сказала Веста, ужо ўсё перастала ісці, час завяршыў свой шлях, кругазварот падзей спыніўся, наступіў канец. «Пакуль мы былі ў гэтым дурным гандлёвым цэнтры». Сёння яна была агрэсіўная больш чым звычайна. Мы развіталіся на аўтобусным прыпынку, і я адправілася са сваімі трыма пакетамі наўпрост у свой утульны дом, дзе мяне чакаў не менш утульны ложак, стыльны тэлевізар і зручная тумбачка з каталогамі IKEA.

Я падыходзіла да хаты, як раптам пачула крыкі людзей, убачыла натоўп, а яшчэ пажарную машыну і ратавальнікаў. Калі шчыра, я адразу адчула нешта нядобрае. У мяне звяло ад невыразнага страху ў жываце, ды так, што я была ўпэўнена, што нехта старанна спрабуе знішчыць мяне знутры. У галаву ўдарыла кроў, і ў скронях шалёна стукала. Паніка наступала з усіх бакоў. Ніколі яшчэ так моцна інтуіцыя не вырывалася наперад, і я паскорыла крок. Завярнуўшы за кут дома, мой погляд адразу ж упаў на пачарнелыя вокны на пятым паверсе. На маім паверсе.

Як жа я ў гэты момант зненавідзела ўвесь гэты свет, яшчэ нядаўна які здаваўся мне такім слаўным, пацешным і добрым.

Мае вочы бегалі з шалёнай хуткасцю, пашыраліся ад жаху і звужаліся ад слёз. Мае рукі працягвалі моцна сціскаць ручкі пакетаў, нібы ўтрымліваючы апошнюю надзею на выратаванне спаленай кватэры. Па маім целе насіўся жахлівы холад адначасова з пякельным жарам. А мае ногі не падкошваліся так моцна яшчэ ніколі. Я не ведала, што думаць, што гаварыць і што рабіць.

Мне заставалася толькі стаяць і аплакваць бушуючы агонь. Слёзы крапалі на куртку і ніяк не дапамагалі сітуацыі.

Усё, што адбывалася там, на пятым паверсе, было нерэальным. Жартам. У рэчаіснасці такога не бывае: выходзіш у краму за пакупкамі для кватэры, а па вяртанні выяўляеш яе спаленай. Я заплюшчыла вочы, каб расплюшчыць іх і ўбачыць, што мне ўсё гэта толькі здалося. Але нават пасля чатырох такіх спробаў агонь працягваў знішчаць усё, што было дарага майму сэрцу.

— Страшна, так? — да мяне падышла расчырванелая ад моцных эмоцый жанчына з дзіцём на руках. — От не пашанцавала. Кажуць, уладальніца забылася выключыць прас. Гучыць трохі пацешна, праўда? Але, аказваецца, такія сітуацыі ўсё яшчэ адбываюцца. Згарэла ўсё. З глузду з'ехаць можна! Гэта ж столькі рэчаў згублена! Што ж цяпер ёй рабіць? Нездарма я заўсёды перад выхадам з дому правяраю ўсё.

Павісла нядоўгая цішыня. Цуд, што я не разнесла тую жанчыну на шматкі.

— Вы плачаце? — шчыра здзівілася суразмоўца. — Пастойце! Ці не ваша гэта кватэра?

Пытанне выклікала ў мяне чарговы прыліў слёз, і я, нічога не адказаўшы, накіравалася ў бок прыпынку, ад якога нядаўна з'ехала сяброўка дадому. У свой цэлы дом, дзе ў захаванасці знаходзяцца ўсе яе рэчы. Веста не асоба цаніла свае крэслы, гадзіннікі, люстэркі, дываны, кубкі, але менавіта мне, той, якая ставіла сваё жыллё з сэнсам жыцця ў адзін шэраг, «пашчасціла» застацца без усяго.

Адна іскра. І свет бурыцца. Мой свет разбурыўся. Ён распаўся на маленькія кавалачкі, настолькі маленькія, што яны страцілі сваю значнасць, што іх немагчыма цяпер сабраць у адно цэлае.

Я павярнулася. Агонь амаль патушылі. Цяпер выразна былі бачны счарнелыя вокны і сцены. Страшна падумаць, у які попел ператварыліся мае рэчы. Няўжо нічога не засталося? Няўжо ўсё згарэла? Хіба гэта магло адбыцца са мной? Так нечакана, незаслужана і жорстка.

Я вырашыла, што мне трэба знікнуць. Як і мая кватэра. Бо ніколі я не змагла б паглядзець на астылы прысак былога шчасця. Цяпер майго свету больш не існавала. Ці не азначае гэта, што і мяне таксама?

Мокрая ад дажджу бляклая лаўка на прыпынку была пустая, і я села на яе, не маючы ніякага паняцця, што буду рабіць, калі замерзну. Пакеты з непатрэбнымі пакупкамі ўсё яшчэ знаходзіліся ў маіх руках.

Дом. Якога няма. Мэбля. Якой няма. Прадметы інтэр'еру. Якіх няма.

У каго-небудзь наогул здаралася такое? Каб спачатку было ўсё, а потым раптам не засталося нічога.

Пад'ехаў аўтобус. Людзі выйшлі і зайшлі. Я працягвала сядзець на прыпынку. У мяне з'явілася думка патэлефанаваць каму-небудзь. Расказаць пра забойства маёй кватэры, майго шчасця. Спіс кантактаў быў бедны, і я не магла вырашыць, з кім мне варта падзяліцца, хто павінен даведацца пра тое,

што адбылося, хто потым прапануе пажыць у сябе. Хто падтрымае, супакоіць, падбадзёрыць. Хто прыкінецца тым, каго хвалюе тое, што сталася са мной і з маёй кватэрай.

Я ўжо амаль націснула на кнопку выкліку, як раптам вырашыла, што гэта ўсё настолькі па-дурному бессэнсоўна, што не варта і спрабаваць рабіць выгляд, што нечыя словы мне дапамогуць. Можа, яны нешта і могуць выправіць, але відавочна не закончанае бессэнсоўна жыццё. Бо ніхто і не зразумее, наколькі жахлівы для мяне гэты пажар. Ніхто не прасякнецца гісторыяй пра тое, як доўга я збірала па макулінках сваю кватэру, рабіла яе ўтульнай, напаўняла душой, і як шмат усё гэта для мяне значыла.

Значыла.

Зараз для мяне ўжо нічога не мела значэння.

Адсутнасць неабходнасці.

Хтосьці сказаў, што гэта прыкмета волі.

Слёзы высахлі. Я кінула тэлефон у сумку і паднялася з лаўкі. Вецер прабегся па маіх валасах, таксама як і пачуццё пустаты ў душы. Тры пакеты выпалі з маіх рук. Мне нічога не было ўжо патрэбна...



# Вольга Ліхадзіеўская

празаік. Скончыла філфак БДУ. Друкавалася ў «Маладосці» і «Верасні». Нарадзілася ў 1992 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Метро

Метро, як і любая таямнічая мясціна, мае свайго гаспадара-апекуна. У нас яго клічуць Мятровіч. І няхай яго імя некаторым падасца сугучным з Пятровіч, але магу вас запэўніць, што гэта не так. Нічога і блізка няма. Мятровіча ніхто ні разу не бачыў у вочы. Пра тое, як ён выглядае, гавораць шэптам. І ў кожнага апавядальніка свой вобраз. Але Мятровіч ёсць і ён дапамагае тым, хто верыць у яго і просіць дапамогі ў перапоўненым вагоне. А таго ж, хто сумняецца ў існаванні Мятровіча, чакае пакаранне чаргой па жэтоны, у якой стаяць атэісты і замольваюць свой грэх недаверу.

## Уручча

Кожны чацвер па абедзе мама вазіла васьмігадовую Дашу ў басейн недалёка ад метро «Уручча». Дашы падабалася катацца ў метро. Яны сядалі з мамай на «Усходзе» і ехалі дзве станцыі. Пакуль па тунэлі бег цягнік, дзяўчынка ўглядалася ў вакно, каб пабачыць розныя шлангі і трубы, якія, нібы доўгая змяя, віселі на сценах. У шкле дзяўчына любіла разглядаць аблічча сябе і пасажыраў. Яны здаваліся нейкімі ненатуральнымі, трохі крываватымі, а таму смешнымі. Дзяўчынцы было весела ехаць. Ёй падабалася тут усё: і вагон, і шум, ад якога закладала вушы, і шкло, і металёвыя парэнчы, якія віселі над галавой. Ужо дзеля іх адных хацелася стаць дарослай, каб пасля самой ездзіць у метро, калі захочацца. Але пакуль Даша была маленькая, таму ездзіла з мамай.

Выходзячы з метро, у Дашы пачынала моцна стукаць сэрца. Яна не любіла хадзіць у басейн. Баялася яго, баялася трэнерку. Але даводзілася трываць. І вось аднойчы, знаходзячыся ў самімі басейне, Даша захацела ў прыбіральню, пачала адпрошвацца ў Аляксандры Пятроўны. А тая кажа:

Ды навошта? Тут можна.

Праўда?

І дзяўчынка зрабіла, што хацела. «Хм... А басейн не такі і страшны, як мне здавалася...» — падумала Даша. Пасля таго выпадку яна палюбіла басейн і зразумела: у ім можна ўсё. Ажно не магла дачакацца, калі наступны раз паедзе на плаванне і зробіць сваю справу.

Міналі дні... Даша стала дарослай і ездзіць адна ў метро. Цяпер у яе ёсць выбар: які басейн сёння стане яе ахвярай...

## Барысаўскі тракт

Па «Барысаўскаму тракту» ходзіць прывід дзядзькі і б'ецца ў сцяну. Усё ніяк не можа выйсці з метро. А ўсё пачалося з зусім нязлоснага адказу.

На станцыі метро «Усход» да хлопца, з вушэй якога віднеліся белыя бесправадныя слухаўкі, падышоў мужчына:

— Ты музыку слухаеш ці што?
— Не, я проста ў іх хаджу.
— А дастаць?
— Ай, лянота...
— А чаго яны без шнуркоў? Не рабочыя?.. Адрэзаў? Панты ці што?..
— Ды не... Гэта такія... Бесправадныя...
— Ааа... Зразумеў... Мм. Дома каты ці сабакі ёсць?
— Эээ... Не, няма.
— А дзе вучышся?
— Тут недалёка.
— З бацькамі жывеш?
— Эээ. Ну так.
— Добра...

Калі з афіцыйнай часткай знаёмства было скончана, бо мужчына доўга вагаўся, ці можна даверыць свой лёс у рукі гэтага хлопца, ён перайшоў да канкрэтыкі:

— Я ўвогуле хацеў запытацца, як мне да «Барысаўска тракта» даехаць?..
— Ааа... Ну гэта сюды, — і хлопец паказаў направа.
— Ага... А ў які бок выходзіць, каб патрапіць да БНТУ.

Хлопец доўга думаў, жэстыкуляваў рукамі і, урэшце, паказаў патрэбны напрамак на яго думку.

Мужчына падзякаваў, і яны разышліся на розныя бакі платформы. Але была праблема, пра якую не ведаў дзядзька, і якую хлопец узгадаў толькі на «Парку Чалюскінцаў». Хлопец паказаў няправільны выхад. Там напраўду толькі адзін выхад і быў. Другі быў звычайнай белай сцяной. Спачатку хлопец спалохаўся, што даў недакладны маршрут выхаду, але пасля супакоіўся: «Усё ж дарослы. Здагадаецца... А не, дык запытаецца ў каго...»

Хлопец памыліўся. Дзядзька патрапіўся прамалінейны. Ён нізавошта не хацеў адступаць і сумнявацца ў правільнасці сваіх дзеянняў. Штораз ён набліжаўся да сцяны, біўся аб бетон, адыходзіў на крок і зноў, з яшчэ большай рашучасцю, ішоў напралом. Штосьці тлумачыць яму было бессэнсоўна.

Так усё і скончылася. Пастулова дзядзька ператварыўся ў прывіда, але па-ранейшаму б'ецца галавой аб сцяну. Кажуць, з кожным днём грукат робіцца больш моцным.

## Усход

Ян вучыўся на трэцім курсе. Надышоў час стаць сапраўдным студэнтам і ўпершыню пайсці ў Нацыянальную бібліятэку. Хлопец быў тэхнар з тэхнара. У бібліятэках з'яўляўся толькі тады, калі іх клас вялі туды на экскурсію. З мастацкай літаратуры за сваё нядоўгае жыццё Ян прачытаў толькі пару казак, у якіх малюнкаў было больш, чым слоў і палову буквара. Асабліва яму падабалася чытаць верш пра хлопчыка, які майстраваў шпакоўню. Не падумайце нічога

такога, Ян умеў чытаць. Чытаў і абвесткі, якія трапляліся на вочы, чытаў і чужыя паведамленні пасажыраў, якія сядзелі побач і так міла пасмейваліся, пакуль нешта набіралі на тэлефонах. Але больш за ўсё хлопцу падабалася чытаць інтрукцыі для прыбораў і для людзей. І вось, калі апынулася, што ўсе інструкцыі, якія ёсць дома, прачытаны і зачытаны, сваякі параілі запісацца ў Нацыянальную бібіліятэку. «Там тых інструкцый будзе... За жыццё столькі не прачытаеш», — казалі яны. Так Ян і вырашыў стаць чытачом.

Выйшаўшы на станцыі метро «Усход», Ян накіраваўся да бібліятэкі. Ён ведаў, як яна выглядае з апісання аднакурснікаў: «Звонку, як чупа-чупс». Будынак падаўся хлопцу нечым сярэднім паміж гандлёвым цэнтрам і офісам.

Ян зайшоў унутр і нават трошкі разгубіўся, але на дапамогу прыйшлі дзяжурныя. Яны ўсё расказалі і паказалі. Праз дваццаць хвілін з чытацкім білетам хлопец прайшоў праз турнікет. Заставалася знайсці залу тэхнічнай літаратуры. І хлопец пайшоў яе шукаць. Нарэзаўшы цэлы круг, хлопец вярнуўся ў тое ж месца, адкуль прыйшоў. Запытвацца ў людзей, дзе месціцца зала, Ян баяўся, бо яны маглі падумаць, што ён яшчэ «не навучыўся чытаць, а ўжо ў бібіліятэку соўваецца» дый «на шыльдах жа ўсё напісана». Хлопец паспрабаваў пайсці яшчэ, але ўсё было марна. Канчаткова заблытаўшыся, Ян не знайшоў і выхад. Давялося застацца ў бібіліятэцы назаўсёды.

Цяпер прывід Яна-тэхнара наразае кругі па бібіліятэцы, углядаецца ва ўсе шыльды, але так і не можа знайсці патрэбную залу. Вы, мабыць, бачылі яго, проста не звярталі ўвагі. Калі ўбачыце наступны раз, падкажыце яму, калі ласка, дзе зала тэхнічнай літаратуры.

## Маскоўская

Лера працавала ў газетным шапіку каля выхада са станцыі метро «Маскоўская». Кліентаў у гэты шапік заходзіла і выходзіла процьма. Асабліва яны атакавалі падчас абеду, калі самой Леры трэба было ісці на абед. Кожны дзень гоман, размовы: хто газеты купляў, хто пячэнне, а хто і стаўку рабіў на спортлато.

Лера не вельмі любіла сваю працу. Дзяўчына ніколі не адчувала прыхільнасці да гандлю, зрэшты, як і гандаль да яе. Але даводзілася трываць: трэба ж былі грошы. Хоць тых толькі і хапала на аплату кватэры і розных побытавых пытанняў. Грошай на сябе амаль не заставалася. Паход у піцэрыю раз на месяц быў падзеяй сусветнага маштабу, як для некаторых атрыманне «Оскара».

Пачала з'яўляцца думка: «А што калі рызыкнуць і згуляць у гэта спортлато?.. Раптам пашчасціць?..» І для таго, каб дарасці да такой адказнай рэчы, Лера вырашыла паспрабаваць свае сілы ў гульні для пачаткоўцаў «тавар удачы». Набірала штотыдзень прадуктаў на пэўную суму, а пасля неяк сарамліва і няўпэўнена выбірала з паліцы шакаладку ўдачы з завышаным коштам і прабівала ўсё гэта на касе. За такі кошт у суседняй краме можна было купіць

дзве такія шакаладкі. Але такое параўнанне некарэктнае: тут гэта шакаладка носіць ганаровае званне «тавар удачы», а там яна проста кававыя бабы з цукрам. Лера гуляла ўжо два гады ў гэту гульню, але грашовую ўдачу так і не сустрэла.

Так дзяўчына і жыла, пакуль у яе газетны шапік не прыйшоў адзін хлопец. Ён проста заходзіў і глядзеў на Леру некалькі хвілін, пасля сыходзіў. Гэта працягвалася некалькі дзён. І аднойчы зусім нечакана для сябе і для Леры хлопец зрабіў крок да дзяўчыны і расказаў, што працуе тут недалёка ў «Беларусфільме» аператарам, і яму далі заданне зняць невялікі сюжэт для конкурса. У Леры заблішчэлі вочы, яна супаставіла ўсё сказанае хлопцам і зразумела: яе чакае кінапрапанова.

Так яно і здарылася. Праз тыдзень хлопец папрасіў прыехаць Леру на патрэбны адрас, дзе ішоў запіс перадачы. І вось якраз тады дзяўчына ўпершыню ў жыцці круціла і даставала шарыкі з барабанаў. Яе рука няшчасціла і пасылала шчасце. Ад яе залежыла, хто стане пераможцам.

Лера была галоўнай зоркай у той вечар.

## Парк Чалюскінцаў

Я вучылася на апошнім, трэцім курсе, эканамічнага тэхнікума, калі пачалася мая практыка ў банку. Адбор на яе распачаўся яшчэ зімой. Мы запаўнялі розныя бланкі, крыжылі тэсты на логіку, рабілі пэўныя заданні, якія датычыліся непасрэдна нашай спецыяльнасці. Банкі праз гэту ўсю працэдуру адбіралі сабе практыкантаў, што меліся да іх прыйсці на два месяцы.

Перад тым, як ісці на практыку, кіраўніцтва тэхнікума дало парады: «Калі скажуць паліваць кветкі — палівайце, толькі не пішыце гэта ў свае справаздачы».

Я і яшчэ адна дзяўчына з іншай групы, якую звалі Вераніка, патрапілі ў «Беларускі народны банк». У Мінску было два філіялы: адзін месціўся недалёка ад крамы «1000 дробязяў», другі — каля метро «Фрунзенская». За свае два месяцы практыкі я насядзелася і там, і там, але больш давялося ўсё ж на «Парку Чалюскінцаў».

Мой першы дзень быў, як у тумане. Спачатку мы прыехалі на «Парк», але нам сказалі, што трэба ехаць у філіял, што на «Фрунзенскай», у аддзел, які займаецца абслугоўваннем юрыдычных асоб. Паехалі туды. Загадчыца аддзела ўсяляк спрабавала даць зразумець, што яна чалавек заняты, а таму паважаны. І каб мы не заміналі ёй у працы, пасадзіла нас у нейкую камору, дзе акрамя стала і дакументаў нічога не было. Крэслы і тыя давялося цягнуць з суседняга кабінета. Так мы і сядзелі да абеду. Зрэдзьчас абменьваліся з Веранікай вельмі інфарматыўнымі дыялогамі:

— Не...

— Мг...

— Капец...

— Ага...

— Колькі яшчэ сядзець?.. Тут хоць святло ўключаецца?...

— Лепш не чапай...

— Во патрапілі...

У абед нас адпусцілі з той каморы. Выратаванне прыйшло... Загадчыца сказала, што чакае нас заўтра зранку. Нешта будзе распавядаць.

Назаўтра прыехалі да адкрыцця банка. Сядзелі, чакалі ля дзвярэй знаёмы твар. Загадчыца правяла ў кабінет і даверыла свайму падначаленаму. Той запрасіў сесці за стол і пачаў распавядаць пра структуру гэтага банка, пра яго гісторыю, хто з'яўляецца ўладальнікам і гэтак далей. Карацей, усё тое, што можна прачытаць на сайце банка ў вакне «Пра нас». Але даводзілася слухаць. Выбар стаяў паміж каморай і гэтым кабінетам. Пасля ўсёй прамовы падышла загадчыца і сказала, што мы можам ісці дадому, заўтра яна нас не чакае. А праз дні тры-чатыры можам завітаць зноў, калі дома няма чаго рабіць.

Мне ідэя спадабалася. Бо пасля сканчэння тэхнікума я вырашыла сысці з эканамічнай сферы. Таму практыка мне была так: хутчэй адбыць і забыцца. Лічбы ніколі мяне не натхнялі. А «поўны херж» даўно перастаў быць смешным. Хоць Лука Пачолі ў 1492 годзе быў малайца, калі прыдумаў трактат «Пра рахункі і запісы», але гэта мяне ўжо больш не вабіла.

Вераніка трымалася адваротнай пазіцыі. Яна хацела працаваць у банку, хаця б на касе. «Беларускі народны» ў гэтым плане вельмі пасаваў. Кліентаў прыходзіла мала, чэргаў і псіхалагічных нагрузак не было. Таму Вераніку абурыла загадчыца, і яна патэлефанавала нашаму куратару практыкі, якога я называла Дзіцятка Золатка, і распавяла ўсю гэту гісторыю. Той адпаведна набраў загадчыцы, а тая перадала праз яго, што калі такая справа, няхай прыходзяць — работа знойдзецца.

Я была злая... Навошта гэта было рабіць? Званіць гэтаму выкладчыку... Давялося ехаць.

Загадчыца сустрэла трохі з'едліва. Яно зразумела: самі ж напрасіліся. Яна сказала, што ў гэтым філіяле нічога цікавага ў баўленні часу няма, затое ў філіяле, што на «Парку Чалюскінцаў» ёсць чым заняцца. Мы паехалі туды.

Выйшлі з метро, прайшлі праз пільныя вочы Калініна, які глядзеў у парк і вёў падлік расстраляных, і адначасова касіў на нас: ці дойдуць яны да банка?

Мы дайшлі. На ўваходзе нас накіравалі ў патрэбны аддзел. Як апынулася таксама аддзел па абслугоўванні юрыдычных асоб. У фатэлі сядзеў сыты дзядзька, на стале як паказчык працавітасці ляжалі паперы, ён трохі спрабаваў сыпаць жартамі, але хутка перайшоў да справы:

— Давайце бартар: вы робіце вопіс дакументаў. Вам пакажуць, як і што. А з мяне дакументацыя банка па аперацыях. Вам жа трэба здаваць справаздачы? Трэба!.. Ну вось і ўсё... Як вам прапанова?

Выйсця асабліва не было, бо я была прывязана з Веранікай практыканскім абавязкам. Давялося пагаджацца.

Дзядзька правёў нас у аддзел, які месціўся на другім паверсе, у прынцыпе, гэта было звычайнае гарышча, абшытае дошкамі, а таму лічылася за паверх. Там сядзела каля сямі чалавек. У кожнага быў свой стол і свае кліенты, якіх яны абслугоўвалі. Пераважна гэта былі індывідуальныя прадпрымальнікі.

Наша з Веранікай задача была прануміраваць усе дакументы ў папцы, якая была заведзена на кожнага кліента, і напісаць на бланку колькі якіх папер у наяўнасці.

Папак была цэлая шафа. Штодзённа мы апісвалі каля трыццаці штук. Спачатку ўсё было нязвыкла і нават адказна, але пасля ўсё рабілася аўтаматычна.

За час практыкі ў мяне выпрацаваўся графік: я ехала да «Парка Чалюскінцаў», ішла праз Калініна, заходзіла ў банк, падымалася на гарышча і распачынала працу пісара. І так кожны дзень. Пяць разоў на тыдзень. Усе два месяцы.

Скончылася ўсё тым, што мы агаралі шафу з папкамі і атрымалі доўгачаканыя дакументы, якія можна было за шакаладку выпрасіць у аддзеле статыстыкі, бо ім было каля сямі гадоў.

Самае галоўнае, што практыка скончылася. Вераніка да апошняга дня ўсё кружляла каля банкаўскіх супрацоўнікаў і запытвалася наконт працаўладкавання сюды. Праўда, так і не ведаю: узялі яе на працу ў гэты банк ці не.

Я ж абараніла сваю банкаўскую справаздачу і больш ніколі не вярталася да запаўнення сертыфікатаў, плацёжных даручэнняў і падобнага. За два месяцы практыкі яшчэ больш пераканалася, што прыстасаванцаў можна добра выкарыстоўваць і зарабляць на іх.

Паступова тыя восем тыдняў знікаюць з маёй памяці. Але і сёння, калі бываю на «Парку Чалюскінцаў», і праходжу побач з Калініным, то здаецца ён, як і тады, сочыць сваімі вачыма: дайду я да банка ці не?..

## Акадэмія навук

Андрэйка быў разумным хлопцам. Прынамсі так лічыла яго сям'я. Хлопец, як і ўсе дзеці, па-рознаму ставіўся да школы. Больш за ўсё ён любіў час абеду. Асабліва сераду, калі давалі пюрэшку з катлетай.

Андрэйка ні на якія секцыі ці факультатывы не хадзіў. Пасля школы адразу ішоў дадому, еў, спаў, рабіў урокі, рагатаў, зноў еў, глядзеў тэлевізар, рагатаў. Карацей, атрымліваў асалоду ад жыцця. Скончыўшы школу, Андрэйка, як і большасць яго аднакласнікаў, паступіў ва ўніверсітэт. І ператварыўся ў Андрэя.

Надышоў час уладкоўвацца на працу. Доўга думалі бацькі, куды б прыладзіць сына. Склалі цэлы спіс устаноў, магчымых месцаў працаўладкавання. Андрэй выбраў самае бліжэйшае ад свайго дома — Акадэмію навук.

Хоць і цяжка было, але мама схадзіла, дамовілася з кіраўніцтвам, і Андрэйка, а цяпер ужо Андрэй Ягоравіч, быў прыняты на працу. Спачатку хлопец не

ведаў, чым давядзецца займацца, пасля ўсё паказалі, навучылі. І паступова працоўнае жыццё наладжвалася. Андрэй займаўся пытаннямі сацыяльна-эканамічнага развіцця. Штодзённа трэба было праглядаць розныя дакументы, законы, засядаць на пасяджэннях, круглых сталах, якія заўжды былі авальныя. З цягам часу Андрэй Ягоравіч, зноў жа не без дапамогі мамы, займеў добрую пасаду. На пасяджэннях ён ужо засядаў па той бок стала. Праца была нервовая, задавалі пытанні, трэба было адбівацца. На адным з такіх абмеркаванняў, адна дзяўчына звярнулася з пытаннем да Андрэя:

— Мінсяльгасхарч абмяркоўвае пытанне пра павышэнне закупачных коштаў на кароўе малако. Індэкс ка...

— Ведаю я той індэкс, — абарваў яе Андрэй Ягоравіч. «Лепей на паўслове спыню, а то нагаворыць... Бачыў я такіх. Не буду ведаць, што адказваць», — падумаў ён. — Так, мы працуем над гэтай праблемай. Я прапанаваў у павышэнне закупкі пакласці колер каровы. Чым больш чорная, тым большы кошт малака. Я абмяркоўваў гэтае пытанне і з нашым аддзелам аграрных навук і з... Ну, шмат з кім. Вось... Яны ўсе таксама задумаліся, але пакуль адказу няма.

— А калі карова рудая? — прыляцела ад кагосьці з залы.

— Мы працуем і над гэтым пытаннем, — не разгубіўся Андрэй Ягоравіч.

— Але ж гэта... — на твары дзяўчыны адбілася непаразуменне, зрэшты, і на іншых тварах таксама, за выключэннем тых, што спалі.

— Я ведаю, што Вы хочаце сказаць... Рызыкоўна? Так, рызыкоўна. Але ж мы стаім... дакладней, ідзём на крок уперад. Трэба інавацыйны падыход...

— А скажыце, калі ласка, можа, яшчэ які складнік будзе ў...

«Во ўжо дзе прыставучая... І дзе вас такіх выпускаюць? Такая і падседзець можа...», — вылаяўся ў думках Андрэй.

— Так, безумоўна будзе... Мы будзем разлічваць кошты згодна з эээ...

І тут Андрэй Ягоравіч задумаўся: згодна з чым? Словы ніяк не прыходзілі ў яго галаву. Зусім выпадкова вочы натрапілі на рэкламную ўлётку, якая ляжала на стале. Сёння яе далі ў пераходзе ў метро. Там было пра распродаж электроннай тэхнікі. Былі фатаграфіі тавараў і побач з імі кошты. Андрэй вырашыў узяць рэкламку з сабой на пасяджанне, каб, калі будзе час, паглядзець. Вочы спыніліся на слове блэндар. «Б... Блээ... Слова... Слова... Якое слова...» — туманіла галаву Андрэя Ягоравіча. Стала цяжка дыхаць. Больш ніякіх слоў чалавек-акадэмік не заўважаў. Трэба было ратавацца. Дзяўчына і ўсе прысутныя чакалі:

— Мы ў індэксацыю пакладзем яшчэ такі параметр як блээ...н... Блэн... БЛЭН! — з упэўненасцю сказаў Андрэй Ягоравіч, што ажно самому спадабалася такая прыдума.

— Як?.. Што гэта?.. — яшчэ больш здзівілася дзяўчына. У зале пачуліся шэпты. Тыя, што сядзелі ў першых шэрагах, мудра заківалі галовамі.

Андрэю нічога не заставался рабіць, як працягваць слоўнікавыя навароты:

— Блэн — гэта нашая новая распрацоўка з міністэрствам фінансаў. Больш дэталёвую інфармацыю вы можаце ў хуткім часе пабачыць на сайце... Ну а пакуль я лічу, што трэба зрабіць паўзу. Разыходзімся на трыццаціхвілінны перапынак, бо я бачу: вы ўжо стаміліся, і я стаміўся.

Прысутныя пачалі разыходзіліся. Андрэй Ягоравіч нейкі час сядзеў за сталом, чакаў пакуль усе пакінуць аўдыторыю. Здаецца, усё прайшло нармальна. Ніхто не пярэчыў. Праз колькі хвілін Андрэй накіраваўся ў сталовую.

Пюрэ і катлету... Не, дзве катлеты... Цяжкі дзень выдаўся, — патлумачыў ён.

Седзячы за сталом, Андрэй Ягоравіч уплятаў катлету, цяпер перад талеркай сваіх прысмакаў ён пачуваўся проста Андрэйкам. Можна было трошкі супакоіцца. Жаваў, але ў нейкі момант зноў захлынаўся ў думках: «Такая праца напружаная... Трэба будзе яшчэ рэкламак дастаць... Не, лепш каталог! Папрашу ў мамы які... Ці мала што можа здарыцца... Трэба быць да ўсяго гатовым... Ага...»

## Плошча Якуба Коласа

У адзін звычайны вечар Ала, жанчына немаладая, але і не старая, неслася ў пераходзе на станцыі метро «Плошча Якуба Коласа» да ЦУМа. У галаве круціліся ідэі пра падарункі сваякам, сябрам дый для сабе. Хоць да святаў яшчэ часу шмат, але лепш зараз ужо пачаць думаць і прыглядацца. Ала страшэнна не любіла крамы. Гэтыя людзі, усе кудысьці бягуць. І ўвесь час не можаш знайсці патрэбны аддзел, а таму часам даводзіцца звяртацца па дапамогу да супрацоўнікаў.

Ала адразу накіравалася на другі паверх. Надышоў той самы час разгубленасці. Жанчына павадзіла вачыма па зале, але не знайшла таго, што хацела. Нічога не заставалася рабіць, як падысці да аднаго сімпатычнага хлопца ў касцюме, які стаяў каля вітрыны, падняўшы ўверх руку, нібы нешта тлумачыў. Ён быў высокі, статны. І некага нагадваў Але ці ёй так падалося. Яна падышла і пачала размову:

— Добры дзень! Я тут хацела запытацца: Вы не падкажаце, дзе тут парасоны прадаюць?

Адказу не было. Жанчына не надала ніякага значэння: ну ці мала што думае чалавек, а таму прадоўжыла:

— Я хацела яшчэ пальчаткі паглядзець... І елку... Ведаеце, хачу сёлета невялікую паставіць. Ці то яшчэ рана іх прадаваць? Пачатак восені толькі... А Вы дома жывую ставіце ці штучную? У нас у аддзеле дык палова ўвогуле іх не ставіць. А я думаю: «Во дурныя... Гэта ж свята...» Калі сам не створыш, дык ніхто не створыць... А Вы даўно тут працуеце?.. Як увогуле: падабаецца? Я дык нават не ўяўляю, як бы я на такой працы вытрымала... Гэта ж нервы...

Ала распавядала і не спынялася, пакуль усё ж не запяршыла ў горле. І толькі тады жанчына заўважыла, што хлопец ніяк не звяртае на яе ўвагі. Ча-

сам у балаканне Алы маглі ўстаўляць розныя гукі, кшталту, мг-мг, ыыыы, ага ці нават словы: ну зразумела. Звычайна іх прамаўляюць пасля таго, як не ведаюць, што адказаць на выслуханую споведзь душы. «Ну зразумела», — кажуць людзі, хоць ні халеры нічога і не зразумела, аднак сказаць нешта трэба. А тут увогуле сітуацыя крытычная. Маўчыць і ўсё тут. І тады Ала прыгледзелася да хлопца лепш і ўбачыла, што гэта ніякі не хлопец, а манекен. Жанчына аслупянела, пачала перабіраць у памяці дэталі гэтага маналогу. Ці бачыў хто ці чуў, як яна тут распавядала свае гісторыі. Ала павольна адышла ад манекена і хуткімі крокамі выйшла на лесвіцу.

Пасля гэтага здарэння Ала доўгі час саромелася заходзіць у ЦУМ, затым неяк перамагла свой страх і цяпер нават вітаецца з тым самым манекенам, калі бачыць, што побач нікога няма...

## Плошча Перамогі

Пачаткоўцам можа падацца, што белыя лініі па цэнтры перахода нічога не значаць . Але ж мы з вамі ведаем для чаго яны. Яны падзяляюць пляцоўку на нешырокія дарожкі для бегуноў-аматараў, якія ўсё кружляюць і кружляюць па ёй, і ніяк не могуць знайсці выхад з метро. Кажуць, хто застаецца там надоўга, вырастае сапраўдным спартоўцам, але па-ранейшаму працягвае бегаць па «Перамозе», не ведаючы, як адтуль выйсці.

Дарожкі, скажу я вам, не горшыя, чым на стдыёне Дынама. А можа, нават і лепш. Добра б правесці калі-небдзь на «Перамозе» які чэмпіянат. Па горадзе паўмарафон бягуць? Бягуць! Вось і ў метро б прабеглі якую спрынтарскую дыстанцыю. Тут на станцыі для гэтага ўсе умовы створаны. Таму ўсім бегунам моцы ў ногі!

## Кастрычніцкая — Купалаўская

Кажуць, што натоўп людзей, які няспешна ідзе ад «Кастрычніцкай» да «Купалаўскай» і ў адваротным кірунку, — гэта людзі, якія заблудзіліся ў розныя гады на гэтых станцыях. І толькі тры разы на дзень яны могуць знайсці кагосьці з родных і папрасіць выратавання. Таму ім не застаецца нічога іншага, як выходзіць у самарозрух на пошукі.

Маша вучылася на філфаку і штодзень на заняткі ездзіла на метро са станцыі «Спартыўнай» да «Купалаўскай», а вечарам вярталася назад. І ўсё б нічога, але Маша думала, што на станцыі «Купалаўскай» няма выхаду на вуліцу, таму яна штораз ішла на «Кастрычніцкую» для таго, каб выйсці ці ўвайсці ў метро. Адзін раз павялі яе праз «Кастрычніцкую» і ўсё тут... А пасля дзяўчына ўжо нават не задумвалася, ці ёсць там той выхад ці не, не было часу на роздум, бо яе штодзённа несла плынь да пераходу на станцыі «Кастрычніцкай». А калі яна ехала вечарам дадому, то тая ж самая плынь несла яе на «Купалаўскую». Таму Маша так і жыла: заўсёды пераходзіла на «Кастрычніцкую», каб патрапіць куды трэба.

Надышоў час атрымліваць падручнікі ў філфакаўскай бібіліятэцы. Першакурснікі паўсюль аднолькавыя: бяруць як мага больш, хоць палову кніг нават ні разу не пагартаюць. Ім здаецца, што ўсё паспееццa, але гэта хлусня. На другім курсе вучацца студэнты-на-паўпрафесіяналы: яны бяруць траціну таго, што ім выдаюць. На трэцім бяруць тры-чатыры кнігі. На апошнім курсе не бяруць нічога. Гэта і ёсць пазіцыя прафесіяналаў. Маша ж пакуль была на першым курсе, таму ўзяла ўсе 28 кніг. Яшчэ нават ледзь не заплакала, калі не аддалі 29-ю кнігу, а сказалі, каб зайшла па яе заўтра. Запхнуўшы падручнікі ў дарожныя торбы, Маша папёрла іх, як перадачку з дому. Ішла вельмі павольна, нават не спадзявалася, што сёння прыедзе дадому на «Спартыўную», добра, каб хаця да заўтра паспела. Але гэта ўжо як лёс дасць.

І тут дзўячыну абганяе Таня з другога курса. Што ды як... Дазнаўшыся, што Маша едзе па Аўтазаводскай лініі, Таня прапанавала ісці разам, заадно і падручнікі дапамагчы паднесці... Ідуць... Але чамусьці Таня вядзе Машу зусім не да «Кастрычніцкай»... Маша разгубленая, але нічога не гаворыць. І тут у пераходзе метро, дзяўчына заўважае над галавой вялікія літары... «Ні халеры сабе... «Купалаўская»» , — прамаўляе ў думках Маша.

Дзяўчаты заходзяць у вагон, Маша шакавана глядзіць перад сабой да самай «Спартыўнай», нават не заўважыла, як выйшла Таня два прыпынкі таму.

Ноччу Маша спала дрэнна. «Тры тыдні так ездзіла, тры тыдні...» — шэпча дзяўчына. Адзіная рэч, што яе суцяшае і грэе знутры — гэта тое, што яна дакладна ведае: заўтра на «Кастрычніцкую» больш не трэба.

## Плошча Леніна

Тыя людзі, якія выходзяць на «Плошчы Леніна» падзяляюцца на тры тыпы: тыя, каму трэба ў спальныя раёны, тыя, хто імчыць на вакзал, і тыя, хто крочаць у гандлёвыя цэнтры ці ВНУ. «Чаму апошняя група аб'яднаная?» — запытаеце вы. А я вам адкажу: «Адукацыя — у нейкім сэнсе таксама гандаль».

На «Плошчы Леніна» вы, зразумела, убачыце самога Леніна. Аднаго ў метро, другога — на вуліцы. Той, што на вуліцы, стаіць так, нібы зараз пакажа, як прафесійна трэба рабіць гімнастычнае практыкаванне на турніку. Ленін, які знаходзіцца ўнутры метро нічога не паказвае, а толькі пільна сочыць за усім, што адбываецца. Кажуць, ён на паўстаўкі працуе дзяжурным па станцыі. Гэты Ленін мае толькі галаву, іншыя часткі цела адсутнічаюць. Зрэшты, навошта яму ўсё астатняе, у жыцці самае галоўнае мець галаву. І чым большую, тым лепш. Твар у Леніна блішчыць, але больш за ўсё блішчыць нос. Бо людзі, якія ідуць паўз яго, часам спыняюцца і шэпчуць замовы, просячы дапамогі і заступніцтва: «Ленін, Ленін, гладкі нос, нашлі на (імя) панос». Замова чытаецца тры разы. Пры кожным прачытанні чалавек хукае на нос Леніну і плюе ў вочы, каб замова спрацавала. Выглядае гэта прыкладна так:

«Ленін, Ленін, гладкі нос, нашлі на (імя) панос... Хуууу... Цьфу-цьфу...»

«Ленін, Ленін, гладкі нос, нашлі на (імя) панос... Хуууу... Цьфу-цьфу...»
«Ленін, Ленін, гладкі нос, нашлі на (імя) панос... Хуууу... Цьфу-цьфу...»
Людзі кажуць, што Ленін дапамагае. Галоўнае прасіць шчыра.

«Ленін думае пра нас», — з пяшчотай гавораць яны і ледзь не плачуць ад шчасця.

## Інстытут культуры

У Каці была невылечная хвароба: яна вельмі любіла спаць. Асабліва ў метро. Там у любую пару года ўтульна. Хораша спіцца нават стоячы, ну, а як сядзеш, — дык і гаварыць няма чаго.

Ад свайго дома да працы Каця ехала восем станцый метро і выходзіла на «Інстытуце культуры». Раней было добра: «Інстытут» быў канцавым прыпынкам, таму, калі Каця засынала ў вагоне, яна ведала, што свой выхад не праспіць. Яе абавязкова разбудзіць ці дзяжурны па станцыі, ці пільныя пасажыры.

Але як пабудавалі новыя станцыі, жыццё ў Каці змянілася. Стала невыносна. І чым далей, тым горш. Гэта вельмі раздражняла Кацю. Часта ў размове яна закранала гэтую тэму: «Сядзеш на «Маскоўскай», а прачынаешся — ужо на «Малінаўцы». Даводзіцца ехаць назад. Перабягаю на другі бок платформы. Спрабую не спаць, а тое не атрымліваецца. І толькі засну — а ўжо на «Коласа» прыехала. Зноў даводзіцца вяртацца».

З'яўлялася нават думка ў Каці змяніць працу, каб бліжэй да дома было ездзіць. Але звычка праглынула чалавека. Таму даводзілася выязджаць за паўтары гадзіны да працы. Трэба ж паспець даехаць. Сваякі і сябры прапаноўвалі нармальна выспацца дома, каб пасля не драмаць у метро. Але Каця ім пярэчыла: «Нічога вы не разумееееце... Гэта не дапаможа». Яна нават спрабавала есці ў метро, хутка варушыла сківіцамі, але ўсё адно засынала над недаедзенай шакаладкай ці пячэннем. «Толькі сон!» — казаў ёй лёс.

Кацю і цяпер можна сустрэць у вагоне метро. Пазнаць яе вельмі проста: галава задраная ўгару, рот адкрыты і трохі перакрыўлены. Кожны дзень прыязджае на «Малінаўку», ледзьве не плача, ідзе на супрацлеглы бок платфомы і сядае ў вагон. У галаве імпульсуе думка: «Хутчэй бы на пенсію... Я не вытрымаю так жыць...» Думка паступова заціхае, і пад меладычны грукат Каця засынае.

## Грушаўка

Мала хто ведае, што, калі будавалі стынцыю метро «Грушаўка», людзі, якія жылі ў атачэнні яблынь, моцна пакрыўдзіліся на гэта. Яны таксама хацелі сабе метро. Але больш за ўсё яны хацелі праславіць яблык. Яблык і груша — гэта, як чорнае і белае.

Людзі яблыкаў пачалі пісаць даносы, рабіць розныя правакацыі супраць грушавых. І ўсё ж апошнія перамаглі ў гэтай вайне.

Пасля таго, як грушавыя пабудавалі станцыю метро, быў усталяваны сімвал перамогі і памяць пра бязвінна загінулых — помнік грушы.

Першапачаткова яна была цэлая, але адной цёмнай ноччу яблыкавыя зрабілі сваю помсту: разрэзалі грушу напалову. Адну частку пакінулі на п'едэстале, другую забралі з сабой і недзе схавалі. Зрэшты, грушавыя асабліва не перайmаліся, наадварот, такая аперацыя ад яблыкавых ішла толькі на карысць, бо калі груша была цэльная, яе часта блыталі з яблыкам. Затое цяпер ні ў кога не ўзнікала сумневу, чыя гэта тэрыторыя і хто тут галоўны.

Яблыкавыя кіпелі ад гневу. Думкі пра метро і ўсхваленне іх сімвала — яблыка, не давалі спакою.

Аматары маліны, дазнаўшыся пра яблыкавых, прапанавалі ім сяброўскі хаўрус. Малінавых таксама выводзілі гэтыя пафасныя грушавыя. Супольны вораг аб'яднаў два франты.

У малінавых былі свае інтарэсы ў гэтай справе. Яны таксама хацелі метро. І вось малінавыя і яблыкавыя пачалі збіраць петыцыі, пісаць заявы ў вышэйшыя ўстановы, каб ім правялі метро. Кілаграмы паперы штодзённа завальвалі ўстановы, а адказу ўсё не было. Людзі чакалі. Часам здавалася, што іх заявы ніхто не чытае. Але зусім нечакана вышэйшыя ўстановы запрасілі прадстаўнікоў малінавых і яблыкавых з'явіцца на сустрэчу да галоўнага а 9 гадзіне ў 414 кабінет.

Галоўны прыняў дарагіх гасцей. Спачатку пагаварылі ні пра што, пасля пасмяяліся ні з чаго. І нарэшце, перайшлі да галоўнага пытання. І тут бос сказаў:

— Мы можам пабудаваць толькі адну станцыю. Альбо для яблыкавых, альбо для малінавых. Пераможа той, хто прыдумае лепшую назву для станцыі. Сустрэнемся заўтра.

Прадстаўнікі разышліся. Вечарам над назваю думалі ўсе жыхары яблыкавых і малінавых мясцін. Назаўтра з ватманамі ў руках фармату А2, прадстаўнікі сустрэліся ў кабінеце галоўнага. Галоўны апусціў частку размоў і смех ні пра што і адразу перайшоў да справы:

— Ну, давайце батл... Яблыкавы, калі ласка!..

— Яблынька, яблычак... яблычуся?..

Галоўны закаціў вочы.

Яблыкавы працягваў:

— Яблычны сок... Яблычнае пюрэ... Шарлотка?.. Штрудзель?..

Галоўны паківаў галавой:

— Ну, у прынцыпе добра.

Настала чарга малінавага прадстаўніка:

— Маліна... Малінка... Маліначка... Маліна-каліна... Малінуля...

— Гэта ўсё? — з абыякавым тварам запытаўся галоўны.

— Ну... Мне тут жонка ўчора яшчэ адну назву прапанавала, але я не ўпэўнены. Я і не зразумеў, ці правільна я пачуў, бо яна ў мяне шапалявіць і картавіць. Можа, назва нам і не вельмі пасуе...

— Ды кажы ты ўжо, — не вытрымаў галоўны.

— Малінаўка!.. — выкрыкнуў прадстаўнік малінавых.

— Хм, Малінаўка... — прамармытаў галоўны. — Малінаўка... Малінаўка... Ведаеш, мне падабаецца. Вось што: будуем у вас метро.

— Што??? — зашыпеў ябылкавы. У іх метро? У гэтых чарвівых? Каб вас... Каб вы хабару не бачылі!!! Каб вы яблыкаў не елі!!! Каб вы іх па кошце бананаў куплялі!!! Пагніюць, але не дам ніводнага...

І галоўны на тое адказаў гнеўным голасам:

— Ды каб вы ўсё жыццё на тралейбусах ездзілі... Баршчавік вам пад вокны, а не метро.

З таго часу так і ідзе: яблыкі гніюць, баршчавік квітнее.

## Міхалова

Сама больш у жыцці яна любіла фоткацца і сацыяльныя сеткі. Калі гэта ўсё аб'яднаць, то атрымаецца інстаграм. Вось менавіта яго дзяўчуля і завяла пару гадоў таму, і пачала скідваць туды кожны момант свайго жыцця. А сёмай яна прачыналася, але не злазіла з ложка, а брала ў рукі тэлефон, фоткала сябе і адпраўляла на сваю старонку з подпісам «не магу прачнуцца», пасля гэтага знаходзіла ў сабе сілы падняцца, бо прагла больш фотак за дзень. Дзяўчына няспешна ішла на кухню, вымала нешта паесці і фоткалася за сталом. Мыла посуд. Фоткала яго. Чысціла зубы і таксама фатаграфавала. Праўда, калі ішла ў прыбіральню, то сам працэс не здымала, аднак унітаз трапляў у кадры ні раз. За дзень выкладалася больш за сотню фотаздымкаў.

Безумоўна, дзяўчына рабіла фота не проста так, а каб нехта залазіў на старонку і праглядаў яе жыццё. Ёй хацелася быць вядомай ці, хаця б уяўляць, што яна вядомая.

Кожны быў жаданым госцем на яе старонцы. А іх трохі бывала.

Самым адданым быў нейкі AZIK_V. Ён каментаваў кожны фатаздымак цэлай серыяй смайлаў, здавалася, што ён слоў не ведае, а толькі піша розныя значкі.

...

Той вечар быў такім жа самым, як і ўсе дагэтуль: марна патрачаныя гадзіны жыцця. Дзяўчына выйшла з метро «Міхалова». Ідучы па начным заснежаным горадзе, дзяўчына стала рабіць фоткі, пазначаць месца і чапляць да свайго акаўнта. AZIK_V быў першым, хто адгукнуўся незразумелым смайлам. Пасля паляцела блізу 10 фотак, але адданы прыхільнік чамусьці ўжо не адказваў. І вось калі дзяўчына надумала зрабіць яшчэ адзін кадр, раптам пачула, як нешта балюча ўкалола яе, яна асунулася.

Паспела толькі азірнуцца і ўбачыць, што за яе спінай стаяў нейкі хлопец з нажом у руках. Ён прытрымаў дзяўчыну і націснуў кнопку на яе тэлефоне. Фота атрымалася ўдалае, і калі не ведаць гісторыю стварэння, то можна падумаць, што гэта шчаслівая пара.

Дзяўчына ўпала на асфальт, пацекла кроў. Хлопец загрузіў фота на старонку дзяўчыны, паклаў ёй тэлефон у кішэню і незаўважна сышоў. Ніхто не ведаў, што AZIK_V гарадскі вычварэнец.

Апошні фотаздымак набраў найбольшую колькасць каментаў усяго за некалькі секунд, але пра гэта дзяўчына так і не дазналася.

## Пятроўшчына

Таня і Сяргей пазнаёміліся вясной. У той самы час, калі растаў снег, і на паверхню павылазіў увесь бруд ад людзей і жывёл, які так добра хавала зіма.

Сустрэліся каля малочнага аддзела. Сяргей вадзіў вачыма па бутэльках малака. Вочы ўжо не раз апісалі траекторыю Сонечнай сістэмы, а малако хлопец так і не выбраў.

Таня стаяла праваруч ад Сяргея і выбірала кефір. Таксама ніяк не магла вырашыць, які ўзяць. Думкі ў абоіх былі пра малочку, але раптоўна яны перарваліся: у Сяргея зазваніў тэлефон. Таня зірнула на хлопца, ацэньваючы яго позіркам: «Хм, такі тэлефон... Мабыць, займае добрую пасаду. Сочыць за здароўем, відаць, бо столькі часу малако не можа выбраць. Абы-што не п'е».

Скончыўшы размову, Сяргей паклаў тэлефон і зноў сканцэнтраваўся на малацэ. Дзяўчына вырашыла дзейнічаць рашуча: «Вось ён шанец... Знаёмства... Не ўсё ж жыццё кефір вечарамі піць...»

Таня пачала з пытання да Сяргея пра любімую марку малака. Слова за слова і размова завязалася.

Надыходзіў час развітвацца назаўжды ці прызначаць спатканне. І тады хлопец прапанаваў:

— Давайце заўтра сустрэнемся а пятай, там, дзе зоркі... Паходзім... Пагаворым... Пафатаграфуемся...

— Я згодна!!! — радасна адказала дзяўчына.

Назаўтра Таня прыехала ў абсерваторыю, але Сяргея там так і не дачакалася, бо ён пад «зоркамі» меў на ўвазе «Пятроўшчыну».

Дзяўчына проста не ведала, што Сяргей узяў айфон у крэдыт і адзінае, што ён мог сабе дазволіць — гэта зоркі на «Пятроўшчыне» і малако па зніжцы.

...Хлопец з айфонам у руцэ ўсё яшчэ чакае Таню ў метро.

## Першамайская

Яна заўжды была паслухмяная. Ёй казалі: «Не хадзі па газонах!» І яна не хадзіла. Хоць яны выглядалі так, нібы па іх прайшоўся статак кароў. Яна чытала Канстытуцыю і верыла ў яе. Хоць па ёй ніхто не жыў. Ёй казалі: «Нельга хлусіць і ашукваць!» І яна ніколі гэтага не рабіла, затое з ёй так рабілі досыць часта. У школе яна насіла чорны ніз, белы верх. І пакуль аднакласнікі рэзалі дзіркі ў джынсах, яна выразала сняжынкі для школьнага кабінета. І ва ўніверы варушыла мазгамі, пакуль іншыя варушылі часткамі цела ў клубах. Але ўсё адно працягвала чуць: «Нельга! Не трэба! Не крычы! Не нюхай! Не хварэй! Не

дыхай! Не жыві!..» Усё змянілася на сумоўі, калі яна пабачыла ў крэсле дырэктара свайго аднакласніка, які ледзьве дзевяць класаў скончыў. І тады яна сама сабе ўпершыню сказала станоўчае: «Хопіць!..» Хуценька забегла ў метро станцыі «Купалаўская», каб ехаць да самай рамантычнай станцыі «Аўтазаводская». Зайшла ў вагон, нырнула да дзвярэй і прачытала: «Не прыхіляцца». «Што?.. І ты мне яшчэ забараняць будзеш?.. Не, хопіць з мяне!.. Парушу хоць раз забарону!..» І яна прыхілілася... Гэта былі самыя шчаслівыя секунды жыцця. Бо на наступнай станцыі дзяўчына выпала з вагона: зусім забылася, што «Першамайская» — гэта, перш за ўсё, выхад на правы бок...



# Надзея Філон

празаік, паэт. Скончыла філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі святла». Друкавалася ў часопісах «Верасень», «Полымя», «Бярозка», тыднёвіку «ЛіМ» і інш. Нарадзілася ў 1988 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Магло б і не быць...

Па галоўнай плошчы горада павольна ішоў чалавек. У гэты перадсвяточны вечар тут было шмат людзей з дзецьмі розных узростаў. Дзеці весела смяяліся, рабілі здымкі на памяць і радаваліся бесклапотнаму дзяцінству. Сяргей Раманавіч ціха ўсміхаўся, гледзячы на шчаслівыя твары дзяцей, ды час ад часу кідаў позірк на ёлку, упрыгожаную рознакаляровымі гірляндамі і цацкамі. Снег кружыўся ў вальсе пад ледзь чутную музыку снежаньскага ветру, быццам заклікаючы людзей патанчыць разам. Але Анісімаў ужо падышоў да свайго старэнькага аўтамабіля і намацаў у кішэні ключы.

— Сяргей Раманавіч! — нечакана ўжо немаладога чалавека паклікаў статны юнак. — Добры вечар!

— Добры, добры, малады чалавек! — неяк разгублена сказаў Анісімаў, павярнуўшыся да хлопца.

— Прабачце, калі ласка, Сяргей Раманавіч! Мы з вамі асабіста не знаёмы, але мае бацькі вам добра вядомы. — Раман (менавіта так клікалі хлопца) дастаў з кішэні і працягнуў святочную сяміканцовую чырвоную зорку, якімі ўпрыгожвалі раней, гадоў дваццаць таму, вяршыню навагодняй ёлкі.

Сталы чалавек сціпла ўсміхнуўся, і ўспаміны захлынулі яго, быццам восеньскі шторм.

Гадоў дваццаць пяць таму, калі ён толькі пачаў працаваць загадчыкам гінікалагічнага аддзялення абласнога шпіталя, акурат перад святам Божага нараджэння, да яго прыйшлі на прыём муж з жонкай. Яшчэ зусім маладыя, відавочна, толькі нядаўна пабраліся шлюбам...

— Сяргей Раманавіч, добры дзень! Мяне завуць Анатоль, а гэта мая жонка Ганна. Так здарылася, што Ганна цяжарная. Разумееце, мы зараз гэта... ніяк не планавалі і вырашылі зрабіць аборт. Я вучуся ва ўніверсітэце на чацвёртым курсе, начамі падпрацоўваю на заводзе, каб было за што жыць. Жонка скончыла каледж, але працаваць зараз не можа, бо бацькі трапілі ў аварыю, трэба грошы і час, каб здароўе прыйшло ў належны стан. Круцімся, як можам. Грошай зусім не хапае нават на неабходнае, а тут яшчэ дзіця... Скончыўшы споведзь, Анатоль цяжка ўздыхнуў.

— Мы вельмі рады былі б яго пакінуць, але грошай нават на пялюшкі і калысачку не хопіць... Зусім няма нічога, — ціха вымавіла Ганна і выцерла з доўгіх веек празрыстую слязу.

Анісімаў, спачуваючы, паглядзеў на іх. Маладыя, а ўжо з такімі абставінамі сутыкнуліся. І дапамагчы некаму. Шкада. А колькі іх такіх зараз без свайго жылля і працы ў краіне? Тысячы. Нават на самае неабходнае не хапае грошай. Але ж змагаюцца, не апусцілі рукі. Толькі вось дзіця...

— А вы ў будучыні хацелі, каб у вас былі дзеці? Калі трывала на ногі станеце? — раптам запытаўся доктар.

— Канешне, Сяргей Раманавіч! Паспеем яшчэ, маладыя. У нас жа атрымаецца! — хутка вымавіў Анатоль і перапытаў. — Атрымаецца?

Сяргей Раманавіч памаўчаў. Яму трэба было прыняць цяжкае рашэнне. Ад самага пачатку кар'еры зарокся не рабіць такіх аперацый, не браць грэх на душу. А тут... Як быць? Чым дапамагчы гэтым людзям? Як падтрымаць?

— А ведаеце, што я вам скажу, — пасля працяглай паўзы ціха, але ўпэўнена вымавіў доктар. — Трэба жыць тым, што ёсць, сённяшнім днём. І дзякаваць Богу за тое, што маеце. Колькі чалавек мараць пра такое шчасце, гадамі лечацца, моляцца, каб былі дзеці, але ім чамусьці Бог не дае... А вы такія шчаслівыя! Бог даў дзіця, дасць і на дзіця.

Анісімаў падышоў да ўпрыгожанай па-святочнаму ёлкі, якая стаяла ў кабінеце каля акна, зняў з вяршыні чырвоную сяміканцовую зорку і працягнуў Анатолю.

— Трымай. Гэта будзе першы падарунак для вашага дзіцяткі. А гэта, — доктар уклаў у руку маладога мужчыны добрую кіпу грашовых паперак , — гэта вам на пялюшкі ды калысачку, і на астатняе павінна хапіць.

Анатоль нярвова ўсхапіўся:

— Сяргей Раманавіч! Вы нас не так зразумелі! Мы...

Анісімаў перапыніў Анатоля і, абдымаючы за плечы, сказаў:

— Не пра тое вы думаеце зараз. Не пра сябе думайце, а пра жонку і дзіця. Яно ж усё адчувае ўжо зараз, яно жывое. Не забівайце, дайце яму шанец на жыццё! Хто вы такія, каб забіраць тое, што дадзена самім Госпадам Богам? Давучыцеся, і дзіця будзе, і грошы заробіце. Са святам вас!

Анатоль і Ганна моўчкі паглядзелі адзін на аднаго і выйшлі за дзверы.

Праз некалькі дзён да Сяргея Раманавіча ў кабінет зайшоў калега:

— Вітаю, Сяргей! Са святамі! Як справы?

— Вітаю, Саша! Узаемна віншую! Працую, як заўсёды. Ты як?

— Ды вось, прыглядзеў табе аўтамабіль новы. За мяжой. Але сябар прыгоніць. Гэта не праблема. Ты грошы сабраў? — Аляксандр з энтузіязмам пачаў расказваць, якая ж файная тая іншамарка.

— Не сабраў, Саш, не сабраў... — Анісімаў неяк вінавата апусціў галаву. — Не сабраў...

— Ты што! Ты ж мне тыдзень назад сказаў, што ўсяго сто рублёў не хапае, а зараз не сабраў! Ты чым думаеш? Куды ты грошы спусціў? Жонцы футра новае набыў на святы? Ці на Мальдзівы паедзеш святкаваць? Куды?! Ты ж загадчык аддзялення! Заробак прыстойны маеш, а ездзіш на гэтым старым «Масквічы». Эх, Сяргей, Сяргей... — Саша абурана пачаў вінаваціць сябра, які слухаў праз слова.

— Ну, прабач мяне, Аляксандр, прабач. — Сяргей вінавата апусціў галаву і задумліва паглядзеў наперад. — Прабач...

— Эх ты!.. — і ў сэрцы пасварыўшыся на неабачлівасць сябра, Саша выйшаў за дзверы.

А Сяргей Раманавіч падышоў да вакна і паглядзеў праз шыбу на свой старэнькі «Масквіч». Нічога, ездзіць ды і добра. Затое жыццё выратаваў. А на гэтай машыне яшчэ год дваццаць можна ездзіць. Моцная яна.

Эх, успаміны, успаміны... Анісімаў крыху нервова і няўпэўнена круціў у руках чырвоную зорку і глядзеў на юнака, які назваўся Раманам.

Маўчанне перарваў хлопец:

— Гэта мае бацькі былі. Дзякуй вам шчырае! За ўсё! — І хлопец моцна прытуліў да сябе немаладога чалавека.

— А вы пасталелі, падраслі за гэты час! — доктар усміхнуўся. — Дзякуй Богу, сынок.

— Мне сказалі, што вы да сённяшняга дня на «Масквічы» ездзіце... Напэўна, я не адзін такі, каму вы выратавалі жыццё.

— Нічога, я прызвычаіўся даўно. У маім узросце ўжо цяжка мяняць нешта, у тым ліку і машыну, — неяк разгублена прамовіў Анісімаў.

— Гэта вам! — Рома паказаў рукой на новенькі «Мерседэс» і працягнуў ключы і дакументы на машыну. — Са святам Божага нараджэння! Калі б не вы, Сяргей Раманавіч, мяне б магло і не быць на гэтым свеце. Дзякуй!

Доктар ужо нават не выціраў слёзы, якія каціліся па шчоках і крыху падмярзалі на вейках. Ён ад душы яшчэ раз падзякаваў Богу за правільны выбар, які прыходзілася час ад часу рабіць у жыцці. І сённяшні вечар быў яшчэ адным пацвярджэннем гэтаму.



# Наталля Саўрыцкая

празаік. Закончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Друкавалася ў газеце «Родны край» і часопісе «Маладосць». Нарадзілася ў 1976 годзе ў вёсцы Міхалова на Лагойшчыне. Жыве ў Лагойску.

# Лыскаўскія ведзьмы

Вяртаюся да сябе раніцай на могілкі ды бачу — нейкая кабета коўзаецца па траве, ля самага лесу, цягаючы па расе доўгі ручнік. Ага, думаю, гэта ж далібог, нехта з лыскаўскіх баб малако ад кароў цягне! Але здалёк не пазнаю хто… Узяла мяне цікаўнасць, а падысці бліжэй не магу, бо ужо амаль развіднелася, а нам, нябожчыкам, Божачка не дазваляе пры святле па зямлі цягацца.

Добра, думаю, пасяджу тут, у хмызах, на магілцы, пачакаю, пакуль яна бліжэй падыдзе, то і буду ведаць, хто гэта з нашых баб ліхім промыслам займаецца. А пакуль чакаю, прыгадаю тое Купалле, калі мне давялося на сапраўдным шабашы пабываць. От, магу вам паведаць тую цікавую гісторыю. Бо я ўпэўнены, што вы ніколі на купальскім шабашы не бывалі і нават уявіць сабе не можаце, што там дзеецца.

А пачалося ўсё з таго, што за пару дзён да купалля, прыбегла да мяне ў двор Палуся Рыгава, якая тады яшчэ служыла наймічкай у Сцяпана Паўлава, ну таго самага, што пасля маёй смерці, у маіх ботах фарсіў. Ну… Я вам расказваў… Ай, ды не важна. Дык вось прыбягае да мяне Палуся, перапуджаная і раскудлачаная. Ды як залямантуе:

— Ратуй, дзядзька Нічыпар! Яны мяне заб'юць!

— Хто? — пытаюся, нічога не разумеючы. — Што здарылася?

— Яны кажуць, што я ведзьма! — тут як пальюцца слёзы з яе вачэй, што мне нават самому плакаць захацелася, так стала, гэта дзяўчо шкада.

— Ціха, - кажу — давай усё па парадку.

Але яна больш нічога не паспела сказаць, бо ў гэты момант да мяне ў двор уварвалася Кулініха — баба агонь, маючы за плячыма невялікае войска, складзенае пераважна з лыскаўсіх кабет, там Марыля Ласоціха, Соф'я Булка, Алена Касцючка, здаецца, ды пара падлеткаў. Ага! Быў з імі яшчэ Рыгор Булка, Соф'ін мужык. Ну як жа! Без яго ж ні водная сварка не абыдзецца. Я адразу зразумеў, што справа сур'ёзная і асцярожна перасунуў Палусю сабе за спіну.

Кулініха пачала абурацца, што з кожным днём яе каровы даюць усё меней малака. Што тое ж самае, у апошні час, адбываецца з амаль што паловай лыскаўскіх кароў. І што гэта ні што іншае, як падкопы малочнай ведзьмы, іншымі словамі — Палусі, бо да таго, як яна паявілася ў вёсцы, нібыта ўсё было добра. Бабы ківалі ды дружна паддаквалі, а з-за маёй спіны даносіліся ціхія Палусіны ўсхліпы.

— Дык што вы хочаце? — пытаюся.

— Няхай з'язджае адсюль! — у адзін голас заявіла войска, і Кулініха згодна закївала галавой.

— Абяцаю, — дадала кабета — што калі адразу ж з'едзе, яе ніхто нават і пальцам не кране…

Я хутка глянуў у вялікія заплаканыя вочы Палусі, поўныя страху і крыўды, ды павярнуўся да сялянак.

— А што, калі гэта не яна?

— А хто?! — абурыліся жанчыны, нібыта іх неяк кепска абазвалі. — Можа мы самі цягнем малако ад сваіх кароў?!

— Мала хто гэта можа быць, а можа пахварэлі вашы каровы?

Тады прапанаваў паглядзець іх кароў, каб упэўніцца, што гэта сурокі, а не звычайная хвароба, ды сказаў, што паспрабую злавіць тую ведзьму, якая на самой справе порціць іх скаціну, калі яны дадуць мне хоць пару дзён. Але да гэтага часу няхай паабяцаюць мне не чапаць болей Палусю.

Кабеты пераглянуліся паміж сабой і згадзіліся пачакаць пару дзён, калі з гэтага будзе які толк. На тым і пагадніліся.

У той жа дзень я прыйшоў да Кулініхі, каб паглядзець яе кароў. Бачу я, што вымя ў абедзьвюх чысцюткае, аніякіх табе знакаў хваробы. І самі выглядаюць нядрэнна. Як не круці, а падобна на тое, што сапраўды іх пачапала ведзьма. Выходзіць, трэба шукаць ліхадзейку…

Папрасіўся я тады ў Кулініхі пасядзець з вечара ў яе хляве, пацікаваць ведзьму. Узяў грамнічную свечку, запаліў яе ды накрыў зверху вялікім гаршчком. А сам сяджу, чакаю.

Сядзеў я так ціхенька ў хляве, да глыбокай ночы, пакуль не заснуў, ды відаць, такога храпака задаў, што аж сам прачнуўся. Ажно чую, дзверы хлява ціхутка прыадкрыліся, быццам ад ветру. А каровы сталі неспакойныя. Я тады шусь гаршчок са свечкі, ды бачу, што паміж кароў нешта замітусілася. Я туды, бачу ля кароў вялізная жаба скача. Ну, думаю, гэта відаць і ёсць ведзьма. Я тады хуценька цоп яе за лапу.

Вядома, што калі ведзьма скінецца ў якую істоту, яе трэба пакалечыць, каб гэта калецтва на ёй засталося, і ў далейшым ужо ўсе будуць ведаць, хто з вясковых баб — ведзьма. Я схапіў тую жабу, думаю, зараз прыпяку ёй бокі на грамнічнай свечцы. Паднёс яе бліжэй да святла, а яна круціцца ў маёй руцэ ды напужана вачамі лыпае. І так мне стала нешта яе шкада, што я плюнуў ды выпусціў яе як мага далей ад Кулініхінага хлеву.

— Не вяртайся, — кажу — сюды болей.

Нават і не ведаю, на што разлічваў, але на наступны дзень Кулініхіны каровы далі яшчэ меней малака, і я зразумеў, што дарэмна пашкадаваў ліхадзейку. Давялося ўспамінаць іншыя спосабы пошукаў ведзьмы.

Пакуль разважаў аб тым, што рабіць далей, ды прыгадваў усе знаёмыя мне спосабы выяўлення ведзьмы, я заўважыў ля Кулініхінай адрыны мяшэчак з канаплёй-самасейкай. От, думаю, гэта тое, што трэба. Схапіў я той мяшэчак, ды пабег яе трасці ля агароджы, спадзеючыся, што гэта прывабіць ведзьму, якая не вытрымае, ды прыбяжыць прасіць у мяне тую канаплю. Але не паспеў натрэсці й жмені, як прыбегла Кулініха і адабрала ў мяне мяшэчак, загадаўшы мне шукаць іншыя шляхі.

Ну, я тады ўспомніў пра хамут, начапіў яго на шыю ды пайшоў на выган за хлявы, бо кажуць — праз хамут лёгка пазнаць ведзьму. Але Кулініха і тут мне рады дала. Дагнала і хамут з шыі сцягнула.

— Ну што, ты, Нічыпар, - кажа — робіш? Майму чалавеку, вунь, каня трэба запрагаць, а ты тут з хамутом на шыі гойсаеш!

— Але ж, цётка, — пакрыўдзіўся тады я, — як табе ведзьму знайду, калі ты мне ўсе мае штукі псуеш?

— Навошта табе тыя штукі, калі добра вядома, хто ў нашай вёсцы ведзьма. Ты ж паглядзі, што робіцца: ва ўсіх малака становіцца меней, а ў Сцяпанавых кароў толькі большае. Хіба ж гэта не дзіўна? І ўжо колькі год у вёсцы малако не прападала. А ў мінулае лета, як паявілася тут Палуся, дык і пачалася тая трасца. Памятаеш, колькі спачатку па восені было заломаў у жыце, а потым вунь вароты ў вёсцы нехта крывёй мазаў, а ўжо сёлета, на Юр'е, малако пачало прападаць! Дык, што самае цікавае, спачатку ў Сцяпанавых суседзяў. Што, скажаш, проста так гэта ўсё?

Я сапраўды прызадумаўся. Ішоў ад Кулініхі да сябе, увесь час перабіраючы ў галаве Лыскаўскіх баб. Успомніў пра Гэльку і падумаў, як добра, што яна якраз да бацькоў паехала, і ўсё гэта яе не тычыцца. Падумаў, пра нябожчыцу-маці, якую ў вёсцы заўсёды лічылі ведзьмай, і як ёй часам прыходзілася не проста. Але думкі мае ўвесь час вярталіся да Палусі, і, праходзячы паўз Сцяпанаў двор, падышоў асцярожна да агароджы ды зазірнуў у Сцяпанаў сад.

Я ўбачыў ля старой яблыні Палусю, якая трымала на руках Сцяпанава малое, а побач з ёй круціўся старэйшы карапуз, які хапаў увесь час Палусю за спадніцу і намагаўся ўзлезці да яе таксама на рукі. Іх маці, першая жонка Сцяпана, памерла пры родах, небарака застаўся ўдаўцом з двума дзецьмі і ўзяў да сябе малодзенькую дзяўчынку ў наймічкі, каб даглядаць дзяцей.

Палуся напявала і гушкала дзіця на руках. А потым прысела на траву і, калышучы малое, стала нешта расказваць старэйшаму. А той вельмі ўважліва слухаў. Яна, гушкаючы, усё гаманіла і гаманіла, а я глядзеў на іх трох, ды не мог паверыць, што гэта дзяўчынка можа каму-небудзь свядома нашкодзіць. Кулініха — разумная баба і не стане казаць абы-што, але на гэты раз яна памыляецца: Палуся не можа быць той зладзейкай, што цягне ад лыскаўскіх кароў малако.

Заўтра — Купалле, час, калі раса робіцца асабліва малочнай, а значыць самая пара для малочнай ведзьмы. Затое і выявіць ведзьму ў тую пару лягчэй. Бо, як чуў, у купальскую ноч, вядзьмаркі з усёй ваколіцы збіраюцца на шабаш на Лысай гары, што непадалёк ад Лыскава. Трэба сказаць, я з маленства марыў хоць бы адным вокам паглядзець на тое дзіва, калі ведзьмы збіраюцца і балююць на шабашы. А зараз як раз ёсць патрэба даведацца, хто там будзе з лыскаўскіх кабет. І хоць ведаў, што гэта рызыкоўна, але вырашыў абавязкова папасці на гэты шабаш.

Тут мне спатрэбілася жаночае адзенне, бо няма дурных, думаю, каб сунуцца туды ў мужчынскім выглядзе — ведзьмы заездзяць ды заслакочуць. Лепей прыкінуцца адной з іх, каб добра ўсё разведаць і знайсці сярод іх тую, што адбірае малако ад нашых кароў. Але пераапрануцца ў кабету для мяне не так-та проста, бо я высокі, як тая жардзіна.

Улез тады ў матчын куфар, выцягнуў адтуль адзежу. А маці-нябожчыца, у адрозненне ад мяне, была невялічкага росту. То і адзежа па ёй. Прыклаў да сябе сарочку, бачу што моцна кароткая, адзін смех з таго будзе. Стаў меркаваць, хто з нашых кабет мае болей росту. Канешне, Соф'я Булка, тая, што, дарэчы, разам з Кулініхай прыбягала тады на Палусю скардзіцца. Яна хударлявая і самая высокая ў вёсцы. То трэба папрасіць у Соф'і сарочку са спадніцай.

Пашыбаваў наступнай раніцай да Булак. Прыходжу ў двор, гукаю гаспадароў, але ніхто не адгукаецца. Відаць, не паспеў іх застаць. Што рабіць, трэба пазней прыйсці. Раптам гляджу на плоце адзенне сушыцца. Толькі я падумаў, ці не пазычыць мне яго ціхенька да заўтрашняй раніцы, як пачуў з хаты нейкі грукат. Падумаў, мусіць, гэта гаспадыня нешта робіць там ды мяне не чуе, і пайшоў унутр. Не паспеў адчыніць дзверы, як з дому на мяне наўгалоп выляцеў вялізны гаспадарскі кот. Гляджу, ля лаўкі ляжыць слоік, з якога нацекла цэлая лужына малака. То, відаць, гаспадары забыліся прагнаць з хаты ката, а той злодзей дабраўся да скрынкі ды перакуліў яе. Я пасмяяўся, а потым зірк на лаўку, а там — адзін, другі, трэці збанок, і ўсе поўныя малака. Успомніў тады, як Рыгор з жонкай у адзін голас жаліліся, што малака ў іх зусім ужо няма і здзівіўся… Адкуль? А што калі прапажа малака ў Лыскаве — гэта Соф'іна работа?

Ну, калі так, то хай Соф'я не ведае, што мне трэба жаночае адзенне. Бо цалкам магчыма, што сустрэну яе сёння ноччу на Лысай гары. Схапіў тады Соф'іну сарочку разам са спадніцай, ды пачухаў сабе хуценька да хаты.

Надвячоркам, пасля вялікіх намаганняў з мяне атрымалася даволі дзіўная кабета з прыгожымі вусамі. Бо я нізавошта не жадаў з імі развітвацца. Але ж і схаваць вусы цяжка. Накруціў тады матчыну льняную намітку на галаву, ды прыкрыў палову твару палатном, вырашыўшы, што калі моцна не прыглядацца, то будзе добра і так. Больш за ўсё спадзяваўся, што ў поцемку мяне проста нельга будзе добра разгледзець.

Калі дабраўся да Лысай гары, была ўжо амаль поўнач, бо не адважыўся выйсці раней на божы свет у жаночым адзенні. Спачатку адчуваў сябе неяк нязвыкла і няёмка. Але так хутка прывык да сваёй новай ролі, што нават падумаў аб тым, ці не памыліўся Божачка, зрабіўшы мяне мужчынам.

Пасмяяўшыся са сваіх думак ды новых адчуванняў, я адзначыў, што нешта тут, ля Лысай гары, вельмі ж ціха. Калі ідзеш па вёсцы, то добра чуваць, што сёння купальская ноч. Ля ракі раскладзена вялізнае вогнішча, вакол якога скача ўся вясковая моладзь. Гукі песень, смех ды гіканне разносяцца па ўсёй

вёсцы. А тут за вёскай цішыня ды спакой. Ніводнага гука. Мне адразу здалося гэта падазроным. Падышоўшы пад самую гару, нават амаль абышоўшы яе, так нікога і не знайшоў.

Азіраючыся навокал, я напружана думаў, што рабіць далей і ці не вярнуцца мне дадому, калі ўбачыў, што на суседнім кургане бегае нешта, відаць здалёку, светлае. Кот ці сабака, падумаў я, але, падыйшоўшы бліжэй, разгледзеў, што гэта невялічкі, белы баранчык. Ён азірнуўся на мяне, гучна забэкаў і адбег крыху далей. Я, не доўга думаючы, — за ім. Ён зноў ад мяне. Адбяжыць крыху, павернецца да мяне ды бэкае, быццам заве. Так я бег за ім, падхапіўшы спадніцу, мо з паўвярсты, пакуль не апынуўся ў лесе. Тут амаль не схапіў яго, але баранчык нырнуў у гушчарню ды знік у нетры. Прыслухаўся я… Недзе блізка бэкае. Даўся за ім у тую гушчарню, ледзь вочы сабе не павыдзіраў і бег, аж засопся, на тое бэканне, пакуль не ўпёрся ў балота.

У балота лезці — няма дурных. То я плюнуў, чорт з ім, з тым бараном, ды ўжо хацеў вяртацца назад, як зразумеў, што трапіў у пастку. З усіх бакоў той лугавіны, на якую неяк умудрыўся забегці, куды ні сунься — скрозь балота, і я рызыкаваў праваліцца ў такую тхлань, што й не вылезеш. Вось жа завёў мяне, паганец. Ды стала мне тут так моташна і млосна, што спыніўся пасярод той лугавіны і роспачна заенчыў.

— Што з табой, сястра? — пачуўся ззаду ціхі, прыемны голас.

Я аж падскочыў ад нечаканасці ды азірнуўся, быццам уджалены. Перада мной стаяла маладая кабета ў адной сарочцы з распушчанымі валасамі. У цемры і з перапуду не адразу пазнаў у ёй Касю Фядосаву з Дубніцы. Схапіўся за намітку, каб хутчэй схаваць свае вусы і няёмка нешта замармытаў высокім шэптам. Яна здзіўлена на мяне паглядзела і зноў спытала:

— Ты, мусіць, у першы раз?

Старанна заківаў галавой, і на пытанне адкуль я, махнуў неяк няпэўна рукой, а яна нібыта зразумела і спыталася, ці ведаю я, што трэба рабіць. Адмоўна захітаў галавой, тады яна згодна кіўнула і адным рухам скінула сваю сарочку і, застаўшыся ў чым маці нарадзіла, пачала мне лагодна тлумачыць.

— Вось, — кажа, — трэба якаясь палатніна, ты яе намочвай у купальскай расе ды паўтарай закляцце: «малако з кветак чырвоных, жоўтых і белых плыві да мяне! Кароўкі ўсялякае масці…», а тут, — кажа — абавязкова трэба ўспомніць мянушкі кароў, — «няхай ваша малако да мяне ідзе…» — і давай, значыць, цягаць сваю сарочку па роснай траве.

Моцна ўзрадаваўшыся навакольнай цемры, бо ўся кроў, здаецца, якая ў мяне была, выбухнула да маіх шчок і вушэй, хуценька пачаў сцягваць Соф'іну спадніцу. Застаўшыся ў сарочцы і намітцы, я ўзяўся адной рукой цягаць тую спадніцу па расе, бубнячы бязладна закляцце, а другой рукой трымаў намітку, каб не зляцела з галавы. Пыхцеў я так сабе, пыхцеў, ды ўвесь час старанна намагаўся не глядзець у той бок, дзе ў цемры свяцілася гожая Касіна постаць.

Праз некалькі хвілін Кася гукнула мяне ды абвясціла, што час вяртацца «да сваіх». Падала мне руку і павяла, па адной ёй знаёмай, сцежцы паўз глыбокай тхлані ў цёмныя нетры лесу. Я прыглядаўся, каб запомніць дарогу, але наваколле здавалася зусім незнаёмым і гатоў быў паклясціся, што ніколі не знайду зноў гэтай чортавай дарогі. Праз некаторы час пачалі даносіцца галасы, і мы выйшлі неўзабаве на невысокі пагорак, гладкі спераду і парослы густым лесам ззаду. І тут я зразумеў, што гэта за месца. Паміж Дубніцай і Курыцічамі ёсць гара, якую людзі завуць Чортавай грывай, бо лес расце на ёй толькі з аднаго боку, быццам грыва ў каня. Дык вось дзе збіраюцца ведзьмы!

А каб жа цябе трасца! Я ж ніяк не мог дацяміць, як сюды патрапіў, бо Чортава грыва ляжыць аж за некалькі вёрст ад Лыскава. Мо праз балоты дарога атрымалася шмат карацей? Але не паспеў нічога зразумець, як усю маю ўвагу захапіла тое дзіва, што здзяйснялася на гары.

Першае, што кідалася ў вочы, — гэта палаючыя факелы, што стаялі паўколам, паўтыканыя ў зямлю, у верхняй частцы Чортавай грывы. На самай сярэдзіне гары тырчаў вялізны шост, на вярхушцы якога было надзетае шырокае кола, а над колам ўзвышаўся рагаты кароўскі чэрап. Яшчэ больш дзіўна было тое, што з кола звісалі нейкія тканіны. Пады,шоўшы бліжэй здагадаўся, што гэта намочаныя расой сарочкі паненак, што з распушчанымі валасамі і расправнутыя вадзілі карагод вакол таго шаста.

Але ня ўсе кабеты вадзілі карагод. Адны, як мы з Касяй цягнуліся да шаста з мокрымі кашулямі, а іншыя яшчэ поўзалі па ўзгорку, збіраючы расу ці качаліся ў сарочках наўпрост па роснай траве. Я прыглядаўся, каб знайсці каго з Лыскава. Але большасць кабет была для мяне наогул незнаёмай. Некаторых ведаў з твару, але не памятаў, хто яны. Ага! Вунь, здаецца, Ганна Кузьмініха з Курыцічаў. Ніколі б не падумаў, што яна чарадзейка. А вунь жа старая Праснячыха з Дубніцы. Тое, што яна ведзьма, зусім не дзіўна, але дзіўна бачыць, як яна, распусціўшы свае доўгія сівыя космы, скача ў карагодзе сярод маладых гожых дзяўчат. А з Лыскава нікога няма. Ні Палусі, ні Соф'і, нікога іншага…

Я падумаў, што можа хтосьці яшчэ падцягнецца з лесу са спазненнем, і пачаў азірацца навокал. Але тут мяне паклікала Кася.

— Пайшлі да Вялікай маці. Хутчэй! — і пацягнула мяне за руку.

Што яшчэ за халера, Вялікая маці, здзівіўся я. Але паслухмяна пацёгся за Касяй на ўзгорак, да шаста, вакол якога весяліліся ведзьмы. І толькі тут я заўважыў мажную, поўную велічы кабету, якая, у адрозненеі ад большасці астатніх ведзьмаў, была адзетая ў даўгую споднюю кашулю і вешала мокрыя тканіны на вялізнае кола. Яна рабіла гэта звычайным рагачом, якім гаспадыні вымаюць з печы гаршчкі. Але ў яе руках той рагач здаваўся каралеўскім жазлом. Кабеты па чарзе нізка кланяліся Вялікай маці, чаплялі на рагач-жазло сваю палатніну і следам ішлі ў карагод, які на вачох шырыўся. Я заўважыў, што ля ног Вялікай маці, цёрся той белы баранчык, за якім, як дурань, ганяўся па лесе.

Я дзівіўся на таго барана, ды не пачуў спачатку, што Кася мне нешта кажа. Яна настойліва ківала на маю намітку, і я спалохана схапіўся за свой твар. Але Кася наблізілася да мяне, і, забраўшы ў мяне мокрую Соф'іну спадніцу, крыкнула на самае вуха:

— Распранайся! Ты ж не будзеш купацца ў адзежы!

Як гэта купацца?! Тут жа няма аніякай рэчкі, ні нават якой лужыны. Ужо хацеў шэптам запытаць у сяброўкі, што яшчэ за трасца з тым купаннем. Але тут падышла чарга чараўніцы, што стаяла ля нас, Вялікая маці павярнулася да яе, і я ўрэшце ўбачыў, хто на гэтым вядзьмарскім зборышчы быў з нашай вёскі. Бо Вялікай маці аказалася наша шматпаважаная Кулініха!

А каб цябе халера! Ледзь не вырвалася ў мяне. Вось жа хітрая шэльма! Гэта ж трэба так задурыць усім галаву! Цяпер стала зразумела, чаму ўсе мае штукі хутка сканчваліся на ёй. Але зараз, калі ведаў хто ў Лыскаве ведзьма, мне трэба было тэрмінова даваць дзёру, пакуль і сапраўды не прымусілі купацца. Я замахаў да Касі рукамі, даючы ёй зразумець, што буду распранацца ды пабег, прытанцоўваючы, да бліжэйшага зарасця ляшчыны. Добра яшчэ, што сярод гэтай мітусні ды скокаў на мяне ніхто не звяртаў увагі.

Так што, я шчасліва дабраўся да кустоўя, прыхаваўся там і быў ўжо спакойны, што тут мяне не знойдуць. А сам мог назіраць за тым, што адбывалася на гары. Бачыў, як надышла Касіна чарга, і як жанчын, павесіла сваю сарочку на рагач, а потым, азіраючыся, дзе я прапаў, начапіла і Соф'іну спадніцу, якую Вялікая маці-Кулініха ўрачыста павесіла на кола побач з іншымі, намочанымі купальскай расой палатнінамі. Кася пайшла ў карагод да астатніх і хутка перастала аглядвацца навокал, шукаючы сваю недарэчную сяброўку, якая знікла ў цемры.

Вось, здаецца, падцягнуліся ўжо ўсе ведзьмы, бо зачапіўшы апошнюю сарочку на кола, Вялікая маці ўтыркнула сваё жазло рагамі ў зямлю і падняла абедзьве рукі ўгору. Усе раптам спыніліся і змоўклі. Вялікая маці падняла галаву і, гледзячы наўпрост на кароўскі чэрап стала павольна і ціха шаптаць словы закляцця. У цёплым начным паветры быў чутны толькі бесперапынны строкат цвыркуноў. І болей ні гуку.

Вялікі карагод чараўніц, што атачаў сваю каралеву, пачаў бясшумна кружыць вакол яе. Ведзьмы плылі адна за адной павольнай хадой, і я, гледзячы на гэта, стаў адчуваць нейкі сонны дурман. Але рухі чараўніц рабіліся хутчэйшымі і хутчэйшымі, а незразумелыя словы закляцця болей гучнымі, і тут раптоўна заўважыў, што з палатнін, якія віселі на коле, падаюць кроплі белай, вельмі падобнай да малака, вадкасці. І чым хутчэй скакалі ў сваім карагодзе ведзьмы, тым часцей крапала з сарочак малако. Я аж падскочыў у сваіх хмызах, бачучы, як гэта спрытна ў іх атрымліваецца — пераўтвараць купальскую расу ў сапраўднае кароўскае малако!

А з сарочак ужо не проста крапала, з іх цякло струменямі, пакуль пад віхуру шалёнага танца з магічнага кола не лінула малочная рака. У гэты момант увесь

шабаш выбухнуў трыумфальным воклічам і кабеты, як апантаныя, рынуліся пад малочны дождж. Яны плёскаліся ў малацэ з гіканнем, смехам і крыкамі захаплення, шчаслівыя і задаволеныя, як малыя дзеці. А я не мог адарваць вачэй ад гэтага цудоўнага відовішча. Пакуль не заўважыў, што адна ведзьма стаіць не пад малочным вадаспадам, а побач і плюецца ды моцна лаецца, паказваючы рукой на адну з сарочак. Я прыгледзеўся, дык то ж мая, цьфу ты, Соф'іна спадніца! Тут яшчэ адна дзяўчына падышла пад тую спадніцу, нічога, мабыць, не заўважыўшы, ды як апараная выскачыла і таксама пачала лаяцца.

— Паскудства! — лямантавалі кабеты, — гэта не малако, а мача!

Астатнія заўважылі, што нешта здарылася і спынілі купанне. Яны ўсе паказвалі на Соф'іну спадніцу і абурана паўтаралі — мача! Мача! Я ўжо сам бачыў з хмызоў, што са спадніцы цячэ зусім не малако, ды чухаў патыліцу. Зноў, відаць, штосьці наблытаў. Для мяне гэта звычайная справа…

Супакоіла агульны гвалт Вялікая маці. Яна загадала змоўкнуць, а сама пачала прыслухоўвацца. Усе з цікаўнасцю глядзелі на яе і нават малако перастала ліцца, а толькі крапала пакрысе.

— Сярод нас чужое! — гучна ўсклікнула правадырка, — злоснае і варожае…

Не гледзячы на цёплую ноч, мяне працяло холадам — няўжо пра мяне? Калі Кулініха выцягнула з зямлі факел і накіравалася ў бок ляшчыны, у якой хаваўся, то я аж прысеў ад страху. Ну, думаю, тут мне і гамон… Але Вялікая маці прайшла паўз маіх хмызоў у напрамку старога ясеня. Дужа пералякаўшыся, уздыхнуў з палёгкай, ды стаў назіраць, што будзе далей. Падышоўшы, жанчына хутка махнула паходняй сярод ясеневых галін, і адтуль раптам выпырхнула на яе нешта вялізнае, падобнае да савы. Птушка наляцела на Кулініху, спрабуючы збіць яе з ног. Але моцная баба не далася і спрытна апякла савіныя пёры, добра прайшоўшыся па той пачвары палаючым факелам. Нават пачуўся смурод абпаленага пер'я, які даляцеў да маіх хмызоў, а ведзьмы пераможна загарлапанілі.

Толькі падумаў, што і мне пара даваць дзёру, бо моцна рызыкую быць выкрытым Кулініхай, як мяне нешта тузанула за падол сарочкі. Я зірк уніз, ажно гэта белы баранчык. Мякка адпіхнуў яго рукой, маўляў, ідзі адсюль, не выдавай мяне. Ён не адыходзіць, зноў цягне мяне за сарочку. Тады раззлаваўся ды піхнуў яго нагой пад зад, а той паршывец, як таргане мяне за падол, што я аж стрымгалоў выляцеў з той ляшчыны ды расцягнуўся на зямлі! А баран тыц сваёй мордай мне у твар, і, вось далібог кажу, расплыўся з'едлівай усмешкай. Мне стала так жудасна, што я схапіў нейкі камень ды шпурлянуў у тую нячыстыю сілу. То ён зарагатаў чалавечым басам ды рассыпаўся ўшчэнт на маіх вачах.

Калі дацяміў, што сяджу пасярод гары, а намітка валяецца побач, то ўжо позна было прыкідвацца кабетай, бо ўсе ведзьмы глядзелі на мяне моўчкі, як на

брыдкае дзіва, што звалілася знянацку на іх галаву. Кулініха толькі паднесла факел бліжэй да мяне, ды нахмурыла сурова бровы.

— Нічыпар? Што за ліха цябе сюды прынесла?

Я ўсхапіўся на ногі.

— Ды не, цётка гэта я так… выпадкова сюды заблукаў.

І мармычучы, што мне ўжо пара дадому, я задаў такога дзёру, што мне не кожны лыскаўскі конь даў бы рады. А ў спіну несліся зларадныя крыкі ды цюгуканне ізноў павесялелых ведзьмаў.

Я добра ведаў дарогу праз поле да Дубніцы, а з Дубніцы праз пару гадзін дабраўся да Лыскава і, ушчэнт змучаны, зваліўся з ног, спадзеючыся праспаць некалькі сутак запар, бо мне пасля таго шабашу было ўсё адно, хто там ведзьма, хто не ведзьма, і куды наогул дзяецца тое малако.

Але ж, зразумела, у мяне не атрымалася адаспацца, бо амаль з раніцы прыляцела да мяне Кулініха з Соф'інай спадніцай і маёй наміткай.

— Трымай! — шпурлянула яна мне іх у грудзі. — Мо падзелішся, чые мянушкі называў, як намочваў гэту спадніцу?

Я збянтэжана пачухаў патыліцу.

— Тваіх кароў. — Кажу, — Чамусьці толькі іх памятаю…

Кулініха гучна засмяялася.

— Ой, Нічыпар! Ну які ж ты просты! Хто табе адкрые сапраўдныя мянушкі сваіх кароў, каб потым можна было лёгка цягнуць малако. Ніхто не ведае, як завуць маіх кароў, акрамя мяне. А ты ведаеш толькі падменныя мянушкі, бо Рабая, Сіўка і Маліна — гэта на самой справе мянушкі маіх свіней, таму з тваёй спадніцы і пацякла іх мача.

Ізноў пачухаў патыліцу.

— Я мажа і недарэка, але ты, цётка, толькі што прызнала сваю віну. Атрымліваецца, ведзьма, што цягне ў Лыскаве малако — гэта ты. Бо, папершае, ты — сапраўды ведзьма, а па другое, толькі ты сама ведаеш мянушкі сваіх кароў. Выходзіць, сама і цягнула ад іх малако, каб адвесці ад сябе падазрэнне.

Кулініха з дакорам паківала галавой.

— Сёння ноччу на той гары, даражэнькі мой, не ўспомнілася ніводнай лыскаўскай каровы, хіба што адзін няўклюда ў жаночым адзенні клікаў маіх свіней, ды абліў іх мачой дзяўчат, бадай цябе ліха! Дарэчы сказаць, малако можна адабраць і без мянушак, калі спрыт маеш. І яшчэ табе скажу! Калі мае дзеўкі плёскаліся ў малацэ, я чытала замову ад сурокаў на ўсіх лыскаўскіх кароў, але мне перашкодзілі…

Я ўспомніў начную госцю, што таксама, як і я, хавалася ў цемры, назіраючы за шабашам.

— Тая птушка, што ты падсмаліла паходняй? Дык кажаш, гэта чараўніца?

— Якая чараўніца? — раззлавалася Кулініха, — Перахрысціся, Нічыпар! Язык не павернецца яе так назваць. То не чараўніца, а паганая вядзьмар-

ка, бязбожнае стварэнне, якая замест таго, каб прыйсці да нас прыстойна, пакланіцца і стаць пад малочнае кола разам з усімі сумленнымі ведзьмамі, чарадзейкамі і чараўніцамі, хавалася ў цемры, каб ведаць, што мы робім, ды выкарыстаць потым гэта супраць нас. Дакладней, супраць мяне, бо ўпэўнена, што гэта была Палуся, якая шкодзіць усёй вёсцы, а я ёй, як тая костка ў горле!

— Што за кошка між вамі прабегла? Ну якая вядзьмарка з гэтага дзіцяці? Скуль такая ўпэўненасць, што Палуся наогул мае сувязь з нячыстай сілай?

— Таму што ведзьма, Нічыпар, заўсёды пазнае ведзьму! Як толькі яна паявілася ў вёсцы, я адразу адчула, што ў нас з’явілася новая вядзьмарка.

Я тады сказаў, што не разумею навошта Палуся будзе шкодзіць людзям, ды расказаў Кулінісе, што бачыў у доме Соф’і Булкі поўна малака і моцна падазраю, што ведзьмай можа быць даўгавязая Соф’я, а не Палуся. Але Кулініха толькі рассмяялася.

— Апранайся. — загадала, — ты сваімі вачыма бачыў, як я апякла тую саву. Калі сваімі вачыма ўбачыш на Палусі апёкі ад маёй учорашняй паходні, тады мне паверыш?

— Ну. Можа тады паверу…

Мы знайшлі Палусю ў садзе. Яна сядзела ў цяньку пад старой яблыняй і латала вопратку, нешта нягучна напяваючы. Я абрадаваўся, адразу заўважыўшы, што дзяўчына ў поўным парадку, бо зусім не падобна было, каб яна пацярпела ад якіх апёкаў. Наадварот, выглядала вясёлай і нават шчаслівай.

Кулініха падышла да яе блізка, уважліва яе агледзела і нават, не вітаючыся, адразу спытала, дзе яна была гэтай ноччу. Палуся засмяялася, ды кажа, што Кулініха, маўляў, ставіцца да яе зусім як мамка родная. А я падумаў, што дзяўчына, сапраўды, не такая простая, як здаецца.

— Не выкручвайся! — раззлавалася Кулініха, — Я ведаю, што ты была гэтай ноччу на гары. — І, не доўга думаючы, схапіла Палусю за даўгую касу.

Але дзяўчына сярдзіта тузанулася, і даўгая, прыгожая каса засталася ў руках Кулініхі. Тады кабета спрытна сарвала хусцінку з Палусінай галавы, і стала бачна, што з правага боку валасы дзяўчыны добра абсмалены, а каса была проста замацавана на галаве.

— Ага! — пераможна закрычала Кулініха.

Але тут Палуся паднялася, кінуўшы шыццё, ды ўляпіла Кулінісе гучную аплявуху. Я спужаўся, што кабета зараз заб’е дзёрзкую дзяўчыну, але Кулініха толькі зняважліва засмяялася ў твар Палусі, бо здавалася, што яна нават не адчула ўдару. Тады вочы Палусі загарэліся лютасцю, і яна схапіла дубец, што патрапіў ёй у рукі, і сцебанула, але не па Кулінісе, а па яе цені, як, кажуць, і трэба біць ведзьму. Кулініха, сапраўды, нечакана падскочыла і гучна войкнула. Палуся сцебанула зноў па цені, а Кулініха зноў завойкала.

Я не мог паверыць сваім вачам, гледзячы, як гэта сарамлівая, баязлівая дзяўчына пераўтвараецца ў раз’юшаную тыгрыцу і ганяе па садзе мажную

Кулініху. Далібог, гэта бывалая баба не магла даць Палусі рады. Тая ўсё сцябала ды сцябала па яе цені, пакуль Кулініха не ўзлезла на старую яблыню, ды не пачала злосна шпурляць у Палусю зялёныя яблыкі.

Палуся спрабавала ўхіляцца ад недаспелых пладоў, хоць і атрымала пару разоў па ілбе. Але горш за ўсё для яе было тое, што яна не даставала Кулініхінага ценю і біла кабету проста па нагах, але ў адказ чула толькі здзеклівы смех, а не роспачнае войканне.

Тады Палуся люта завыла і пабегла ў паветку ля хаты. Я пачаў крычаць Кулінісе, каб яна злазіла ўніз, бо ўсё ўжо зразумела і трэба скончыць тую бойку, як заўважыў, што ля Кулініхінага твару лётае велізарная муха ды цэліць ёй прама ў вока. Кулініха спачатку адчайна адмахвалася ад надакучлівай здані, а потым сарвала хустку са сваёй галавы, ды стала лавіць тую муху аберуч у хустку. Ды так яна зацята лавіла тую злосную кузурку, што, бачу, вось-вось сама паляціць з дрэва.

Я спужаўся, што кабета разаб'ецца, але пакуль дабег, Кулініха сапраўды кулём грымнулася з яблыні, моцна трымаючы абедзвюма рукамі тую хустку. Хустка раз'юшана гула. А задаволеная Кулініха, завязаўшы хустку з той мухай у невялічкі клунак, з крахтаннем і стогнамі схапіла Палусіна шытво, што валялася пад дрэвам, ды выцягнула з яго іголку. Яна ўсадзіла тую іголку ў самую сярэдзіну клунка, дзе сядзела муха.

З паветкі пачуўся роспачны енк. Мы абое здрыгануліся, я ад жаху, а Кулініха ад радасці.

— Ага…! На гэты раз я цябе ўсё ж такі дастану, трасца табе ў бок! — І кабета прадоўжыла калоць іголкай клунак, — Будзеш ведаць, як нашых каровак крыўдзіць, ды за чэснымі ведзьмамі цікаваць.

Кулініха ўсё калола і калола, нешта прыгаворваючы, а з паветкі ўсё несліся і несліся Палусіны крыкі. Я прасіў кабету перастаць, але Кулініха толькі адмоўна круціла галавой. Урэшце з паветкі выбегла Палуся. Бедную дзяўчыну калаціла як ад ліхаманкі пры кожным уколе ў загорнутую хустку. Я не вытрымаў і з крыкам «Хопіць!», паспрабаваў адабраць у Кулініхі тую хустку, але кабета спрытна падхапілася і адбегла ад мяне.

— Няхай спачатку прызнаецца, што прапажа ў вёсцы малака — яе работа! — Задзірліва выгукнула Кулініха, моцна трымаючы ў руцэ злашчасную хустку.

Палуся перахрысцілася дрыжачай рукой і сказала, што ніколі не рабіла аніякіх сурокаў у Лыскаве і, наогул, ніколі не ўжывала шкодніцкага чарадзейства, бо і без таго ў свеце хапае рознай трасцы. Але Кулініха толькі з'едліва засмяялася і, ўзняўшы ўверх хустку, стала бязлітасна сціскаць яе ў руцэ.

Палуся здрыганулася ўсім целам і сагнулася ўдвая. Я спужаўся за яе, але калі раптам дзяўчына разагнулася, я ўбачыў, што ў левай руцэ яна трымае вялізны іржавы цвік. Цвіком з царкоўнага будынк, ведзьму можна нават забіць, усадзіўшы той цвік ў яе цень. Але я не думаю, каб у Палусі быў сапраўдны царкоўны цвік. Хутчэй за ўсё яна спрабавала напужаць сваю праціўніцу

звычайным цвіком, бо размахнуўшыся, з гучным лямантам ударыла ім па Кулініхіным цені. Кулініха, сапраўды, перапужалася, віскнула і ўпусціла з рук хустку. Калі я апамятаўся, абедзьве чарадзейкі ўжо былі за межамі сада, і іх раз'юшаныя крыкі даносіліся недзе са двара.

Я падабраў Кулініхіну хустку ды, першай справай, чамусьці выпусціў муху, якая, на дзіва, аказалася жывой і здаровай. А потым пайшоў за кабетамі, ліхаманкава прыкідваючы па дарозе, як іх супакоіць і памірыць. Пакуль ішоў, я пачуў шум і гоман ды прадчуваў нешта нядобрае.

А калі выйшаў у двор, то зразумеў, што мне не прыйдзецца мірыць Палусю з Кулініхай. Бо гэтым ужо займаўся цэлы гурт лыскаўскіх сялян, якія так адчайна лупілі гаротную Сцяпанаву наймічку, што нават сама Кулініха спрабавала ратаваць дзяўчыну, з якой яна толькі што мела зацятую вядзьмарскую бойку.

— Людцы! Вы што, падурнелі? Вы ж заб'яце яе! — Кулініха спрабавала адцягнуць ад Палусі сялян, хапаючы іх за рукі і за вопратку. Але ніхто на яе не зважаў. І толькі Рыгор Булка, бліснуўшы злосна вачамі, зароў немым галасам:

— Бі, Кулініху! Яны разам, ведзьмы праклятыя!

Не паспеў я ачухацца, як натоўп раздзяліўся ўжо на дзве часткі, адна з якіх распраўлялася з Палусяй, а другая з Кулініхай. Трэба было тэрмінова нешта рабіць.

— Хопіць! — Зароў я з усяе сілы. — Я ведаю, хто забірае малако ў вашых кароў! — Сяляне крыху прыпынілі збіццё. Трэба было хутчэй адцягваць іх увагу. — Я абяцаў сказаць вам праз два дні і я скажу вам, хто гэта робіць, калі вы адпусціце кабет! — Сяляне разгублена паглядзелі адзін на аднаго, але не спяшаліся выпускаць сваіх ахвяр.

— Гэта не яны!

— А хто?!! — зараўлі раз'юшаныя галасы.

Я заўважыў, як пашкуматаная Кулініха злосна вырвалася з рук Рыгора Булкі, ды падышоўшы да Палусі, смела выцягла яе з натоўпу. Дзяўчына расплакалася, схаваўшы твар у моцным плячы сваёй нядаўняй саперніцы. Кулініха прыгарнула яе да сябе ды абняла.

Я бачыў, што ўсе глядзяць на мяне і чакаюць майго адказу, нават Кулініха. І тады, набраўшы паболей паветра, я нечакана для сябе выпаліў:

— Гэта я раблю!

— Што робіш?

— Што-што! Я забіраю малако ў вашых кароў! Што вам яшчэ не зразумела?

Усе замерлі. Стала так ціха, што было толькі чуваць, як стракочуць у траве конікі, ды недзе на дрэве хрыпла кувае зязюля. Нейкае імгненне ўсе стаялі нібы аглушаныя. А я ўжо цяміў, што мне лепей рабіць далей, дакладней, якой дарогай уцякаць. Скасавурыўшыся на агароджу, я падумаў, што магу пераскочыць праз яе і даць ходу. І калі Ласоціха першая кінулася да мяне, ужо

збіраўся так і зрабіць, як Рыгор Булка прыпыніў яе і спытаўся — навошта я гэта раблю. Я няпэўна пацуснуў плячыма ў адказ.

І тут адбылося нешта зусім дзіўнае, замест таго, каб пачаць дружна мяне лупцаваць, сяляне моўчкі і з пакрыўджаным выглядам, паглядаючы на мяне з дакорам, пачалі адзін за адным сыходзіць са Сцяпанавага двара. І праз пару хвілін на месцы былога пабоішча засталіся толькі мы з Кулініхай і Палусяй. Яны абедзьве запытальна і здзіўлена на мяне паглядалі. Кулініха падышла і груба забрала ў мяне сваю хустку, якую я дагэтуль трымаў у руцэ.

— Нічыпар, ці то праўда? — спыталася яна, завязваючы сваю хустку ды папраўляючы на сабе адзенне.

— Што? — пытаюся.

— Дык ты мне проста галаву дурыў, а сам цягнуў ад нашых кароў малако?

Я аж плюнуў са злосці.

— Ці вы зусім здурнелі, далібог! Навошта мне гэта рабіць? Я спужаўся, што яны зараз вас пазабіваюць!

— Не… Я мужык, мне да боек не прывыкаць. — А потым дабавіў. — Ведаю, што трэба рабіць, калі што…

Кулініха прыпадняла адну брывіну і ўсміхнулася, відаць успомніўшы, як я даваў цягу з Чортавай грывы.

— Нічыпар, калі прапажа малака — не твая, не мая і не Палусіна, — Кулініха ізноў запытальна паглядзела на дзяўчыну, а тая рашуча пацвердзіла яе словы, — то чыя тады гэта работа? Нам трэба ведаць як мага хутчэй. Бо тыя вар'яты могуць вярнуцца ў любы момант.

Мы сталі думаць ды гадаць, хто яшчэ з лыскаўскіх баб, можа быць ведзьмай. Я сцвярджаў, што гэта мусіць Соф'я Булка і ў чарговы раз расказваў, як бачыў у яе поўныя слоікі малака пры «пустых» каровах. Але абедзьве кабеты былі ўпэўнены, што з Соф'і такая ж ведзьма, як з мяне імператар расейскі. Бо зусім не кожная баба можа быць ведзьмай, а ўжо такую, якая можа, яны абавязкова б пазналі. Мне нічога не заставалася, як толькі згадзіцца з імі.

Але іншых ідэй у нас не было. Наўрад ці магчыма, каб гэта была якаясь залётная ведзьма, бо малако прападала занадта рэгулярна. А каб чужая чарадзейка адважылася на такое злачынства, то малако б прападала часамі. І тады Палуся расказала, што яшчэ зусім дзяўчынкай яна працавала ў аднаго вельмі разумнага пана. Хоць той пан і лічыў, што аніякіх ведзьмаў зусім не бывае. Тут, трэба сказаць, Кулініха гучна хмыкнула, але прамаўчала. А Палуся прадоўжыла расказваць, як той пан вылечыў карову, у якой прападала малако, і ўсе лічылі, што гэта ведзьміна работа, а выявілася, што і, сапраўды, гэта была хвароба, хоць па карове нельга было сказаць, што яна хворая, бо выглядала яна як здаровая. Але Палуся сказала, што лячыў ён тую карову, неяк вельмі мудрагеліста.

Я задумаўся. А што, калі я, сапраўды, памыліўся, і гэта хвароба, якой раней не сустракаў. Цяжка было ў гэта паверыць, бо заўсёды цяжка прызнаць, што

ты памыліўся, але так шмат чаго залежала ад таго, ці знойдзем мы прычыну нашых бед, што я вырашыў даследваць любыя сродкі.

Утраіх мы ўзяліся лячыць Кулініхіных кароў. Палуся пастаралася прыпомніць усё, што рабіў той вучоны пан, і амаль усё прыгадала, але яна не ведала, якую мазь ён прыкладаў да хворага вымя. Мы з Кулініхай сталі выпрабоўваць тыя мазі, якія ведалі. Прайшла пара-тройка дзён, а выніку аніякага…

Тады я ўспомніў, што мая маці зрэдку ўжывала адзін адмысловы сродак. Але не ведаў, як яго рабіць, бо ніколі сам не рабіў, і сказаў пра гэта Кулінісе. Кулініха зразумела аб чым ідзе гаворка, і нават трохі памятала, як мая маці яго рабіла.

Так што ўсё ж такі, мы хоць і праз сілу, але зрабілі разам тую мазь, намазалі ім Кулініхіных кароў, ды сталі чакаць ці будзе з гэтага які толк.

— Ты дарэмна, Нічыпар, уцякаў тады ноччу з Чортавай грывы. — Нечакана завяла гаворку Кулініха пасля каровіных лекаванняў. — Аказацца знянацку на ведзьміным шабашы вельмі небяспечна, але тое цябе не тычыцца.

Я збянтэжана пачухаў патыліцу, не разумеючы куды яна гне.

— Бо пакуль я жывая, Нічыпар, ніводная нячыстая сіла цябе не кране. Ведаеш чаму?

— Не…

— Калі я прыехала сюды дзяўчынай, я перажыла ўжо шмат гора праз свае чарадзейныя здольнасці. А твая маці не толькі прыняла мяне тут, у Лыскаве, але і шмат чаму навучыла. Таму ты стаў мне як сын… Ці як малодшы брат. — Кулініха цяжка ўздыхнула, — Мне належала таксама, як яна да мяне, паставіцца да Палусі, але я спужалася. Палуся маладая і моцная, а я старэю. Мусіць хутка прыйдзе час аддаць ёй пасаду Вялікай маці, як некалі зрабіла гэта твая матухна.

— Няўжо яна была Вялікай маці?

— Яшчэ якой! — Вочы Кулініхі напоўніліся цеплынёй. — Яна была самай моцнай ведзьмай на ўсю акругу. Я так і не здолела дагнаць яе ні па сіле, ні па мудрасці. — Горка дабавіла чарадзейка.

Праз пару дзён адбыўся цуд — каровы сталі папраўляцца. Малака зусім крышку, але прыбавілася, і яно было ўжо не такім вадзяністым. Мы старанна змянялі подсціл, усё чысцілі, часта даілі ды мазалі вымі маззю. Праз тыдзень Кулініхіны каровы былі ўжо амаль што здаровыя і давалі малака, хоць і не столькі, як раней, але ўжо не так і мала. Мы ўтраіх не пераставалі дзівіцца на тое, што гэта, сапраўды, аказалася хвароба, якая так моцна была падобна на чарадзейства.

Увесь гэты час я чакаў, калі ўрэшце прыйдзе расплата за маё «зладзейства» з боку аднавяскоўцаў, але час ішоў, а яны на дзіва не прыходзілі да мяне ні са зброяй, ні з нараканнямі. Наадварот, яны зусім перасталі прыходзіць да мяне, нават за дапамогай, і калі сустракалі мяне ў вёсцы, то старанна абміналі. Я разумеў, што гэта павінна некалі скончыцца, бо малако ў вясковых кароў паранейшаму прападала і чакаў, што адбудзецца нешта дрэннае.

Яшчэ праз пару дзён, апасля таго, як Куліціхіны каровы сталі папраўляцца, да мяне адвячоркам, урэшце, прыйшло некалькі мужыкоў на чале з Рыгорам Булкай. Я насцярожана напружыўся. Але хтосьці з іх, здаецца, Лявон Наскевіч, Рыгораў сусед, падышоў да майго стала і дастаў з торбы вялікую галоўку сыру, з пару дзясяткаў яек і добрае кольца кілбасы. Я толькі паспеў адчуць, як мае бровы павольна паўзуць на лоб ад здзіўлення, як Рыгор выцягнуў з-за пазухі вялікую бутэльку гарэлкі і таксама паставіў на стол.

Я шмат чаго чакаў, але толькі не гэтага і так разгубіўся, што не ведаў, што і сказаць. Але Лявон мяне апярэдзіў.

— Нічыпар, мы цябе моцна паважаем. Ты такі ўмелы і спрытны чарадзей. Мы заўсёды з цябе дзівімся. Але ці не мог бы ты… болей не чапаць нашых кароў…

— Разумееш, дзеці хварэюць без малака… - нясмела дадаў нехта з мужыкоў, а астатнія старанна заківалі галовамі.

Усе яны стаялі, баязліва перамінаючыся з нагі на нагу, і адчувалася, што ім так няёмка, быццам яны прыйшлі пазычаць у мяне грошы, а не патрабаваць спыніць маё «злачынства». Мне стала чамусьці іх вельмі шкада. Але тут мне ўспомнілася, як яны зацята лупілі Палусю, якраз за тое з-за чаго зараз прыйшлі да мяне з прыніжанай просьбай, і мая спагада крыху згасла.

— Я б рады, хлопцы, але не магу… — Яны паглядзелі на мяне разгублена, пакрыўджана сціснуўшы вусны. — Так атрымалася, што чары вельмі моцныя, іх нельга проста так зняць…

Я добра ведаў, калі сказаць ім, што іх каровы на самой справе хварэюць, то яны хутчэй за ўсё палічуць гэта хлуснёй, ды вырашыў ілгаць далей.

— Але калі вы жадаеце, каб вашы каровы сталі зноў даваць малако, я магу вас навучыць, што трэба рабіць, каб назаўсёды знішчыць тыя чары. Усё будзе залежыць ад вашай стараннасці і ад таго, ці зробіце ўсё так, як я вам скажу.

Распавёў ім, што трэба рабіць і загадаў, каб пазней падышлі да мяне за маззю. І, застаўшыся самнасам, першай справай паспрабаваў абдумаць тое, што адбылося.

Трэба сказаць, мне было вельмі прыемна, што аднавяскоўцы ставяцца да мяне з такой павагай. Некаторы час мяне аж распірала ад гонару і важнасці. Але нейкая нячыстая сіла ўпарта дзяўбла мне ў вуха, што гэта не зусім павага, а дакладней зусім непавага. А праз паўгадзіны гэта халера перамагла, і мне давялося прызнаць, што такія адносіны аднавяскоўцаў больш падобны не на павагу і любоў, а на страх.

Дарэчы сказаць, Кулініха заўсёды карысталася паўсюднай павагай, але і гэта не ўратавала яе ад пабояў пад гарачую руку. І, мабыць, толькі засцярога перад маімі, так званымі, чарадзейнымі магчымасцямі, спыніла сялян. Але, калі падумаць, яны ж былі ўпэўнены ў чарадзейнай моцы Палусі таксама. Але чаму тады яны не пабаяліся, што яна, быўшы ведзьмаю, не зжыве іх са свету? Чаму яны не баяліся яе? Ці Кулініхі? Я не разумеў.

Я задумаўся аб тым, як маці вучыла мяне яшчэ малога, што рабіць, калі, не дай Божа, да нас прыйдуць раз'юшаныя вяскоўцы, дзе хавацца і куды потым бегчы. Яна заўсёды жыла, як на той бочцы з порахам, чакаючы ў любы момант расправы з боку сялян, не гледзячы на тое, што ніколі не адмаўляла людзям у дапамозе і шмат разоў ратавала іх ад хвароб і markdown рознай халеры. Калі падрос, то чакаў спачатку падобных адносін і да сябе, але атрымалася неяк па-іншаму. Я чамусьці не адчуваў пагрозы з боку аднавяскоўцаў. Наадварот, часам мне здавалася, што яны самі мяне пабойваюцца, хоць я нікому не рабіў шкоды. Звычайна мяне гэта цалкам задавальняла. Але зараз я не мог не задумацца…

І хоць не мог ведаць пэўна прычыну такога няроўнага стаўлення да нас, але мне стала горка за маці, што была самым мяккасардэчным і душэўным чалавекам, якога я ведаў у сваім жыцці, але праз людскую няўдзячнасць і злобу яна памерла даволі маладой. Кулініха рупліва ахоўвала лыскаўскіх кароў у Купальскую ноч, але і гэта не ўратавала яа ад наганяю, а Палусю, дзяўчыну, якая толькі пачынае сваё маладое жыццё, сяляне мусіць і сапраўды збілі б да смерці, хоць, на самой справе, яна не рабіла ім аніякай шкоды.

Тым не менш, лыскаўскія чараўнікі не адмовілі ў дапамозе, і ўтрох з Палусяй і Кулініхай мы нарабілі той адмысловай мазі, каб хапіла на ўсю вёску. Вяскоўцы рупліва выконвалі мае парады і праз тыдзень-другі амаль усе каровы ў вёсцы пайшлі на папраўку. Толькі ў Рамана Канцавых, як мы не намагаліся з ім разам, карова ўсё ж такі выпруціла ногі, за што Раман потым яшчэ доўга на мяне крыўдзіўся.

Што тычыцца маіх адносін з астатнімі аднавяскоўцамі, то яны хоць і не праяўлялі адкрытай варожасці, але яшчэ доўга пакрыўджана касавурыліся на мяне. І ўсё ж такі сялянскае жыццё заўсёды поўнае розных прыкрасцей, прыйшлі новыя беды — сяляне забыліся на свае старыя крыўды, зноў сталі прыходзіць за дапамогай, і ўсё наладзілася.

Палуся неўзабаве выйшла замуж за Сцяпана Паўлава, які ўсё бегаў да мяне за любоўным зеллем, каб маладая дзяўчына пакахала яго. Але, трэба сказаць, Палуся болей прывязалася да яго падшыванцаў і стала для іх сапраўднай маці, бо сваіх дзяцей са Сцяпанам у іх так і не нарадзілася.

З Кулініхай у яе ўсталяваліся добрыя адносіны, якія і павінны быць паміж дзвюма «чэснымі» ведзьмамі. Часам здавалася, што Кулініха стала для Палусі замест маці, бо яе родная маці памерла, калі Палуся была яшчэ маленькай дзяўчынкай. Але іх сяброўства прадоўжылася нядоўга. Калі настаў той год, калі, памятаеце, страшэнная халера хадзіла па вёсках ды ўсіх быццам нажом рэзала. Шмат хто з Лыскава не перажыў той навалы. У той год памерла і Кулініха.

Але хопіць ужо пра сумнае. Пакуль я вам тут распавядаў сваю гісторыю, кабета, што коўзалася па траве з рушніком ля самага лесу, ужо трохі наблізілася да маіх хмызоў. Надта ж мне цікава, хто гэта там, у Лыскаве цяпер займаецца адбіраннем малака. І хоць я магу ўжо лепей яе разгледзець, але не магу

пазнаць, бо бачу толькі са спіны. А кабета такая ладная, гладкая ў баках. Ну павярніся ж ты нарэшце…

Яна была ўжо так блізка, што здолеў лепей прыгледзецца да адзежы і падалося мне, што сарочка нейкая знаёмая, узор па рукаве вышыты на асаблівы манер… Ах, каб цябе! Няўжо гэта тая Соф'іна сарочка? Значыцца, я меў рацыю, калі казаў, што трэцяй ведзьмай у Лыскаве была Соф'я Булка!

Толькі паспеў падумаць, што Соф'я добра пакруглела ў баках, як заўважыў, што з-пад яе хусткі тырчаць натапыраныя рыжыя вусы. Я аж кракнуў ад нечаканасці ў сваіх хмызах, і гэта прымусіла кабету азірнуцца ды паказаць свой твар ва ўсёй сваёй прыгажосці. Рабы твар з хітрымі, насцярожанымі вачамі ды рыжымі вусамі, належаў, зразумела, зусім не Соф'і, а гэтаму ліхадзею, яе мужыку, — Рыгору!

Дык вось яно, хто тады ціхенька пацягваў лыскаўскае малако, у той час, калі каровы па ўсяму Лыскаву і так хварэлі, і вось чаму тады я знайшоў поўныя слоікі ў Булкавай хаце! Мусіць, як стала ў іх малако прападаць, то Рыгор і пайшоў на промысел! А сам, паскуднік нямазаны, лупцаваў кабет, добра ведаючы, што ў самога рыльца ў пушку. Ну, як казаў некалі мой дзед, зараз я пакажу кіем, у які бок табе, шэльма, дамоў ісці!

І, схапіўшы добры кавалак зямлі, размазаў яго сабе па твары і руках, каб таму прахвосту мала не падалося. Затым трохі прапоўз да таго месца, дзе ён коўзаўся, разгарнуў хмызы прама перад ягоным тварам ды высунуўся з хмызоў. Сустрэўшыся са мной вачамі, Рыгор пабялеў, як тое малако, якое ён краў. А я падняў сваю руку, запэцканую зямлёю, ды павольна пагразіў пальцам пад самым яго носам, са словамі: «Ай-яй-яй, Рыгор! Кідай гэтую справу! Не то я па цябе прыйду…»

Памятаеце, як я даваў цягу з Чортавай грывы? Дык вось Рыгор, кінуўшы свой рушнік, імчаўся ўдвая хутчэй. А я глядзеў яму ўслед і думаў, што быць нябожчыкам не так ужо і дрэнна. Цяпер, я ўпэўнены, што Рыгору болей ніколі не захочацца малака ад чужых кароў, а мо нават і ад сваіх болей не палезе ў горла. Хе-хе-хе…



# Ганна Навасельцава

празаік, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Полымя», штотыднёвіку «ЛіМ», калектыўных зборніках. Аўтар кнігі міфалагічных апавяданняў «І чарам сніцца чалавек...» (2016 г.), кнігі казачных гісторый «Калі цябе спаткае казка...» (2018 г.). Нарадзілася ў 1983 годзе ў Віцебску. Жыве ў Віцебску.

# Сказ пра Дажбога Перуновіча

Над зімовым асмужаным светам прыгожа ўзыходзіла маё халоднае сэрца. Свяціла, не грэла, хоць свет ужо стаміўся чакаць ад мяне цеплыні. Дыхала холадам зямля, патыхала сцюжай неба. І чуў, мабыць, я адзін, што па-над светам загадкава маўчала вяшчунніца Гамаюн, даўно здаволіўшыся намаляваным мне радасным відовішчам. У ім я сніў, што не беглі ўдалеч імклівыя рэкі, што не звінела песнямі зямля, не квітнела пяшчотнымі краскамі. І я нічога не мог з гэтым зрабіці. Спаў моцным сном. Доўга спаў у Кошчавым ільдзісістым палоне...

Не гайдалася на хвалях мая чырвоная ладдзя, скаваная ледзянымі чарамі...

— Моцна баішся, прыгожы? — звінелі іскрыстыя льдзінкі, якія я ўпарта святліў сваімі промнямі. — А не вырвешся з халоднага палону!

Можа, і не вырвуся. Моцна баюся. Але і не падумаю здацца. Мяне дапраўды клічуць прыгожым... Нават капрызлівая Гамаюн, убачыўшы мяне знянацку, была сумеўшыся. Праспявала тады: «Ідуць за ім зарніцы ясныя, ззяюць над ім зоркі прыўкрасныя! З чала яго сонца ўздымаецца, на грудзях жа месік хаваецца! А вочы — перуны агнявыя! А і рукі ўсе залатыя...». А якім жа яшчэ быці сонцу, так і не сказала. Праспявала, пёрка сваё на зямлю кінула, а свет ёй і паверыў. Вялікая сіла ў прыгажосці...

Ды чаго ганарыцца прыгажосцю, калі я сам вінен у сваім палоне!

— Вітаю цябе, брат мой стрыечны! — пачуў ад Кошчы цёмнага тады, як прыйшоў да яго.

— Не брат я табе!

— А не Вялесаў унук? — зарагатаў холадна, аж я адчуў, як над светам усхадзіліся магутныя вятры.

І не было чаго адказаць на пачутую праўду.

— Што Вялесаў унук, тое праўда, — зіркаў цёмны зневажальна. — А вось чый сын...

— І мне зрабілася балюча, як і з кожным напамінам пра бацьку...

— Не брат я табе, а вораг давеку!

— Цемру прэч зганяеш, а людзям спрыяеш! Тое праўда... Але што ж ты, вораг, прыйшоў у мяне спагады прасіць?

І адкуль толькі ўведаў, чаго прыйшоў прасіць... Падумаў так ды ўспомніў:

— Не хадзі да яго! Не прасі! Не чакай! — гнеўна казаў той, хто кідае на зямлю перуны.

— Я хачу яе ратаваці!

— Яе ўжо не ўратуеш! А той не павінен вырвацца з палону!

— Я павінен!

Я павінен ратаваць... І цяпер глядзеў на кашчавага палонніка, які вітаў мяне, які ўжо здзекаваўся з мяне, хоць сам запратораны Вялесам у камяніцу. Скаваны ланцугамі, што не можа і зварухнуцца. Можа толькі глядзець. Зневажальна загадваць:

— А падай мне, прыгожы, жывой вады! Падай, каб напіўся ўдосталь!

Тры глыткі жывой вады выбавілі цябе, брат мой і вораг, з палону. Ці думаў я калі, што так лёгка нарабіць ляда...

— Абяцаю табе даравацi тры віны! — кінуў мне тады, як ужо памкнуўся бегчы ў белы свет са сваімі вернымі воямі. — А пярсцёнак для сваёй нарачонай у служкі майго добрага, у Вія чорнага, пашукай! Я і сам яго баюся, задужа злоснага...

Я адшукаў. І забраў, і аддаў! Не збаяўся задужа помслівага і злоснага. І вось зноў над зімовым асмужаным светам прыгожа ўзыходзіць маё халоднае сэрца. Светам, якім цяпер уладарыш ты, мой стрыечны брат. А я не выбавіў сваю нарачоную. Не ўратаваў...

— Яна паспела нарадзіць табе сына! Чуеш, прыгожы? — азываецца магутны братаў голас. — І ўсё б нічога, ды Гамаюн, у цябе закаханая, праспявала, што сын твой Каляда знойдзе маю смерць! Начаравала. Напрарочыла. Чуеш, я схаваў сваю смерць! Я Кошча несмяротны! Не спраўдзіцца жаданне Гамаюн! А ты не вырвешся з майго палону! І не спадзявайся, прыгожы!

Ты паланіў, ды волі маёй не скарыў. Чуеш, брат мой стрыечны? Не чуеш, гоніш сцюжы ды маразы. Множыш цемру ды жахі. І над маёй галавой стаіць адзін жах, які цягне любасць з майго сэрца... З таго яно зусім ухаладзела. І мроіць мне гэты жах, як стаю адзін над каменнай труною. Як надзяваю цудадзейны пярсцёнак... Каму? Я сустрэў яе даўно-даўно. Я думаў, што яна заўжды будзе побач. Яна, Златагорка.

Пра нас тады спявала вяшчунка Гамаюн, радавалася шчыра, аж свет белы цешыўся: «Узляцеў мой Дажбог ясным сокалам пад аблокі высока-высокія. Ды пабачыў, як зорка, прасветлую валатоўну з усмешкай прыветнаю. Святагора дачушку адзіную, з ёй нікому не змерацца сілаю. І ўпаў ясны сокал з нябёсаў! І асілак паўстаў на пакосах!». Асілак паўстаў на пакосах... Магу ўзляцець ясным сокалам, тое праўда. А тады нікуды не ляцеў. Ды і не я цябе знайшоў. Ты мяне першай убачыла, Златагорка.

Чары невядомыя клікала, ці не на ўвесь свет забыўшыся. Зусім не валатоўна, танкалявая, мілая. З усмешкай прыветнаю, тое праўда. Відаць было, што з першага позірку мяне ўпадабала. А я... Ці не з першага позірку закахаўся.

— На каго варожыш? — не хаваў сваёй увагі.

— На лёс свой...

— Чаго ж у багоў просіш? Можа, і паспрыяюць яны! Адно скажы!

— Каб лёс бацькаў не паўтарыць!

— Бацькаў?

— Святагораў!

Ведаў увесь свет пра яго... Святагор не сукланіўся вялікаму Роду. Ледзьве трымала яго зямля, а і на неба хацеў узлесці. З прытупам, з прыскокам, з прысвістам. Сваёй воляй лёг у каменную труну... Чалавекам падмануты, каменьчыкам пераможаны. І не прасіў літасці, бунтоўны.

— Хіба і ты такая ж неслухмяная? — ледзьве знайшоўся тады. — На неба хочаш узлезці?

— Такая! — мовіла горда, капрызліва. — Хачу зямлю дзівіці! Хачу на неба ўзлезці!

— Што з табою паробіш! Як буду цябе трымаці за руку, дык, можа, паласкавееш...

Тады, Златагорка, ты са мною ласкава пагадзілася...

Нехта з маіх родных аніяк не мог пагадзіцца.

— Яна з роду волатаў, што і нас, багоў, зневажаюць! — гнеўна грымеў перуністы, строгі. — Звяжаш з ёю лёс, дык будзеш няшчасны!

— Няшчасце промнямі праганю!

— Няма табе майго благаславення! — выгукнуў з усяе сілы, а я ўспомніў.

Успомніў, што клічуць мяне, Дажбога, Перуновічам. Мабыць, дарэмна клічуць... Ты, Гамаюн, дражнілася ды спявала: «З каменя белага, з каменя гаручага Дажбог нараджаўся. З каменя, што самім Сварогам над светам каваўся...». З таго паціху называюць мяне Сварогавым сынам. Ды ці варта пра тое... Усе мы, багі, верныя Сварожычы.

— Што папросіш за блаславенне сваё? — у Перуна тады спытаў, ведаючы, што іначай зладзіць вяселле не выпадзе.

— А сыдземся біцца! Ты пераможаш — рабі, як ведаеш! Я перамагу — дык слухайся майго слова! Зарок дай!

Зарок. Слова вернае, непадманнае. Нічога болей не сказаў Пярун. Маўчаў Сварог, ён, давяраючы багам і людзям, ніколі не мяшаецца ў справы боскія, ніколі не лезе ў справы людскія. А ў Вялеса тады сабе дапамогі прасіў... Праўда, што быў ягоным унукам. Ды варагавалі і варагуюць Пярун з Вялесам.

— Цяпер не шкадуеш? — звіняць іскрыстыя льдзінкі, і мне здаецца, што мая ладдзя вось-вось вырвецца з палону.

Адужае холад. Паплыве. І я вярнуся... Адно сцюжа зноў кратае маё сэрца, нагадвае, што ўсе мае чаканні — падман.

Падманнае абяцанне Вялесава... Моцы мне зусім не дадаў, а пасля казаў, што і яго самога Пярун добра пляжыць. Але ж не гэтак, як мяне. Ведаюць усе, што яны моцна варагуюць. Ды не схацеў мне дапамагчы...

— Табе і Пярун не схоча болей дапамагчы, — смяюцца крыштальныя льдзінкі.

Не схоча, тое праўда. Я слова непадманнага не стрымаў. Пра зарок забыў... Мяне ж чакала мая Златагорка...

Мы з ёй удвух засталіся на ўсім белым свеце. Няхай бы і далей так было... Спраўдзіўся для яе бацькаў лёс. Спраўдзіўся, а я стаў няшчасным. І цяпер мне засталося адно чакаць, пакуль мая чырвоная ладдзя адужае холад. Чакаць, пакуль над зімовым асмужаным светам узыдзе высока маё халоднае сэрца...

— Прыгожае сэрца, — зноў азываюцца мне іскрыстыя льдзінкі.

Не адгукаюся. Не святлю іх промнямі. Мала змагаюся. І тады быццам у сненнях, у мроях жахлівых, а быццам на яве прыходзіць да мяне Вій чорны.

Чорны... Зласлівы.

— Што, холадна табе? — пытаецца, а сам усміхаецца, вачэй сваіх не падымаючы. — А мне ж цяпло нямілае! Пастылае! Як і Перуну нямілай была валатоўна Златагорка. Волаты зневажаюць багоў. Багі зневажаюць волатаў. Ды ведаеш і сам добра, што не ў тым зрыгота. Дык была Златагорка Перуну зусім, зусім нямілай... Ці чуеш?

І праз холад і сцюжу шкадую моцна, што не магу зазірнуць гэтаму ў вочы. А ён далей выпінаецца:

— Ці памятаеш, як чары невядомыя клікала, ці не на ўвесь свет забыўшыся? А гэта яна ў мяне спагады і парады прасіла! Ці думаў ты калі, чаму яе лёс нялітасцівы? Чаму так супала, што бацькаў лёс паўтарыўся? А ў Перуна пра тое не пытаўся? Адно з горычы ўхаладзеў... Не халадзей, Дажбог! Ідзе да цябе твой сын Каляда! Не ведаеш яго? Тое не дзіва! Не ты яго за руку трымаў! Адно падкажу табе: называюць яго Калядой Перуновічам! Ды не так сабе!

Правуркатаў чорны Вій ды знік. Гэта ж як страціла сваю сілу цяпло ды святло, што гэты падземны можа проста з'яўляцца мне, прыгожаму... Як жа насмеліўся! Зусім мяне ані баіцца.

Трапечыцца холад. Узыходзіць над светам маё халоднае сэрца. І з'яўляецца да мяне Каляда. Вітае ды абяцае вызваленне. Прыўкрасны. Можа, упадабаны маёй вяшчуннай сяброўкай Гамаюн... Дык хіба ж на мяне тым не падобны? Каляда Дажбогавіч.

Яго баіцца брат мой стрыечны...

— Не вер Калядзе! — стараецца, як мая ладдзя ўжо ломіць крыгі. — Ён табе большы вораг, чым я!

— Не слухай Кошчу! — азываецца Каляда. — Ён з Віем чорным падмануў тваю каханую Златагорку, каб сілу ты страціў!

Каляда Дажбогавіч. А я Дажбог Перуновіч. Не веру Кошчу. Ён большы вораг! Ён з Віем чорным... А я сілу страціў! Ды з вады разняволенай мацуюць мяне чары мілай маці маёй, светлай русалкі Росіцы.

... Кажуць ведныя, што смяялася Росіца з Перуна. Кпіла-дражнілася, з чаго той не адзін раз узгараўся навальнічным гневам. Кідаў перуны. Спрабаваў пераплыці вялікую раку, якая Росіцу хавала, ды штурхаў яго прэч уладар падземнай вады. Уладар усёй вады. Вялес, мірны, дасціпны. Пярун жа нахрапісты ды ваяўнічы. Біліся. Рассварыліся. Ударыў пярун у вялікую раку... І тады прыйшоў у свет я, Дажбог. З'явіўся камень белы, камень гаручы. Не так сабе мы ўсе нараджаемся на гэты свет...

Хто каму вораг? Хто каму сын? Свет ужо стаміўся чакаць ад мяне цеплыні. Я ўжо стаміўся ад свайго халоднага ільдзістага палону. Што яшчэ ты прадказала мне, Гамаюн... Не ведаю. Плыве па рацэ мая чырвоная ладдзя. Узыходзіць над светам маё халоднае сэрца.

— Ён цепліць, цепліць свет! — з жахам уцякаюць ад мяне маразы і сцюжы, Кошчавы воі верныя, гэтым разам пераможаныя.

— Чуеш мяне, стрыечны? — гукае мяне брат. — Гэта ж ты зноў падмануты! Занядбаны! Пагарджаны...

— Ты яшчэ абяцаў дараваці мне тры віны! — азываюся яму.

— Я памятаю пра слова сваё! Прыйдзе час — падарую...

І далей плыве мая чырвоная ладдзя. Перамагае палонны сон. Скрозь па зямлі пабеглі ўдалеч імклівыя рэкі, зазвінелі песні, падняліся пяшчотныя краскі. Я гэта зрабіў. Хоча маё сэрца бачыць свет прыгожым. Прыгожы любіць прыгажосць...

Зачараваны такім відовішчам, сукланіўся мне Каляда. Быці іначай не магло, але ж... Але ён дужэйшы за мяне. Змог прыкрага Кошчу. Змог таго, хто мяне адолеў.

Сукланіўся мне Каляда ды прамовіў:

— Свет наскрозь прайшоў, а такіх прыўкрасных не пабачыў! Хто ж ведаў, што можа сонца па зямлі хадзіці! Не дзіва, што закахалася ў цябе маці мая, валатоўна Златагорка...

Не дзіва. І цяпер мы разам доўга хадзілі па свеце. Нішчылі Кошчавых служак. Цемру прэч зганялі, а людзям спрыялі. А ты ж норавам вясёлы, у справах зычлівы. Мілы, чынны. На Перуна такі не падобны. І, мне здавалася, я чуў, як зноў цяплее маё халоднае сэрца.

— Як закахалася ў цябе маці мая, валатоўна Златагорка? — аддана зазіраў мне ў вочы Каляда.

Як закахалася... Што цяпер з таго? Я глядзеў, як б'ешся ты з цемрай. Дзіўна, што гэтак змагаецца пявун ды весялун. Прагна, грамавіта, перуніста... Думаў пра вялікага Сварога, думаў пра гнеўнага Перуна Сварогавіча. Першы мне сказаў, што вяду я ў свет людскі яго дабрыню. З усіх багоў мяне выбраў на зайздрасць іншым... Другі жаліўся, што дрэнны з мяне ратнік. Ты, Каляда, добры ратнік. Пярун Сварогавіч будзе табою горды.

— А ці закахалася ў цябе маці мая, валатоўна Златагорка?

Можа, і не закахалася... Чаго ж воляй сваёй такі лёс паўтарыла! Сваёй воляй лёг у каменную труну бунтоўны Святагор. Хто ж цяпер уведае, за што на багоў ды людзей пакрыўдзіўся... А чаму ты пайшла ад мяне, мілая Златагорка, я і цяпер не скажу...

Думаю пра тое ў вандраваннях, у бойках. Мрою пра тое, топчучы няходжаныя шляхі, якімі ўцякаюць найхутчэй цёмныя ды злыя. Здаецца, што ад цемры помслівай сам цямнею, раблюся быццам той Кошча. З таго і ты, Каляда, у ва мне і зняверыўся, не клічаш болей прыўкрасным... А па шляху цёмнаму, цямнюткаму мы ўсё далей сунемся. Куды ён прывядзе...

Да каго нас прывядзе... А перацінае шлях вялікая Марэна, ці не самому Сварогу роўная. Уладарка цёмная. Кошчава нарачоная. Бавяць яшчэ пра яе, што вернай сілай Кошчавай завецца. Перацінае ды запыняе:

— А сонейка трысветлае на зямлю сышло! А на самы край света закацілася! А і згубілася! Як свет цяпер без сонейка будзе?

— Ды як-небудзь абыдзецца! — кажу ёй проста, у вочы гледзячы.

— А не баішся мяне дарэмна. Са мною біцца ўздумаў! Гэта ж табе не мілыя людскія сэрцы дзівіці, што і так тваёй прыгажосцю зачараваныя. Хоць чаго там, ты дапраўды прыгожы.

За маёю спіной ступіў колькі крокаў назад раней ганарысты Каляда. Завагаўся няпэўна. Зіркнула на яго Марэна вачамі чорнымі.

— Няўжо гэта той, хто майго Кошчу змог? — здзекліва запыталася.

Ды супраць нас пайсці памкнулася, каб мы са шляху свайго збочылі. Памкнулася і запынілася. Тут, блізка цёмнага краю, мая сіла чарадзейная ёй вочы заступіла.

— Ах ты ж сонейка яснае! Хочаш мне вочкі выпаліць? Я ж так табе ўчыню, што і пра сябе забудзешся!

Не забудуся. Спявала неяк даўно мая вяшчунка Гамаюн: «Дажбог Перуновіч па зямлі хадзіў. І людзей, і багоў усіх дзівіў. Сама цемра ў яго закахалася. Закахалася. Не прызналася». Што ж, не магла цемра прызнацца сонцу. Хіба што гэтак:

— Я ж так табе зраблю, што пра ўсё забудзеш! Выпі горыч маю, русалчын сын! Выпі ды застанься навек са мною!

Над добрым людскім светам тады не ўзышло маё халоднае сэрца. Не жадаў, а выпіў... Застаўся з Кошчавай Марэнай.

Здалося, што не ў новы палон патрапіў. Проста са старога зусім не вызваліўся. Так цяжка вызваліцца з палону...

— Што пра мяне ведаеш, сонейка яснае? — паглядзела тады на мяне запытальна, і я раптоўна ўбачыў, што гожая ды згабная і Марэна цёмная.

— А ты паглядная! — сказаў ёй з прыкрасцю. — Адно шкада: усю злыбяду чорную ў свет людскі пускаеш!

— Пускаю злыбяду, маё ты сонейка ласкавае, — усміхнулася радасна. — А і Каляду твайго няшчасным зраблю, як ты, адзінокім, падманутым, запалоненым. Каб уведаў добра цемру маю!

Я спалохаўся тады. Я моцна не хацеў, каб ты, Каляда, перажыў пачуццё палоннае... У цемры жывой няма спагады, бо ніколі не было сэрца. Што ж тут паробіш...

— Паслухай, Марэна Злыбедаўна! — ласкава ўсміхнуўся ў адказ. — Адпусці Каляду! Як такое зробіш, дык воляй сваёй з табой застануся!

Застануся, у тым не падманваў. Убачыў жа, што спадабаўся табе. І моцна занепакоіўся, нават пакрыўдзіўся на мяне Каляда. Сказаў, што ён зусім не слабы...

— А я вось слабы! — рашуча запярэчыў яму. — Златагорку страціў! Не хачу страціць і цябе!

— Добры! Спагадны! Слабы! — крыўдзіўся на мяне Каляда, ідучы прэч, бо слова майго загаднага не паслухацца не мог.

— Добры! Спагадны! Слабы! — весялілася Марэна. — Выпі кубак заздароўчы!

Не хавала нават сама, што падманвае. Не заздароўчы той кубак... З горыччу. З атрутай. З невядома чым... Выпіў яго. Зразумеў тады, чаму над людскім светам не ўзышло маё халоднае сэрца. Не ўзышло, бо Марэна забрала яго сабе.

— Цяпер ты, Дажбог, у мяне закахаўся! Як закахаўся, то і застанешся. А як ты думаў? Падмануць мяне?

Цябе не падманваў. Нават і пазней, калі загадвала ісці біцца з Кошчам. Нарачоным сваім. Не дзеля праўды. Дзеля смеху... Моцна цешылася з бойкі нашай вялікай Марэна Злыбедаўна. Ды мне і самому сорамна было, і сумна, і прыкра, і ніякава...

— Дарую табе першую віну! — мовіў мне Кошча, першы раз перамогшы.

— І гэта яго ты баяўся? — зняважальна зіркала Марэна Злыбедаўна. — Сонейка слабое... Біцца не ўмее! Крыўдзіцца нібы дзіця малое...

— Ён зусім не такі слабы, як здаецца, — нібыта і заступаўся за мяне цёмны.

А я ўзгадваў, як жа гэта, быці ў ягоным палоне... Халодна. Зусім халодна. Ухаладзее нават самае цёплае сэрца... Нават сонечнае.

— Ён не слабы. Адно без жорсткасці... Без якой не перамагчы, — тлумачыў Марэне Кошча.

— Няўжо дапраўды сын Перуноў? — уважна слухала тая і сцепанулася ад сваіх жа слоў, відаць, што Перуна моцна баялася.

— Унук Вялесаў, тое праўда, — не схацеў пазабаўляць сваю нарачоную Кошча, нічога не сказаў пра сына.

— А дзе ж сонейка яснае? Чаму не ўзыходзіць яно над светам? — Марэне было нясумна і самой.

Над светам не будзе вечнай ночы. Не будзе твайго панавання. Чаго гэта вы ўзрадаваліся? Дзівіціся неспадзявана. Дзівіціся шчыра, як над светам зноў узыходзіць маё халоднае сэрца. А хто гэта паверыў, што не ўзыдзе? А хто гэта паверыў, што Марэна забрала яго сабе?

— Як? Чаму?! — аж ўся ўсхадзілася Злыбедаўна.

— Я ж казаў, што ён зусім не такі слабы, як здаецца...

— А ты паверыла, што заздароўчы кубак можа маё сэрца забраць? — глянуў ёй у вочы, шукаючы святла ў бяздонных глыбінях.

— Ты ж у мяне закахаўся! — мовіла, нічога не разумеючы. — Як той кубак выпіў!

— Закахаўся ў цябе! — і на Кошчу паглядзеў. — Падаруеш мне другую віну?

Другой віны Кошча цёмны падараваці мне зусім не хацеў. А хто б такое хацеў падараваць?

— Ты ж сам не кахаеш яе! — як бы і не цёмнаму казаў, а па-ранейшаму ў вочы Марэне праніклівa гледзячы.

— А і не кахае, — пагаджалася проста, нарачоным сваім не задаволеная.

— Ты — сіла мая! Шаную цябе, — трывожыўся той. — А з кім, акрамя ж мяне, табе яшчэ быці!

— А з кім... З табою стану ўладаркай усяго цёмнага царства!

— Цёмнага, не падземнага. Гнанага і святлом, і Вялесам, які не папусціць вашага панавання. Дык не будзе і царства... — кажу і не яму, і не ёй.

— Маўчы, русалчын сын! — загадваў цёмны, не жадаючы слухаць праўдзівае.

— Русалчын сын? — удавала здзіўленне, як быццам першы раз бачыла мяне, хітрая Злыбедаўна. — Дык вось чаму такі прыгожы!

— Паквапілася ты на яго прыгажосць! — сердаваў цёмны.

— А паквапілася! Ці ты мне ўжо і забароніш?!

Я маўчаў, як і было загадана. Адно слухаў, як тыя сварыліся. Цяжкая табе дасталася нарачоная, Кошча... Хоць і сам ты наравісты. Капрызлівы. Ганарысты. Сваёй нявесты варты...

— Цяжка мне з табой! — выгуквала Марэна Злыбедаўна, і я быў згодны. — Затое з ім вось усім лёгка! — глядзела на мяне, пра нешта сабе думаючы.

І тут я казаў, што нязгодны.

— Чаго ж гэта нязгодны? — ласкавенька пыталася Злыбедаўна, глядзела ўсё больш прыязна. — Хіба ж валатоўна твая выпадкам табе сустрэлася? Вось ім ды Віем чорным была падасланая. У лёс не свой шчыра паверыла. А каменнай труне ўсё роўна, каго трымаці. Ды дзеля сваёй валатоўны падманнай ты ўсё на свеце зрабіў. Дык ці не лёгка з табою?

— Маўчы! — загадвае цёмны Злыбедаўне, а я думаю пра тое, за што ж падараваў ты мне аж тры віны.

Тры вялікія правіны...Доўг не малы ў мяне ўзяў. Ці сплоціш яго калі?

— Не слухай яе, брат мой стрыечны! — гаворыш, а глядзець у вочы баішся.

— Бач, братам назваў, вораг мой верны. Самы найлепшы. Самы адданы... Шчыры. Утрапёны. Такі на ўвесь свет адзіны. Заўжды шукае, як перамагчы...

— Ты мяне перамагла, Марэна Злыбедаўна. Ты маё сэрца моцна ўхаладзіла. Трымай цяпер халоднае сэрца маё... Трымай ды скажы, ці шчаслівая...

— А пакуль і не! — усміхаецца нахабна.

— Не сумуй! Людзі ўсе мяне клічуць даравальнікам... Няўжо табе, адзінай маёй, шчасця не падару? Адно скажы, чаго хочаш...

— А хачу, — пераможна ўскінулася, — быццам заранка ясная стаці! Не цёмнай, як цяпер ёсць, а самай прасветлай зрабіцца! Паперадзе цябе па-над светам людскім ісці. Каб і людзі, і багі мяне віталі! Дык ці падаруеш такое, слабы русалчын сын?

Тое праўда, русалчын сын. Дажбог Перуновіч, унук Сварогаў. Унук Вялесаў. Брат Кошчаў... І родны бацька наравістага Каляды.

Хто гэта назваў мяне слабым? Паволі ўзыходзіць над светам маё сонечнае сэрца. Сам па зямлі чалавекам магу хадзіці, а сэрца дзеля людцаў сонцам трысветлым зрабіў. Тады, упершыню, моцна напалохаў вялікага Сварога, які здзівіўся спагадзе маёй нечуванай. З таго сказаў, што быці мне самым добрым з усіх багоў. Просьбы шчырыя чуць, а на просьбы тыя адгукацца. Ці ведаеш ты пра тое, Марэна Злыбедаўна? Няўжо спадзявалася, што няшчаснае каханне зможа лёгка мяне перамагчы... Ці думала ты калі, што той, хто кахае, той і спагадае!

— Зробішся, нібы заранка ясная! І будуць клікаць цябе не Марэнай Злыбедаўнай, а Жывай Жыткаўнай!

Мне чараў вялікіх не шкада дзеля цябе. Адчуўшы тое, засумнявалася. Захвалявалася. Ды позна ўжо... Пяе мая вяшчунка Гамаюн. Голас яе праз усю зямлю ляціць, неба высокае працінае, хоць аднаму мне і чутны: «Узыходзіць гарачае, яснае, а Дажбогава сэрца прыўкраснае. Узыходзіць іскрыстае, мілае, а Дажбогава сэрца чуллівае».

Чуллівае нават да Марэны цёмнай. Гожай у сваёй зайздрасці. Павабнай у няспыннай празе заўладаць тым, што ёй не належыць. Пагляднай і ў хцівых справах. У падмане. У здрадзе.

— Не бойся мяне, Марэна Злыбедаўна! Будзеш Жывай Жыткаўнай, але застанешся прыгожай і спакуснай! — абяцаю ёй. — А ты, брат мой стрыечны, падаруй мне трэцюю віну. І тады мы ўжо будзем з табою квіты!

І не зразумеў Кошча, якую трэцюю віну я прашу падараваці.

Узышло над вялікім светам маё сэрца, узышло такое, як Гамаюн спявала. Зрабіла чорныя вочы сінімі. Перамяніла злыя намеры на добрыя. Цёмныя справы ўшчэнт спляжыла. Абярнула Марэну ў Жыву слабое сэрца русалчынага сына... Не, велічнае сэрца сонечнага трысветлага Дажбога. Самага спагаднага з усіх багоў на небе. Самага добрага на ўсёй зямлі.

— Вярні мне яе! — маліў брат мой стрыечны.

Не пачуў малення шчырага. Не паслухаў. Не паспагадаў.

— На свеце няма нікога, больш жорсткага за цябе, — плакаў Кошча, высыхаючы ўшчэнт. — Вярні мне яе! Ты ж яе не кахаеш...

Плакаў. Зрабіўся кашчавым. Знік у гнанай цемры, пераможаны мной, Дажбогам Перуновічам. І зноў пяе зачараваная маёй вечнай прыгажосцю Гамаюн: «А ідзе Дажбог з Жывай ціха, праганяе прэч усё ліха. А ідзе Дажбог з Жывай роўна, на зямлі з таго дабра поўна».

А ідзе Дажбог з Жывай. Ціха. Роўна. Згодна. Слухае вітанні людскія. Ледзьве зважае на вітанні боскія. Нізка б'е чалом Сварогу. Нізка б'е чалом Перуну.

— Справы твае зямныя вочы цешаць, сыне мой родны! — абдымае мяне Сварог. — Змог цемру, хоць і я сам не верыў, што ў той можа быці пачуццё... Цяпер я пэўны, што не слабы і ты. Зробішся за ўсе свае справы слаўным!

— Узнагародзь за гэта малодшага брата майго! — горда адгукаецца Пярун. — Жыве на зямлі паміж узгоркамі і азёрамі адно незвычайнае племя... У людзей тых сінія вочы ды спагадныя сэрцы, як і ў брата майго. І будзе ім разам добра.

— Ідзі да іх, як гэтак любіш зямлю! Няхай назавуцца Дажбогавымі ўнукамі... І ў нас, багоў, шчыра вераць.

— І я, і я да іх з дзядзькам пайду! — як хутчэй спяшаецца Каляда прасіць дзеда. — Буду ўсіх весяліць зімою! Цешыць! Забаўляць! Але не толькі халадзіць-маразіць хараша навучыўся! І пра вясну чаканую першым узгадаю. Дык будзе нам разам і зусім добра!



# Мікола Адам

празаік, паэт. Аўтар празаічных кніг: «Шоўк», «Прывітанне, Даша!», «Гульня ўяўлення», «Інтанацыі», «Свае і чужыя», паэтычнага зборніка «Калыханка для каханай». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне. Да 1992 г. жыў у Казахстане (г. Шахцінск Карагандзінскай вобласці). Зараз жыве ў вёсцы Мікалаеўшчына.

# У піянерскім лагеры

Перад тым, як майму брату Алесю пайсці ў першы клас, нас дваіх з ім бацькі адправілі ў піянерскі лагер «Арляня», што знаходзіўся нібыта ў межах горада Цеміртау (які, як і Шахцінск, належаў да Карагандзінскай вобласці, але на шмат пераўзыходзіў яго і па маштабах, і па колькасці жыхароў), але насамрэч, як мне падаецца, недзе непадалёк ад яго, дакладней, каля нейкага возера, побач з якім нічога, акрамя сопак ды ўзгоркаў не назіралася, нават з самай высокай кропкі.

Знаходзячыся ў лагеры, мы прапусцілі найцікавейшыя падзеі, што адбыліся ў Шахцінску, пакуль нас не было. Яны даўно наспявалі, нарывалі, як гнайнік на руцэ. Міжнацыянальныя сутычкі з казахамі здараліся ўсё часцей. Мама распавядала, што казахі купкамі нярэдка забягалі ў напаўпустыя аўтобусы, сядалі да пасажыраў усутыч і быццам ненавязліва, крыва пасміхаючыся, нараспеў заводзілі: «Мы хазяін страна, мы хазяін страна!». Тым самым палохалі жанчын і дзяцей і правакавалі на канфлікт мужчын і маладых людзей іншых нацыянальнасцей.

Кульмінацыяй правакацый сталася адна жнівеньская ноч, пад наглядам якой і з яе маўклівага дазволу сабраліся на пляцоўцы каля нашага дома, дзе мы гулялі ў футбол, баскетбол і проста дурэлі, «хазяін страна» і тыя, хто проста тут жыў: старэйшыя хлопцы з двара ды бліжэйшых дамоў. Агнястрэльнай зброі, зразумела, ні ў каго не было, але бліскалі ў руках лёзамі нажы, сціскалі пальцы кастэты, пагрозліва дрыжэлі кулакі ад цяжару намотаных на іх веласіпедных ланцугоў. Нехта захапіў і прыхаваў да часу ў кішэні пугач, каб шмальнуць з яго ў вочы суперніка. Хтосьці прыйшоў з бітай, з арматурай, загадзя выцягнутай з кучы металалому каля трансфарматарнай будкі. Пасталі жывымі сценамі адны супраць другіх. Моўчкі. Бо ўсё ўжо сказана. Свідруючы незразумелай нянавісцю, як бурам у шахце, адзін аднаго. Як па загадзе скінулі верхнюю вопратку: распрануліся да пояса. Зоры ў небе і поўня цікаўна разглядалі масластыя, мускулістыя, жылістыя, кастлявыя чалавечыя целы, якія праз імгненне ператварыліся ў крывавы замес у стылі Пікаса.

Без ніводнага гуку сышліся супрацьлеглыя бакі ў жорсткай, бязлітаснай бойцы. І тады гульнёвая пляцоўка, як жывая, заенчыла і закрычала ад болю і жудасці, ды не сваіх. То гучалі першыя раны пацярпелых, якія клікалі маму і праклінали гэты кончаны свет. Тугія выдахі пры кожным удары змяняліся тупымі чмоканнямі, калі пацэліў. Скрыгаталі ў скрываўленых іртах зламаныя зубы. Клацалі звернутыя на бакі сківіцы. Пырскала кроў з парэзаных плячэй і жыватоў. Узніклі і ўзмацніліся мацюкі і абразы. Тых, хто апынуўся на зямлі і не змог выпаўзці на бяспечнае месца, тапталі нагамі з асаблівым задавальненнем, каб не перашкаджалі.

Прачнуліся дамы. Зрэшты, яны і не спалі, хоць ад іх старанна прыхоўвалі тое, што мусіла адбыцца ўначы. Запальваліся вокны. Найсмялейшыя жыхары выходзілі на вуліцу, пераміналіся з нагі на нагу каля пад'ездаў, іншыя абмяжоўваліся балконамі. Маці, якія не знаходзілі сваіх сыноў у ложку, імкнуліся бегчы на пляцоўку ратаваць іх. Мужы супынялі жонак, каб не стала яшчэ горш, чым ужо было. Дзяўчаты, некаторыя, падыходзілі досыць блізка да бойкі. Іх адтуль праганялі лаянкай. Жанчыны ўсё ж намагаліся неяк супакоіць хлопцаў. Крычалі, у сполаху і жаху: «Што вы робіце?!», «Суніміцеся!», «Мужчыны, ды зрабіце ўжо нешта, чаго стаіцё слупамі і зенкамі лыпаеце?!»...

Нехта выклікаў міліцыю. Прыехалі восем чалавек на дзвюх машынах. Той, хто з іх сунуўся наводзіць парадак, ледзь жывы выбраўся. Міліцыянеры тупа стаялі збоку і назіралі за тым, як адны нявечылі іншых. Яны нічога не маглі зрабіць. Да таго ж падобныя бойкі адначасова адбываліся ў кожным раёне горада.

Тады папрасілі дапамогі ў вайскоўцаў. Вайсковая часць дыслакавалася адразу за горадам, таму праз некалькі хвілін, паднятыя па трывозе салдаты, ўзброеныя аўтаматамі з баявымі патронамі, пагрузіліся ў машыны і неўзабаве апынуліся перад «ачагамі супраціву». Ім нават давялося страляць на паражэнне. Але толькі ў адным месцы. Побач з нашым домам.

Камандзір узвода зрабіў некалькі папяраджальных стрэлаў у паветра, каб прыцягнуць увагу на сябе і прыпыніць бойку. На імгненне яму гэта ўдалося. Хлопцы перасталі біцца паміж сабой. П'яныя і ачмурэлыя ад крыві, яны прагнулі большага, відаць, як берсеркі. Не згаворваючыся (калі б паспелі?), знітаваныя адной, зразумелай толькі ім думкай ці, хутчэй, агульнай нянавісцю да людзей у пагонах, секунду таму ворагі зрабіліся сябрамі і кінуліся ўсе разам, за выключэннем тых, хто не мог падняцца на ногі з зямлі, проста пад кулі, якія нібыта толькі гэтага і чакалі, як нявесты жаніхоў.

Салдаты абаранялі сваё жыццё. Усё законна. Ды кулям з іх аўтаматаў карцела раздолля і свята. Таму траплялі яны не толькі ў тых, дзеля каго былі выпушчаны, а ва ўсіх, каго бачылі. У дзяўчат, што тоўпіліся каля пляцоўкі, бо перажывалі за сваіх каханых, у матуляў тых каханых і бацькоў, у цікаўных, што курылі на балконе і сачылі за падзеямі, як за вострасюжэтным фільмам. Заляталі ў кватэры і джалілі нават тых, хто спаў, каб ужо не прачнуліся ніколі.

Калі страляніна скончылася, нейкі час панавала мёртвая цішыня, затым, быццам узарваная бомба, прагучала немае выццё і расцеклася па горадзе скрыпічнай сімфоніяй болю і страты.

Начальнік міліцыі, пасівелы за хвіліну, з такім жа белым, як валасы, тварам, звязаўся з бальніцай і загадаў, глытаючы ад узрушэння канчаткі слоў, усяму медперсаналу спяшацца на Паркавую.

Выццё не сціхала ўсю ноч, пакуль не засталося нікога з пацярпелых на месцы трагедыі. Але потым узмацнілася яшчэ больш. На гульнёвую пляцоўку, хоць яна і была ачэплена чырвона-белай стужкай, з самай раніцы неслі кветкі.

Маму з сястрой і бацьку тая ноч не зачапіла. Бацька працаваў у начную змену, мама з Танькай начавалі ў дзеда Яўгена. Кожную суботу мы праводзілі ў бабы з дзедам, галоўным чынам мыліся, бо ў нашай кватэры не было гарачай вады (быў тытан, але, каб яго пратапіць, патрабаваўся не абы-які час).

Цягам цэлага месяца Шахцінск жыў у рэжыме каменданцкага часу, з пачаткам якога выстаўлялася ачапленне з ліку ўзброеных салдат, прысланых з вобласці, і міліцыі. Каб не паўтарылася трагедыя, на шмат горшая за папярэднюю. Пра яе маўчалі, але памяталі доўга.

Мы з братам нічога не ведалі пра тое, што адбылося ў Шахцінску. І нават пасля не вельмі многа даведаліся, асабліва ад бацькоў. Тыя маўчалі, як партызаны на допыце. Але двор на тое і двор, каб збіраць інфармацыю і дзяліцца ёю. Ды яшчэ школа. Зрэшты, у нас была свая «вайна» ў Цеміртау.

Дзяцей проста каля ўваходных варот у лагер дзялілі на ўзроставыя групы, правяралі на наяўнасць вошай і нястрыжаных пазногцяў (калі выяўлялі нястрыжаныя пазногці з брудам пад імі — уручалі нажніцы, каб стрыглі) і размяркоўвалі па кубрыках — пафарбаваных у блакітны колер драўляных дамках тыпу барачных — з агульным шырокім калідорам, трыма пакоямі на дзесяць жалезных панцырных ложкаў, асобным пакойчыкам для піянерважатых і памяшканнем для рэчаў. Піянерважатымі нашымі былі дзве васямнаццацігадовыя дзяўчыны Надзя Віктараўна і Ксюша. Надзя Віктараўна пазіцыянавала сябе як сур'ёзнага і адказнага чалавека, мела пышныя формы, караткаватыя валасы і ўвесь час змагалася з прышчамі на твары. Для дзяўчыны яны, хутчэй за ўсё, асацыяваліся з катастрофай. Калі да сваёй лішняй вагі яна адносілася легкадумна, то да прышчоў ставілася як да асабістых ворагаў, ды барацьба з імі заўсёды сканчалася паразай. Надзя Віктараўна не глядзелася ў люстэркі і намагалася ўвогуле іх абмінаць, каб нават выпадкова сябе ў іх не ўбачыць. Затое яна прыгожа спявала, і голас яе гучаў на ўвесь лагер, уздымаючы ўсеагульны настрой. А сабакі (між іншым пародзістыя далёкаўсходнія лахматыя аўчаркі), што ахоўвалі піянераў, ля варот падвывалі ёй у такт. Ксюша была «зоркай» мясцовасці. Мадэльнай знешнасці дзяўчына і паводзіла сябе як мадэль, дакладней, як чалавек, які ведае сабе цану. Не аднаму піянерважатамухлопцу яна разбіла сэрца і некалькі гітар аб іх спіны. У яе хвалістых каштанавых валасах нібыта заблукала адна рудая пасмачка над самымі вачыма — блакітна-шэрым мастацкім творам, калі не шэдэўрам. Тая пасмачка, калі Ксюша збірала валасы ў хвосцік і замацоўвала яго на патыліцы, выглядала, як пёрка агеньчыка над яе галавой. Здавалася, што яно і ў цемры магло асвятляць дарогу. Ксюша была «свой пацан», так празвалі б яе, прынамсі, у нашым двары. Яна кожнага разумела, з кожным размаўляла і вырашала любыя праблемы на раз. Магчыма, з-за здольнасцяў ці характараў абедзвюх дзяўчат ім трапілася найцяжэйшая (псіхалагічна) група, якая, у асноўным, складалася з сямейных дзяцей, то бок братоў і сёстраў усіх узростаў, разбаўленых, аднак, як гарбата малаком, дашкалятамі.

Мы з Алесем адразу не спадабаліся траім братам Мяшалкіным, дасюль не ведаю чаму. Яны выглядалі як сапраўдны гітлерюгенд: спартыўныя, падцягнутыя, стыльна пастрыжаныя бландзіны сямі, дванаццаці і трынаццаці гадоў, ураджэнцы горада Цеміртау. Амаль адразу ім падпарадкаваўся ўвесь кубрык, акрамя нас. Малодшаму Мяшалкіну спадабаўся салдацік майго брата, і ён запатрабаваў цацку сабе. Алесь даў яму. Але не салдаціка, а ў лыч. Магчыма, Мяшалкіны і разлічвалі на такі Алесеў адказ, каб у іх развязаліся, як кажуць, рукі, і яны пачалі б паўнавартасны прэсінг. Праз некалькі гадзін пасля я ўбачыў у руках старэйшага Мяшалкіна свае кнігі «Дзеці капітана Гранта» і «Следапыт», якія ўзяў з сабою чытаць у вольны час, і якія павінны былі знаходзіцца ў сумцы на адной з паліц памяшкання для рэчаў, зачыненага на ключ. Я ледзь не заплакаў ад крыўды, усутыч сутыкнуўшыся з чалавечай подласцю. Гэта якім трэба быць падонкам, каб залезці ў чужую сумку, узяць чужыя рэчы і нахабна прысвоіць іх, заявіўшы, што яны яго. Пра ключ ад памяшкання ўвогуле маўчу.

— Гэта мае кнігі, — працадзіў я (інцыдэнт адбываўся ў хлапечым пакоі з мноствам прысутных, гэтакі паказальны ўрок для іншых), дрыжучы вуснамі, каб не заплакаць усё ж, бо адчуваў, што я адзін і ніхто мой бок не прыме. Алесь у той час недзе бавіўся з аднагодкамі.

— Маё слова супраць твайго, — сказаў Мяшалкін-старэйшы і дадаў: — Кнігі мае.

— З якой хвіліны яны сталі тваімі? — сутаргава сціскаў я кулакі, ведаючы, аднак, што ў ход яны не пойдуць.

— Я павінен перад табой адчытвацца? — прымружыў вочы Мяшалкін-старэйшы.

— Ты — злодзей, таму што залез у маю сумку і ўзяў адтуль мае кнігі, — выгукнуў я не стрымаўшыся.

— Гэта сур'ёзнае абвінавачванне, — пасміхнуўся Мяшалкін-старэйшы, яго сярэдні брат пачаў размінацца, намякаючы, што пра свае словы я цяпер вельмі пашкадую. — Я магу і пакрыўдзіцца.

— Я цябе не баюся, — ледзь чутна вымавіў я.

— Што? Не чую. Грамчэй! Каб усе пачулі!

— Я... цябе... не...

— Добра. Пастрыжэшся, аддам кнігі. Дакладней, падару. Я не сквапны, калі яны табе так падабаюцца.

— Пайшоў ты! — прамовіў я і выйшаў на вуліцу.

Я не паспеў азірнуцца, як мне з нагі зарадзілі ў спіну. Я расцягнуўся на асфальтавай сцежцы, падрапаў да крыві далоні і голыя каленкі.

Мяшалкіны стаялі ззаду мяне і смяяліся. З імі разам смяяліся астатнія хлопцы. Мне здавалася, што смяяліся ўсе і ўсё вакол.

Трэба адзначыць, што канфлікт паміж намі і братамі Мяшалкінымі дапяў свайго апагею менавіта ў той самы дзень, чацвёрты па ліку, жыцця ў піянерлагеры, калі яны выцягнулі з маёй сумкі кнігі.

Нас з Алесем не было ў атрадзе цэлы дзень. Я не ведаў, што рабіць, ад разгубленасці, таму блукаў па тэрыторыі лагера ў пошуках рашэння і варыянтаў помсты Мяшалкіным, наперад, аднак, ведаючы, што гэта марная справа. Ніхто мяне не падтрымае. Жаліцца ж піянерважатым не дазваляла годнасць, няхай і не прыроджаная, а прыдбаная шляхам прачытання патрэбных кніг. Я аблазіў усе камяні, на кожным пасядзеў, задумліва схіліўшы галаву, як Тарас Шаўчэнка (бачыў неяк падобны малюнак у нейкай кніжцы). Паблукаў у лесапасадках паміж карлікавых елак і маладых бяроз (іх адмыслова, перад тым, як будаваць лагер, высадзілі лепшыя камсамольцы краіны). Надоўга затрымаўся ў зялёным тунэлі, штучна зробленым з нахіленых і прымацаваных адна да адной елак. У ім прыемнаю прахалодаю астудзіўся мой мозг. Падыходзіў да возера, але не блізка. Плаваць я не ўмеў і ўвогуле не любіў ваду, асабліва судакрананне з ёю. Да таго ж так званы пляж быў зачынены і абнесены калючым дротам. Чамусьці ў жніўні (ці менавіта толькі ў гэтым жніўні) плаваць і купацца забаранялася, прынамсі насельнікам «Арляня». Але вада выглядала чыстай, нават атласнай празрыста-зялёнай тканінай, якой накрылі, быццам абярэгам, золата пяску і жамчужыны камянёў, каб тыя не адцягвалі на сябе ўвагу пажадным бляскам.

У асобным дамку для гульняў і адпачынку, дзе меліся сцэна і танцавальная зала, у якой па суботах праходзілі дыскатэкі, рэпетавалі нейкі спектакль, запланаваны для паказу таксама на суботу. Я не прыслухоўваўся, заўважыў Мяшалкіна-сярэдняга і сышоў.

У атрад, да кубрыка, прыпхнуўся падвечар. Следам за мной прыйшоў Алесь. Ён і Мяшалкін-малодшы увесь дзень палявалі адзін на аднаго. У Алеся быў чысты твар. Мяшалкін-малодшы з пабітай губой пабег жаліцца братам. Тыя чакалі ночы, задумаўшы дзеля нас, відаць, страшэнна цікавую акцыю.

Надзя Віктараўна з Ксюшай, пабачыўшы, што мы на месцы, уздыхнулі з палёгкай, спыталі, ці галодныя мы. Мы запэўнілі, што не, хоць і не елі нічога пасля таго, як паснедалі з раніцы. На роспыты пра тое, дзе былі, дружна адказвалі, што гулялі, знаёміліся з тэрыторыяй.

Уначы Мяшалкіны на нас напалі, дакладней, на мяне. Мой ложак стаяў каля дзвярэй, Алесь спаў побач, Мяшалкіны — пад вокнамі.

Адзін з іх трымаў мае ногі, другі — рукі, наваліўшыся ўсім целам на грудзі, трэці заціскаў рот і нос і намагаўся абскубсці мяне хоць з аднаго боку. Паветра не ставала, я задыхаўся... Алесь тым часам прачнуўся ад валтузні побач, схапіў крэсла са свайго боку ложка і апусціў яго на спіну таго, хто перашкаджаў мне дыхаць.

Адваліце, сукі, ад майго брата! — пры гэтым загаласіў.

Той, хто заціскаў мне рот, паваліўся на падлогу. Ім апынуўся Мяшалкін-сярэдні. Старэйшы Мяшалкін ціснуў мне на грудзіну. Нехта запаліў святло. Мяшалкіны, як прусакі, разбегліся па пакоі. Побач з выключальнікам стаяла Надзя Віктараўна.

—Адамы, на выхад, — проста сказала яна. — З рэчамі, — праз секунду дадала.

Яны не вінаватыя! — на дзіва для мяне падняўся са свайго ложка Ваня Нечыпурэнка і выказаўся за нас.

Я ведаю, — кіўнула Надзя Віктараўна.

У пакой забегла Ксюша.

Давайце хуценька скручвайце пасцель і за мной, — пачала дапамагаць Алесю.

Пра нас і Мяшалкіных піянерважатым распавяла сястра Вані Алеся, а ёй, уласна, сам Ваня, да таго ж і пра будучую начную акцыю паведаміў. Тыя не ведалі, што рабіць, але і не спяшаліся прасіць дапамогі ці парады ў трэціх асоб. Ім жа будзе горш. Разбяруцца самі. Рашэнне прымалі разам з дзяўчатамі, бо менавіта да іх, для пачатку, надумалі нас перасяліць, як з'явіцца неабходнасць. І неабходнасць тая не прымусіла сябе чакаць.

Бабам самае месца каля баб! — пагардліва кінуў у нас фразай, нібы каменем, Мяшалкін-старэйшы, калі мы выходзілі з пасцелямі пад пахамі з пакоя.

Пагавары мне яшчэ! — азірнулася на яго Ксюша.

Смаркачы ім не забудзьцеся падцерці! — сплюнуў той.

Не забудуся, — незалюбіла Ксюша. — А ты заўтра ўвесь пакой вымаеш, расплюваўся ён тут... Усё! Спаць!

Выходзячы, яна бразнула дзвярыма.

Пакой з дзяўчатамі і намі зачыніла на ключ, на ўсялякі выпадак, пажадаўшы дабранач.

На наступны дзень Мяшалкін-старэйшы пагражаў Ксюшы праблемамі, якія ён ёй уладкуе.

Але спачатку Мяшалкін чапляўся да мяне, абкружыўшы сябе колам падбрэхічаў. Казаў, што я павінен насіць спадніцы, калі жыву з бабамі, хаваюся за баб і выглядаю, як баба. Яго хеўра загнала мяне ў кут з другога боку нашага кубрыка, захінутага ад староннягa вока лесапасадкай. Я быў прыціснуты спінай да сцяны дамка, як Бюсі ў доме графа дэ Мансаро ў хвіліну яго гібелі. Кожны тыкаў у мяне пальцам і рэчытатывам паўтараў, што я баба. Ніякім чынам вылузацца я не мог, нават выпрастаць руку, каб ёю ўдарыць каго-небудзь. Паспрабаваў нагой — і тут жа апынуўся на зямлі, каб быць збітым. Колькі разоў па мне пацэлілі, а пасля разбегліся. Нехта выгукнуў: «Атас!». Адзін Мяшалкін не паспеў ці наўмысна застаўся на месцы. За вуха яго цягала Ксюша, якую прывёў мой брат, ён жа дапамог мне падняцца.

— Ты што робіш, фашыст недабіты?! — лаялася на Мяшалкіна Ксюша.

— Ты каго фашыстам назвала?! — адштурхнуў ад сябе піянерважатую Мяшалкін і адскочыў на крок назад.

— А хто ты? — рукі ў бокі і выгукнула Ксюша.

— За фашыста адкажаш! — застрэліў яе Мяшалкін з уяўнага пісталета на пальцах.

— Размаўляць наперад навучыся са старэйшымі! — параіла яму дзяўчына.

— З бабамі размовы кароткія, — аспрэчыў ён яе.

— Ды што ты такое кажаш, герой, паглядзіце на яго! — упікнула Мяшалкіна Ксюша. — Сам не баба, калі з бабамі ваюеш?..

— Я-то не, — з годнасцю адказаў Мяшалкін, склаўшы на грудзях рукі. — Баба тут, акрамя цябе, вось ён, — указальным пальцам у мой бок.

— Ён адзін супраць вас усіх, і ён баба?! — здзівілася Ксюша. — Ды гэта, камплімент, не іначай, усім жанчынам.

— Толькі бабы носяць доўгія валасы, — заўважыў Мяшалкін, упэўнены ў сваёй пераконлівасці.

— Ты гісторыю вучыш? Фільмы гістарычныя глядзіш? — папытала ў яго Ксюша.

— Усё, што было да ўзнікнення СССР, — туфта і амерыканская прапаганда, — выдаў Мяшалкін.

Ксюша нечакана для ўсіх як засмяецца, аж мы разгубіліся, а Мяшалкін больш за астатніх.

— Мяшалкін, ты сапраўды такі тупы ці прыкідваешся? — праз смех выціснула піянерважатая.

— Гэта ты тупая, калі важдаешся тут з усякімі недаробкамі! — сплюнуў Мяшалкін сабе пад ногі.

Яны былі аднаго росту. Ксюша, зразумела, вузейшаю ў плячах і стане, але ў параўнанні з Мяшалкіным выглядала сапраўднай валькірыяй, калі сказала яму:

— Слухай мяне сюды! Я размажу цябе ўласнаручна па гэтай сценцы, калі хоць раз яшчэ пачую з твайго гнілога ірта нават слова абразы ў мой бок ці ў бок каго іншага! Усё зразумела?

— Рызыкні здароўем, — буркнуў Мяшалкін, а потым дадаў уголас: — Ведаеш, увогуле, хто мой тата?

— Не ведаю і ведаць не хачу, — павярнулася да яго спінай Ксюша, палічыўшы, што інцыдэнт вычарпаны і час заняцца больш важнымі справамі.

— А дарэмна, — не здаваўся Мяшалкін. Ён, відаць, падумаў, што не след варагаваць асабіста з піянерважатай, можна яе паставіць на месца іншымі сродкамі, дарослымі. — Пра кожнае слова сваё сама пашкадуеш, а не я. Мой тата, такіх, як ты, пачкамі...

Ён не дагаварыў, адвярнуўся і сышоў ад нас.

— Не бойцеся, хлопчыкі, — гэта Ксюша звярнулася да мяне і брата. — Ніколі нічога і нікога не бойцеся, — упэўнена дадала. — На кожнага пса ёсць намыснік.

— А мы і не баімся, — запэўніў яе Алесь.

— І правільна робіце, — цмокнула яго ў патыліцу піянерважатая. — Ну, ідзіце, гуляйце...

Яна накіравалася проста да сваёй сяброўкі ці, хутчэй за ўсё, каляжанкі Надзі Віктараўны, якая развучвала з дзецьмі перад кубрыкам новую песню, перабіраючы струны на гітары.

— Размова ёсць, — не супыняючыся, кінула, калі апынулася побач, і пайшла далей: паднялася ў іх агульны пакой.

Надзя Віктараўна адклала гітару ўбок, сказала дзецям, каб не разбягаліся, і рушыла ўслед за Ксюшай. Гітарай тут жа завалодаў найспрытнейшы з хлопцаў, уладкаваўся з ёю на прыступцы, капіруючы піянерважатую, забрынькаў так, што напалохаў усіх птушак вакол. Тыя кагалам пакінулі наседжаныя месцы ў галінах дрэў, падняліся ў неба і паляцелі ў бок возера.

— Гітару забяры, — параіла Ксюша Надзі Віктараўны адразу, як пачула жудасныя гукі, што выдаваў музычны інструмент, які спалохаўся тых гукаў не менш за птушак.

Надзя Віктараўна вярнулася за гітарай, узяла яе за грыф і паспяшалася назад да Ксюшы.

Яны зачыніліся ў пакоі.

— Што здарылася? — спыталася тады Надзя Віктараўна.

— А ты не здагадваешся? — пытаннем на пытанне адказала Ксюша.

— Магчыма, — унікліва прамовіла Надзя Віктараўна.

— Трэба нешта рабіць з Мяшалкінымі і тым, што яны твораць, — шчыра выказалася Ксюша. — Старэйшы з іх колькі хвілін таму пагражаў мне вялікімі непрыемнасцямі, уяўляеш?

— І што ты прапануеш? Што мы можам? Калі распавядзем пра праблему, з якой не зладзіліся, у атрадзе, — вылецем адсюль з хуткасцю святла і больш ніколі не трапім сюды. Я ўжо не кажу пра тое, што напішуць у нашых характарыстыках, — агучыла свае думкі Надзя Віктараўна.

— А ты задумвалася аб тым, што прыхоўваючы праблему, рэтушуючы яе касметычным рамонтам, робім толькі горш? — прамовіла Ксюша. — Дзеці могуць распавесці бацькам пра тое, што адбываецца ў нашым атрадзе, проста ў першую ж суботу, якая не за гарамі між іншым. Здагадваешся, якімі будуць дзеянні бацькоў? Яны адпусцілі сваіх сыноў і дачак, даверылі іх нам, каб тыя адпачывалі і насалоджваліся жыццём. А што атрымалі? Міні-Асвенцым?

— Ну, ты, гэта, — нядобра пасміхнулася Надзя Віктараўна, — думай, што гаворыш.

— Я-то думаю, — запярэчыла Ксюша. — Мы пагадзіліся з табой нікому нічога не казаць, бо спадзяваліся разруліць сітуацыю самастойна. Выносіць на свет канфлікт, згодна, не ў нашых інтарэсах. Але перасяліўшы хлопцаў да дзяўчат нічога не выйгралі, а наадварот... Зноў жа вяртаюся да суботы: дзеці абавязкова раскажуць бацькам пра тое, што тут адбываецца! Мяшалкіны гэтыя — нейкія вырадкі! Яшчэ сваім татам пагражаюць!..

— Добра, — ціха вымавіла Надзя Віктараўна, — я ведаю, што рабіць.

— І што? — скептычна адрэагавала Ксюша.

— Упораешся тут адна да заўтра?

— У мяне ёсць выбар? — паціснула плячыма Ксюша. — Куды ты сабралася? — усё ж хацела ведаць тое, што задумала Надзя Віктараўна.

— Да Мяшалкіных. Няхай самі разбіраюцца, — рашуча вымавіла Надзя Віктараўна.

— Ты добра падумала? — няўпэўнена адрэагавала Ксюша.

— Калі нашы Мяшалкіны так выхваляюцца сваім татам, няхай тата і паўплывае на іх. Будзе ўрокам для ўсіх.

— Што ты яму скажаш?

— Праўду.

— А калі ён не паверыць?

— Паверыць. Яшчэ і аддзячыць.

— За што?

— За тое, што на грамадскасць не будзе вынесена яго прозвішча.

— Ну, паспрабуй, — згаджаючыся, кіўнула Ксюша. — Нешта ў тваім рашэнні ёсць.

І Надзя Віктараўна паехала ў Цеміртау. Мяшалкіны, як высветлілася, былі сынамі першага сакратара Цеміртаўскага гаркама.

Перад адбоем Ксюша чытала ў пакоі дзяўчат, дзе часова начавалі і мы з братам, так званую казку на ноч. Пра прыгоды Элі і Татошкі ў інтэрпрытацыі Аляксандра Волкава, які амаль даслоўна скамуніздзіў тыя прыгоды ў «паганага амерыканца» Фрэнка Баўма. Зрэшты, не ён першы, не ён апошні, а камуніздзіць было пачэснай справай кожнага паважанага савецкага дзеяча. Тым не менш «Чараўнік ізумруднага горада» і некалькі яго працягаў, таксама ўдала скамуніздзжаных тым жа аўтарам, доўгі час заставаліся маімі ўлюбёнымі кнігамі.

Ксюша чытала цікава і выразна, яе слухаць падабалася. Хацелася, каб яна чытала бясконца, каб кніга, якую яна чытала, ніколі не канчалася. Аднак, ва ўсяго ёсць канец. Да таго ж харошаму — па крупінцы. Каб не прывыкалі.

Ксюша заклала паміж старонкамі, там, дзе спынілася, каляндарык з адлюстраваннем персанажаў мульціка «Ну, пачакай!» і закрыла кнігу. Пажадала прыемных сноў і сышла, папярэдне, аднак, папрасіла, каб я зайшоў да яе праз пяць хвілін пасля таго, як яна сыдзе. Зразумела, што я зрабіў так, як сказала Ксюша, і праз пяць хвілін пастукаў у дзверы пакоя, які займалі піянерважатыя. Дзяўчына адчыніла мне і запрасіла заходзіць. У памяшканні гэтым было ўтульна, амаль па-хатняму. Босая, у жоўтай камбінацыі, запраўленай у джынсы, Ксюша зачыніла дзверы на ключ і падышла да мяне ўсутыч. Верхняе святло было выключана, затое гарэла настольная лямпа і, здавалася, гарэла пёрка Ксюшынай пасмачкі на патыліцы. Чаго мяне паклікалі сюды — я не ведаў і нават не здагадваўся, аднак, адчуваў сябе добра і нікуды не хацеў сыходзіць.

— Не люблю быць адна, — прамовіла раптам Ксюша, відаць, дзеля таго, каб патлумачыць маё знаходжанне побач з ёю. Я кіўнуў, што зразумеў і што не супраць. — Да таго ж, — працягвала яна, — ёсць справа да цябе.

Я даў зразумець, што гатовы слухаць.

— Ты ўмееш танчыць? — спыталася Ксюша тады і сама ж адказала на сваё пытанне: — Канечне, не ўмееш, ці не так?

Я паціснуў плячыма.

— Значыцца, давядзецца навучыцца, — рашуча вымавіла дзяўчына, — і проста зараз. Я гэта да чаго кажу, — падышла яна да касетніка, абклеенага з усіх бакоў выявамі Юры Шатунова, — у суботу будзе танцавальны конкурс, і я хачу, каб ты прыняў у ім удзел ад нашага атрада, зразумела, з дзяўчынкай у пары. Конкурс будзе не зусім звычайны, папярэджваю адразу, асаблівага ўмення ён не патрабуе, але валоданне элементарнымі навыкамі не зашкодзіць.

Ціхенька-ціхенька загучалі «Белыя розы». Ксюша вярнулася да мяне, узяла адну маю руку ў сваю, другую паклала сабе на талію, сваю другую руку апусціла мне на плячо. Павольна пачалі рухацца ў такт музыцы. Мае вочы знаходзіліся на ўзроўні яе грудзей, між іншым, напаўаголеных. Я адчуваў сябе няёмка, бо мне ўвесь час карцела зазірнуць глыбей за тое, што бачыў, таму намагаўся больш налягаць на тое, што паказвала і распавядала Ксюша. А яна, між тым, узяла і апусціла маю другую руку сабе на талію, абедзве яе тут жа апынуліся на маіх плячах. І нос мой ледзь не ўтыркнуўся ў лагчынку паміж яе грудзей.

Ксюша наўрад ці бачыла, што са мной адбывалася, бо першапачаткова адносілася да мяне як да малечы, у чым яе і я не пераконваў, казала пра дзве асноўныя паставы і фігуры сучаснага танца, то бок таптання на месцы, і важнасці моманту судакранання партнёраў. Галоўнае, ногі не адтаптаць адно аднаму. У мяне атрымлівалася добра, і Ксюша засталася задаволенай.

Нечакана пайшоў дождж. Нават не пайшоў, а лінула залева. Працяла холадам так, што, здавалася, да сэрца дакранулася Снежная каралева чароўным посахам праз адчыненае акно. Дзівосы клімату, так мовіць.

Ксюша борздa акно зачыніла і скочыла ў пасцель. Зарыпелі панцырныя спружыны яе ложка. Ці-то незадаволена, ці-то, наадварот, вітаючы кліентку. Я разгублена застаўся стаяць на месцы пасярод пакоя як той баран. Куды мне цяпер?

— Ну, і чаго мы стаім слупам? — пытальна пазірала ў мой бок піянерважатая.

Я пацiснуў плячыма, бо і сам не ведаў.

— Хадзі да мяне, я не кусаюся, — запрашальна папляскала Ксюша далоняй па вольным месцы на ложку каля сябе. — Ці баішся?

— Не баюся, — выціснуў я з сябе і накіраваўся да дзяўчыны. Нясмела, аднак, сеў на краёк ложка спінай да яе, там, дзе мне было прапанавана.

Ксюша тузанула мяне за руку і паваліла на падушку поруч з сабой. Я застыў нерухома, лежачы на спіне. Дзяўчына ляжала на баку тварам да мяне, падпіраючы галаву рукою, локаць якой упіраўся ў падушку.

Яна не лічыла свае паводзіны дзіўнымі ці вычварнымі, бо адносілася да мяне як да дзіця, магчыма, болей як да дзяўчынкі, чым як да хлопца. Выглядаў я

чыста дзяўчынка, ва ўсялякім разе знешне, нягледзячы на тое, што з'яўляўся хлопцам. Апрані я спадніцу альбо сукенку — сам бы не паверыў у тое, гледзячы ў люстэрка, што пад дзявочым адзеннем хлопец. Калі б не доўгія валасы, хто ведае, можа, выглядаў бы інакш. Больш мужна ці што.

Ксюша сказала, што я абавязкова выйграю конкурс, што яна абрала мне ў партнёршы вельмі прыгожую дзяўчынку. Пры гэтым гладзіла мой твар і мае валасы падушачкамі сваіх пальцаў, танклявых і доўгіх, з дагледжанымі пазногцямі бездакорнай чысціні. Пасля спытала, ці ўмею я цалавацца. Адразу ж захіхікала, бо знайшла ў каго пытацца. Я ж яшчэ маленькі...

— Нічога я не маленькі, — запярэчыў я, адчуваючы, аднак, праўду за Ксюшай.

— Калі не маленькі, то дакажы, — правакавала дзяўчына мяне, сам не ведаю, чаму і навошта. — Пакажы, як умееш цалавацца, — хітра ўсміхалася.

Ну, я і паказаў. Цмокнуў губамі яе вусны. Нібыта клюнуў.

Ксюша засмяялася.

— І гэта ты называеш уменнем? — бліскалі іскрынкі ад святла настольнай лямпы ў яе вачах.

Мне зрабілася сорамна з-за таго, што з мяне смяялася найпрыгажэйшая дарослая дзяўчына з усіх, каго я ведаў, і крыўдна. Я ледзь не заплакаў.

— Ну-у-у-у, — працягнула Ксюша, заўважыўшы, як мае вочы набрыняюць слязьмі, — не хапае нам, відаць, дажджу знадворку, калі ты ўнутры вырашыў яго падтрымаць. І так холадна! — Тыльным бокам далоні змахнула неразвіты дождж з маіх вачэй на падлогу. — Калі хочаш, я цябе навучу, — па-змоўніцку падміргнула.

Я залыпаў вачыма хутка-хутка, згаджаючыся і адначасова праганяючы слёзы.

Ксюшын твар схіліўся над маім. Валасы яна распусціла, і яны рассыпаліся па яе плячах і на мяне хвалістымі локанамі, казыталі скуру і нос трапяткімі дотыкамі. Потым Ксюшыны вусны літаральна ўзялі ў палон мае, а яе язык апынуўся ў маім роце і паводзіў там сябе цалкам па-гаспадарску, што мне, між іншым, вельмі спадабалася. Ніводзін пацалунак пасля не быў такім салодкім і прыўкрасным.

— Ну вось, — адхінулася Ксюша, паказаўшы мне краіну цудаў, — цяпер ты маеш уяўленне пра тое, што накрые цябе неўзабаве са страшнай сілай, але ты да гэтага падрыхтаваны і не спасуеш перад ёй. А зараз спаць! Абдымі мяне і засынай.

Стала цёпла, утульна, спакойна, як у маміным жываце.

Мы заснулі хутка. Прачнуліся адначасова. Ксюша папрасіла нікому не распавядаць пра нас з ёю, а захаваць у памяці як найвялікшую і найсакрэтнейшую тайну. Яна ў сваю чаргу абяцала тое ж самае. Мы пакляліся на мезінцах.

Тым жа днём Мяшалкіных перавялі ад нас у іншы атрад. Надзя Віктараўна парупілася. Бацька Мяшалкіных прыехаў у лагер разам з ёю. Кнігі, сцягнутыя

Мяшалкінымі з маёй рэчавай сумкі, чакалі на тумбачцы ў пакоі, куды мы з братам вярнуліся яшчэ да абеду.

У суботу перад дыскатэкай адбыўся паказ выставы пра маленькую ведзьму на сцэне дамка для адпачынку. Я сядзеў у адным з першых шэрагаў і сачыў за падзеямі, што разгортваліся на сцэне, ва ўсе вочы і з адкрытым ротам. Відовішча так захапіла мяне, што я забыўся, дзе знаходжуся і хто я ёсць. Дэкарацыі здаваліся сапраўднейшымі за жыццё. Жыццём было тое, што адбывалася на сцэне. Я не бачыў артыстак, я бачыў рэальных насельніц Чароўнага лесу і такога ж свету, у якім яны існавалі. Нічога лепшага за тую выставу я больш ніколі не пабачу, хоць закахаюся ў тэатр і артыстак, менавіта артыстак, назаўжды. Але кахаць буду, у асноўным, на адлегласці. Цесныя адносіны, якія аднойчы ўзнікнуць, нічога добрага не прынясуць. Толькі боль і расчараванне.

Уражаны гледзішчам, я прапусціў пачатак дыскатэкі, не чуў музыкі вакол сябе і не заўважаў нікога побач. А калі ачомаўся, быццам ад наслання, то глядзеў на сябе нібыта збоку. Ці зверху. І нават не здзівіўся, што знаходзіўся ўнутры натоўпу, як у пашчы нейкага пачварнага звера, а ў маёй руцэ рука Ксюшы. Мы танчылі з ёю пад павольную мелодыю, і яна мне нешта шаптала проста на вуха. Калі мелодыя скончылася — аб'явілі конкурс. Піянерважатыя ў ім не мелі права ўдзельнічаць. Дзіджэй папрасіў вылучыць з кожнага атрада па дзве пары жадаючых, астатніх адысціся да сценак, каб утварыць вольнае месца для канкурсантаў. Ксюша выпхнула мяне наперад, праз секунду я адчуў як у левай руцэ апынулася маленькая вузенькая ручка партнёркі. То была Алеся, старэйшая сястра Вані. З Ванем, між іншым, як высветлілася, мой брат Алесь ляжаў у адным санаторыі ў Алма-Аце. Яны моцна пасябравалі пасля таго, як Мяшалкіны пакінулі наш атрад, і разам бавілі час, недзе знікалі, але не губляліся. Даўгавалосая, чарнявая Алеся мела, тым не менш, сінія-сінія, валошкавыя вочы, курносы нос, стромкую фігуру і не пераўзыходзіла мяне ростам. Блакітная сукенка з кароткімі рукавамі і чырвоным сэрцам на грудзях, перапаясаная на таліі, пасавала ёй як нікому. Яна выглядала прынцэсай, я, суадносна, прынцам у белай кашулі і сініх джынсах, несапраўдных, вядома, але тое асабліва ў вочы не кідалася, тым больш у паўцёмнай танцзале. З Алесяй тут, у атрадзе, мы гулялі ў тату і маму, малеча была нашымі дзецьмі. Нам падабалася быць разам. Конкурс паяднаў нас яшчэ больш.

Калі з выбарам пар вырашылі — кожнай пары далі па газеце. Яе трэба было разгарнуць і паслаць на падлозе. Сэнс конкурсу складаўся ў тым, каб любым чынам утрымацца на газеце абодвум партнёрам, пры гэтым танчыць на ёй пад музыку адмыслова адведзены час, звычайна паўхвіліны. Праз кожныя паўхвіліны канкурсанты павінны былі складваць газету ўдвая, пакуль яна не ператварылася памерам у аўдыякасету. Шмат пар «не дажывала» да гэтага моманту. Мы з Алесяй трымаліся да апошняга. Кожны атрад хваляваўся і перажываў за сваіх. Несціханы шум вісеў, здавалася, над галавой мячом, які

з супыненнем гэтага шуму абавязкова абрынецца зверху і заб'е. Ва ўсялякім разе я такую пагрозу адчуваў.

Трымаючы ў руках складзеную апошні раз газету, дакладней, тое маленечкае нешта, у што яна ператварылася, мы з Алесяй агледзеліся вакол. Разам з нашай парай на танцполе засталіся яшчэ тры. Я не стаў рызыкаваць і браць Алесю на рукі, як некаторыя іншыя, бо не ўтрымаў бы раўнавагу, стоячы на адной назе на тым, што засталося ад газеты. Зразумела, я не ведаў дакладна — ці ўтрымаюся, дый Алеся важыла няшмат, але трэба было б з ёю на руках і на адной назе яшчэ й рухацца, неяк рабіць выгляд, што танчыш. І тады я стаў адной нагой на газету, Алеся стала на тую нагу сваёй ножкай і моцна-моцна абняла мяне, прыцiснуўшыся ўсім целам да майго цела, каб мы зрабіліся адзіным і непадзельным цэлым. Загучала музыка. Дзве пары паваліліся адразу. Засталася наша і Мяшалкіна-старэйшага. Тыя таксама не ўтрымаліся. Мы з Алесяй вытрымалі да канца музыкі. Мы перамаглі! Ксюша абдымала і цалавала нас болей за ўсіх. Гэта была і яе перамога.

Як пераможцаў дзіджэй паклікаў мяне і Алесю да сябе на сцэну, павіншаваў і ўручыў прыз — торт «Птушынае малако», які пасля з'ядзім усім атрадам, а таксама па кніжцы прыгодаў Тома Соера і Гекельберы Фіна. Ну і быў танец пераможцаў. Для нас адных дзіджэй уключыў «Естэдэй». Абняўшыся, мы тапталіся на месцы пасярэдзіне танцзалы, а ўсе астатнія пляскалі нам у ладкі. Толькі Мяшалкіны скрыгаталі зубамі і ціха мяне ненавідзелі.

Пасля танцаў на газеце нашы адносіны з Алесяй сталі больш цеснымі і даверлівымі. Ёй падабалася са мной абдымацца, пра што аднойчы дзяўчына сама прызналася, асабліва так, як на тым скручаным-перакручаным газетным шматку, моцна-моцна, амаль уціскаючыся адно ў аднога. У падобныя моманты Алеся адчувала, па яе словах, штосьці кшталту шчасця. Мне таксама падабалася яе абдымаць, удыхаць неадчувальным з самага нараджэння да ніякіх водараў носам, пах яе валасоў і скуры на шыі, ды ўсё ж уяўляць, чым тыя пахлі. Малінай, суніцамі, рамонкамі... Яна прыгожа ўсміхалася. Усмешка ёй пасавала. І ўсміхацца дзяўчына любіла, бо ўсё жыццё было яшчэ наперадзе. Алеся ўсміхалася свайму жыццю, і жыццё яе, хутчэй за ўсё, радавалася тым усмешкам і ўсміхалася ў адказ.

Мы ніколі з Алесяй не цалаваліся, затое абдымаліся не тоячыся. З самай раніцы яе цягнула да мяне як да нечага зваблівага і жаданага да свербу і казытання ў грудзях. Нешта падобнае адчуваў да дзяўчыны і я. Трымаючыся за рукі, мы збягалі ад усіх куды-небудзь у ціхае месца, каб пабыць на самоце. Проста стаялі і абдымаліся, моўчкі і спакойна, пры гэтым чулі кожны ўдар нашых сэрцаў, якія, здавалася, тахкалі ў грудзях ва ўнісон, таксама, як і мы, адчуваючы праз косткі, мяса, кроў і вопратку на нас прыязнасць адно да аднога. Рэдкае спалучэнне неспалучальнага. Мы маглі стаць ідэальнай парай, калі б мелі больш гадоў за плячыма. Аднак, на той час гэта было немагчыма. І ўсё ж мы не расставаліся. На ноч, праўда, разыходзіліся па сваіх пакоях. Ксюша

замілавана пазірала на нас. А раптам сяброўства, што ўзнікла на адпачынку ў піянерскім лагеры, працягнецца ў паўсядзённым жыцці? Гэта так рамантычна! І яна мела непасрэднае дачыненне...

Надзя Віктараўна не падзяляла Ксюшынага настрою. Яна рэалістычна глядзела на тое, што адбывалася вакол, нават прагматычна ў некаторых момантах. Яе нашы з Алесяй адносіны не краналі, больш за тое, не падабаліся.

Ды нам было ўсё адно. Неяк незаўважна для нас абаіх мы ўсё часцей прыходзілі да возера, сядалі на вялікія камяні непадалёк ад яго, размаўлялі пра ўсё і ні пра што. Праніклівы Алесін голас, здавалася, ахутваў мяне з ног да галавы. Яго хацелася слухаць бясконца. Мой голас, у сваю чаргу, закалыхваў дзяўчыну. Яна ўяўляла сябе маленькай, у калысцы, і гарнулася бліжэй.

Мяшалкіны высачылі нас, дакладней, мяне на тым возеры. Я ім, відаць, не даваў спакою ні ўдзень, ні ўначы. Яны лічылі мяне сваім ворагам, бо я іх пасунуў з атрада, які ці не ўвесь ім падпарадкаваўся, тым самым пахіснуў аўтарытэт цэлай сям'і, да якой Мяшалкіны належалі, сям'і, якой павінны паднапальвацца, сям'і, якая нікому не даруе сваёй паразы. А хто быў такі я? Ні дзяўчына, ні хлопец, па іх разуменні, нешта сярэдняе, ды яшчэ з бацькам-грузчыкам... Чалавечае смецце.

На вачах у Алесі Мяшалкіны збілі мяне з ног. Перад тым, як упасці на зямлю, я ўсё ж паспеў колькі разоў ударыць, але... сілы былі няроўныя. Пашанцавала, што не забілі, бо мяцелілі нагамі страшэнна. Алеся бязгучна плакала. Яе не кранулі. Але яна распавяла піянерважатым пра тое, што адбылося. Надзя Віктараўна вырашыла, што лепей за ўсё нам з братам вярнуцца дамоў. Мяшалкіны хітрыя, выкруцяцца, калі іх учынкі вынесці на грамадскасць. Да таго ж іх тата не абы-хто. Мы яшчэ вінаватымі апынемся разам з піянерважатымі. Яна асабіста звязалася з нашымі бацькамі. Тыя прыехалі праз дзень.

Мяшалкіны адмыслова паявіліся, калі нас праводзілі ўсім атрадам. Мой брат Алесь не стрымаўся, схапіў нейкую палку і кінуўся на Мяшалкіных. Яго перахапіў бацька. Мяшалкіны задаволена пасміхаліся. Яны адзначалі перамогу, бо заставаліся, а мы з'язджалі.

Алеся праводзіла мяне да самага аўтобуса, трымала за руку.

— Беражы сябе! — сказала на развітанне.

Ніколі больш яе я не сустрэў, зрэшты, як і ўсіх астатніх з атрада. Ні Ксюшу, ні Надзю Віктараўну. Хаця не, маню, адну дзяўчыну ўсё ж сустрэў. Значна пазней. У Мінску. Калі вучыўся ў Кульку.



# Андра Шварц

Творчасць маладой паэткі з Германіі Андры Шварц утоеснівае з Беларуссю аб'ектыўна блізкае ўспрыманне прыроды і сябе. Паэтка вырасла «на Палессі» ў двух сэнсах — у фізічным і ў ментальным. Сорбска-лужыцкі Вэндланд — гэта геаграфічны працяг агульнаеўрапейскага Палескага прагіну з яго балотамі і тарфянікамі. Таксама гэта славянскае ўкрапленне спасярод Германіі, якое засталося ад часоў міграцыі народаў у Еўропе і да гэтага часу да канца не асімілявалася з палітычнай асновай (збольшага дзякуючы талерантнай палітыцы ўладаў розных часоў-колераў). Вершы Андры Шварц выкшталтаваліся падобна да версетаў Алеся Разанава. Думаецца, што фармальнае падабенства вынікла са зместу. Пагатоў што ёсць і наўпроставыя тэматычныя перагукі. Сярод іх і такая нечакана агульная тэма як Чарнобыль. Андра Шварц закончыла Германскі Літаратурны інстытут. На яе рахунку некалькі літаратурных прэмій. Сярод іх найбольш прэстыжная, прызначаная для маладых паэтаў германскамоўнай прасторы, «Прэмія Леонса-і-Лены» горада Дармштадт (2017). Пераклады зробленыя са згоды аўтаркі з кнігі «Ранкам мы са шкла» (Am morgen sind wir aus glas), якая выйшла ў Ляйпцыгу ў 2017 годзе ў выдавецтве «Паэтычная кнігарня».

# Ранкам мы са шкла...

***

*Пакажы свае рукі* вайны няма ўжо болей
праз гады стары мост зноў нясе свае цяжары
вашы целы вызваліцца час ад дзірак у дамах
ў галовах шчэ сядзяць гранаты-кулі і асколкі
размініраваць належыць наваколле
крыж у вышыні а ззаду стэлы
*вырашана ўжо пра ўсё і пра цябе*
з малога вырачаны каб памерці пасярэдзіне ракі *нарэнта*
скок пярэкулем у раптам ачужэлую ваду
ў дзіру дзяцінства з камянёў-аскепкаў
носіш іх з сабой як зброю па кішэнях
*хто пакажа свае рукі, хто пальцы разгарне*
вайны няма ўжо больш *дык адпусці*

***

Пра што змаўчала я пра гэты край з стаячаю вадой
за вёскай азярцо дзікое чыннік
што цябе займае тут бы карпаў пад зялёна-пеннаю вадою
бурбалкі паветра так яны дрыжаць як калі б дыхаў ты
пульсоўная мяшанка ў тваіх венах нясе цябе
і ты не думаеш ані пра што апроч бярозаў, хвоек
і пакуль ты іх не высачыла і не йдзеш за імі
сцежкамі зарослымі пакуль ты не наважышся
стрываць адразу страты месцы гнездавання
што ўсё яшчэ праблісквaюць
нягледзячы на неспрыянні часу

***

Зноў у вёсцы нарэшце высока буслы на слупах
*ты згадай* лугавіну на ўзгорку царкву занядбаную
пляц для гульні тагачасся парэшткі
*таго што за нетрамі лесу было*
на зямлі вольхі чорныя
*то не забудзься* на росту маруднасць
на траў пабярэжных мігценне
на дрэвах гнілых там брыняюць грыбы

калі ўзімку становіцца сыра
дзічына падступае да хат
застаюцца пры нас таямніцы

***

З усходу вее вецер нетутэйшыя пахі
тленне лісцевых вогнішчаў перад домам
і як яны паміраюць накрытыя тканінаю
ногі накрыж і рукі даланямі за локці
*тут няма нічога*
пад ложкам поўзаюць павукі
моль гняздзіцца ў расколінах дзіравіць усё да скуры
*мы даўно ўжо мёрзнем*
на пашы апошнія святарныя жывёлы
а дзесьці там па той бок жыве вішну
ён ёсць і яго тут знайсці не ўдаецца

***

*Ну вось і маеш* там звонку Вэндланд
а ўнутры вада набягае ў лёгкія
ты павярнулася далёка, далёка ў дзяцінства
схаваная пад мноствам спадніц-сукенак
у стозе сена нанач там ляжыцца
спаміж кашаніны з катамі знізу
скробат-шаргаценне звяркоў
*ты ўжо на мяжы трывання як я mala staruska*
нічога што цябе ўтрымлівае
акрамя вачэй

***

Апошні дотык-захоп тваіх рук
з імі лес яго пах мяне ён накручвае
ў лёгкіх тваіх яго ўздыхі адбітыя глыбей
у драўніну надрэз апасля яго рана дрэва
з яе ўсё лезе з ягоным жыццём *першы промах твой*
уздоўжкі слаёў паддаюцца надрэзы па крэсках
ламаецца з часам драўніна ў карэннях апошняе:
ў мокрадзь мы хочам
пад прэль-мох назад

***

Там сядзіш ты цяпер у куце ў глухім
час ад часу мой позірк вандруе к табе
каб як быццам цябе прыкмячала
толькі вобмільгам я за спіной у сябе
каб як быццам вычуйвала
там на памежнай сядзіш тэрыторыі ты
а не толькі сябе зусім спаленай
стуль мой люстэркавы цень з рукой каля скроні
*ён уздрыгвае-ўздрыгвае потым зноў не*
можа быць ты кратаеш мяне за плячо
павярнулася дзеля каб я быццам нешта далёкае
твар столькі часу размыты
як быццам цябе я пазнала

***

Дзе сядзіць ён не ведаю
ў мозгу мабыць а магчыма ў цябе за патыліцай
голас які да цябе прамаўляе
на хвалях кароткіх з пульсарамі лучыць
з вялізнымі зорамі шле свой сігнал
той выток з небакраю вырошчвае цмокаў
у клетках тваіх пранікаюць глыбока за мозг — за паўкулю
рэнтгенавы позірк ім мяне праглядаеш наскрозь
бы на зрэнцы тваёй я
адно толькі ценем

***

Мы будуем назад у пустку перад табою камора
ў воку далеч ніхто не павернецца болей
туды адыходзяць да іншых
кожны ведае гэта пад імі пяском набягаюць шляхі
на грунтоўках чарнеча часоў тых
на тварах канчэльнасць
мясцовасці вобраз перад выгараннем
над-пад зямлёю *ćorna pumpa je row serbstwa*
ўжо даўно апасля павароту панішчаны землі
па-над палямі лунае пыл вугалю
чэзне ў прасцяг цеплыня

пасля нас выпараецца
марна святло

***

Дзе гэта пачыналася дзіўнае месца за тваім мозгам
шэрая рэч *не магу сказаць* была ўжо тут і ўрабляла
пракуды занадта нягучна не моцна-даросла
ў тваім роце цмок паралюшны язык там заразны ўжо
там светлыня шчэ была невялікая яска ў сістэме
пасля толькі фантом які лучыць
цябе ў прастору энергія цёмная
шчэ не напэўна пустота
ў якую ляцім мы

***

Не магу іх знайсці ў парэшткавых норах
невялічкія моры з вады-вапняку *luziska jezorina*
нацыяналізаваныя адзінкі маёмасці вашыя галасы
з вугалю-каменю ломаныя каб як вас не было
зніклыя з вачагляду рэчы мы ўсё яшчэ раскопваем
шахтным спосабам над раскопам
рэкультываваныя плошчы
разарваныя еднасці няма нічога што вас трымае
паўторнае крэсленне слядоў у пяску
з раскопу працечаныя шляхі праходзяць
праз нашыя рукі ў нікуды:
дальняя далеч

***

Я за гэтым сталом тут яшчэ слоў шукаю
якія чапляюць мяне да мозгу касцей
і вачыма абмацваю ўсё што мяне датыкаецца
там павучыных пляцёнак мёртвых мух на спіне
што ляжаць нерухомыя лапкі высока ў паветра ўкруціўшы
плесня ў шчылінах вокнаў — пыл скрозь сцелецца ходам
як снег на паверхні на ўсе але глянь
як глыбока нажы мае рукі халодна ўспацелі
валаскі сталі дыбам
ад бляску ляза

***

Гэта канец: апошнія чароды птушак
сібірскі холад кладуцца вакол нас белыя сеткі
празрыстае прадзіва павольнае паміранне краявіду
сыходзім у нашы пакоі марудная стоенасць у цемры
павольнасць зрэнак у цені аслеплыя люстэркі
целы і як яны знікаюць, калі іх бярэм
ранкам мы са шкла

***

На Ўсходзе на другім канцы
ў павевах ветру Крыж апостала Андрэя
Карпас яшчэ некрануты *ідзём як мага далёка*
пад нагамі рэшткі цеплыні над бухтамі парывы ветру
пляжы ляжаць пустыя незадоўга як пайшла пена
потым цёмныя плямы
мора ўсё гэта змывае стагоддзямі
час па якім ідзем
моўкны і чужы

**Пераклад з нямецкай мовы Яўгена Бяласіна.**
**Фота з архіву Андры Шварц.**



# Айзек Азімаў

(1920 — 1992)

Сусветна вядомы пісьменнік-фантаст, які нарадзіўся ў вёсцы Пятровічы (на момант яго нараджэння належала да тэрыторыі Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі, цяпер — Смаленская вобласць Расіі). Фактычна Айзек нарадзіўся напрыканцы 1919 года, але маці змяніла ў дакументах дату нараджэння на пазнейшую, каб крыху раней аддаць сына ў школу. Паміж сабой Азімавы размаўлялі на ідышы, які з'яўляўся адной з чатырох дзяржаўных моваў тагачаснай Беларусі.
У 1923 годзе сям'я Азімавых імігравала ў ЗША, дзе і прайшла асноўная частка жыцця аўтара каля 500 кніг, шматразовага лаўрэата разнастайных прэмій.
Літаратурныя здольнасці пачалі выяўляцца ў Айзека яшчэ ў дзяцінстве. Ён вельмі рана навучыўся чытаць, а першую кнігу пачаў пісаць у 11 гадоў. Але сваё першае апавяданне ў часопісе «Amazing Stories» («Дзівосная гісторыя») ён апублікаваў значна пазней і толькі з трэцяй спробы.
Не ўсе ведаюць, што больш за палову кніг Азімава складае зусім не мастацкая, а навукова-папулярная літаратура. Гэта цалкам заканамерна, улічваючы той факт, што Азімаў доўгі час займаўся навукова-даследчай працай. У 1948 годзе ён атрымаў навуковую ступень доктара біяхіміі, пасля чаго выкладаў у Бостанскім універсітэце. Аднак праз 10 гадоў выкладчыцкай дзейнасці вырашыў цалкам засяродзіцца на літаратурнай творчасці, якая і прынесла яму сапраўдны поспех.
У 2020 годзе будзе адзначацца 100-гадовы юбілей пісьменніка, які зрабіў надзвычай плённы ўнёсак у такія літаратурныя жанры, як навуковая фантастыка, дэтэктыў, фэнтэзі.

# Задавальненне гарантуецца...

Тоні быў высокім смуглявым прыгажуном, з неверагодным патрыцыянскім павевам, занатаваным у кожнай рысе ягонага аблічча. Клэр Бэлмант разглядала яго праз шчыліну дзвярэй з адчуваннем жаху і трывогі.

— Я не магу, Лары. Ну як можна пакінуць яго ў доме? — яна ліхаманкава вышуквала для свайго паралізаванага розуму больш выразны спосаб выказацца; нейкі спосаб, які б меў сэнс і выправіў сітуацыю, але ўсё зводзілася толькі да банальнага паўтарэння: — Не магу і ўсё тут!

Лары Бэлмант сувора зірнуў на жонку, і ў яго вачах прамільгнула тая іскрынка нецярплівасці, якую Клэр ненавідзела, бо адчувала ў ёй дакор за невуцтва.

— Мы ўжо выказалі згоду, Клэр, — прамовіў ён, — нельга адмаўляцца. Фірма адпраўляе мяне ў Вашынгтон, з чаго, відаць, будзе вынікаць падвышэнне па службе. Ніякай небяспекі тут няма, і ты сама гэта ведаеш. Навошта спрачацца?

Яна бездапаможна нахмурылася.

— Гэта проста нервуе мяне. Цярпець не магу.

— Ён амаль такі ж чалавек, як ты альбо я. Таму гэта мае сэнс. Давай, хадзем.

Дакрануўшыся да жончынай таліі, Лары падштурхнуў яе наперад, і Клэр з хваляваннем апынулася ва ўласнай гасцінай. Там быў Тоні, які ўважліва і ветліва глядзеў на яе, нібыта ацэньваючы сваю гаспадыню на бліжэйшыя тры тыдні. Доктарка Сюзан Кальвін таксама знаходзілася там. Яна сядзела на канапе, абстрагаваўшыся ад эмоцый, з халодным позіркам чалавека, што занадта доўга працаваў з машынамі, з-за чаго, здавалася, каліва сталёвага субстрату падмяшалася нават у яе кроў.

— Дзень добры, — выціснула з сябе фармальнае вітанне Клэр.

Лары дзелавіта пачаў ратаваць сітуацыю са штучнай весялосцю:

— Клэр, пазнаёмся з Тоні, файным хлопцам. Тоні, гэта мая жонка, Клэр.

Рука Лары па-сяброўску дакранулася да пляча Тоні, але апошні не выказаў абсалютна ніякай рэакцыі на гэты жэст.

— Вітаю Вас, місіс Бэлмант, — прамовіў ён.

Пачуўшы гэта, Клэр уздрыганулася. Голас быў глыбокі і мяккі, быццам валасы на галаве альбо скура на твары Тоні.

З вуснаў Клэр міжволі зляцела:

— Божачкі, Вы размаўляеце?

— Чаму б і не? Вы меркавалі, што я гэтага не ўмею?

У адказ на гэта Клэр толькі слаба ўсміхнулася. Яна сапраўды не ведала, чаго чакаць. Спярша адвёўшы позірк убок, пасля яна ўсё ж дазволіла сабе асцярожна зірнуць у вочы суразмоўцы. Валасы ў яго былі гладкія і чорныя, як

адшліфаваны пластык, — ці шэвелюра сапраўды складалася з асобных валасінак? І якім чынам застаўся роўны, аліўкавы колер скуры яго рук і твару пасля зацянення межаў фармальнай вопраткі?

Яна разгубілася ад здзіўлення, але ёй давялося прымусіць свае думкі вярнуцца на месца, пачуўшы роўны, безэмацыйны голас доктаркі Кальвін.

— Місіс Бэлмант, я спадзяюся, Вы ацанілі важнасць гэтага эксперыменту. Ваш муж паведаміў мне, што Вы атрымалі ад яго неабходныя тлумачэнні. З пазіцыі галоўнага псіхолага фірмы «U.S. Robots» магу дадаць наступнае. Тоні — робат-андроід. Яго афіцыйнае абазначэнне ў картатэцы кампаніі — TN-3, але ён адгукаецца на імя Тоні. Не варта думаць, што гэта нейкая механізаваная пачвара або простая вылічальная машына кшталту тых, што распрацоўваліся падчас Другой сусветнай вайны. Ён мае штучны мозг, які амаль такі ж складаны, як і ў нас. Гэта нібыта велізарны камунікацыйны агрэгат, змешчаны ў чэрапе. Кожная мадэль мае свой, адмыслова створаны штучны інтэлект, запраграмаваны такім чынам, што ён валодае мовай і разнастайнымі ведамі ў неабходнай ступені, а таксама мае пэўныя навыкі, каб выконваць шэраг абавязкаў.

Раней наша фірма абмяжоўвала сваю вытворчую дзейнасць прамысловымі мадэлямі з мэтай іх выкарыстання ў месцах, дзе чалавечая праца немэтазгодная, як, напрыклад, у шахтах, альбо на глыбіні акіяну. Але мы хочам пашырыць сэрвіс для горада і хатняй гаспадаркі. Таму мы імкнемся да таго, каб людзі прызвычаіліся да робатаў і ўспрымалі іх без страху. Баяцца тут абсалютна няма чаго, разумееце?

— Ну сапраўды, Клэр, — далучыўся Лары. — Павер мне, ён не зробіць табе аніякай шкоды. Інакш я б ніколі не пагадзіўся пакінуць цябе з ім сам-насам.

Клэр патаемна зірнула на Тоні і ціха вымавіла:

— А што, калі я раптам раззлую яго?

— Няма патрэбы казаць шэптам, — запэўніла доктарка Кальвін. — Ён нагул не можа злавацца. Усе нейронныя сувязі ў гэтым штучным інтэлекце і адпаведна ягоныя рэакцыі — загадзя вызначаныя праграмаваннем. Самы галоўны прынцып функцыянавання падобных аб'ектаў, які мы называем Першым законам робататэхнікі, гучыць так: «Аніводны робат не можа нанесці шкоду чалавеку, альбо сваім бяздзеяннем дазволіць чалавеку самому нанесці сабе шкоду». Усе робаты сканструяваныя такім чынам. Інакш кажучы, Вы з Тоні вельмі патрэбныя нам у якасці першаснага эксперыменту для атрымання рэкамендацый, у той час як ваш муж будзе знаходзіцца ў Вашынгтоне, каб арганізаваць юрыдычнае забеспячэнне справы пад наглядам урада.

— Вы маеце на ўвазе, што ўсё гэта пакуль незаконна?

Лары закашляўся.

— Не, ну гэта толькі пустая фармальнасць, тут цалкам усё ў парадку. Адзінае, што ён не мусіць выходзіць з дому, бо ніхто пакуль не павінен яго бачыць. Усяго толькі. Я б застаўся з табой, Клэр, але мне вядома занадта шмат пра

робатаў. У нас павінен быць зусім недасведчаны тэсціроўшчык для аб'ектыўнага аналізу. Гэта жыццёва неабходна.

— Ох, добра, — прамармытала Клэр. — Але што ён умее рабіць?

— Усе хатнія справы, — механічна вымавіла доктарка Кальвін.

Яна ўзнялася з канапы, каб сысці, і Лары сабраўся правесці яе да дзвярэй. Клэр кінула пагляд на люстэрка над камінам і хутка адвяла позірк. Яна вельмі стамілася ад свайго маленькага, невыразнага твару і аслабленых, пазбаўленых бляску валасоў. Потым яна зірнула на Тоні і амаль усміхнулася яму, аднак узгадала... што ён усяго толькі андроід.

Лары Бэлмант накіроўваўся ў аэрапорт, калі раптам угледзеў Глэдыс Клаферн. Яна належала да таго тыпу жанчын, якія быццам бы існуюць адмыслова для захаплення. Дасканалае стварэнне. Апранутая густоўна і стылёва, яна была настолькі бліскучай, што гэта прымушала прымружыць вочы. Прыемная ўсмешка і тонкі водар парфумы заўсёды суправаджалі яе з'яўленне. Лары міжвольна паскорыў хаду і павітаўся, уздымаючы край капялюша.

Разам з тым ён адчуў знаёмыя хвалі раздражнення. Калі б толькі Клэр магла ўвесці яго ў тое кола, дзе існавала Глэдыс Клаферн... Зрэшты, што з таго?

Ох, ужо гэтая Клэр! Кожны раз, калі ёй даводзілася сустракацца з Глэдыс, яна пачувала сябе няёмка. Ілюзій у яго не было. Выпрабаванне з Тоні было яго вялікім шанцам, але ўсё залежыла ад Клэр. А наколькі бяспечней было б, калі б сітуацыяй кіраваў хтосьці накшталт Глэдыс Клаферн.

Наступнай раніцай Клэр прачнулася, пачуўшы прыглушаны грукат у дзверы спальні. Яна на момант уздрыганулася, а потым амаль здранцвела. Увесь першы дзень яна пазбягала Тоні, толькі маўкліва ўсміхаючыся пры сустрэчы з ім.

— Гэта Вы, Тоні?

— Так, місіс Бэлмант. Ці магу я ўвайсці?

Мабыць, яна ўсё ж такі нешта адказала, бо ён апынуўся ў пакоі раптоўна і бясшумна. Яе вочы і нос адначасова зрэагавалі на ежу, якую ён трымаў.

— Сняданак? — запыталася яна.

— Калі ласка.

Яна не наважылася б адмовіцца, і таму павольна села ў ложку, атрымаўшы на падносе яечню, хлеб з маслам і каву.

— Я прынёс цукар і вяршкі асобна і не дадаваў іх у каву, — сказаў Тоні. — Спадзяюся з цягам часу даведацца больш пра Вашыя густы.

Яна чакала, калі ён выйдзе. Тоні, гнуткі, як металічная рулетка, праз нейкі момант спытаў: «Вы жадаеце паснедаць у адзіноце?»

— Так, калі Вы не супраць.

— Можа пасля дапамагчы Вам апрануцца?

— О, не, не трэба, — яна ліхаманкава нацягнула на сябе прасціну так, што ледзь не разліла каву. Прасядзеўшы ў напружанасці пэўны час, яна ўрэшце бездапаможна апусцілася на падушку, калі пабачыла зачыненыя звонку дзверы.

Клэр неяк паснедала. Ён быў усяго толькі машынай, і калі б вонкавая розніца была больш значнай, гэта было б не так страшна. Бо ніколі немагчыма здагадацца, што адбываецца за гэтымі цёмнымі вачыма і гэтай гладкай, аліўкавай скурай. Пусты кубак для кавы выдаў слабы гук кастаньета, калі яна паставіла яго на паднос. Пасля яна ўзгадала, што забылася дадаць цукар і вяршкі, бо ўвогуле ненавідзела чорную каву без дадаткаў.

Пасля апранання Клэр скіравалася да кухні. У рэшце рэшт, гэта быў яе дом, і нічога страшнага ў ім няма. Яна прызвычаілася падрымліваць у доме парадак. Але цяперашні выгляд кухні яе насамрэч здзівіў, бо там усё блішчэла ідэальнай чысцінёй.

Яна спынілася, аглядаючы кухню, і, павярнуўшыся ўбок, амаль сутыкнулася з Тоні, міжволі ўскрыкнуўшы.

— Вам дапамагчы? — ветліва спытаў ён.

— Тоні, — спрабуючы замаскіраваць абурэнне, выкліканае нечаканай панікай, — не трэба перасоўвацца так бясшумна, гэта пужае мяне. Вы тут гатавалі сняданак?

— Так, місіс Бэлмант.

— Неяк незаўважна.

— Я ўсё прыбраў тут апасля. Хіба не трэба было?

Ад здзіўлення Клэр выпучыла вочы і не ведала, што адказаць. Зазірнуўшы ў шафу, дзе захоўваўся посуд, і пільна агледзеўшы ўсю кухню, яна зазначыла:

— Вельмі добра. Цалкам задавальняюча.

У гэты момант ён мог бы проста заззяць, калі б быў здольны выказваць эмоцыі. Аднак ён застаўся абсалютна спакойным, нібыта англійскі лорд, зазначыўшы: «Дзякуй, місіс Бэлмант. Ці не жадаеце зазірнуць ў гасцёўню?»

Выгляд наступнага пакоя ўразіў яе не менш.

— Вы што, адпаліравалі мэблю?

— Ці задаволены Вы якасцю працы, місіс Бэлмант?

— Але калі Вы паспелі? Учора ж Вы нічога тут не рабілі.

— Вядома, ноччу.

— І што, святло тут гарэла ўсю ноч?

— Канешне, не. У гэтым няма ніякай неабходнасці. Я маю адмыслова ўбудаваную дадатковую крыніцу святла. І відавочна, у мяне няма патрэбы ў тым, каб спаць.

Безумоўна, ён заслугоўваў захаплення. Трэба было неяк даць яму зразумець, што ягоныя намаганні высока ацэненыя. Але Клэр не хацелася дастаўляць яму гэтае задавальненне. Таму яна з кіславатым выразам твару засведчыла:

— Хутка з-за такіх, як Вы, хатнія гаспадыні пазбавяцца працы.

— Магчыма, але вызваліўшыся ад такой няўдзячнай працы, яны змогуць заняцца нечым значна больш цікавым і карысным. У рэшце рэшт, місіс Бэлмант, такія машыны, як я, можна запусціць у масавую вытворчасць. Але нічога

не мае параўнання з творчым пачаткам і шматграннасцю дзейнасці чалавечага мозгу, напрыклад, такога, як Ваш.

Нягледзячы на тое, што выраз ягонага твару зусім не змяніўся, у інтанацыі голасу Клэр адчула некаторыя ноткі цеплыні і захаплення, што прымусіла яе злёгку пачырванець і прамармытаць: «Мозг, як у мяне? Ахвотна б падаравала яго Вам!»

Тоні наблізіўся да яе і сказаў: «Вы, мабыць, не надта шчаслівая, калі так кажаце. Ці магу я нешта зрабіць для Вас?»

На імгненне Клэр адчула, што гатова засмяяцца. Гэта была недарэчная сітуацыя. Той, хто стаяў побач, — універсальны прыбіральшчык, пасудамыйная машына, шліфавальнік мэблі і халера ведае яшчэ што, робат, які нядаўна сышоў з канвеера, — прапануе ёй свае паслугі ў якасці псіхолага і даверанай асобы!

Тым не менш, у яе міжволі роспачна вырвалася: «Містэр Бэлмант наогул прытрымліваецца іншага меркавання — ён лічыць, што я не маю мазгоў.... Можа, ён мае рацыю?»

Яна не магла дазволіць сабе расплакацца перад ім. З нейкай нагоды яна раптам адчула, што мае гонар належаць да чалавечага роду і можа супрацьстаяць гэтаму простаму стварэнню.

— Такое назіраецца ў апошні час, — дадала яна. — Пакуль мы былі больш маладымі, былі студэнтамі, усё было выдатна. Але зараз.. я нібыта не вартая таго, каб быць жонкай такога выбітнага чалавека. Бо ён марыць пра тое, каб стаць вялікім. І патрабуе, каб я стала цудоўнай гаспадыняй і «свецкай ільвіцай», якая магла б дазволіць яму ўвасці ў колы, дзе круціцца гэтая ўсюдыісная Глэдыс Клаферн.

Нос у яе крыху пачырванеў, і яна адвяла позірк.

Але Тоні не глядзеў на яе. Ягоныя вочы блукалі па пакоі ў пошуках таго, што б яшчэ можна было б удасканаліць.

— Я магу дапамагчы Вам палепшыць стан гэтага памяшкання.

— Але гэта бяссэнсна, — катэгарычна адказала яна. — Тут патрабуецца зашмат працы. Кватэра, вядома, камфортная, аднак я не магу ўдасканаліць яе так, як мне хацелася б, каб яна выглядала, як у модных дызайнерскіх часопісах.

— Але Вы сапраўды гэтага хочаце?

— Так, але што з таго? Аднаго жадання мала.

Вочы Тоні свяціліся рашучасцю:

— Я магу дапамагчы!

— Вы разбіраецеся ў пытаннях дызайну інтэр'еру?

— Хіба гэта абавязкова?

— Безумоўна!

— У такім выпадку я маю неабходны патэнцыял і магу здабыць веды, якія спатрэбяцца для вырашэння дадзенай праблемы. Ці маглі б Вы знайсці для мяне адпаведную літаратуру?..

З гэтага моманту нешта зварухнулася з мёртвай кропкі.

Прыціскаючы капялюш да галавы, каб ён не зляцеў ад ветру, Клэр цягнула з гарадской бібліятэкі дадому два тамы энцыклапедыі па інтэр'ерным дызайне, а пасля з цікавасцю назірала, як Тоні хутка гартае старонкі. Яе ўразіла наколькі проста ягоныя пальцы выконваюць гэтае дзеянне. Неўзабаве Клэр дакранулася да рукі Тоні, які спакойна дазволіў разглядаць яе.

— Нават вашыя пазногці выглядаюць натуральна, — засведчыла яна.

— Вядома, так запраграмавана, — адказаў Тоні. — Мая скура зроблена з дыхтоўнага пластыка, а каркасная аснова — з лёгкай металічнай канструкцыі. Вас гэта забаўляе?

— Не, — засаромелася Клэр. — Я проста адчуваю сябе няёмка, нібыта торкаючыся ў Вашае нутро. Наогул, гэта не мая справа. Вы ж не пытаецеся, якім чынам функцыянуе мой арганізм.

— Мой мозг не прадугледжвае такі кшталт цікаўнасці. Я магу дзейнічаць толькі ў межах зададзеных праграм.

Тут Клэр адчула, як нешта схамянулася ўнутры яе. Чаму яна ўвесь час забывала, што Тоні — не сапраўдны чалавек? Зараз вось ужо сам робат быў змушаны нагадаць ёй пра гэта. Няўжо яна так пакутвала ад недахопу пяшчоты, што нават была гатовая прыняць заляцанні ад робата, і толькі таму, што ён быў здольны выказваць эмпатыю?

Заўважыўшы, што Тоні па-ранейшаму гартае старонкі, яна з пэўным пачуццём перавагі спыталася:

— Вы не ўмееце чытаць, ці ж не так?

Тоні ўпэўнена паглядзеў на яе і безапеляцыйна адказаў:

— Я чытаю, місіс Бэлмант.

— Але... — яна разгублена паказала на кнігу.

— Калі Вас хвалюе, чаму я так хутка гартаю старонкі, дык гэта таму, што я скану́ю іх. Мой спосаб чытання — фатаграфічны, і я ўмомант засвойваю ўсю патрэбную інфармацыю.

Увечары, калі Клэр пайшла ў спальню, Тоні настойліва вывучаў ужо другі том амаль пры адсутнасці святла.

Апошнія яе думкі перад сном былі дзіўнаватымі. Яна ўзгадвала свае адчуванні пры дакрананні да рукі Тоні — тая была цёплай і мяккай, абсалютна як у чалавека. Нібыта разумная фабрыка, падумала яна і ціхенька заснула.

На працягу некалькіх наступных дзён Клэр рэгулярна наведвала бібліятэку і прыносіла адтуль усё новыя і новыя кнігі. Тоні паступова паведамляў, якіх ведаў яму яшчэ бракуе. Ён праглынаў мноства інфармацыі па дызайне, каларыстыцы, вытворчасці хатняй мэблі, візажы, модзе, гісторыі касцюмаў і асновах мастацтва...

Напрыканцы тыдня ён пераканаў Клэр падстрыгчы валасы, пазнаёміўшы яе з новым спосабам укладкі, а таксама крыху падправіў лінію броваў і параіў новыя адценні пудры і памады.

Паўгадзіны Клэр цярпліва сядзела на крэсле, нярвова ўздрыгваючы пры кожным далікатным дотыку ягоных пальцаў, а пасля зазірнула ў люстэрка.

— Можна яшчэ шмат чаго ўдасканаліць, — адзначыў Тоні, — асабліва ў вопратцы. Але ці падабаецца Вам свой цяперашні выгляд для пачатку?

Клэр не адказала адразу. Яна была агаломшаная ад выгляду незнаёмай жанчыны, якая пазірала на яе з люстэрка. Калі ж перашпачатковы шок знік, яна, з хваляваннем працягваючы ўзірацца ў сваё адлюстраванне, глухаватым голасам засведчыла:

— Так, Тоні, гэта нават вельмі добра для пачатку.

Пра гэтыя змены яна нічога не напісала ў лістах да мужа. Няхай даведаецца, калі прыедзе. Клэр не толькі цешылася думкай, якая гэта будзе неспадзяванка для Лары. Яна разглядала гэта яшчэ і як своеасаблівую форму жаночай помсты.

Аднойчы раніцай Тоні заявіў:

— Наспеў час набыць некаторыя рэчы для дома, але мне нельга выходзіць на вуліцу. Калі я зраблю спіс таго, што нам спатрэбіцца, ці маглі б Вы заняцца пакупкамі? Напрыклад, тут патрэбна драпіроўка для мэблі, шпалеры, дываны, фарбы, некаторае адзенне і розныя іншыя дробязі.

— Гэта не так ужо і проста, — засумнявалася Клэр.

— Я ўпэўнены, што Вы цудоўна справіцеся з гэтай задачай. Трэба проста наведаць шэраг гандлёвых цэнтраў. Калі няма праблемы з грашыма...

— Вось акурат з грашыма і ёсць праблема.

— Гэта не зусім так. Вам усяго толькі варта зазірнуць у офіс фірмы «U.S. Robots» і паразмаўляць з доктаркай Кальвін. Я ў сваю чаргу падрыхтую абгрунтаванне, што гэтыя выдаткі неабходныя для паспяховасці эксперыменту.

Гэтым разам доктарка Сюзан Кальвін ужо не выклікала ў Клэр такога недаверу, як у той першы вечар. Зрэшты, з новым тварам і новым капялюшам яна ўжо не магла заставацца ранейшай Клэр. Сюзан уважліва выслухала яе, задала некалькі пытанняў, кіўнула галавой у знак згоды, і ў выніку Клэр апынулася на вуліцы з чэкам на велізарную суму.

Неверагодна, што можа рабіць наяўнасць грошай! Галасы прадавачак ужо не гучалі гэтак напышліва, а прыўзнятае брыво дэкаратара не нагадвала болей неба перад навальніцай.

А калі ў адным з дарагіх салонаў адзення мітуслівы адміністратар з камплекцыяй Віні Пыха ніяк не мог уцяміць, што ж дакладна патрабуецца, а толькі бясконца выбачаўся, Клэр вырашыла патэлефанаваць дадому і, пачуўшы голас Тоні, перадала слухаўку разгубленаму супрацоўніку.

— Калі Вы не супраць, — упэўнена прамовіла яна, — я хацела б, каб Вы паразмаўлялі з маім... э-э-э...сакратаром!

Таўстун, які спярша ўзяўся віскліва супярэчыць тэлефоннаму суразмоўцу, пасля ўважліва выслухаў яго з перыядычным ужываннем слова «Так» і ўрэшце-рэшт з лёгкім адценнем крыўды звярнуўся да Клэр:

— Калі ласка, спадарыня, хадземце сюды. Я паспрабую дагадзіць Вашаму густу.

— Хвілінку, — сказала Клэр, і вярнуўшыся да тэлефона, зноў набрала хатні нумар. — Алё, Тоні? Не ведаю, што Вы яму нагаварылі, але гэта падзейнічала. Вы... — адшукваючы патрэбнае слова, Клэр міжволі выпаліла, — Вы такі мілы!

Сабраўшыся вярнуцца да адміністратара салона, яна нечакана сутыкнулася з Глэдыс Клаферн. Тая, здзіўлена пазіраючы на Клэр, вымавіла:

— Місіс Бэлмант, ці ж Вы гэта?

Усе словы раптоўна зніклі са свядомасці Клэр. Яна толькі разгублена кіўнула ў адказ, нібы марыянетка.

Глэдыс усміхнулася з уласцівым ёй адценнем нахабства, якому немагчыма было супрацьстаяць.

— Я не ведала, што Вы наведваеце гэты салон.

— Звычайна я не бываю тут, — ніякавата прамовіла Клэр.

— Хм.. І Вы нешта зрабілі з валасамі? Досыць мудрагеліста. О, і дарэчы, прабачце, але мне здавалася, што Вашага мужа клічуць Лары?

Клэр сцяла зубы, але трэба было неяк выкручвацца з сітуацыі.

— Тоні — сябра майго мужа. Ён дае мне парады адносна выбару некаторых рэчаў.

— Разумею. Гэта, мабыць, нечага каштуе, — і яна паплыла па зале, быццам несучы за сабой шлейф цеплыні.

Клэр немаведама чаму звярнулася да Тоні па суцяшэнне. За тыя дзесяць дзён, што яны правялі разам, ад былога недаверу не засталося слядоў. Цяпер яна магла плакаць у ягонай прысутнасці і даваць волю сваім пачуццям.

— Я паводзіла сябе, як дурніца! — яна нярвова камячыла ў руках хустку. — У яе прысутнасці я чамусьці заўсёды адчуваю сябе няёмка. Яна нешта робіць са мной. Я мусіла б даць ёй добрага пендаля, змяшаць яе з брудам!

— Як можна настолькі ненавідзець кагосьці? — збянтэжана мякка спытаў Тоні. — Гэты бок чалавечых паводзінаў для мяне незразумелы.

— О, не, тут справа не ў ёй. А відаць, ува мне самой, — усхліпвала Клэр. — Яна мае ўсё тое, чаго няма ў мяне. Прынамсі, што датычыць знешняга выгляду. Я ніколі не змагу стаць такой прыгажуняй.

Тоні крыху панізіў голас:

— Зможаце, місіс Бэлмант. У нас яшчэ маецца дзесяць дзён наперадзе, і потым Вы не пазнаеце гэты дом. Хіба ж мы не планавалі гэтага?

— Але якое дачыненне могуць мець змены ў доме да Глэдыс?

— А Вы запрасіце яе сюды разам з іншымі знаёмымі. Паклічце гасцей на імпрэзу. Зробім гэта напярэдадні майго сыходу. З нагоды абнаўлення жытла.

— Яна не прыйдзе.

— Прыйдзе, нават не сумнявайцеся. Прыйдзе дзеля таго, каб пасмяяцца з Вас. Але нічога ў яе не атрымаецца.

— Вы сапраўды так лічыце? О, Тоні, ці сапраўды гэта можна здзейсніць? — яна раптоўна схапіла яго за рукі.

Але праз момант твар Клэр спахмурнеў:

— Але ж гэта будзе Вашае дасягненне, а не маё.

— Ніхто не існуе абсалютна ізалявана, — ціха прамовіў Тоні. — Тое, што Вы, альбо хто-небудзь, бачыце ў Глэдыс Клаферн, гэта не менавіта Глэдыс Клаферн. Яна проста ўвасабляе сабой тое, што могуць прынесці грошы і сацыяльнае становішча. Яна ніколі нічога не ставіць пад сумнеў. Дык чаму Вы павінны сумнявацца? Зірніце на гэта інакш, місіс Бэлмант. Я запраграмаваны так, каб падпарадкоўвацца, але ступень маёй паслухмянасці я вызначаю самастойна. Гэта значыць, што я магу выконваць загады з рознай ступенню самааддачы. Для Вас я заўсёды стараюся рабіць усё па-максімуму, таму што Вы — добрая, прыемная, непатрабавальная. Місіс Клаферн, калі браць пад разлік тое, як Вы яе апісваеце, — іншая, і відавочна, што яе даручэнні я б выконваў інакш, чым Вашы. Як бачыце, усё ў выніку залежыць толькі ад Вас, місіс Бэлмант.

Ён вызваліў свае рукі, а Клэр нерухома стаяла, утаропіўшыся ў ягоны твар, на якім немагчыма было прачытаць ніводнага зруху эмоцый. Гэта выклікала ў яе непакой, але непакой зараз быў зусім іншага характару.

Яна нервова зірнула на свае рукі, якія ўсё яшчэ адчувалі дотык пальцаў Тоні. Не, гэта не было гульнёй уяўлення: перад тым, як вызваліць свае рукі, ён лёгка, з невыразнай пяшчотай сціснуў яе далоні.

Яна пабегла ў ванную і пачала мыць рукі, цудоўна ўсведамляючы, што гэта бессэнсоўна.

На наступны дзень яна адчувала сябе няёмка, асцярожна прыглядаючыся да Тоні ў прадчуванні нечага незвычайнага. Аднак нічога асаблівага не адбывалася.

Тоні працаваў без перапынку. Калі ў тэхніцы паклейкі шпалер альбо ў выкарыстанні фарбы хуткага высыхання і былі нейкія складанасці, дык гэта ніякім чынам не адбівалася на тэмпе працы. Рукі яго рухаліся дакладна, спрытна і ўпэўнена.

Уначы праца працягвалася. Ніякіх шумаў, якія б заміналі Клэр спаць, не было. Кожнай наступнай раніцай у доме было для яе маленькае свята, бо інтэр'ер штодня змяняўся і набываў новыя штрыхі.

Толькі аднойчы яна паспрабавала дапамагчы Тоні, але з-за сваёй нязграбнасці ледзь не сапсавала ўсю справу. Ён знаходзіўся ў суседнім пакоі, калі Клэр вырашыла паспрабаваць павесіць карціну на месцы, вызначаным з матэматычнай дакладнасцю, і пачала ўздымацца дагары па складной лесвіцы.

Ці то яна нервавалася, ці то лесвіца была няўстойлівая, але не ўтрымаўшыся на ёй, Клэр, гучна пачала падаць. Тоні з неверагоднай хуткасцю апынуўся побач і падхапіў яе на рукі. Яго спакойныя цёмныя вочы нічога адмысловага не выяўлялі, а роўны голас толькі спытаў:

— Вы ў парадку, місіс Бэлмант?

Яна на імгненне заўважыла, што яе рука знаходзіцца на галаве Тоні, гладкая шэвелюра якога складалася з цёмных валасоў цалкам натуральнага выгляду.

А пасля ўсвядоміла, што ён клапатліва трымае яе на руках, нібы дзіця, і ад нечаканасці ўскрыкнуўшы, рэзка выскачыла з абдымкаў Тоні. Рэшту дня яна правяла ў сваім пакоі, на ўсялякі выпадак прысунуўшы фатэль да дзвярэй.

Запрашэнні гасцям былі разасланыя і, як і прадказваў Тоні, прынятыя. Заставалася толькі цярпліва чакаць апошняга вечара.

І вось доўгачаканы адвячорак нарэшце надышоў. Дом немагчыма было пазнаць. Клэр зноў абгледзела ўсе пакоі — кожны з іх выглядаў інакш. Сама яна была ў вопратцы, якую ніколі раней не адважылася б апрануць. Але калі ўжо апранаеш такое адзенне, дык адначасова апранаеш гонар і ўпэўненасць у сабе.

Яна паспрабавала зрабіць паблажлівы выгляд і люстэрка па-майстэрску зыркнула на яе.

Цікава, як зрэагуе Лары? ... Зрэшты, ужо не істотна. Захапляльныя дні былі праведзеныя зусім не з ім, а з Тоні. Ці ж не дзіўна? За тры тыдні да вяртання мужа яна паспрабавала вярнуць сабе мінулы настрой, але гэта не атрымалася.

Гадзіннік засведчыў восьмую гадзіну, і ўсхваляваная Клэр звярнулася да Тоні:

Госці хутка будуць тут. Лепш некуды схавацца. Мы не можам дазволіць, каб яны...

Яна пільна ўглядалася ў ягоны твар, а потым здзіўлена ўзняла бровы: «Тоні?» і ўрэшце перайшла на крык: «Тоні!»

А тым часам рукі Тоні абдымалі яе, твар яго быў надта блізкі да яе, а моц абдымкаў была няўмольнай. Клэр пачула яго голас праз туман эмацыянальных дрыжыкаў.

— Клэр, — прамовіў ён, — ёсць шмат рэчаў, якія я не ў стане разумець, і вось адна з іх. Я мушу пакінуць Вас заўтра, але я не хачу гэтага. Мне падаецца, што ўва мне маецца нешта большае за жаданне проста дагадзіць Вам. Хіба гэта не дзівосна?

Твар у яго наблізіўся яшчэ больш; ад вуснаў павявала цеплынёй, але подыху не адчувалася, бо машыны не дыхаюць. Ён амаль пацалаваў яе.

...Раптоўна прагучаў званок. Цяжка дыхаючы, яна вырвалася з абдымкаў Тоні, а той неўзабаве нібы скрозь зямлю праваліўся. Зноў пачуўся настойлівы і пранізлівы гук званка.

Тут Клэр заўважыла, што фіранкі на вокнах адсунутыя. Але ж яна добра памятае, як хвілін пятнаццаць таму сама прыкрывала вокны. Напэўна, іх паспелі заўважыць разам. Усе ўсё бачылі!

Госці ўвайшлі вельмі ветліва, збіўшыся ў маленькі натоўп, і пачалі свідраваць прастору сваімі пранізлівымі вачыма. Вядома, яны ўсё бачылі. Інакш ча-

му Глэдыс спытала з такой падазронай інтанацыяй, дзе Лары. Гэта падштурхнула Клэр прыняць выклік:

— Як бачыце, ён адсутнічае. Вернецца заўтра. Не, я зусім не сумавала без яго. Я цудоўна бавіла час.

Яна падсмейвалася з іх. Чаму б і не? Што яны могуць зрабіць? Калі б нават чуткі пра тое, што тут адбылося, дайшлі да вушэй Лары, ён бы не паверыў, будучы ўпэўненым, што гэта немагчыма.

Але гасцям было не да смеху.

Гэта асабліва добра чыталася па лютасці ў вачах Глэдыс Клафэрн; па інтанацыі яе голасу і жаданні сысці як мага хутчэй. Калі Клэр развітвалася з гасцямі, ёй давялося пачуць шэпт адной з жанчын, скіраваны да суседкі: «За ўсё жыцце я не бачыла больш прыгожага мужчыну!»

Клэр усведамляла, што раззлавала іх найбольш. Няхай цяпер енчаць, коткі драныя! І хай ведаюць: кожная з іх можа быць больш прыгожай за яе, мець больш высокі сацыяльны статус, валодаць багаццем, але ніколі ніводная з гэтых прымітыўных цётак не здолее займець такога прыгожага палюбоўніка!

Але пасля яна ўзгадала, што Тоні — усяго толькі робат, і адчула дрыжыкі, што беглі па скуры.

«Ідзі прэч! Пакінь мяне!» — закрычала яна ў пустэчу і пабегла да свайго ложка. Яна плакала ўвесь той вечар і на наступную раніцу, амаль да світання, калі вуліцы яшчэ не паспелі запоўніцца людзьмі, да дома пад'ехала машына і забрала Тоні.

Лары Бэлмант праходзіў побач з кабінетам доктаркі Сюзан Кальвін і імпульсіўна пагрукаў у дзверы. Там сядзеў матэматык Пітэр Богерт, але гэта не мела значэння.

Лары пачаў размову:

— Клэр праінфармавала мяне, што фірма аплаціла ўсе выдаткі, звязаныя з рамонтам нашага дома...

— Так, — пацвердзіла доктарка Кальвін. — Мы спісалі гэта на выдаткі, неабходныя для правядзення эксперыменту. Спадзяюся, з Вашай новай пасадай намесніка галоўнага інжынера, Вы здолееце падтрымліваць дом у належным стане.

— Мяне, уласна кажучы, хвалюе іншае пытанне. У Вашынгтоне далі згоду на новыя выпрабаванні, і мяркую, што мы зможам распрацаваць нашу ўласную мадэль TN ужо да пачатку наступнага года.

Ён нерашуча павярнуўся, каб сысці, але нешта яго затрымала.

— У Вас нешта яшчэ, містэр Бэлмант? — спытала доктарка Кальвін пасля паўзы.

— Я проста аніяк не магу зразумець... — пачаў тлумачыць Лары, — што на самай справе адбылося ў маім доме. Я маю на ўвазе Клэр — яе нібыта падмянілі. І справа не толькі ў знешным выглядзе, хоць і гэта мяне таксама моцна здзівіла. Яна... нібыта не мая жонка. Цалкам змянілася!

— Хіба Вы расчараваныя тымі пераменамі, якія адбыліся за апошні час?

— Наадварот. Але мяне яны крыху пужаюць.

— На Вашым месцы, містэр Бэлмант, я б не хвалявалася. Ваша жонка выдатна справілася з пастаўленай задачай. Шчыра кажучы, я наогул не разлічвала, што эксперымент дасць такія грунтоўныя вынікі. Зараз мы даладна ведаем, якія менавіта папраўкі неабходна ўнесці ў мадэль TN, і гэта цалкам заслуга місіс Бэлмант. І калі ўжо быць шчырай да канца, я думаю, што ваша жонка заслугоўвае атрыманага Вамі павышэння па службовай лесвіцы нават больш за Вас.

Пасля гэтай фразы Лары ўздрыгануўся.

— Усё роўна гэта ў межах адной сям'і, — разгублена прамармытаў ён і выйшаў.

Сюзан Кальвін праводзіла яго позіркам:

— Мяркую, што гэта балюча. Пітэр, Вы азнаёміліся з дакладам Тоні?

— Так і вельмі ўважліва, — адказаў Богерт. — Ці не падаецца Вам, што нам неабходна ўнесці некаторыя змены ў мадэль TN-3?

— О, Вы таксама так лічыце? — рэзка спытала Сюзан. — І якія ў Вас думкі на гэты конт?

Богерт надзьмуў бровы:

— Ды асабліва ніякіх. Але хіба ж мы можам дазволіць, каб робат заляцаўся да гаспадыні?! Каб між імі праскоквала нейкая іскра кахання?

— Кахання?! Пітэр, Вы што, сапраўды не разумееце? Гэтая машына павінна была падпарадкоўвацца Першаму закону, адпаведна якому нельга дазваляць нанясенне шкоды чалавеку. А ці ж можа быць найгоршая шкода для Клэр Бэлмант за яе пачуццё ўласнай непаўнавартаснасці, ад якога яна сапраўды пакутвала? Вось чаму Тоні павёў сабе такім чынам. Кожная жанчына палічыла б велізарным кампліментам для сябе здольнасць абудзіць пачуццё кахання ў халоднай бяздушнай машыне. Тым вечарам ён наўмысна адсунуў фіранкі, каб іншыя маглі пабачыць іх разам і пазайздросціць, што ён абдымае Клэр. Тут не было аніякай рызыкі для яе шлюбу. Мяркую, што Тоні зрабіў надзвычай разумную рэч...

— Вы сапраўды ў гэтым перакананая? Якая розніца ў тым, наўмысна гэта было зроблена ці не? Жахлівы эфект адчувальны дагэтуль. Прачытайце справаздачу яшчэ раз. Яна пазбягала яго. Крычала, калі ён трымаў яе. Яна займела бяссонніцу разам з істэрыкай. Не, мы не можам пакінуць гэта проста так.

— Пітэр, Вы проста сляпы. Такі ж сляпы, якой была і я. Відавочна, мадэль TN будзе дапрацавана і ўдасканалена, але зусім з іншай нагоды. Дзіўна, што я не прадугледзела гэты нюанс з самага пачатку. Пітэр, Вы мусіце прыняць да ўвагі адну фенаменальную з'яву: машыны не могуць закахацца, а вось жанчыны — могуць! Нават калі гэта цалкам безнадзейна і жахліва.

**Пераклад з англійскай мовы Ірыны Хадарэнка.**



*А. Квяткоўскі. Божавоўк.*

# ВЕРАСЕНЬ

# КРЫТЫКА

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

# Э С Э

алесь мара алесь кваткоўскі
алесь бяляцкі уладзімір сіўчыкаў
раіса крывальцэвіч сяргей чыгрын
эдуард дубянецкі анатоль трафімчык



# Алесь Мара

мастак, паэт, публіцыст. Сябра Беларускага саюза мастакоў з 1977 года. Адзін з арганізатараў і першы кіраўнік творчай суполкі «Пагоня». Працуе ў розных жанрах жывапісу і графікі. Аўтар літаратурна-мастацкіх выданняў «Алесь MaRa. Аўтаманаграфія» (2002 г.), «Калодзеж у жыцце. Вершы і паэмы» (2013 г.) і «Ад Магніта-Балабуя да Готланда. Старонкі дзённіка і не толькі...» (2019 г.). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Новая Слабада на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

# «... А жыта сей!..»

Яшчэ да сустрэчы з Анатолем у асяродку творчых людзей, калі гаварылася пра стан прыгожага пісьменства, даводзілася чуць, што не ўсё падкасілі. Зерне прарастае. Вунь у Гомельскім універсітэце падрастае новая зорка беларускай паэзіі. Гэты хлопец, дай Бог здароўя, яшчэ пакажа нам, як трэба пісаць. І пра што... І чуў гэта ад самаго Ніла Гілевіча. Прозвішча той «зоркі» не называлася.

Знаёмства з Анатолем было нечаканае, мною не запланаванае, як і ўсё ў нашым жыцці. Званок у дзверы маёй майстэрні. Адчыняю. На парозе Алег Бембель і з ім малады хлопец з невялікай торбай. Алега я даўно ведаў. А хлопец мне быў не знаёмы. Прайшоў час, і пры сустрэчы з Анатолем Сысам, тут, у Менску, я запытваўся:

— А ці памятаеш, Анатоль, нашую першую сустрэчу? Той дзень, калі ты з Алегам прыходзіў да мяне ў майстэрню?

— Не дужа... А як яно було?

— Калі я рукаўся з табою, ты, гледзячы мне ў вочы, коратка прадставіўся: паэт Анатоль Сыс.

— Гэтак? Зараз я б, мусіць, так не сказаў.

Маладзейшы Анатоль бачыў сваю наканаванасць быць Паэтам. І не саромеўся гэтага. Адчуваў сваё прызначэнне на гэтым свеце. А калі выдаў паэтычныя зборнікі «Агмень» і «Пан лес», адчуў цяжар прызнання. Быць паэтам, а найперш беларусам, у нашым часе няпроста. «Зараз я б, мусіць, не сказаў гэтак...»

Апошні паэтычны зборнік Анатоля «Сыс» ствараўся на маіх вачах. Анатоль звярнуўся да мяне, каб я спрычыніўся да мастацкага афармлення ягонай кнігі. Але пра гэта крыху ніжэй.

Анатоль Сыс ніколі не жаліўся на безграшоўе. Але я адчуваў, што не ўсё так проста ў ягоным жыцці. Раіў яму паспрабаваць надрукаваць кніжку ў прыватнай друкарні. Будзе куды хутчэй. «У дзяржаўным выдавецтве гадамі будзеш стаяць у чарзе, пакуль разгледзяць тваю заяўку». «Не, — кажа ён. — Я пішу для Беларусі і беларусаў. Ёсць Анатоль Сыс і ёсць дзяржава Беларусь. Не буду я туляцца па прыватніках, якія яны не былі б добрыя».

Трэба сказаць, Анатоль Сыс сябраваў з мастакамі. Шукаў кантакты з блізкімі яму па духу. Мастакі ж, як правіла, народ кампанейскі, заўсёды прымалі паэта сардэчна і гасцінна. Пасля паказу сваіх творчых здабыткаў, шматлікіх палотнаў ды графічных замалёвак накрывалі стол, частавалі гасцей. І была гамана, і была чарка...

Пасля чарнобыльскай навалы ствараў я палатно «Маці Божая Чарнобыльская». Гэтая бяда не абмінула маю вёску Папоўшчына як і Толікаў Гарошкаў. Убачыўшы мой твор, ён упрошваў мяне падарыць гэтае палатно яму.

— Тое ж не толькі для мяне, — казаў паэт. — Гэта для маіх землякоў. Я карціне знайду месца ў нашай царкве, там, на маёй радзіме.

Так і сталася. Не шкадуючы, аддаў я сваё палатно ў добрыя рукі Паэта.

У другі раз, разглядаючы мае творы, што віселі на сценах майстэрні, угледзеў невялікі алейны эскіз, намаляваны яшчэ ў студэнцкія гады. Сюжэт вельмі просты. Сакавіцкі дзень. Яшчэ не сышоў снег. На панадворку хаты постаць адзінокай жанчыны, якая ўглядаецца ў далячынь, быццам кагосьці чакае. Сюжэт гэты лёг на сэрца Анатолю. Адчуваў я, што гэтая тэма яму дужа блізкая. Вось так, магчыма, і ягоная маці выходзіла на панадворак, углядалася ў далеч, чакала свайго сына. «Хацеў бы я мець гэты твор у сваёй калекцыі...

*А. Мара. Маці.*



Шчыра кажу, — звярнуўся Анатоль да мяне. І я ўжо на адваротным баку карціны пішу дарчыя словы шаноўнаму паэту, як ён раптам пытаецца ў мяне:

— А хто гэтая жанчына, якую ты намаляваў?

— Мая маці, — адказваю яму.

— Маці? Не... Маці — гэта святое. Не магу я адрываць ад твайго сэрца гэты твор.

Так і застаўся гэты студэнцкі эскіз у маёй майстэрні з надпісам на адваротным баку: «Гэтую карціну, кампазіцыю я напісаў у тыя гады, калі маці мяне чакала і чакала. Няма ўжо маёй гаротнай хаты і маці. Таму дарую працу Тамары (сястра Анатоля Сыса — **А.М.**) і Анатолю Сысу». 27/06/2003 г.

Трэба адзначыць, што ў Анатоля адносна твораў выяўленчага мастацтва былі свае ацэначныя крытэры. Яму падабаліся творы, якія западаюць у душу, хвалююць.  Ля карцінаў «постмадэрна», дзе творца хацеў здзівіць глядача сваёй формай, нечаканасцю каляровых плямаў, ён праходзіў мімаходзь. Часам ацэнка паэта выражалася ў двух словах: «Ты пралятаеш...»

У сярэдзіне 90-х, калі адбыліся крутыя перамены ў краіне, прыйшоў «новы, а мудры гісторык», Анатоль пачуваў сябе дужа дыскамфортна.

Аднойчы на адкрыцці выставы творчай суполкі «Пагоня» , пасля традыцыйнага фуршэта ў Палацы мастацтва давялося бачыць гэткую сцэну. Сярод запрошаных быў, на той час ужо звольнены, міністр замежных справаў. Анатоль, узяўшы за лацканы адпрасаванага пінжака міністра, амаль са слязьмі на вачах даймаў высокага госця, торгаў за плечы: «Пеця! Я ж прасіў цябе. Выратуй мяне, адпраў амбасадарам за мяжу! Згодзен быў на афрыканскую краіну... Толькі б далей адсюль»... Пеця глядзеў міма паэта і толькі думаў, як найхутчэй бы вызваліцца ад ягоных рук.

Часам дзеянні Анатоля Сыса шакавалі прысутных, і мажліва было іх аднесці да мастацкіх перфомансаў.

Так аднойчы ў адным з кабінетаў Дома літаратараў я прапанаваў яму пазіраваць для малюнка. Ужо падрыхтаваў альбом, алоўкі для накідаў і тут бачу, што Анатоль распранаецца...

Скідвае з сябе ўсё, што прыкрывала цела. «Ты, мастача, малюй мяне як маці нарадзіла. Я перад табою і перад усім светам аголены». Жанчыны і маладыя дзяўчаты з рогатам пакінулі кабінет. Некаторыя былі абураныя паводзінамі паэта.

*З Эдуардам Агуновічам і Анатолем Сысом.*






*А. Мара. Партрэт Анатоля Сыса.*

Тым часам я пачаў маляваць. Анатоль стаяў у позе Апалона. Праз некалькі хвілінаў запытаўся, ці ёсць закурыць. Я адмоўна захітаў галавою. Маўляў, не палю. Тады Сыс кажа: «Пайду ў каго-небудзь стральну». І выйшаў голенькі за дзверы, на калідор. Адтуль панесліся крыкі і войканне жанчын. Нехта абурана загарлаў: «Сыс голы! Міліцыю выклікайце!» Анатоль вярнуўся ў кабінет і задаволена прамовіў: «Голага паэта не бачылі? Ён, паэт, заўсёды перад вамі голы. Рэжце яго, рвіце на кавалкі». Пасля, апрануўшыся, падышоў да мяне, глянуў, што я накрэмзаў. «Ты пралятаеш! — выгукнуў паэт, пабачыўшы малюнак, і дадаў: — Лепей спусцімся паверхам ніжэй у кавярню».

У апошнія гады жыцця неяк не пісалася Анатолю. Я ці то жартам, ці то ўсур'ёз гаварыў: «Толя, пішы вершы. Буду плаціць за кожны твой радок!» «А ты не баішся, што я магу цябе абанкруціць?»— адказваў на маю прапанову Сыс. «Не. Не баюся...»

Прайшло нямала часу, і тут тэлефонны званок: «Гэта я, Толік Сыс!». «Слухаю цябе, Анатоль. Рады чуць», — адказваю. На другім канцы дрота маўчанне. І раптам: «Еду да цябе. Я напісаў верш...» Праз колькі хвілін урываецца ў майстэрню са словамі: «Во, слухай, бацька! — ён часам мяне бацькам называў: — Шрыфтам Брайля па калядным снезе птушкі вершы пішуць...» Я быў агаломшаны. «Толік, віншую! Як гэта табе ўдалося?»— радасна запытваюся. «Ведаеш, прачнуўся, нікога ў пакоі няма. Хацеў тэлевізар уключыць — не

працуе. Я да тэлефона, тое самае. І ў гэткай адзіноце нічога не заставалася, як узяць кавалак паперы і пачаць нешта пісаць. І во, выйшла.» Памятаю той шматок паперы, на якім быў напісаны «залатымі» літарамі гэты верш. Я папрасіў з ягонага дазволу перапісаць паэтычныя радкі, каб не згубіўся. Перапісаўшы, Анатоль уважліва яго перачытаў, каб памылак не было. Нешта паправіў. І гэтак потым верш з'явіўся ў Свет.

Пры жыцці паэт надрукаваў тры зборнікі вершаў. Да апошняга зборніка «Сыс», як ужо казаў, я спрычыніўся. Прыняў удзел у мастацкім аздабленні. Там была цікавая дэталь, якая ўвайшла ў афармленне. Анатоль расказваў, як малым цешыўся, гуляў з глінянай цацкай, конікам, якога бацька знайшоў у баразне агарода. Гэты гліняны конік быў заўсёды з Анатолем як напамін пра маленства. Пазней ён аддаў цацку ў мясцовы краязнаўчы музей. Пры афармленні зборніка вершаў я адшукаў выяву гэтага коніка, і ён, натуральна, увайшоў у зборнік як асноўны элемент афармлення.

Постаць паэта Анатоля Сыса знакавая ў нашай культуры. Знакавая і адметная, як усё наша жыццё. Ягоная творчасць прыпала на гады найноўшай гісторыі. Гісторыі перыяду Адраджэння і Незалежнасці Беларусі. Часу надзеі і кароткага перыяду рэалізацыі ідэй, закладзеных 25 сакавіка 1918 года. Адчыняліся беларускія школы. Дзіцячыя садкі загаварылі па-беларуску. Моладзь ладзіла свае імпрэзы, святы не на пустым месцы, а на спасціжэнні нашай культурнай і гістарычнай спадчыны. Анатоль Сыс як паэт, грамадзянін, сапраўдны Беларус быў заўсёды ў цэнтры падзей з верай, што павінна ж нешта змяніцца на лепшае.

*...Памірай, а жыта сей.*
*Рунь пра сейбіта раскажа...*

*Лістапад, 2019*

З таго часу Белы дом перажыў некалькі перабудоў ды рэмонтаў і не адзін пажар. На сёння гэта больш за сем гектараў зямлі і 132 пакоі. На цокальным паверсе размешчаны дапаможныя службы, вышэй ладзяцца праца, грамадскія прыёмы і мерапрыемствы, а самы верхні ўзровень прызначаецца прэзідэнцкай сям'і.

Найбольш знакамітыя — Блакітны, Зялёны і Чырвоны пакоі, а таксама скарбніца. А ў Авальным кабінеце, які служыць працоўным месцам прэзідэнтам з 1909 года, прымаюцца рашэнні і падпісваюцца дакументы, якія, бывае, кардынальна мяняюць сусветную палітыку.

Кажуць, што найболей экспанатаў пакінула па сабе Жаклін, жонка прэзідэнта Джона Кенэдзі (John Fitzgerald «Jack» Kennedy, JFK). Ахвотна верыцца і ў тое, што менавіта тая, у чыіх жылах цякла магнацкая кроў Радзівілаў, прывезла ў асабняк шмат шыкоўнай старадаўняй мэблі і стварыла непаўторную атмасферу, якая ўласцівая ўнутранай прасторы Белага дома і сёння.

Натуральна, што будынак, у якім захоўваюцца многія сакрэты дзяржавы, дзе жыве і працуе яе першая асоба, амаль што незаўважна, але надзейна кантралюецца і ахоўваецца.

Сакрэтная служба ЗША (Secret Service) была створана ўказам прэзідэнта Аўраама Лінкальна (Abraham Lincoln) 14 красавіка 1865 года, і менавіта ў той дзень яго смяротна параніў у тэатры акцёр Джон Уілкс Бут. Функцыю аховы першай асобы краіны яна пачала выконваць пасля забойства прэзідэнта Уільяма Маккінлі (William McKinley) ў 1901 годзе. Сакрэтная служба паспрыяла і з'яўленню на свет Федэральнага бюро расследаванняў (ФБР), вядомага па абрэвіятуры FBI (Federal Bureau of Investigation). А вось паліцыю для аховы рэзідэнцыі главы дзяржавы і яго сям'і (White House Police Force) сваім распараджэннем стварыў прэзідэнт Уорэн Хардзінг (Warren Gamaliel Harding). Пазней яе перайменавалі ў Executive Protective Services (EPS) і яна стала ахоўваць таксама амерыканскія прадстаўніцтвы ў іншых краінах, а таксама кандыдатаў у прэзідэнты падчас прэзідэнцкіх выбараў. Сёння яна імянуецца Uniformed Division of the Secret Service. Сто агентаў ахоўваюць прэзідэнта на радзіме і столькі ж суправаджаюць яго ў паездках за мяжу.

Пабачыць, праўда, далёка не ўсе, інтэр'еры Белага дома можна, калі запісацца на экскурсію зараней. А вось дэманстрантаў з пераважна палітычнымі лозунгамі і транспарантамі пры ягонай агароджы лёгка перастрэць штодня.

У прылеглым да Белага дома Лафает-скверы (Lafayette Square) цікавіў мяне найперш помнік Андрэю Тадэвушу Банавентуру Касцюшку. Цікавіў і таму, што літаральна два тыдні таму і на беларускай зямлі быў адкрыты помнік знакамітаму ваеннаму інжынеру і ваеннаму дзеячу аўтарства скульптара Гэніка Лойкі.

Каля амерыканскага помніка Касцюшку давялося мне прачытаць міні-лекцыю пра нацыянальнага героя трох краін. Адна з маіх слухачак, пяцідзесяцігадовая амерыканка Элізабэт, якая займаецца нерухомай маёмасцю і тры-

мае ранча пад горадам Шарлотам (Charlotte) у штаце Паўночная Караліна, рэзюмавала: «Зразумела, — Касцюшка гэты быў яшчэ той няміра: сварыўся з урадамі ўсіх краін, дзе толькі ні жыў!» Прыйшлося парыраваць, маўляў, у Парыжы ён не ваяваў, а пераважна вучыўся, і, магчыма, праз тое мае статус усяго толькі ганаровага грамадзяніна Францыі.

Давялося нагадаць таксама, што імя Касцюшкі ўшанаванае ў многіх амерыканскіх мясцінах, і ці не найперш у Вест Пойнце, горадзе, што за 80 кіламетраў ад Нью-Ёрка. Там. На тэрыторыі Акадэміі — вышэйшай федэральнай вайсковай навучальнай установы, гэтаксама ўсталяваны помнік Касцюшку, бо ён у 1778 годзе спраектаваў вайсковы форт, які адыграў ключавую ролю ў вайне за незалежнасць.

А ў мегаполісе, у бора (раёне) Бруклін ёсць мост, вуліца і станцыя метро Касцюшкі!

## МЕТ

Пры Цэнтрал-парку, уздоўж яго верхняй усходняй мяжы, на адрэзку Пятай авеню ад 82-й да 110-й стрыт знаходзіцца так званая Музейная міля (Museum Mile). Зразумела, ёсць музеі і ў іншых месцах мегаполіса, але тут яны сканцэнтраваліся найшчыльней, месцяцца ледзь не на кожнай вуліцы:

Метраполітэн-музей (82 St),

Нямецкі культурніцкі цэнтр імя Гётэ (83 St),

Новая галерэя (86 St),

Музей Саламона Гугенхайма (88 St),

Нацыянальная акадэмія дызайна (89 St),

Нацыянальны музей дызайна Купера-Хьюіта — частка Смітсанаўскага інстытута (91 St),

Габрэйскі музей (92 St),

Міжнародны цэнтр фатаграфіі (94 St),

Музей Нью-Ёрка (103 St),

Музей лаціна-амерыканскага мастацтва Ла Барыё (104 St),

Музей афра-амерыканскага мастацтва (110 St).

З 1979 года праводзяцца фестывалі Музейнай мілі. Штогод у другі чэрвеньскі аўторак Пятая авеню робіцца пешаходнай, а музеі можна наведваць задарма.

У пэўныя дні і гадзіны некаторыя музеі можна было наведваць, зрабіўшы даволі сімвалічнае ахвяраванне ў адзін даляр. Практыкаваў гэта і самы вялікі з іх, Метраполітэн-музей (The Metropolitan Museum of Art), але цяпер квіткі каштуюць турыстам па 25 даляраў. (Аднак гэта не спыняе і кітайцаў — самых шматлікіх, самых заўважных і самых чутных з экскурсантаў).

Заснавала МЕТ (амерыканцы неверагодна любяць рознага роду скарачэнні!) у 1870 годзе суполка амерыканскіх бізнэсоўцаў і аматараў выяўленчага мастацтва, а ў цяперашні будынак, спраектаваны ў неакласічным стылі

амерыканскімі дойлідамі Калвертам Во і Джэйкабам Молдам, музей пераехаў праз дзесяць гадоў. Асноваю збору паслужылі тры прыватныя калекцыі — 174 творы еўрапейскіх жывапісцаў Антоніса Ван Дэйка, Ніколы Пусэна, Франса Халса і Джавані Бацісты Цьепала.

Сёння там дэманструецца і захоўваецца больш за два мільёны адзінак, якія складаюць шмат тэматычных калекцый. Музей ганарыцца адным з самых прадстаўнічых і поўных ва ўсім свеце зборам егіпецкага мастацтва, зборам палотнаў Вермеера Дэльфцкага, шыкоўнымі калекцыямі імпрэсіяністаў і постімпрэсіяністаў, вялікай калекцыяй гравюр, а таксама фатаграфій. Частку музея складае Інстытут касцюма, хораша прадстаўлены мастацтва Азіі, мастацтва Афрыкі, Акеаніі і Амерыкі, мастацтва Старажытнага Усходу. Адзін з самых грунтоўных аддзелаў прысвечаны зброі і даспехам розных часоў і культур. Не можа не ўражваць і калекцыя музычных інструментаў.

МЕТ нездарма займае другое месца пасля Луўра па колькасці наведвальнікаў — там іх праходзіць больш за сем мільёнаў за год! Пры ўваходзе можна бясплатна ўзяць і механічнага экскурсавода з навушнікамі, выставіць у ім адну з дзясятка моў, а таксама план музея. Вельмі сімпатычна і зручна наведнікам, што пры кожным экспанаце ёсць шыльдачка, на якой акрамя заўсёднай, звыклай атрыбуцыі — імя аўтара, гадоў яго жыцця, назвы твора, матэрыялаў, у якіх ён выкананы, імя фундатара або ахвярадаўцы і іншых — падаюцца дватры цікавыя факты або каментарыі пра гэты твор. Да прыкладу, у зале сучаснага мастацтва 1900—1950-х гадоў пры «Закаханых у бэзе» Марка Шагала з шыльдачкі Mark Chagal, French (born Russia, now Belarus), 1887—1985. Lovers among Lilacs, 1930. Oil on canvas. Bequest of Richard S. Zeisler, 2007 (2007.247.2) і тлумачальнага тэкста на ёй можна дазнацца шмат цікавага. Вызначаны Шагал як французскі мастак, народжаны ў Расіі, якая цяпер нібыта сталася Беларуссю, а само палатно патрапіла ў музейны збор у 2007 годзе ці не ад далёкага сваяка нашага выдатнага мастака і дызайнера Уладзіміра Цэслера.

Мабыць, у кожным мастацкім музеі свету ёсць свая «суперзорка», свой брэнд — найбольш раскручаны, самы знакаміты і прадстаўнічы твор. Нібыта і не выпадае параўноўваць, ставіць у адзін шэраг старажытнагрэцкую скульптуру, татэмны выраб паўночнаамерыканскіх індзейцаў і французскае постімпрэсіяніцкае палатно. Але ў фларэнцыйскай галерыі Уфіцы знаўцы падоўгу прастойваюць перад «Нараджэннем Венеры» Сандра Бацічэлі, у маскоўскай Траццякоўскай галерэі аматары мастацтва найперш шукаюць ікону «Тройца» Андрэя Рублёва, у парыжскім Луўры натоўпы турыстаў прабіваюцца да Нікі Самафракійскай і да Леанардаўскай «Моны Лізы», а пры музеях Ватыкана пілігрымы адстойваюць вялізныя чэргі, праходзяць амфіладаю шматлікіх залаў найперш дзеля таго, каб дапяць Сікстынскай капэлы і пашанотна знямець перад шэдэўрам тытана Рэнесансу Мікельанджала Буанароці.

У Метрапалітэн-музеі амаль што немагчыма падступіцца да ўзятага пад таўшчэзны шкляны паралелепіпед палатна. Гэта — адзін з 36 вядомых аў-

тапартрэтаў Вінцэнта Вілема Ван Гога, невялікае «сэлфі» рудавалосага галандца ў яго позняй, надзвычай экспрэсіўнай, пастознай жывапіснай манеры. Менавіта перад ім гіды прамаўляюць найбольш разгорнутыя аповяды, на яго нацэльваюць шматлікія фотааб'ектывы наведнікі музея, перад ім, змяняючы адна адну, тоўпяцца турыстычныя групы.

## Лінкальнаў мемарыял

Пашанцавала пабыць у Вашынгтоне і 28 траўня — на Дзень памяці (Memorial Day), на свяце, падчас якога амерыканцы ўшаноўваюць памяць сваіх герояў. Настрой ва ўсім горадзе панаваў святочны, а зорна-паласатых («stars and stripes») сцягоў у горадзе было куды болей, чым звычайна.

Не разумею псіхалогіі, ладу жыцця і каштоўнасцей байкераў, недалюбліваю іх на радзіме, але тут яны не раздражнялі. Аказваецца, ад раніцы збіраліся матацыклісты на вялікіх паркінгах каля Пентагона (Pentagon), а потым дзясяткі тысяч (!) іх цягам гадзін (!) ехалі парадам праз увесь горад, мінаючы Белы дом і Кангрэс ажно да помніка В'етнамскай вайны.

Гэтаксама па ўсім горадзе, разняволеныя і радасна-ўзбуджаныя, шпацыравалі амерыканцы, адпачывалі ў скверах і парках, перакусвалі на лавах і на газонах.

Адзін з герояў нацыі — гэта, несумненна, і самы шанаваны тут амерыканскі прэзідэнт Аўраам Лінкальн (Abraham Lincoln). Ягоныя суайчыннікі любяць казаць, што калі першы прэзідэнт Джордж Вашынгтан стварыў іх краіну, дык шаснаццаты прэзідэнт Аўраам Лінкальн вярнуў ім яе, а таксама вызваліў ад рабства.

Адразу пасля пакутніцкай смерці Лінкальна Кангрэс прыняў рашэнне ўзвесці мемарыял у ягоны гонар. У конкурсе перамог дойлід Генры Бэкан (Henry

*Мемарыял Аўраама Лінкальна*



Bacon). Першы камень быў закладзены толькі ў 1914 годзе, а адкрылі мемарыял у 1924 годзе, праз 57 гадоў пасля смерці Лінкальна.

Гэтая велічная пабудова прымушае згадаць грэцкі Парфенон. Памеры яе гэтаксама ўражваюць: у даўжыню складае яна 62 метры, ушыркі — 41 метр, а ўвышкі — 30 метраў. Трыццаць шэсць бялюткіх калон сімвалізуюць штаты, якія ўваходзілі ў ЗША падчас прэзідэнцтва Лінкальна, але на франтоне цяпер можна прачытаць назвы сарака васьмі штатаў, якія складалі краіну на момант адкрыцця мемарыяла. Пазней, у 1959 годзе пры ўваходзе ў будынак прышрубавалі шыльду з назвамі Аляскі і Гаваяў.

Будаўнічыя матэрыялы ў пэўным сэнсе гэтаксама сімвалізуюць «E PLURIBUS UNUM» — паяднанасць краіны: мармур для абліцоўкі знешніх сцен прывезлі з Каларада, для аздобы столі — з Алабамы, на падлогу — з Тэнэсі, а вапняк на ўнутраныя сцены здабывалі ў Індзіяне.

Дарэчы, выяву таго храма лёгка пабачыць не толькі амерыканцу — дастаткова толькі дастаць з партманета 5-даляравую купюру!

Усярэдзіне будынка размешчана гіганцкая, што той старажытнагрэцкі Зеўс, 19-метровая статуя Аўраама Лінкальна. Скульптар Даніэль Чэстар Фрэнч (Daniel Chester French) выявіў прэзідэнта, які сядзіць у крэсле і задуменна пазірае ўбок Капітолія і манумента Вашынгтона (Washington Monument), абеліска ў гонар першага прэзідэнта, які ў прастамоўі імянуюць «напільнікам».

Прэзідэнтава фігура вагою ў 175 тон і вышынёю амаль шэсць метраў філіграння складзена з дваццаці васьмі мармуровых блокаў. Па-над ёю выгравіраваныя словы: «IN THIS TEMPLE AS IN THE HEARTS OF THE PEOPLE FOR WHOM HE SAVED THE UNION THE MEMORY OF ABRAHAM LINCOLN IS ENSHRINED FOREVER» («У гэтым храме, як і ў сэрцах людзей, для якіх ён адратаваў Саюз, памяць пра Аўраама Лінкальна захаваецца назаўжды»).

На паўночнай і на паўднёвай сценах мемарыяла выгравіраваныя Гетысбергская прамова Лінкальна і тэкст ягонага другога інаўгурацыйнага звароту, а па-над імі змешчаны барэльефы, якія ўвасабляюць свабоду, справядлівасць, адзінства, братэрства і дабрачыннасць.

Тут, на прыступках мемарыяла выступаў са сваёй знакамітай прамовай «У мяне ёсць мара» Марцін Лютар Кінг (Martin Luther King). Тут разумееш, што для амерыканцаў гучныя словы пра свабоду, правы чалавека і дэмакратыю — гэта зусім не праява майстравітай рыторыкі. Пачуваешся на мемарыяле папраўдзе нібыта ў храме, асабліва калі ў шматтысячным натоўпе падчас агульнанацыянальнага свята слухаеш пранікнёныя ўрачыстыя гімны ў выкананні ста пяцідзесяці харыстаў.

## Любімы фатограф

Здаецца, пісаў раней пра тое, што культавы раман сярэдзіны пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя амерыканскага празаіка Джэрома Дэвіда Сэлінджэра

(Jerome David Salinger) «Лавец у жыце» («The Catcher in the Rye») нярэдка імянуюць у нас перакладам з рускага перакладу — «Над прорваю ў жыце». Ягоны галоўны герой, шаснаццацігадовы юнак Холдэн Колфілд разважае і пра тое, што многія эпізоды жыцця мы пражываем як мінімум двойчы: тады, калі яны адбываюцца насамрэч, і пасля, калі думаем пра іх.

Я дадаў бы — а таксама, калі ўспамінаем іх або разглядаем хай сабе і ўчорашнія фотаздымкі, бо адлюстраванае на іх ужо сталася гісторыяй, яе радаснымі альбо сумнымі, пазітыўнымі ці негатыўнымі фрагментамі...

Дачушка Алеся — мой самы любімы фатограф, бо здымае заўсёды ахвотна і з пазітыўным настроем, паспявае кампазіцыйна ўдала выбудаваць кадр і разам з тым падвесяліць, прымусіць усміхнуцца, перш чым націсне на кнопку фотаапарата альбо айфона. А яшчэ мае яна файную завядзёнку — пасля кожнай значнай вандроўкі кампануе, рыхтуе, а потым і раздрукоўвае тыражом у 4-5 асобнікаў і дорыць унікальныя памятныя фотаальбомы выбранага.

Дужа хацелася б спадзявацца, што яшчэ раз пабываю за акіянам, каб пабачыць, як дачушку Алесю ўшануюць дыпломам найпрэстыжнай Школы бізнэсу Нью-Ёркскага ўніверсітэта, што яшчэ раз пабачу людзей і мясціны, якія мне палюбіліся, што наноў адкрыю для сябе тыя, што яшчэ не бачыў на свае вочы. Што зноў пабываю ў багатых музеях і карцінных галерэях, схілю галаў перад помнікамі і манументамі айцоў-заснавальнікаў амерыканскай нацыі і дзяржавы, зноў палюбуюся на Крайслер-білдынг і іншыя хмарачосы Манхэтана, зноў прагуляюся па Пятай авеню і па Высокай Лініі (Hight Line) — колішняй чыгункі, ператворанай у надземную паркавую зону, зноў акунуся ў акіянічныя воды на пляжах Брайтан-біч (Brighton Beach) і Лонг-айленда (Long Island), пасмакую бургераў з ялавічыны, марскіх грабенчыкаў ды вустрыц. Хочацца верыць, што пабываю на баскетбольным матчы НБА (National Basketball Association, NBA) і ў славутым Кітайскім квартале (Chinatown), што ўдасца калісьці дапяць Ніягарскага вадаспаду (Niagara Falls) і нават легендарнага Галівуду (Hollywood)!

Калі крыху перафразаваць другога амерыканскага класіка, Эрнэста Хэмінгуэя, дык атрымаецца: «Нью-Ёрк — гэта свята, якое заўсёды з табою!»

Таму на развітанне прамаўляў на тамтэйшым слэнзе не «Good by 'Meryka»— «Бывай, Амерыка!», а «See ya later!» — «Яшчэ пабачымся!»

*17 траўня—5 чэрвеня 2018 года,*
*Мінск— Нью-Ёрк — Вашынгтон — Нью-Ёрк — Мінск.*

**Фотаздымкі Алесі Сіўчыкавай і з архіва аўтара.**



# Раіса Крывальцэвіч

празаік. Аўтар кніг: «Дарога» (2014 г.) і «Блізкі свет. Хатні слоўнік — успамін» (2016 г.). Адна з пераможцаў конкурсу Саюза беларускіх пісьменнікаў «Жанчына ў сучасным грамадстве» (2010 г.). Нарадзілася ў 1960 годзе на Наваградчыне. Жыве ў Мінску.

# Мае дні...

*(з дзённіка 2017 г.)*

***Як табе напісаць? Калі б жанчыне — нанізала б каралі... А мужчыну? Назбіраць мо марскіх каменьчыкаў — вабных цукерак дзяцінства? З чым усярэдзіне? Тады былі — з разынкамі. Сёння ёсць шакаладныя і з арахісам. Ты якім аддасі перавагу?***

# Зімовае

## Прыехала

Учора выйшла з маршруткі — прыехала! Праз дзесяць дзён...Выйшла — у белым тумане на гары адчула цябе — ты ва ўсім для мяне прыгожым, усцешным...

Ледзь не бегла — дадому! Мікола кажа, што мяне, як ваўка ў лес, так дадому цягне. Хоць і холадна тут — загубіла газавае ацяпленне — не дагледзела, з'ехаўшы, потым перажывала — бацькоўскую працу знішчыла! Дзед Мароз дагледзеў...

Казіку цяпер добра — ізноў сядзіць на вакне, зазірае ў кухню — зноў надзея на прысмакі з'явілася...

Пра бацька — прышлю пазней. Добрых дзён табе...

**P.S.** У Менску перачытала тваё — з Бялорускіх Зэшытаў Гістарычных, 2002-га года. Мусіць, адтуль і пачалося маё знаёмства з табою. Далі мне першую магчымасць сустрэцца. Тады і адчула да цябе нешта роднае, блізкае-блізкае, што засталося ў памяці — ці было ўжо даўно? — усплыло пасля Сустрэчы ...

## З пісьма

Праз чатыры месяцы твой дзень нараджэння. Слова «вясна» так салодка гучыць — няўжо будзе вясна?..

Адкрыла для сябе Стральцова. «Смаленне вепрука» прачытала толькі цяпер, хоць даўно чула ўхвальныя водгукі. Цяпер ён будзе другім маім любімым пісьменнікам — пасля Вячаслава Адамчыка. А ў цябе — хто?

У Стральцова дзяржальна на касавільне — «пупок» і «лучок». А ў нас — ад бацька ведаю — «кулька». А ў вас? Прыйдзе вясна, лета, будзем касіць! «Касі, каса, пакуль раса...»

*23 студзеня 2017, Наваградак*

## Успаміны наведваюць

Памяць, ты — цёплая печ для душы. Дровамі табе — успаміны. Тулюся да цябе ў зімовы холад. Дзякую, што грэеш.

Дні дораць успаміны. Учора ўявіла твой вечар у варшаўскім пакоі, гатэльным. Ты напісаў мне — з «Гіле», здаецца, а мо і з «Вільнюсу», што, прыехаўшы, маеш дзіўнае адчуванне — я — побач... Так і было...

Сёння, бегучы па двары, заўважыла, што вакно маё ў кухні гарыць «кволым, нібы збалелым жоўтым святлом» — адчуваннем Стральцова. Блізкі мне стаў Міхась Стральцоў.

Прыгадалася, як ты напісаў, што стаў глядзець на раннюю — каштанавую — восень маімі вачыма. Я адчула тады — мы блізкія душамі, ты прыняў мяне ў сваю!

*24 студзеня 2017*

## Праглядала свае здымкі

Таямніца Пачуцця так лёгка высвечваецца на здымках нядаўна мінулых гадоў. Бачна, што напоўненая ім, перапоўненая — аддаваць трэба! Успомніла — я ўсміхалася так даўно-даўно, у сямнаццаць... Любіла той здымак, ды не захавала... Вярнулася ўсмешка!

*23 .01.2017*

## На ўзыходзе дня

Глянула сёння з вакна — воблачкам ярка-ружовым, радасным, усцешным на ўсходзе — ты для мяне!

Учора была ў горадзе. «Здароў, Міхайлаўна!» «Прывет, Вацлаваўна!» — здаецца, людзі застылі ў сваім дробным, штодзённым. Назвы крамкаў- кіёскаў — «Креатив», «Джинса» — такая «папса»! Усё тая ж рэклама мужчынскага дэзадаранту: «Один пшик — весь день мужик!» І «банэры» — ад Ленкі пачула гэтае слова. Прыдарожны агледзелі з ёю — беларускую мову і гісторыю прапагандуе. З аднаго боку Цяпінскі ў вопратцы сярэднявечнай, у дзіўным капелюшы, чорна-белы, худы і збеднены — так мала пражыў, усяго пяцьдзясят гадоў. Падумаеш, нешта там надрукаваў — вунь поўна ў кіёску газетаў, часопісаў. З другога — «Смак беларускай мовы» — «Кавун» з карцінкаю і подпісам малымі літарамі па-руску — «арбуз». Вучыце, дураньчыкі, мову, на якую забыліся, па прыдарожных слупах!

Самае прыгожае ў зімовым Навагрудку — гэта дрэвы. Яны на гарадскіх вуліцах усе ў пудры цукровай — снежныя-снежныя! Салодкі зімовы горад... Шэраньіней абняў пяшчотна кожны выгіб усякай галінкі на замкавых ліпах, мароз шырокім ледзяным лязом асцярожна атачыў кожную — не падыходзьце — мая!

Раскідзістая вярба — «ярба» па-бацькаваму — каля навагрудскага гатэля, дзе ты спыняўся аднойчы ў 204-м пакоі. Запомніла нумар — проста так, каб успамінаць. Для гісторыі... Апушчаныя долу галіны празрыстымі ледзяшамі звісаюць, доўгімі шклянымі цукеркамі дзяцінства — «дзюшэсам» у шчыльнай сіняй з жоўтай палосачкай па канцах паперцы. А яшчэ — «палачкай -стукалачкай» — тоўстай, у празрыстай абгортцы — з добры сасуль даўжынёю...

Учора да Ленкі Пуцатай хадзіла — па мудрасць. Яна ўсё па жарсці маёй біла — з самага пачатку. Казала — мяшка развязаць не можаш (цыбулю магазінную вызваляла) — не ўцерпіш, бо жарсная — рэзаць, рваць табе трэба. Казала, што жарсць небяспечная — звар'яцець можна. Яна маму звар'яцелую чатыры гады даглядала...

Дык я й хацела шалёнага Кахання — Шалкевіча слухаючы, зайздросціла песеннаму пачуццю — «Шалёная, шалёная, шалёная...»

Ленка спачатку маўклівая была, і я падмоўчваць старалася, хоць звычайна сакачу бясконца — радая апынуцца ў Ленчынай кватэры, на кухні — гатуем есці, каб «пасядзець»... Але сакатанне, што з радасці ідзе, раздражняць можа — па сабе ведаю, калі да Міколы прыязджаю — ён рады, гаворыць і гаворыць, а я — «на іншай хвалі»...

Не хачу, каб Ленка казала, што мы «на розных хвалях». Падстройваюся, хоць і не магу не заўважыць чарговы раз услых — не дзіва, што ты адна — ніякі мужык не вытрываў бы! Хаця ў маіх словах болей крыўды, чым праўды — Пуцатая строга сочыць, каб смецця ў ракавіну не кідала...

Ленцы цяжка апошнім часам. Яна так хацела, каб чалавецтва паднялося на новую ступень развіцця — свядомасць падвысіла! Для гэтага трэба было, каб адзін — толькі адзін! — адсотак вернікаў знайшоўся — тых, хто з Богам звязаны цесна. Не атрымалася — чытае Ленка паведамленні ад Таццяны Мікушынай на сайце «sirius». Прайгралі Сілы Дабра. Цяпер нас чакаюць катаклізмы і беды — такі ўжо выбралі чарговы раз шлях. Ленка перажывае — не паспела і яна зрабіць, што трэба было, мала зрабіла, згубіла час...

«Думаеш, проста так — Блавацкая, Рэрыхі, Таццяна Мікушына цяпер?» — кажа Ленка.

Яна ж Пуцатая — болей ведае. Пуцатая і лятаць не баіцца, не тое, што я — у сне мо разы са два за жыццё лятала...

Ленцы ўсё хочацца маўчаць. Разумее, чаму так трэба маўчанне Настаўнікам. «Ведаеш, — кажа, — чым вялікшы актор, тым даўжэй умее трымаць паўзу!»

І сны яна бачыць няпростыя. Учора сніла, што хаваецца за тумбачкаю — яе хочуць забіць. Выцягваюць і вядуць. І тут яна перастае баяцца. Ідзе і дзякуе Богу, што вось хутка з Ім будзе. Хоць і хацела жыць, але адчула, што добра ёй будзе Там, з Богам... Прачнуўшыся, падумала пра Бабін Яр... Ленка цяпер разумее — некаторыя людзі маглі ісці на смерць, на расстрэл з такім пачуццём — удзячнасці і спакою...

Мне цяжка прымірыцца з тым, што знішчалі людзей, што звялі лепшых, а Пуцатая ўмее гэта адхілена патлумачыць і прыняць.

Мне трэба Каханне, а Ленка прайшла — кажа, што ёсць большыя Вышыні — яна імі жыве...

Пуцатая кажа, што ёсць розныя ўзроўні ўсведамлення. Думаю — можа, я паднялася на астральны трошкі, а ты даўно прайшоў яго, і ты — на ментальным? А можа, яшчэ вышэй?

Стукаюся, як у сцяну — Ленцы скарджуся. Яна ў адказ: «А ты прайдзі праз сцяну, стань празрыстай!»

Кажу, што, падобна, буду кахаць да канца жыцця... А яна: «А далей?» Для Пуцатай жыццё не заканчваецца тут, на Зямлі...

Далей мне дадуць новую тэму — гэтую мушу прайсці да канца.

Чамусьці так хочацца ведаць пра тэхніку — як яна дзейнічае, пра самую элементарную — бытавую — пра прас, халадзільнік, і як капаюць студні, і як працуе кампутар. Нават не ведаю ўцямна, як працавала газавае ацяпленне з катлом — цяпер жа ў мяне ўсё гэта ветрам і марозам панішчанае...

Ленка кажа, што, мо, нездарма каля мужчынаў-навукоўцаў ацiраюся — мо, у наступным жыцці займацца нечым буду. Што добры настаўнік акрэслівае новую тэму наперад...

Ленка апавядае пра душу — як яна пасылае асобу ў гэты свет, каб тая атрымала досьвед. Асоба быццам рукою пад полагам шарыць — невядомае намацвае. А потым, калі разаўецца да ўзроўню душы, яны зліваюцца, і дыктуе душа тады...

Пуцатая гаворыць пра дзяцінства — малыя ўсе мы, чалавецтва, задоўга гуляем з цацкамі... Мо і я так — з Каханнем? О не, ніколі яго не аддам! Яно мне — Боскім Святлом!

...Дый Ленка потым сказала — не слухай нікога, ідзі... І зноў паўтарыла — была б пакараная, калі б не пайшла — далі б яшчэ большае выпрабаванне...

*25 студзеня 2017*

## Пісьмо з Менску

Хочацца пісаць табе ўсялякія дробязі — маляваць карцінку будзённага жыцця, што за вакном, з вышыні сёмага паверха — рух людзей, нязвыклы мне пасля слухавіцкай адзіноты — зрэдку, калі чалавек па вуліцы пройдзе, дык усе ў вакно і ўставяцца...

Абедзенны час. Дзеці-школьнікі зноў спускаюць свае заплечнікі з калямагазіннай гары, каб з'ехаць услед за імі, разлёгшыся на ўвесь рост, уніз па лёдзе. Заслужанае пасляшкольнае задавальненне. Чыпсаў ужо паелі — галубкі цярпліва чакалі падачкі. Бацько сказаў бы — «падаянкі»...

Вунь у «поўным абмундзіраванні» сабачка прагульваецца з цёткаю. Сабачку не хапае ў зімовым убранні адно шапкі. Ён у «камбінзоне» — мама б сказала. І пасмяялася б з непрыкрытага «зэра» і ўстаўбуранага хваста над ім — не паддаецца апратцы.

Цяжка спускаюцца па сходах, уляпіўшыся за парэнчы, старыя — з кульбаю і без яе. Лёгка ўзбягаюць маладыя. Малыя — у вазках, на самакатах і роварахпапіхачах — ззаду дарослыя пхаюць.

Пражываем свой, нам адведзены, час... Ці ўсведамляем сябе — жыццё свае душы? Ці — прачнуўшыся?

Апошнія амаль восем год — хутка восем, калі ў Вільні сустрэла цябе — для мяне значныя жыццём унутраным, зменамі ў сабе...

Ужо чакаю 11 сакавіка. Тады — прачнулася. Ужо не засну... Але спачатку будзе 11 лютага — год, як тато пайшоў...

*1 лютага 2017, Менск*

### Жыву ў Любові

Дзень прыгожы які! Марозлівы, дык і сонейка шмат. Так заўсёды — як нешта цяжкае, то і падтрымка даецца. Любіць нас Бог і ніколі не пакідае. Проста, мо, не заўсёды разумеем.

Людзі ўцепленыя, а на птушках — нічога. І як яны махаюць у халодным паветры раскінутымі крыламі?

Зіма пастарэла. Стаптаныя чорныя дарожкі на вуліцах і ў дварах. Няма новага снегу — стары ўмерзлы нясвежым глядзіцца. Доўгія сонечныя палосы на заснежанай зямлі.

Гарадскія птушкі нерухома сядзяць на версе высокай бярозы — добра ім там, грэюцца. Сонейко, яно і ў мароз грэе.

Ты маё любае сонейко!

*9.02.2017*

# Вясновае

### Вясна

У нас тут вясна. У парніку забегалі павучкі — мае заўсёдныя суцяшальнікі. Зноў сёння думала ўсцешна, што гэта твае думкі, што ты пра мяне памятаеш...

Каты марцуюць. Суседскі Машэка і два незнаёмых — рыжы і чорна-белы — змагаюцца за чорную і пухнатую, як хмара, кошку, што падкормліваецца ў мяне. Енчаць, пагражаючы адзін аднаму, так, што бойкі малады певень, які належыць суседцы Ленцы, і якога сусед Вінцэсь называе «халасцяком», — гэта ён нахабна ганяе мяне на ўласнай тэрыторыі, — дык гэты нахаба палохаецца кацінага енкату — прыціхлы стаіць, услухоўваецца. А суседаў сабака Нік «ланцуг рве» — ядавіта-заўзята брэша, раздражнёны кацінымі мужчынскімі разборкамі.

Сцяплела. На гары (гарышчы, значыць) пахне дзяцінствам — цёплым пылам вакна ў шчыце, аб шкло якога біліся, прачнуўшыся, матылькі-крапіўнікі. Мы засушвалі матылькоў — каюся кожны раз... Не ўмела шанаваць прыгажосць — так хацелася прысабечыць! Зрабіць нерухомым, каб належала мне. Мусіць, перанесла гэтую жарсць і на адносіны — толькі зараз здагадалася!

Забіць любоўю — ужо ведаю, што гэта такое... А яшчэ нядаўна не ведала...

Пацягнула шашлыкамі — у Слухавічах таксама іх любяць. Лілька як скажа аматарам шашлыкоў, што гэта — «пах раку» — па тэлебачанні чула, дык варожа глядзяць. Іх зразумець можна...

Што яшчэ? Шпакі так рана прыляцелі! Худзенькія, стомленыя з дарогі — зазірнулі ў старую бацькаву шпакоўню з адвіслаю сківіцаю-дном — няма каму рамантаваць. Не ўпанаравілі, зніклі...

Сонейка цешыць пяшчотаю. Шукаю вачыма сонечны твар — добра з ім!

Птушачкі поўняць прастору мілымі гукамі. Вароны перабіваюць ціньканне і шчабятанне сваім бесцырымонным, упэўненым «карр»...

Палю печ, нанач грэю ля кафлі гарачай коўдра. Успамінаю маму — гэта яна так рабіла — акрывала нас з Люсяю нагрэтаю і цалавала у лоб...

Дзед Мароз памарозіў мае яблыкі — тысячу разоў меў бацько рацыю, калі казаў — «ні аспадыня». У цяпле пачалі псавацца — зойдзеш, тхне перагарам — быццам бацько — яшчэ малады — прыйшоў дадому, добра выпіўшы. Што за даўні і нечаканы ўспамін!

Пахі дзяцінства вяртацца сталі — раптам у кухні — ні села ні пала! — водар перапаленага цукру з малаком. Засумаваўшы па прысмаках, выраблялі з Люсяю цукеркі — карамель хатнюю...

У хату зайшла, напрацаваўшыся. Бацькавае прыйшло, іранічнае — «Дала духу!» І мамінае чамусьці ўскочыла папераджальнае: «Мінецца табе!..»

*1— 5 сакавіка 2017,Слухавічы наваградскія*

## Марац

Начны прымаразак не спяшаецца сыходзіць са збялелай ад холаду травы. Чорныя шпачкі на чорных гольках яблыны, ля шэрай хаткі-шпакоўні — усё той жа, з адвіслаю барадою-дном, каторы дзень спраўляюць «улазіны» (мама сказала б — «уходзіны»). Зноў выводзяць сваё — цурклівая, з пералівамі, з прысвістам, радасная песня — малітва шпачыная.

Роўненькія сцяблінкі пяшчотных падснежнікаў палеглі — прыціснуліся белай шчочкай да маці-зямлі — не ўстоялі перад холадам. Няма сонейка. Вось як з'явіцца — усё заўсміхаецца ўсцешна, набудзе іншае адценне, павесялее.

Халодны дождж. Шпачкі ўсё ж выспеўваюць на стрэхах сваіх хаткаў, на высокай антэне насуперак холаду і ветру. Вітаюць, славяць, клічуць вясну. Птушкі — яны ж, каб спяваць. Дапамагаюць вясне ўсталявацца. Як жа яна без іх?

Пераходны перыяд... Птушкі — мужныя, кветкі — мужныя. Кожны дзень — нечаканасць. Начны прымаразак, дзённую слоту — усё прымаюць як належнае. Ведаюць — мінецца холад. Прыйдзе цяпло.

А пакуль што трэба трымацца. «Марац адмарозіць палец» — адкрыла наўздагад Слоўнік, і выскачыла бацькава. Даўно паўтарэння не чую — сама цяпер успамінаць мушу...

*20-21 сакавіка 2017, Слухавічы*

## Таямніца печы

Елка страляе — напамін пра бацька. Гэта ён вучыў мяне складаць дровы ў печы на «пакладунэ», каб лёгка запальваліся, і што страляе менавіта елка...

Саламандраў — духаў вагню шукаю. Заплюшчыла вочы... На мяжы паміж сном і яваю — мама спяшаецца ў шэрым...так радасна стала!.

Паставіла есці ў каструльцы-рондалі і прыслухоўваюся да гукаў... Пах пайшоў. Дастаю ў чаканні — ну, што там атрымалася? У дзяцінстве так з печы, з духоўкі маміную капусту выцягвала — твор смаку. Печ — майстрыца ў гатаванні. Мае сваю таямніцу — нікому не перадае.

Звон пустых вёдраў весяліць — ідзе жыццё! Нагадвае пра маму, калі яна ішла па ваду — заўсёды цешыў знаёмы брэнгат у калідорчыку.

Павесіць пасціранае — прадэманстраваць свету — я тут, я жывы! І спадзяюся на лепшае. Рукавы за ноч пазамярзалі — адтаюць на сонейку...

*20-24 сакавіка 2017*

## З'язджаю...

Сонечны дзень. Вецер шугае вясною. Пакідаю свае кветкі. Еду ў вялікі горад. Аблокі — кавалкі белай ваты, раскіданыя па сінім небе. Як добра, што ты сказаў тады, што любіш, як Хмарку. І як Ветрыка любіш. Усміхаюся Небу праз вакно маршруткі...

*27 сакавіка 2017*

## Сінія кветачкі пралескі

Нябесныя вочкі на зямлі. Як вочы мае сяброўкі Пуцаценькай. Здалёк добра на іх глядзець — хвалююць блакітам і сінню неба на шэрай, яшчэ, здаецца, безжыццёвай зямлі. Першая веснавая радасць у лесе... А яшчэ — птушкі, што на дзіва цёплым сённяшнім днём бесперапынна славяць вясну на высокіх хвоях і бярозах — бліжэй да Неба, куды чалавек — шкада! — так мала накіроўвае думкі і пачуцці...

*2 красавіка 2017*

## Слухавіцкія думкі-ўспаміны

Дым уцякае ў комін, а я думкамі — да цябе. Вырашыла ўзнагародзіць сябе пісаннем, хоць і разумею — ты заняты сваім — калі табе чытаць...

Падпаліла печ нанач, халадыня ў хаце — пара з рота заўважная, і пішу табе пад вясёлы трэскат дроў.

Сёння шчыравала ў агародзе — бульбачку «датэрмінова» садзіла — каб хутчэй маладая была, і каб меней працы потым на мяне звальвалася — першы заход. Успамінала, як навесну пасля мамінага сыходу садзілі ўтраёх — бацька паказваў, а мы з Люсяю — «на падхваце», недасведчаныя. Цяпер вось адна ... Люся зможа прыехаць у канцы траўня.

Пра цябе ўспамінала — не абышлося, вядома, без гэтай згадкі — стаяла тут аднойчы вясною ў ружовым воблаку Пачуцця, адгароджаная шчыльна ад мамы, якая ўсё нешта патрабавала, незадаволеная была. А я не з ёю была, не побач, не на Зямлі...

Яшчэ доўга жыла ў гэтым Воблаку. Шмат вёснаў. Цяпер з яго выйшла, але яно здаецца, недзе побач...

Увесь Божы дзень у агародзе пратаўклася. Увечары Месячыка — да таго мілы! — папрасіла, каб сказаў табе, каб перадаў... Месячык адказаў, што ты і так ведаеш... Нават ён ад мяне стаміўся...

Заўтра Дабравесце праваслаўнае. А ў нядзельку ўжо Вербніца. Бацько любіў успамінаць, як ён сваёй мацяры, маёй бабе Аўдолі, «ярбу» да свянчэння прыгатаўляў — у ваду ставіў, каб распусцілася. А мама дзеду Гальяшу, дзядзьку свайму, свянцонай вады з уселюбскай царквы не дастала — людзей поўна на свята таўклося, дык зачэрпала з рэчкі свае, Плісы, у вёску з мястэчка вяртаючыся. Дзед Гальяш дзякаваў, не падазраючы падмены...

Гэдак я бацьку булкі адзін год «пасвянціла», заседзеўшыся з сяброўкамі — не здагадаўся...

Печ дагарае. Чамусьці адно палена заўсёды не паспяе за іншымі — упарціцца, не хоча хутка згараць. Такое нязгаранае ў нас у хаце «кудлавешкаю» называлі...

*6 красавіка, 2017,Слухавічы*

## Адна за сталом

Прыехала. Праз адвешанае вакно ў кухні — печ — выратавальніца мая, сяброўка найбліжшая. Ды непрыглядная, «занюшканая» — фарбаваць трэба. Але праз паўхвіліны ў сваёй хаце, у стыхіі сваёй ужо не заўважаеш таго ўбоства, што кінулася было ў вочы, як толькі адчыніла дзверы ў калідор. Але што значыць глянуць свежым вокам!

«Паролася» ў агародзе — дарвалася нарэшце! Надта ж хацелася пасадзіць «канчарык» і паглядзець, колькі яшчэ трэба бульбы, каб выканаць «план пасадкі». Добра, што скончылася, трэба купляць — а то цяжка спыніцца. Жарсная, жарсная — Ленка Пуцатая колькі разоў казала і кажа, а змяніцца так цяжка! Ды і не заўсёды хочацца...

Ты жарсны не меней. Толькі па-іншаму. Мікола называе гэта захопленасцю. Ты тлумачыў мне аднойчы пра тое, што «ў іншым перыядзе». Мусіў бараніцца...

Нейкая вельмі спакойная стала.

Ты стаў нечым неад'емным, даўнім, заўсёдным, як робяцца самыя блізкія людзі, незалежна ад таго, дзе яны...

Лілька не прыйшла раздзяліць вячэру — свае клопаты. А шкада. Усё гарачае, з печы. Бульба ў капусце аж чырвоная стала — распарылася. Чаму так сумна сядаць аднаму есці, калі ёсць чым пачаставаць другога? Дзіва што добрая бабка, нашая гаспадыня ў вёсцы «на картошцы», клікала: «Хадзі, Райка, паеш са мною, мне весялей будзе». Я і радая! Нядаўна якраз успаміналі — на сустрэчы аднакурснікаў, якая раз у пяцігодку, што я «мясарубкай» і «хлебарэзкай» была...

Адна за сталом... Бацько тут, на гэтым месцы, не раз сядзеў. Адсюль добра глядзець на наш агародзік. Усё ж цяжка, калі ты чакаў некага, а той не прыйшоў. Паклікаць бацькоў — дык на Дзяды клічуць. Але ж на самай справе я не адна....

Простая гатаваная ежа таксама прыядаецца. Смачненькага хочацца. «Купляно-лупляно,» — бацьке казалі. Няспорнае, значыць — у Слоўніку ёсць — зазірнула, праверыла.

Вялікдзень ідзе. Хрэну накапаць — каб было, як раней. Успамінаю — бацько любіў чарачку і прабачальна сабе ўсміхаўся — трэба ж за свята выпіць...

Вечарэе. Цюльпаны ўслухоўваюцца ў цішыню. Шырокія зялёныя лісты — як распушаныя крылы птушак.Шкада, не сфатаграфавала для цябе буслоў — ляцелі сёння над агародам. Пашлю купіцкіх — у вёсцы была нядаўна.

У неапаленую палову хаты зайду — да мінулага... Яно пакуль што як замарожанае, як адрэзанае — праз холад. Бедная мая хатка — стаіць усю зіму халодная. Стане цёпла, прагрэе сонца пакоі — вернецца мінулае ўспамінамі. Здаецца, даўно гэта было, вельмі даўно — тут, у зале, пісала, за дзвярыма спальні ў пакойчыку дажываў век тато — чула яго дыханне...

Што напішу табе на Вялікдзень? Падзякую за «Ерузале», за стацыі Хрыстовага шляху — вадзіў мяне, маленькую і «зялёную». Сам таго не ведаючы, вёў да Хрыста...

*13 красавіка 2017, Слухавічы*

## Была зіма, зараз вёсна,
## Каб паненка велька расла...

Натыкнулася на забытае бацькавае — так жадалі валачобнікі дзяўчынцы ў хаце на Вялікдзень. Гэта шукала ў інтэрнэце песню — не вывучыла пры маме да канца, і цяпер кожны раз — спачатку — «Вялік святы нам дзень настаў»...

Рыхтуюся да сустрэчы — хочацца праспяваць, паразмаўляць пра Хрыста, але наўрад ці атрымаецца за сваяцкім святочным сталом у свацці Нэлі. Усё хочацца данесці да дачкі, якую буду мець магчымасць убачыць, што Хрыстос — гэта Любоў...

А бацько ізноў успамінаў бы прыгоду юнацтва — як хадзілі па Слухавічах (старых — новых яшчэ не было) «па валачонно», як Марозіха не дала — «куры яшчэ яяк не нанеслі», як п'яны Міша ў рэчку ўваліўся... Паўтараў бы, што суседзям-жыдам — Шэпе і Вольфу — валачобную песню па-іншаму спявалі — «Віно да віно зеляно»...

Добра, што Слоўнік не дасць забыць...

## На свянцонай вадзе

Не пірагі гэта і не «кулічы» — «булкі» былі заўсёды. Мама звычайна на вадзе пякла, не на малацэ. Свая вада — у студні. А я — на свянцонай! — стаіць з мінулагодняга Вадохрышча — з радасцю за яе схапілася — выкарыстаю!

Булкі мае іншыя ў гэтым годзе — без традыцыйнага крыжыка з цеста, проста з мамінымі «лісточкамі» . Крыжык святочнасці надае, ды сумнеў бярэ — мо, не варта — Хрыстос жа на ім пакутаваў... Сорам адчула — мы ж жылі і тады — з-за нас пакутаваць мусіў...

Чытаю Дыктоўкі Узнесеных Валадароў Святла — бліжэй стаў Хрыстос...

## Пякла — фарбавала

Доўга тульчыла каля пліты — прыехаўшы з Навагрудка, не адразу змагла пераключыцца на падрыхтоўку да свята.

За што люблю Менск — у Навагрудку ўжо даўно спяць, а тут, у вялікім горадзе, яшчэ свенцяць. Хоць Міколу ўжо браў сумнеў — пайшоў са мною, бо — позні час. Добра, што Васкрасенская царква — за некалькі соцень метраў ад нас.

Доўга шкадавала, што з табою тады не прайшліся да яе...

Першыя булкі ўдаліся, бо яшчэ не спяшалася. Потым мусіла паскорыць працэс — пагоршыла якасць. Але ж — «не чорныя» — Мікола жартуе — памятае і такія. Мікола — як бацько раней — як малое дзіця — у рондаль зазірае — ну, як яйкі, прыгожыя?

Маміна слова «люкер» ізноў у галаве. І ў Слоўніку... Але мажу не люкерам, а сметанковым маслам па гарачай спечанай булцы — суседка Люда ў акадэмічным інтэрнаце некалі навучыла, памяць пра сябе пакінула...

## «С праздничком!»

Прыземлена, якраз на ўзроўні «масавай свядомасці» прагучала на двары над сталамі з печанымі булкамі і фарбаванымі яйкамі, дзе доўга — апошні, ледзь не начны заход — чакалі бацюшкава свянчэння. Міколу стала сумна — «Хоць бы што сказаў»... Відаць, у канцы «рабочага дня» не было ўжо сілаў на ўзнёслае.

Вернікі хутка скруцілі прынесенае, здзівіліся, чаму ніхто не збіраў грошай, схапілі малых дзяцей — у вазках і так, і паімчалі дадому — позна ўжо...

Каля цэрквы міліцыянер — неад'емны атрыбут свята — звяртаўся да бацюшкі — відаць, стаміўся маячыць да ночы: «Если что — мы здесь рядом...» Бацюшка голасна рагатаў і паказваў на самавітую фігуру памочніка: «Да мы и сами справимся — полковник, краповый берет»...

## Час бабкаў

У цэркві доўга не былі — гэта адной трэба быць, тады добра. Ды і не настроеная была — назірала, як заўзята — незадаволена, адчуваючы сваю важнасць, абмятаюць бабкі вялікія сваціільнікі для свечак. Махаюць маленькімі пэндзлікамі, строга ўказваюць, калі і куды ставіць. Старыя жанчыны, якія сядзелі на лаўках уздоўж сцяны, акінулі цяжкім, нелагодным позіркам — «прызіраліся», як мама казала. Нават і свечкаў не ставіла — панесла дадому. На ўсё настрой трэба...

Па дарозе прыйшлося супакойваць яшчэ дзьвюх жанчынаў, што праглі пасвянціць — пазней за мяне выбраліся! Казала, што, галоўнае, у цэркву ўнесці — там і пасвенціцца...

## Вяртаемся

Аблокі ў начным небе белыя-белыя вісяць, нават не думала, што такія выразныя могуць быць у цемры ночы... Ах, хараство! А радасць якая раптоўная — гэта ж ты мяне любіш, любіш, як хмарку!..

## Завяршальны акорд

Мікола ўжо спіць, а я таўкуся, як некалі мама — дапазна. Трэба ўсё ж хрэн старыць — пра бацька ўспамін. Цэлы літар зраблю, як ён некалі — на ўсіх. З-пад нашай яблыні хрэн... Толькі бацько бурак квасіў — зараней стараўся, а я запраўлю сокам бурачным, дадам воцату свайго, парэчкавага — будзе не горш.

Цэлы дзень за прыгатаваннямі сумна помнілася хата — мо, што сёння пакінула — пустая стаіць...

## Сон

А ўночы бацько прысніўся — харошы такі, малады — з таго часу, калі не разумела, што — малады яшчэ. Бацько быў «з канём» — «базным» — мо, Дарэшка ці Віхман. Сядзеў на возе ў двары, таргануў лейцы і прыцмокнуў на каня так, як мог толькі ён. Я стаяла і цешылася бясконца — ссумавалася па ягоным голасе, жэсце, уласцівым яму аднаму. Дзівілася, глядзела ўслед — паехаў паўз хату далей...

## Водгук

Мікола са Славеніі вярнуўся, са Старага Месца, з-пад Любляны. У этнаграфічным музеі і булачку з лісточкамі, як некалі ў мамы, і яйко з адбіткам расліны, як у мяне, пабачыў. Прыемна!

*16 красавіка — 3 траўня 2017, Менск*

# Летняе

## Выходжу ў агарод

Ленка-суседка думае, што — жука збіраць. А я — збіраць адчуванні і думкі...

## Чаму мінулае здаецца нам шчаслівейшым, чым цяперашняе?

Таму, што не ўмеем адчуваць жыццё востра, удзячна, мудра — усё сённяшняе пройдзе, мінулым стане... Прывязаныя да фізічнага, жадаем паўтарэн-

ня — на фізічным плане. Не атрымліваецца. Тады — да ўспамінаў звяртаемся. Да запісанага ў памяці... Каб цяпер ужо да канца адчуць, зразумець...

## Грады мае вясёлыя

Усё ў іх ёсць для ўсцешання вока: аранжавыя купкі календулаў, ружова-белыя — касмеяў-кракавянкаў, сінія — агурочніку, і, галоўнае — залатыя сонейкі сланечнікаў!

А кветнік у цябе тады нашто?

## «Агу!

Цяпер баба Рая спакойная — ёсць што дзіцяці паказаць, чым дзіця здзівіць. Сланечнікам — жывым сонейкам на сцябліне. А то півоні адцвілі ўжо даўно — даўно не быў у мяне ўнучак...Убачыць сонейка ў агародзе — цёмны тварык, залатыя валаскі, і ўсцешыцца, выбухне сваім мілым — «Агу!»

## «Шкаляроз»

А, дык во дзе шпінат пасеяла! А чаму так мала ўзышло? А, дык во дзе аксамiткі кінула! Самыя прыняліся, адна ўжо расцвіла... Казаў бацько: «Я дык стары, а ты ж маладая!.. Кампютарная галава!» Казаў загадчык аддзела: «Пра што Вы думалі, калі набіралі тэкст?» Казала Маня малая прыцішана, з асцярогаю, сваёй сяброўцы Ольцы — яшчэ калі жылі ў інтэрнаце: «Олька, а ў маёй мамы — ШКАЛЯРОЗ!»

## Як на вайне

Кветкі мае — нізкарослыя, у цвёрдай, бы камень, зямлі.. Але цвітуць, хай сабе й не раскошна. Гэта як з каханнем — хоць вайна, а павінна яно адбыцца — няхай і ў неспрыяльных умовах...Ну і параўнанне ў мяне!

## Лагода вечара

Цёплы Камень на надворку, што за дзень нагрэўся, яшчэ не астыў. І вада ў рукамыйніку ласкавая — захавала цяпло дня...

Шчаслівы час, калі ўсё замірае ў чаканні Вечара. Спакой і радасць. Сядзела б так гадзінамі і слухала б — Сутонне вечаровае ідзе ў сукенцы з флёксаў і вячэрнікаў, духмяніць у паветры, ціха крочыць...

Прыйдзе — настане змрок. А пакуль — раптам, на схіле дня мяняюцца кацяняты й дзеці — лётаюць вясёлыя, дураслівыя. Яблыня і слівы належаць мяўклівым істотам — заскокваюць з разгону. Выгінаюць спіны, задзіраюць хвасты — страшаць адно другога. Гуллівасць нападае на малых. І на старых напасці можа. Вунь баба Лена гуляе з унучкай у хованкі. А дзед Вінцэсь дык таньчыў нядаўна — дыскатэку з малою ладзілі ў суботу.

Гэта ж усё ўздзеянне Невыказнага...

Вечар хвалюе. У ім заўсёды ёсць таямніца, якую не разгадаць. Вунь павіс танюсенькі доўгі сярпок Маладзіка. Добра з ім...

Аранжавыя календулы доўга не засынаюць, не заплюшчваюць даверлівых вочкаў. На Сонейка нагледзецца не могуць — мала Яно сёння паказвалася. «Ненагляднае нашае», — шэпчуць...

Заслухоўваюся цішынёю. Здаецца, убіраю яе ў сябе, і ніяк не магу набрацца...

## Мальвы вярнуліся

Пасяліліся самыя ў агародзе — прыцягнула думкаю? І месца добрае знайшлі — выраслі высокія — высокія. Усё загадка была — якога ж колеру вылезуць кветкі-ліхтарыкі з гузікаў-пупіхаў? Белыя і злёгку ружовыя — пяшчотныя. А я жарсных чакала — тых, бурдовых, амаль чорных, як камень гранату ў пярсцёнку — такіх, якія запомніла ў мамы пад вакном — першыя кветкі маленства.

Ад жарсці да пяшчоты іду...

## Зайсці ў агарод з іншага боку

Гэта як сябе ўбачыць, сваё жыццё — збоку...

## Пабачыліся

Позні вечаровы дождж прынёс згадку пра цябе. Памяць захацела ўзгадаць, сэрца — перажыць нанова. Нітачка Кахання спляла сон — прывяла пад раніцу да цябе — сустрэліся.

Ява мая — сон...

## Маня сказала

Што гэтыя дні вельмі важныя — пасля зацямнення... Што яны замацоўваюць стан рэчаўна гэты момант. І мне вось убачылася ў сне твая цёплая рука, якую прыціскаю да сэрца... Ты мне — сяброўства, я табе — каханне...

## Трудзяшчая, гарушчая, збірушчая

Суседцы Ленцы так пра яе сказала — у вочы пахваліла...

## Вопратка

Гляджуся ў люстэрка: Тусін верх, Манін ніз — вось і апранутая маці!

## Махаон

Ён прыляцеў, каб прабачыць... На Замкавую гару прыляцеў, калі спускаліся з Пуцатай з капца Міцкевіча. Пачуў маё каянне... А Ленка забылася на маю гісторыю з матылькамі, што ёй распавядала. Зразумела — кожнаму варта памятаць свае памылкі, а не чужыя...

*16 ліпеня 2017*

## Калі шмат падзеяў

Тады дзень расцягваецца, робіцца доўгім. І назаўтра ты, узгадваючы ўчарашняе, думаеш — няўжо гэта ўчора было? Здаецца, даўно...

## Ранішні час

Усё ж ён — Сумоўе, як кажа Ганна. Баюся згубіць яго, калі — не адна...

## У размове

Мікола сказаў Аляксандры — «У яе тэма — каханне. А гэта ўсім цікава...» Спакойна так сказаў...

*17 ліпеня 2017*

## Нязгасныя Вугельчыкі Кахання

Успаміны прыходзяць, каб не даць памерці Каханню. Каханне каб ажывіць — быццам учора было...Успыхвае яно тады з новай сілаю.

Успаміны — вугельчыкі Кахання, якія не затухаюць...

## Учора заплакала нечакана

Праспявала для Аляксандры «Вечар пагодны» мамін...

*18 ліпеня 2017*

## Час мальваў — летні альфабэт

Пасля «Л» — цвіцення ліпы — настаў час «М» — цвіцення мальвы. Ліхтары мальваў па слупе-сцябліне бягуць, бягуць угору, загараюцца адзін за другім — з дня ў дзень — новы. Патухнуць ліхтарыкі пяшчоты, калі скончыцца Лета.

А я ўсё пра маміныя мальвы ўспамінала — першую кветку дзяцінства, што вярнулася ўспамінам, калі сустрэла цябе. Гранатавага колеру жарсці былі тыя кветкі. Такіх сабе жадала — кветак даўняга мінулага. А выраслі бела-ружовыя самасейкі...

Жарснага колеру ружы — такога ж, як мальвы, дораць маладыя мужчыны маладым каханым жанчынам — Жэнічак во нядаўна Марылі на дзень нараджэння прынёс.

На ўсё — свой час...Ужо не шкадую, што не збылося. Усё збылося ў марах... І гартэнзія — белаю пенаю... Кветка-ўспамін — Міколаў букет паслявясельны. Запомніўся...

*19 ліпеня 2017*

## Уменне любіць правяраецца ў кухні

Маці і дачка, свякроў і нявестка, сяброўкі, мужык і жонка, сёстры — няхай апынуцца ў кухні — вось дзе праверка на адносіны! Кожны ж робіць па-свойму. І іншага не прымае — толькі ён робіць правільна!

Думала пра гэта сёння, калі таўклася з Міколам побач у кухні — раздражнялі адно другога. Вось табе і любоў — у малым не могуць сысціся. Не ўмеем любіць.Трэба цешыцца, што мы побач, а мы...Кухня — вялікі паказчык узаемінаў...

## Верабейчык мыецца ў пяску

Назіраю, возячы Малога. А Маня маленькая, сённяшняя мама Маленькага, некалі казала — «лябалецік» на верабейчыка.

Верабейкі ўжо цешылі аднойчы падчас гуляння — назірала, як мама-вераб'іха карміла дзіцятка знойдзеным кавалкам батона — адшчыкне і ў рот пакладзе немаўляці — зусім па-чалавечы!

А мама казала — «гараб'е»...

*Лета 2017, Менск*

## Летнім ліпеньскім днём

Косяць конікі-цвыркуны вострымі косамі летні час — шах-шах — адбіваюць кожную секунду. Ідзе Лета на спад — падае долу адрослая трава Летняга Часу...

## Прачытала

Едучы ў маршрутцы — замест «Высокая мода»— «Высокая любоў»...

## Ізноў

Ізноў цурчыць час бесперапынным конікавым «цырррр»... Ад яго спакойна і лагодна, і цёпла — бо цёпла на двары.Час не затрымаць. Ды і ці варта жадаць гэтага, калі нас чакае Палёт у Вечнасць — там няма Часу...

Здаецца, гадзінамі б сядзела ў змроку ціхага вечара, слухала б гэтае цвыркатанне, гэты трапятлівы суладны звон. І ўзрушанасць, і хваляванне ад гукаў, пахаў — дотыкаў Лета...

## Слабасць:чалавек і бульба

Слабая духам садзіла — слабая і бульба вырасла. І жук на яе найбольш нападаў — як на мяне — жук раздражнення падчас пасадкі — жарты, бульбу маю хлопцы, што гаралі, наверх вывернулі — дзе былі іхнія вочы?!

Ды не хлопцы вінаватыя, а мая паспешлівасць — нецярплівасць — жарснасць! Хлопцы і здагадацца не маглі, што ўжо бульбу ў зямлю халодную закапала!

## Не хачу быць адна

Хачу быць з конікамі. Прыадчыняю вакно — начное цвыркатанне супакойвае, парушаючы цішыню хаты...

*27 ліпеня 2017*

## Павучок

Павучок маленечкі казычацца — бяжыць па руцэ. Мо, ты думаеш пра мяне? Заўсёдная надзея...Усё ж нездарма павучка выбрала ў супераджывальнікі Кахання — вось скочыў павучок, куды захацеў — нітачку-канацік сабе для перасоўвання выкінуўшы. Так і думкі — яны ж — вольныя, бягуць, куды хочуць... Мо твая — да мяне?

*29 ліпеня 2017*

## Тут можна і не есці

Работа — адна за другою! І ўсе тэрміновыя!

*Ліпень, Слухавічы*

## Мы пакуль што «на карце»

На вуснай геаграфічнай карце Слухавічаў — хутар бабін. Хоць і знішчаны дом, толькі ліпы старыя ды бэз сведчаць пра былое... Ладонскага жонка Валя запытала сёння ў нас з Лількаю: «Пад Мякчылаў хадзілі?»

А Ленка-суседка сваё пытанне агучыла: «Да Аўдолі хадзілі?» Жывеш, баба Аўдоля! Жывяце, Мякчылы — род наш — зямля нашым імем названая. Пакуль не сыдуць тыя, хто ведалі...

## Пісьменніцкая слава: «прэс-канферэнцыя» ля плоту

Выйшла з хаты, а Ленка, суседка — сястры сваёй Іры, Ірынай нявестцы, Ірынай унучцы Настусі — «Хадзеце, пазнаёмлю з беларускай пісьменніцай!» І ўчацвярох як па камандзе рушылі — на мяне, да плоту! Аж спалохалася... Нездарма Мікола нядаўна жартаваў — «Пара ўжо на хаце шыльду вешаць — «Тут жыве...»

*29 ліпеня 2017, Слухавічы*

## У горадзе

Ранішні летні ветрык уварваўся праз адчыненае вакно тралейбуса, ажывіў — сёння спякотны дзень! Прынёс твае словы — што любіш, як Ветрыка — усцешыў нечакана.

Я — у горадзе... І ты — са мною...

*31 ліпеня 2017, Менск*

## Прысутнасць

Сонейка вызірнула з-за хмаркаў... Лёгка ўздыхаю — з уздыхам сыходзіць смутак разлукі. Сустрэліся!...

Маўклівыя цені ад Месяца распасцерліся ў садзе. І ў гэтым начным харастве — ты...

Задзіраю галаву ў Неба — проста на мяне глядзіць воблака твае Любові...

### Пад вечар

Люблю на развітанні працаваць — лавіць апошнія імгненні спяшчоты Сонца.

Цяплу апошніх промняў цела падстаўляць. Душою грэцца...

### У хаце сцямнела

Зусім як тады, калі з бабаю Аўдоляй зайшлі перачакаць дождж да Буцкевічаў. Цёмна было ў чужой хаце, і стала мне, малой, цяжка, як птушцы, злоўленай і пасаджанай у клетку. Запомніўся той настрой. Тады карову з бабаю пасвіла і, па яе аповядах, любіла спяваць — «Ты станеш на пянёчку і спяваеш, а я плачу-плачу!»

Цяпер плачу я, успамінаючы бабіныя словы...

*25 ліпеня 2017*

### Успомніла

Восень нашаптала пра цябе жнівеньскім дажджом — хоць яшчэ й не восень... Перачытала даўнішняе — павёў Павучок Памяці па Лабірынтах успаміну...

## Восеньскае

### Пачатак верасня

Адчыняюцца далі. Хочацца ісці — кліча далячынь у сонечны дзень. Нават у горадзе — глянеш праз вакно ў скверык — гэты настрой ахоплівае...

3 верасня 2017

Усходні Вецер надзьмуў блакітна-срэбны ветразь занавескі — шапоча, б'ецца аб вакно.

Прабуджэнне...Успрымаю, як ад цябе пасланне Слоў Любові — Вецер.

Шэры, цёплы ранак. Як табе, любы, плывецца ў Восень?

### Бабіна лета

Вецер з Сонейкам — гэта я і ты... Каштаны як мост ляжаць на вуліцы Паштовай, дзе жыла Машка. Увечары іду. Летняга развітальнага паху кропу ўжо не чуваць. Зоркі роем на небе — ціхія, спакойныя ў вышыні. А на Зямлі конікі-цвыркуны неспакойныя, бо закаханыя. Клічуць сяброўак — граюць Песню Кахання, такую звонкую ў начной цішыні, што, здаецца, чуваць Небу. Завяршэнне Кола — пах ігліцы, быццам вясна... І птушкі, што прыляцелі ўвесну — адкормленыя за лета, мажныя шпакі ізноў з'явіліся — каб развітацца — паспяваць у бабіным леце...

## Да Сонейка

Сонейко маё любаё... Свеціш з раніцы. Быццам кажаш — забудзьцеся на свае турботы, на тугу сваю — паглядзіце, адчуйце, як я вас люблю! Бярыце маю Любоў і нясіце з сабою — раздорвайце іншым...

А я ў сценах, ні на дварэ. Хоць і цягне ў родны куток, ды сябе суцяшаю — у сценах добра пісаць — нішто не адцягвае ўвагі, не кліча ў прастору, дзе бабіна лета і дзе пасаджаныя расліны чакаюць — перад вачыма стаяць....

Паздароўкаюся з Табою праз вакно. Ты цудоўнае, бясконца ласкавае, свеціш для ўсіх, усіх любіць умееш. Столькі радасці ад цябе, падарункаў столькі — і боб во ў струках на стале, і квасольку палушчыла, і аранжавы «малюгас» з Вільні зарадзіў — Рута зімою насення дала гарбузовага. Усё ты выспеліла, усё — дзякуючы твайму цяплу.

І не ведала я, што жывое Ты — Ленка Пуцатая сказала. Але заўсёды любіла Цябе адчуваць. Некалі вясною, толькі прыгрэеш, хутчэй крэсла на двор выносіла, сесці каб каля шэрай сцяны дзедаўскага хлява — мамін пасаг! — ды загараць, каб у пацалунках Тваіх хадзіць потым...

*11 верасня 2017, Менск*

## Капаю

Заканчваю агародную працу самую важную — бульбу капаю. «У гэдыкую вятрыну, Райка!» — Ленка, суседка, яшчэ не перастала здзіўляцца...

Люблю Маці Зямлю, Дэметру, зямлю-карміцельку люблю, «зямліцу», як мама казала. Датыкаюся да яе. Твой дотык да мае галавы — тады, на Бернардынскіх могілках — мой сённяшні ўспамін, які грэе за агароднаю працаю — сам прыйшоў...

«Крум, крум!» — чуваць у паветры. Дык вось адкуль слова «крумкач»! «Вось і наш час настаў!» — вароны кажуць. — Будзеце цяпер нас шанаваць, радыя будзеце птушку пачуць — паляцелі ж вашыя заморскія «пеўчыя». Нарэшце звернеце ўвагу й на нас, «тутэйшых». Любіце сваё, беларускае!»

«Крук» — гэта воран. Бацько так казаў. На зямлі ж «кручкі» — апошнія агуркі, што не маюць сілы выцягнуцца ў рост, быццам курчацца ад холаду.

Наташка халоднай парою, «з голымі галамі» — ногі не ўцяпліла — здымае грушы. Моцны вецер, а яна — хоць бы што. Па цётцы пайшла — сквапная на плады. «Скрудж Макдак», як Лілька мяне называла. Наўрад ці варонам Наташчынае шчыраванне спадабаецца — прылятаюць штодня, каб паласавацца, пазадзяўбалі лепшыя грушы, на зямлю паскідалі.

Гарбузэ растаўсцелі і аранжавасць губляць сталі — чым далей растуць, напінаюцца ў тоўшчы сваёй. А мо, дожджык фарбу вымывае? Надта ж часты ён госць...

Холадна. Парывісты, бацька сказаў бы — «шваліcты» вецер. Калі вяртаешся з агароду, нясеш з сабою восеньскую сур'ёзнасць зменаў, важнасць зробленай працы — памятаю, ад мамы гэта сыходзіла...

Без перапынкаў — ніяк. Яблычко знайшла — радасць нечаканая! — няма іх гэтым годам на старой антонаўцы. Яблычко скурожанае — не круглае, а выцягнутае, і скура — як сварабліва твар падлетка. І ўсё ж — дaспелае і смачнае мне акурат як — прыемна ўсведамляць! — Івану Буніну ў «Антонаўскіх яблыках». Пранізліва, з балючай любоўю пісаў Бунін пра ўсё, што было не вярнуць...

Нечаканае сонца. Так цёпла ад яго, добра так! Як хутка адвыкла ад яго за цэлы дзень холаду...

Чарната, пустата зямлі. Шукаю пах той вясны — учула, злавіла носам на днях халодны пах хвоі-іглiцы. Запомніўся, калі трымала на руках — першы раз на двор вынесла — сваю малую Настуську — месяц ці быў ад нараджэння ...

Пупіхі гузікаў з насеннем — на кветках. Белае лісце пялёсткаў — апошнія, яшчэ не да канца адцвілыя кветкі мальвы на самых канцах высокіх, да неба, сцяблінаў. Мо, вернецца яшчэ лета?

Рана цямнее — ледзьве паспяю сабраць накапанае. На завяршэнне — «апошні званок» коніка-цвыркуна — самага смелага — вечар халодны.

*15 верасня 2017, Слухавічы*

## Несла Боскае

Калі нясеш кветкі або дзіця на руках— адчуваеш урачыстасць моманту... Несла фізалісы Ленцы на другі канец горада — аранжавыя ліхтарыкі восені... Людзі глядзелі здзіўлена-раўнадушна, заклапочаныя сваім. Не было замілавання на тварах. А ў мяне было — у душы...

*1 лістапада 2017*

## Яблык-успамін

Зграбаю лісце пад «Джонатанам». Імпульсіўная яблына, зусім як я — лісце скідае ахапкамі, нечакана, у бязветранае надвор'е... Зграбаю, і столькі радасці ад раптам заўважанага яблыка — пад лісцем схаваўшыся ляжыць, яркае, крамянае — даўгавечнае.

Яблык мне як успамін — раптам усплыве — цудоўны...

## Смелая мальва

Учора дарога дадому была сонечная, як бярозкі на здымку Пуцатай. Чорная ўзараная зямля хвалявала, нагадвала пра вясну, пра магчымасць паўтарэння радасці і зменаў на лепшае магчымасць.

...Ярка-зялёная рунь. Жоўтыя чубкі лісця на бярозах. Некаторыя дрэвы захавалі сваю прыгажосць наперакор вятрам і марозу — вішні і слівы пры плоце пярэсцяць лістотаю не горш за клёны — усё ажыло пад сонцам, зарадавалася, усцешанае нечаканым цяплом.

Мальва мая — дарагая кветка дзяцінства, першая кветка, што ў памяці — захацела цвісці, не зважае, што наперадзе — халады. Ловіць кропелькі сонечнага цяпла....

*6.11.2017, Слухавічы*

## Соладка ў сэрцы

Такое незвычайнае пачуццё — соладка ў сэрцы... Гэта Вільня. Тут пахне дымком... А яшчэ ўчула пах кіпяцю — шорсткай, сівай лясной травы, змяшанай з ліловым верасам. Некалі бацько шмат на подсціл касіў і прывозіў, сушыў у двары. З раніцы, як устанеш, пахла цудоўна лесам. Вярнуўся мне ўчора той хвалюючы пах!

І мамінае ўзгадалася, як сядзела ў гатэльнай сталоўцы: «Гусі-гусі, скіньце мне папер, я дадому палечу». Захвалявалася...

*16 лістапада 2017, Вільня*

## Ранішняе слухавіцкае

Пеўні ўжо не спяць. З касцёла чуваць, як грае гадзіннік. На дварэ развіднела, а ў хаце паўзмрок. Згаладалыя за ноч катэ — «паразяўлялі ратэ» — бацькава рыфма — у хату ўварваліся. Накарміла — «па шыі» дала — курыныя ў магазіне прадаюцца. І не па адной, а па тры. Усё роўна пілнуюць ля дзвярэй — вымагальнікі-тэрарысты.

Дожджык ціхі пусціўся. Сцяплело. Трава зялёная, у плямках счарнелага лісця — каб нарадзіцца ізноў, трэба памерці...

У хаце не горача. Настыла за тыдні адзіноты. Але ёсць цёплы, на аўчыннай падкладцы, камізэль з Вільні — падарунак Галіны. Мама сказала б «жупан»або «разлятайка». А Лілька любіць казаць — «Грошы заканчваюцца, а сябры — ніколі...»

Напаліла печ. Госці мае дарагія сёння з'явяцца — койданаўскія дзяўчатка. Смачна пахне капустаю — паставіла у гаршчку — на частаванне. І гарбуза з пшаном — на кашу. Зусім як у мамы некалі з печы водар ідзе...

Дроў з хлява нанасіла. Дзякую Люсі — яна паклапацілася. У галаве аднекуль — удома чутае — «Палкі дроў ні рассёк!» Гэта — калі сварыліся...

Ваду бяру. У студні дзверы не рамантаваныя — адвальваюцца ўжо. Пра студню ў Слоўніку няма. І пра будаванне хаты — нічога. Добра было б перавыдаць, дадаўшы.

Нагатавала — «настрэньчыла», як Алка кажа. І Ганна гэтае слова ўжывае. Трэба ж нешто есці... «Што пастаўлёно, то паблагаслаўлёно» — бацька казаў.

Прымерваюся — а калі б ты прыехаў, што прыгатавала б? Бульбы зварыла б абавязкова — каштуй, і ў цябе такая будзе!

*25 лістапада 2017, субота*

## Жыжа, Зюзя і грыбоўнікі

Няхай жыве сяброўства! Ганна называе гэтую магчымасць сябраваць — любіць адно аднаго і хаця б зрэдку бачыцца — «раскошай». Яно так і ёсць! Ну, хто ж прывязе кармушку, дыхтоўна зробленую рукамі майстра? Гэта Вадзім

зрабіў і прымацаваў. Вэрця кажа, што кармушку такую замаўляюць толькі дзівакі — нятанна ўсё ж — з металу — ручная праца...

Ну, ад каго пачую пра грыбоўнікі — гэта Ганначка для Віці катлеткаў грыбных — мінулым разам упанаравіў — напячы пастаралася. Ну, хто ж скажа пра букатку хлеба, хто яблыкі купіцкія салодкія, нікому не патрэбныя, скарбам назаве? Хто падорыць новае слова — узгадае пра гэршкі (а ў нас «горшкі» казалі) — Ганніная мамуля яе малую праз балота «гэршкі» насіла некалі. Хто скажа слова Любові і ўспомніць, як добра было разам, калі сядзелі аднойчы летам за хатаю? Каму адкрыюся, скажу на развітанне сваё, схаванае — што набрыньваюць ужо пупіхі архідэі, і чакаю цуду? А Ганна ўжо мае цуд — сваю шасціпялёсткавую Кветку...

Гражынка малая смешна тату называе, не выгаворваючы — «Кака!» А Ганна як баба ёй пра Жыжу, пра Зюзю кажа. Жыжа быў у мяне, калі ля адчыненай печы сядзелі, а Зюзя сцярог у Віці ў Купіцку за дзвярыма напаленага пакойчыка — Віця адмыслова для гасцей пастараўся.

Сядзелі сяброўскай сям'ёю за Віцевым сталом. Вольф на падлозе ляжаў. Потым пайшоў на ложак — стары ўжо стаў... Сядзелі, запаліўшы святло цьмяным лістападаўскім днём. Віця павуцінне ўгледзеў, вочы на лямпу падняўшы. А Ганна сказала, што ў Максіма Багдановіча хораша пра павучкоў ёсць і цытавала...

Люблю павучкоў — колькі год яны мяне супакойвалі, да цябе неспакойную...

Віця бульбаю сваёю і грыбамі частаваў, каторыя лупяке-казляке-масляке. Гэта ў нас так кажуць. У Віці, за 30 кілометраў ад нас, так не «екаюць». У Ганны іх сліжыкамі называлі, бо слізкія, а ў нас — казлякамі болей. Віця казаў, што ў Любчанскай школе смяяліся, што купіцкія люстэрка «люстрам» называюць.

На Нёман схадзілі. Ён — «свінцовы». Мікола тэлефануе — ён, навандраваўшыся, ведае колер ракі ў гэты час...

Дзяўчаты, сяброўкі мае, ціхія і мілыя, як сонейкі. Добра каля іх. На развітанне — рана цяпер цямнее — абдымаемся шчыра...

Аблашчаная, сою ўвечары лушчу і ўспамінаю, успамінаю... Яна ўжо нямала папсавалася — збуцвела, спарахнела струкамі. Але ўсярэдзіне яшчэ жывыя зярняткі. Гэта Ганна іх уратавала ад сыходу ў нябыт, папрасіўшы насення, а мяне — ад шкадавання і прыкрасці — не дагледзела, ледзьве не змарнавала саўсім...

Соладка робіцца на сэрцы, калі чуем простыя запытанні пра нашае жыццё. Усё нам важнае, што з нашымі дарагімі адбываецца, кожная дробязь. Так некалі нашыя бацькі пыталіся...

І хто прышле па вяртанні дадому добрае слоўца, каштоўнае падорыць — сваю прымаўку — «да кажуха кветку прышпіліў», і патлумачыць — пра несувымернасць...

*25 лістапада 2017*

### Мае соевыя ночы

Гэта фільм такі ёсць — з Маняю некалі глядзелі — «Мае чарнічныя ночы».

Мусіла справіцца, каб не прапала праца — лушчыла да шасці раніцы. Думала пра сваё, бачыла сябе збоку, знаходзіла адказы на пытанні. Не ўмела любіць я... І сястру — таксама не ўмела... А каго ўмела? Не ведала сакрэту шчасця — любі сам! І страхі мае — і начны, і дзённыя — ад ганарлівасці, ад засяроджанасці на сваім «Я».

Дзякую, соя, за думкі!

*26 лістапада, нядзелька*

### Словы прыходзяць

«З працы рук» — ледзьве згінаюцца пальцы ўвечары ад лапаты. Бо «вашавала» — шмат працавала... «Смяцюх» — прыбіраю за сабою — сою ж лушчыла.

А гэта адкуль выскачыла? — «Збіў на горко яблыко!»

### Вечарам у хаце

Усё так проста. Вечаровая стомленасць. Вядро з вадою на «табарэтцы». І ўдзячнасць вадзе. Як частка агульнай запозненай удзячнасці...

А дзе ў бабаў-дзядоў вада стаяла? У каго — у вядры, на жалезным круку падвешаным? Мусіць, у Лешчанцы, у маміных бацькоў... Ці так у каго бачыла...Спаць кладуся...

*27 лістапада, панядзелак*

### Ранішняе

Ад марозу светла на двары. Ад успаміну цёпла на душы. Старое мякенькае штучнае паўфутра — апранаю ўдома — паспела састарэць з тае нашай сустрэчы...Тады яно было новае, калі ішлі ад Камароўкі (ты вяртаўся з кнігарні), быў моцны мароз, а я не хацела напранаць (у Гарэцкага слова ўзяла) пальчатку — руку тваю хацела адчуць...

Пара «акуіравацца» — з'язджаю. У пакоі — чатырнаццаць градусаў. А пачыналі мы з чатырох. Быў і рэкорд — дваццаць адзін!

Учора быў марозу вястун — чырвоны захад сонца. А ці ёсць вестуны ў кахання?

*28 лістапада 2017, Слухавічы*

# Ізноў зімовае

### Снег выпаў

І мільёны крокаў на ім — горад... Песню ўспомніла — «Твои следы в сугробах у реки...»

*1 снежня 2017, Менск*

## Зіма

Засыпанасць, заснежанасць, забеленасць... Хараство! Чароўнасць... Лес з Замкавай гары — непазнавальны. Знікла зялёнасць елкаў. Бела-шэрая настаўбуранасць-шышатасць.

Снег скрыпае. Зямля звініць — скалела. Дрэвы — ледзяныя. Блішчаць галіны ў лёдзе — сонечна-шкляныя.Усё — чысціня, пяшчота, лёгкасць. Бляск царыцы — ад снегу бляску ў сонечным святле дня, і ў месяцавай ночы.

Сінь ранняй раніцы, што з ночы выплыла. Бель снегу. Удзень сонечнае золата на снег кладзецца. Бляск іскрынкаў-«стразаў»...

Шпакоўня твар змяніла — выбеленая шчака снегам. Глядзіцца, як намыленая — вецер дзьмухаў. Стрэшка — шапкай белай, і вусікі такія ж — кароценькая прыступка-схода для птушачкі...

*Наваградак*

## Белыя архідэі

Белыя архідэі глядзяць праз вакно на белы свет, зімовы заснежаны свет. За вакном — мароз, архідэі пра яго не ведаюць. І добра — здалёк, з вакна захапляюцца беллю. Снег — іхні брат па колеру, такі ж пяшчотны, толькі халодны...

Гэта добра ведаюць дзеці — хлопчыкі-школьнікі заселі ў белы пух і захапляюцца — адзін сыпле на галаву другому... Ускочылі, пабеглі, адзін другога даганяючы...

*Менск*

## Паветра маёй душы

З'язджаю. Астывае павольна хата. Была ўдзячная печы і коўдры. Грэлі сяброўкі і ўспаміны. З'язджаю. Пытаюся: «Дзе ты?..» Чую тваё — «Каля цябе ...»

Выйшла на двор. Паветра пахне мне табою! Мо, ты паветра мае душы?

*26 снежня 2017*



# Сяргей Чыгрын

**паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.**

# Тры жанчыны ў лёсе Тодара Лебяды

***Беларускі паэт, драматург, публіцыст і выдавец Тодара Лебяда (Пятро Шырокаў, 1914-1970) быў двойчы рэпрэсіраваны: у 1936-м — на 5 гадоў і ў 1947 годзе — на 25 гадоў. Беларус прайшоў усе сталінскія лагеры і двойчы вяртаўся дамоў. Немалаважную ролю ў яго жыцці сыгралі тры каханыя жанчыны...***

## Бася Цыпіна

Пятро Шырокаў нарадзіўся ў Віцебску 6 студзеня 1914 года. Рана застаўся без бацькі, выхаваннем сына займалася маці Анастасія Карпаўна Паедава.

Пасля Віцебскай сямігодкі Пятрок Шырокаў паступае ў рамеснае вучылішча чыгуначнікаў. Яшчэ ў школе пачынае пісаць вершы, а ўжо ў вучылішчы цвёрда вырашае займацца літаратурай. У 1933 годзе ён паступае ў Мінскі педагагічны інстытут. Яго нарысы і вершы друкуюцца ў газетах «Віцебскі рабочы», «Савецкая Беларусь» і «Піянер Беларусі». У інстытуце ён знаёміцца і сябруе з Уладзімірам Клішэвічам, Масеем Сяднёвым, Якубам Ермаловічам, Міколам Гваздовым і іншымі аўтарамі-пачаткоўцамі. Тут ён сустракаецца і з Басяй Цыпінай, якая была на сем гадоў старэйшая за яго. Цяжкія матэрыяльныя ўмовы вымушаюць Пятра Шырокава быць бліжэй да гэтай багатай мінчанкі-аднакурсніцы яўрэйскага паходжання. Але, мабыць, гэта яна лоўка прывабіла да сябе беларускага рахманага хлопца. Пра гэта добра напісаў Масей Сяднёў у сваім рамане «Раман Корзюк» (Нью-Ёрк — Мюнхен, 1985): *«Скончылася лекцыя Піятуховіча, і студэнты высыпалі на перапынак на калідор... Пятрок Шыракоў[1] з Цыпінай і з некаторымі іншымі студэнтамі заставаліся ў аўдыторыі, на калідор не выходзілі. Цыпіна карміла Шыракова бутэрбродамі, якія яна прыносіла з дому і якімі яна спадзявалася ўтрымаць пры сабе галоднага Шыракова. Шыракоў напачатку адмаўляўся ад пачастунку, але Бася ўмела яго ўгаварыць, і Пятрок згаджаўся, вымаў з кішэні сцізорык і гаварыў: «Ну, калі ты ўжо гэтак просіш, адрэжу ад цябе на капейку!». Потым Пятрок пачаў адразаць і на рубель. Нарэшце, Пятрок сцізорыка ўжо не вымаў, а браў Басіны бутэрброды цалкам... Гэтак вось і цяпер, з'еўшы бутэрброд, ён выцягнуў за руку з-за стала Басю і закружыўся з ёй у вальсе каля прафесарскай кафедры. Вальс ён граў сам сабе на губах. Трымаючы Басю шчыльна, але настолькі, каб можна было сваім корпусам адкінуцца назад, Пятрок кружыў Басю да шаламлівасці, і яна, быццам у вялікай жарсці, клала яму сваю галаву на плячо, заглядаючыся ў ягоныя вочы знарок спакусліва і міргліва. Потым*

[1] У рамане Масея Сяднёва Шырокаў выступае пад прозвішчам Шыракоў.



*Тодар Лебяда з жонкай Басяй Цыпінай (Галінай Ільінічнай Шырокавай), 1959 г.*

*ініцыятыву забірала Цыпіна, пачынала знарок круціць Петрака налева, ведаючы, што ён умее танцаваць толькі ў адзін бок. Гэта называлася вальсам Цыпінай. Прысутныя смяяліся і білі ім у ладкі...».*

У 1936 годзе, хоць шлюб і не быў зарэгістраваны, Бася Цыпіна нарадзіла ад Пятра Шырокава дачку Алу, якую ў пасведчанні аб нараджэнні так і запісала: Шырокава Ала Пятроўна, 1936 года нараджэння... Але ў гэты час бацьку Алы і яшчэ адзінаццаць студэнтаў інстытута абвінавацілі ў «буржуазным нацыяналізме». Яны апынуліся аж у Новасібірскай вобласці. Пятро Шырокаў быў асуджаны на пяць гадоў, Якуб Ермаловіч і Масей Сяднёў на шэсць гадоў і г.д. Шырокаму ўдалося ўладкавацца кавалём, а некаторых яго сяброў закінулі аж на Камчатку.

За сувязь з «ворагам народа» Басю Цыпіну на апошнім курсе выключылі з інстытута. Работу ў Мінску ёй не давалі, сачылі за кожным крокам. Але настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй не хапала, і таму яе літасціва накіравалі ў Смалявіцкую сярэднюю школу выкладаць беларускую мову і літаратуру. З ёю паехала і дачка.

У Смалявічах Басі Цыпінай жылося вельмі цяжка: бясконцыя праверкі то з раённага аддзела адукацыі, то з райкама партыі, то з КДБ. Але яна не здавалася, пісала ва ўсе інстанцыі з просьбаю, каб адбыўся над мужам паўторны суд. І ў 1940 годзе, па хадайніцтве ўсё той жа Басі Цыпінай, Пятра Шырокава і яго сяброў прывозяць у Мінск для «перагляду справы». З Мінска адпраўляюць у Чэрвень, дзе асуджаных і застае вайна. Нямецкія самалёты ўжо бамбілі горад, таму савецкай уладзе было не да зняволеных. Так Тодар Лебяда са сваімі сябрамі апынуўся на волі.

Падчас вайны Тодар Лебяда спаткаўся з Басяй Цыбінай і дачкой у Оршы. І яны ўсе разам дабраліся да Віцебска, дзе жыла маці пісьменніка. Немцы пераследвалі яўрэяў. Але праз свайго мужа і знаёмых Басі Цыбінай удалося зрабіць новы пашпарт на імя Галіны Ільінічнай Шырокавай. І немцы іх не зачапілі. Дарэчы, і Бася і Пятрок дасканала валодалі нямецкай мовай.

Падчас вайны Тодар Лебяда ў Віцебску ўладкаваўся дырэктарам тэатра. З Басяй Цыбінай сямейнае жыцця ў іх не ўдалося, і жанчына пакінула Віцебск, а дачка засталася часова жыць з татам і бабуляй. І толькі пасля вайны і сталінскіх лагераў Тодар Лебяда, а гэта было амаль праз дзесяць гадоў, прыехаў у Чэрвень да жонкі і дачкі. Але Бася Цыбіна была ўжо замужам за Сямёнам Мінахіным, з якім пазнаёмілася ў вайну ў партызанскім атрадзе. Праўда, сямейнае жыццё ў Басі Цыбінай і Сямёна Мінахіна таксама не заладзілася. Мінахін піў, а потым скончыў жыццё самагубствам. Да Цыбінай зноў вяртаецца Пятро Шырокаў. Але адносіны паміж імі не склаліся і пазней яны развіталіся...

Па словах дачкі Пятра Шырокава Алы Козел, яе маці Бася Цыбіна памерла ў 1979 годзе і пахавана ў Мінску на Чыжоўскіх могілках.

## Вера Жгут

Працуючы дырэктарам драмтэатра ў Віцебску, Тодар Лебяда пазнаёміўся з артысткай Верай Жгут. А ў 1942 годзе яны пажаніліся. У пачатку 1990-х гадоў я напісаў ліст народнай артыстцы Беларусі Зінаідзе Канапельцы і запытаўся: ці памятае, ці ведала, ці што чула яна пра артыстку Веру Жгут? Зінаіда Ігнатаўна хутка паведаміла: «Пра артыстку Веру Жгут я ніколі нічога не чула, хоць у Віцебску пражыла і адпрацавала ў тэатры амаль усё жыццё. І калі б яна хоць калі са мной працавала, то я б яе памятала, забыцца не змагла б ніколі...».

Зімой 1992 года я звярнуўся з просьбай у КДБ па Віцебскай вобласці даць якія-небудзь звесткі пра Веру Жгут. 3 лютага 1992 года прыйшоў адказ. У ім паведамлялася, што «Вера Жгут нарадзілася ў 1917 годзе ў Віцебску. У 1942 годзе яна выйшла замуж за Шырокава Пятра. А ў 1947 годзе яна пражывала па адрасе: Літоўская ССР, ст. Лентварыс, Кандуктарская калонія, дом № 2».

Дачка Тодара Лебяды Ала Пятроўна Козел 29 мая 1994 года на маё пытанне пра Веру Жгут напісала: «Вы пытаецеся ў мяне пра Веру Жгут. Так, я памятаю яе. Яна была актрысай Віцебскага драмтэатра. Яна ў нас ніколі не жыла, хаця я ведаю, што была з бацькам у блізкіх адносінах. Разам яны паехалі ў Прусію пасля вайны. Па дарозе ў цягніку ў іх нарадзіўся сын, якога ў дарозе ахрысцілі Васілём. Жыў ён вельмі мала. Пазней, як вярталіся з Прусіі на Радзіму, бацька мой з Верай развіталіся на граніцы. Бацька — здаўся ўладам, а яна вярнулася да сваёй першай сям'і. Казалі, што ў яе муж быў афіцэрам Чырвонай Арміі. У гэты час ён прыйшоў з вайны, у іх быў сын Вадзім на два гады маладзейшы за мяне...».

У Прусіі Вера Жгут і Тодар Лебяда пахавалі маленькага сына. У пісьме да Майсея Сяднёва (копія ліста ў мяне захоўваецца) Тодар Лебяда пісаў: «Учора

я пахаваў сваё дзіця. Пасля ўсяго вельмі дрэнны настрой. Мы з Валодзькам Клішэвічам разабралі наш ложак і зрабілі майму сыну маленькую дамавіну. Цвікоў нацягалі са сцен і са старых дошак. Яшчэ раз просім цябе — пішы нам. Мы будзем пісаць як найчасцей. Бывай здароў! Твае Пятрок і Валодзя Клішэвіч...».

Як склаўся лёс Веры Жгут пасля расстання з Тодарам Лебядой? Ці жыве сёння хто з яе сваякоў і дзе — невядома.

## Еўдакія Бязрукава

У чэрвені 1962 года Тодар Лебяда зноў прыязджае ў Чэрвень. Тут ён уладкоўваецца на працу ў рэдакцыю раённай газеты «Уперад», дзе друкуецца пад псеўданімам Клім Каліна. Жыве ён з Басяй Цыбінай і дачкой Алай некалькі месяцаў. Але, пасля чарговага разладу з жанчынай, ён назаўсёды ад'язджае ў Разанскую вобласць у пасёлак Свабода-Заводскі да Еўдакіі Бязрукавай.



*Тодар Лебяда, 1956 г.*

Еўдакія Бязрукава жыла адна з сынам. Яна працавала настаўніцай. З гэтай адзінокай жанчынай Тодар Лебяда пазнаёміўся па перапісцы, калі адбываў тэрмін у сталінскіх лагерах. Нехта са знаёмых даў яму адрас настаўніцы Бязрукавай, Пятро Шырокаў напісаў ёй ліст, жанчына адказала, так і пачалася іх перапіска. А калі беларускі пісьменнік адбыў тэрмін, то адразу наведаў Бацькаўшчыну, сямейныя справы тут не заладзіліся, ён паехаў да Еўдакіі ў Расію. Па словах дачкі Тодара Лебяды Алы Пятроўны Козел, Еўдакія Бязрукава аказалася простай сельскай настаўніцай. Яна была добрым, чулым і шчырым чалавекам. Хаця ў духоўным сэнсе ў іх з Петраком не было нічога агульнага.

Пятро Шырокаў распісаўся з Еўдакіяй Бязрукавай. Ён там уладкаваўся на працу цырульнікам у дом інвалідаў. Разам яны пабудавалі сабе новы дом, пасадзілі вялікі сад. Пятро Шырокаў вельмі любіў спяваць, адзначаў усе рэлігійныя святы. Пэўны час з ім жыла і дачка. І вядома ж з ім заўсёды была маці. Хаця маці пасля смерці сына-пісьменніка прыехала ў Чэрвень, а потым вярнулася на Віцебшчыну, дзе і памерла.

Апошнія гады жыцця Еўдакія Бязрукава пражыла ў сына ў Разані, дзе і памерла. Была яна на год старэйшая за Тодара Лебяду — з 1913 года.

Пад канец жыцця Тодара Лебяду непакоіла сэрца. Ён перанёс два інфаркты і напачатку 1970 года памёр. Там на Разаншчыне ён і пахаваны. Спраўдзіліся ягоныя словы, якія ён некалі казаў сваёй дачцэ: «Відаць, мне лёсам наканавана ляжаць у чужой зямлі...».



*На Разаншчыне. Тодар Лебяда стаіць пасярэдзіне з маці. Злева крайняя сядзіць Еўдакія Шырокава (Бязрукава).*




# Эдуард Дубянецкі

паэт, эсэіст, крытык, гісторык, культуролаг. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй няскончаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі, культуралогіі і беларусазнаўству, а таксама серыі навукова-папулярных выданняў пра асветнікаў Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Паэзія як крыж і абярэг...

***Сыс А.Ц. Берагі майго юнацтва: вершы, пародыі / укладанне і прадмова Алеся Бяляцкага; пасляслоўе Эдуарда Акуліна; мастак Дар'я Бунеева. — Мінск: Галіяфы, 2016. — 250 с.***




Паэзія была адначасова і планідай Анатоля Сыса, і яго абярэгам, і ягоным крыжом. Менавіта яму, Анатолю Ціханавічу Сысу, ураджэнцу палескай вёскі Гарошкаў на маляўнічым беразе Дняпра, Богам і прыродай была прадвызначана планіда выклятага вялікага паэта, якога Паэзія спачатку літасціва ўзнесла на вяршыню народнай славы, а затым неміласэрна кінула ледзь не на самое дно жыцця, дзе творцу давялося зведаць мноства выпрабаванняў і пакут. І калі ў маладосці Паэзія яго сапраўды аберагала, натхняла, акрыляла, то ў сталасці яна пачала яго прыціскаць, здраджваць яму і ўрэшце ператварылася ў той цяжкі крыж, на якім шматпакутнаму творцу давялося заўчасна скончыць свой жыццёвы шлях.

Дык вось пра вытокі фенаменальнай паэтычнай творчасці Анатоля Сыса і пра пошукі яго сябе як самабытнага творцы добрае ўяўленне дае ўнікальная кніга «Берагі майго юнацтва», якая была выдадзена некалькі гадоў таму назад намаганнямі Алеся Бяляцкага і Эдуарда Акуліна — землякоў і сяброў знанага паэта. У кнізе сабраны пераважна юначыя вершы, пародыі і пераклады нашага «выклятага паэта», якія раней нідзе не друкаваліся і з якімі ў выглядзе рукапісаў і машынапісаў укладальнікі кнігі змаглі азнаёміцца ў 2011 годзе на малой радзіме паэта ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна. І вось цяпер мы ўрэшце маем магчымасць даведацца ледзь не пра першыя вершы паэта, якому накавана было стаць сапраўдным «прарокам свабоды і незалежнасці» (паводле вызначэння А.Бяляцкага). Дык што ж нам паказаў гэты незвычайны зборнік, у чым яго неаспрэчныя вартасці і хібы?

Гэты зборнік з прыгожай метафарычнай назвай быў напісаны паэтам пераважна ў юначыя гады — найперш ва ўзросце 19—22-х гадоў, калі паэт вучыўся ў Гомельскім дзяржуніверсітэце. Пра тое, як канкрэтна ў той час усведамляў сутнасць жыцця-быцця малады Анатоль Сыс, вельмі добрае ўяўленне дае вось гэты фрагмент яго філасофска-роздумнага верша:

*Жыццё ёсць бег.*
*І ў ім мы — бегуны*
*Ад стомятровак і да марафона,*
*Бывае, мы выходзім з-за спіны,*
*Бывае, нас на віражы абгоняць.*

Лічу, што Анатоль Сыс уяўляў сабой яскравы прыклад так званага «прыроднага паэта» — то бок такога, творчасць якога заснавана ў большай ступені на прыродным таленце, чым на выніках паэтычнай вучобы; на інтуіцыі і пачуццях, чым на інтэлекце і халодным разліку. Акрамя таго, відавочная «прыроднасць» паэтычнага таленту А.Сыса выяўлялася і ў тым, што ён фактычна абагаўляў прыроду, захоплена апісваў яе непаўторныя краявіды, прыродныя з'явы і феномены — прыгадайма хаця б ягонае красамоўнае прызнанне: «Паэзія — гэта інтуіцыя, імправізацыя па матывах душы. Раптам я кідаю ўсё на свеце. У гэты момант мяне лепш не чапаць. Я сам, як шаравая маланка». А ў адным з вершаў, напрыклад, сустракаем наступныя паказальныя радкі: «Сцвярджаю сам сабе без стомы, / што нельга жыць без цягі да прыроды».

Бясспрэчна, што адной з вызначальных рыс паэтычнай творчасці Анатоля Сыса быў яго выключны патрытызм, які праяўляўся як у шчырай любові да Айчыны і яе жыхароў, у гонары за сваіх таленавітых землякоў і славутых папярэднікаў, так і смелай крытыцы таго, чаго не павінна быць у грамадстве і ад чаго трэба як мага хутчэй пазбаўляцца. А.Сыс сцвярджаў, што ён ад нараджэння мае адразу дзве любімыя маці — сапраўдную матулю і маці-Радзіму (Айчыну). І абедзвум ён гатовы быў маліцца, укленчваць перад імі, спадзявацца на іх дапамогу і на прызнанне імі сваіх неаспрэчных заслуг. Прычым адметна, што калі ў ранняй творчасці паэт часцей атаясамліваў сябе з малой радзімай (вёска Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці), то пазней ён усведамляў радзімай ужо ўсю Беларусь:

*А каб яшчэ лепей з'яднацца з радзімай,*
*Карэннем глыбокім у ёй прарасту,*
*О, як ганаруся, што клічуць радзіміч,*
*Што маці сваёю заву Беларусь.*

Анатоль Сыс быў вельмі свабодалюбівым паэтам, які асабістую і народную волю ставіў, бадай, вышэй за ўсё, па-над усім. Для яго менавіта воля была найвышэйшай каштоўнасцю, а няволя ва ўсіх яе праявах — абсалютна непажаданай з'явай, найгоршым выракам. У дадзеным кантэксце можна прывесці хаця б такія шчымліва-скрушныя радкі з яго больш позняга верша пад назвай «Маналог Апанаса Філіповіча»: «Ні грошай, ні славы — я волі хачу, / бо ў гэтай

краіне не маю я волі..». Але ж, на вялікі жаль, у зацятай пагоні за воляй паэт з цягам часу згубіў уласную сілу волі і стаў па сутнасці бязвольным чалавекам, якому не ўдалося перамагчы свае шкодныя звычкі і свой гіпертрафіраваны пісьменніцкі эгацэнтрызм.



*Анатоль Сыс з Алесем Аркушам, Вольгай Куртаніч і Леанідам Дранько-Майсюком.1988 г. Здымак з архіва А. Аркуша.*

А яшчэ ён як любы сапраўдны паэт быў своеасаблівым сталкерам — то бок тым творцам, які, з аднаго боку, мужна даследуе нязведаныя прасторы сваёй паэтычнай душы, а з другога, гасцінна «водзіць» па ёй усіх сваіх чытачоў-прыхільнікаў. Прычым «наведвальнікі» гэтай унікальнай зоны непаўторнага творчага духу паэта мелі раней і да сёння маюць магчымасць атрымаць сапраўдную маральна-эстэтычную асалоду ад знойдзеных там бліскучых скарбаў, а таксама палюбавацца імі, паразважаць, пасмяцца, паплакаць над імі:

*Азірнецца чалавек на гады пражытыя —*
*Аж прасека большая чым лес.*
*Берагі жыцця ўшчэнт размытыя,*
*А лугі павыцвілі, як бэз.*

У параўнанні з большасцю сённяшніх маладых айчынных паэтаў вершы Анатоля Сыса вызначаюцца больш усвядомленым і шчырым патрыятызмам, высокай культурай паэтычнага радка і натуральна-нязмушанай беларускай мовай, шчырай увагай і павагай да славутых папярэднікаў (найперш да Купалы і Багдановіча, якіх ён лічыў адпаведна сваімі «бацькам па духу» і «братам



*Анатоль Сыс з Уладзімірам Сіўчыкавым. 1988 г.*
**Здымак Алеся Аркуша**.

па крыві»), да гісторыі свайго краю і яго багатай мастацкай спадчыны. Акрамя таго, лепшым узорам яго паэзіі ўласцівыя відавочная ўзнёсласць, своеасаблівая рамантычнасць і можна нават сказаць «нябёсная», што засведчыў, дарэчы, і сам паэт: «Урэзацца ў неба — мала, / Трэба адчуць узлёт». Тады як вершы большасці сучасных паэтаў, наадварот, вызначаюцца нашмат большай прыземленасцю, побытавасцю, празаічнасцю, а часам і яўнай безгустоўнасцю, анты-паэтычнасцю.

Дзеля справядлівасці варта прызнаць, што ў падрыхтаваным да друку паэтычным зборніку Анатоля Сыса «Берагі майго юнацтва» было яшчэ нямала недахопаў і хібаў. Сярод іх галоўнымі, на маю думку, з'яўляюцца пэўная аднастайнасць у тэматыцы, інтанацыі і відах верша, кампазіцыйная рыхласць асобных твораў, там-сям заўважныя збоі вершаванага рытму, а таксама наяўнасць некаторых русізмаў (напр., «плахі салдат, «старынны санет», «узнай сябе», «не гразі пакарэннем неба» і інш.). Аднак у далейшым практычна ўсе вышэйназваныя хібы А.Сысом былі пераадолены і ў сваіх першых надрукаваных у канцы 1980-х гг. зборніках «Агмень» і «Пан Лес» ён ужо паўстаў перад чытачом цалкам сфармаваным і выключна майстравітым паэтам.

Унікальная творчая постаць Анатоля Сыса стала яскравым сімвалам ягонага шчырага патрыятызму, бескампраміснага нонкарфамізму ў творчасці і паводзінах, а таксама ўзорам мастацкай разняволенасці і чуйнасці да духу эпохі. Разам з тым яго адносна кароткая паэтычная дзейнасць, якая доўжылася

фактычна каля паўтара дзесяцігоддзя, уяўляла сабой прыклад самаахвярнага служэння слову і народу, у вогнішчы якога ў рэшце рэшт і згарэў звышадораны прарок беларускай незалежнасці. Прычым ён, бясспрэчна, прадчуваў свой нядоўгі жыццёвы век, паколькі ў адным з ранніх вершаў пісаў аб тым, што «праляцяць мае вёсны і зімы, / нібы белыя дзікія коні». І на заканчэнне хацелася б прыгадаць словы славутага паэта Рыльке, які больш за стагоддзе таму ў сваім лісце да аднаго маладога паэта слушна падкрэсліваў, што сапраўдныя творы мастацтва — гэта «загадкавыя істоты, чыё жыццё ў параўнанні з нашым, часовым жыццём доўжыцца вечна». Верыцца, што лепшыя паэтычныя творы Анатоля Сыса бясспрэчна будуць жыць вельмі доўга, а мо й сапраўды вечна. І хоць агмень ягонага жыцця досыць хутка згас, але ж удзячныя нашчадкі, нераўнадушныя да высокага мастацтва, будуць заўжды помніць свайго выбітнага паэта-змагара, паэта-прарока.



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Літаратурная крытыка: o be or not to be?

***Салеев В.А. Нобель для Беларуси: литературно-критические статьи / Салеев Вадим Алексеевич. Минск: Литературный свет, 2019. 160 с.***

Пачатак XXI стагоддзя адзначыўся яшчэ большай ступенню паскоранасці (успомнім адэптаў падобных меркаванняў ад класіка паэзіі Максіма Багдановіча да акадэміка Віктара Каваленкі). Маем на ўвазе літаратурны працэс. Але яго дынаміка каталізавалася і агульнымі глабальнымі тэндэнцыямі.

Такая імклівасць прывяла да хуткаплыннасці. Напрыклад, яшчэ нядаўна (каля)літаратурныя колы гулі пра «Радзіва «Прудок». Дзённік» Андруся Горвата. Але сёння пра той феномен мо ці хто ўспамінае. Хоць у цэлым такія метэоры толькі ўпрыгожваюць любую літаратуру. Яшчэ жвавей пераварваецца ў літпрацэсе крытыка.

Азначаныя ўмовы не кожнаму дазваляюць прысесці або (лепей) прыняць позу патрыцыя — і, не спяшаючася, засяродзіцца на ўзвышаным. Аднак, менавіта на такі падыход рашыўся вядомы беларускі эстэтык, доктар філасофскіх навук, член пяці грамадскіх акадэмій Вадзім Салееў. Пад канец 2019 года ўбачыла свет яго рускамоўная кніга з характарыстычнай назвай — «Нобель для Беларуси». Ужо з гэтай фармулёўкі вынікае, па-першае, літаратуразнаўчы акцэнт выдання, па-другое, зададзеная планка эстэтычнага аналізу, якая не саступае «гамбургскай». Аўтар не толькі (а месцамі і не столькі) аналізуе, колькі дае ацэнкі аб'ектам, якія трапілі пад яго ўвагу.

Ва ўступе аўтарам абазначаюцца каардынаты, у якіх будуць разглядацца літаратурныя феномены. Натуральна, сказваецца савецкая адукацыя — у лепшых яе праявах (дастаткова адзначыць, што абедзьве дысертацыі В. Салеевым былі абаронены ў МДУ). З першых абзацаў спамінаюцца В. Бялінскі, К. Маркс, Гегель. Разам з тым не ігнаруюцца і сучасныя погляды і ацэнкі ў гуманітарыстыцы.

Таксама на пачатку акрэсліваецца тэматычнае кола вынесенай на суд чытача аналітыкі. Тут і класікі, і сучаснікі, і пытанні з разраду вечных. Адным з іх з'яўляецца праблема крытыкі як феномена культуры. Вырашаецца тое пытанне на матэрыяле мастацкай літаратуры.

Пафас, з якім падыходзіць да свайго эстэтычнага даследавання В. Салееў, ні ў якім разе не экстрапаліруецца на асобы мастакоў слова. Наадварот, яны разглядаюцца даволі жорстка. Зрэшты, пра гэта сведчыць нават вокладка з адбіткам у нейкай меры скандальнай карціны Аляксея Марачкіна «Nobilis Soveticus». Менавіта нарысам, які даў назву ўсёй кнізе і да якога «прывязана» афармленне вокладкі, і адкрываецца выданне.

Так, найлепей фармат кнігі назваць зборнікам нарысаў, эсэ. У іх няма строгай канцэптуальнасці. Затое знойдзем цікавыя адступленні, асабістыя матывы. Гэта не псуе, але ажыўляе аналітыку. Тым болей што пры ўсім гэтым В. Салееў дэкларуе прынцып: «критик должен преодолевать ауру субъективности, вечно окутывающую мир художественного».

Таму і першы нарыс мае названыя бакі. В. Салееў імкнецца даць ацэнку творчасці Святланы Аляксіевіч і ее жыццёваму крэда. Эстэтык згодны з рашэннем Нобелеўскага камітэта. Тым не менш лічыць, што філасофскі бок пісьменніцы-дакументалісткі не ідэальны. У гэтым бачыцца якраз асабістае і... не новае. Да таго ж сама лаўрэатка найвышэйшай прэміі, наколькі помніцца, ніколі не прэтэндавала на абсалютную ісціну. Цікава, што да Васіля Быкава як самага вартага прэтэндэнта на галоўную сусветную прэмію ад Беларусі В. Салееў дадае Уладзіміра Караткевіча. Здаецца, пра такі варыянт яшчэ ніхто не заікаўся. Шчыра кажучы, ад першага нарыса чытач будзе чакаць большага — нечага забойнага. Але не атрымае. Карысней для кнігі было б закрыць яе гэтым эсэ.

Далейшыя нарысы не ўпісваюцца ў нейкі адзіны фармат. Некаторыя ўвогуле характарызуюцца стылем даволі пункцірным. Быццам бы аўтар спяшаўся за літаратурным працэсам. Гэта датычыцца найперш опусаў «Отражение или созидание», «Глубинный смысл многоточий...». Іх змест хутчэй характару анонсаў пра навінкі рускай літаратуры. Толькі з допісаў В. Салеева не зразумела, якім бокам яны могуць зацікавіць беларускага чытача. Таму для гэтага выдання яны ўяўляюцца неабавязковымі.

«Первый юбилей...» зусім не адносіцца да жанру крытыкі. Гэта журналісцкі падыход. В. Салееў расказвае пра літаратурны фестываль «Славянская ліра». Мерапрыемства мінула, кажучы блізкаю да іх удзельнікаў моваю, першую пяцігодку. Шаноўны прафесар хваліць форум. Называе шматлікія імёны. Не дзіўна: В. Салееў уваходзіў у склад журы фестывалю. Разам з тым адзначым намі ўбачаную латэнтную іронію. «Славянская ліра» не надта гучала ўперад (пры арганізацыі ў Полацку) і належна не загучала з пляцоўкі ў Мінску. Гучныя дыфірамбы пра тыя мерапрыемствы — як рэзананс дзеля справядлівай ацэнкі «междусобойчика».

Збольшага да чаканага чытва адносяцца апошнія нарысы.

Адзін з іх можна лічыць візітоўкай «Полоцкой ветви» — грамадскай арганізацыі літаратурна-мастацкага кірунку. З аднаго боку, дасягненні таго міжнароднага — маштаб сапраўды ўражвае — таварыства шматкольканыя. Але ўзнікае пытанне: чаму нягучныя? Таму, з другога боку, пад сумнеў ставяцца вартасці ўсяго аб'яднання.

Што ж, па візітоўцы можна разбарацца на гэты конт. В. Салееў, акрамя агульнай характарыстыкі, прыводзіць выбранае лепшых. Агульна кажучы, гэта — рускамоўныя ці рускатворчыя, выгадаваныя на класіцы рускай літаратуры. Некаторыя праходзілі паўз паліц літаратуры замежных краін. Прычым

такіх думак не напісалася б, калі б аўтары самі не падштурхоўвалі.

Нельга сказаць, што абагульненне распаўсюджваецца на ўсіх. Для апраўдання існавання арганізацыі ці паэта дастаткова пары радкоў. В. Салееў прадстаўляе некалькіх (так вынікае, лепшых) паэтаў (толькі паэтаў, іншага фармату ў «Полоцкой ветви» быццам няма, што таксама даволі характарыстычна для арганізацыі): Міхаіла Баранчыка, Маргарыту Багдановіч, Алега Барадача, Аляксандра Гугніна, Алега Зайцава, Аляксандра Ключнікава, Наталлю Літвінаву, Васілія Мельнікава, Аляксандра Раткевіча, Алега Сашко, Вадзіма Яра, Аляксея Бандорына, Людмілу Салтыкову, Людмілу Крыжаноўскую (апошнія тры — замежнікі).

Кожны з іх у В. Салеева атрымлівае лапідарную, але змястоўную характарыстыку. Пры гэтым прыводзіцца па некалькі вершаў. Лепшых — але на густ прафесара. З выбарам не кожны можа пагадзіцца. Як напрыклад:

*Не долго длился желтых листьев танец.*
*Закончили деревья свой стриптиз...*
*И только я, веселый оборванец,*
*Сижу и жду — вдруг повторят на бис.* (М. Баранчык з Ліды.)

Сапраўды, у дадзеным выпадку ўсё, здавалася б, літаратурна, па-мастацку. Прысутнічае вобраз. Пастаўлены радок. Але весялосць лірычнага героя не ўпісваецца ў агульную карціну восені. Да таго ж апошнія радкі верша: «...с асфальта влажные каштаны / глядят глазами грустных лошадей», — увогуле надаюць твору элемент абсурднасці з прычыны канструявання метафары на параўнанні з конскімі вачыма.

Тым не меней сустракаюцца вершы, якія, несумненна, зачэпяць душу чытача.

*В жизни видимой, но незрячей,*
*забавляюсь гаданьем на*
*совместимости слов — иначе*
*не узнаешь, чем ночь темна.* (А. Барадач з Мінска.)

Разам з тым у іх адчуваецца ўплыў. У дадзеным выпадку — Іосіфа Бродскага. Быццам у пацверджанне В. Салееў, называючы А. Барадача майстрам перакладу, прыводзіць перастварэнне верша названага рускага паэта на беларускую. Прыклад, аднак, не пераконвае ў майстэрстве. Хутчэй наадварот. І. Бродскі не рыфмаваў бы «даўно» і «брыво». Дый перакладаць трэба на мову, якою добра, арганічна валодаеш. Гэтага ў рускамоўнага А. Барадача не назіраецца.

У цэлым прыведзеныя вершы даволі правільныя. Не дзіўна. Нехта з аўтараў — філолаг, як, напрыклад, прафесар А. Гугнін. Нехта — сам па сабе не можа жыць без паэзіі, як сваёй, так і класікі. Але каб адчуваліся самабытныя галасы — такога з прафесаравай візітоўкі «Полоцкой ветви» не чутно. Са многімі, нават выдатнымі (тым больш выдатнымі), радкамі хочацца праводзіць паралелі.

*Даль бесконечна, я упасть готов,*
*Порвав свой бег на лоскуты, на точки,*
*Чтоб стать однажды, с высоты годов,*
*Отцом одной, но гениальной строчки.* (А. Зайцаў з Наваполацка.)

Адразу ўспамінаецца Міхась Стральцоў з яго трапнымі, быццам падгледжанымі ў жыцця і эстэтыкі назіраннямі:

*Прысніўся верш — не верш, а два радкі:*
*Абломак лодкі ўсплыў са дна ракі,*
*І кружыць вір счарнелую траву,*
*З абломкам лодкі к берагу плыву.*

*Прачнуўся... Дзень трывогаю прапах,*
*І два радкі гаркотай на губах.*

У А. Ключнікава (Мінск) чытачам спадабаецца іронія, з дапамогай якой паэт разважае пра некаторыя жыццёвыя сітуацыі. Пры гэтым падключаецца дарэчная гульня слоў:

*Мадам, хотите, не хотите ли,*
*но я бы честно Вам сказал,*
*что Ваша внешность — на любителя.*
*А я же — профессионал!*

Або:

*С тобой мы ошибались оба,*
*Пытаясь вылепить судьбу:*
*Мне виделась любовь до гроба,*
*Ты видела ее в гробу!*

Канечне, гэта не самая высокая паэзія. Але літаратура сапраўдная. Толькі вось ізноў напрошваюцца паралелі. У дадзеным выпадку — з Ігарам Губерманам. Яго так званыя гарики яўна ў А. Ключнікава заўсёды пад рукою.

Радкі некаторых (не будзем крыўдзіць называннем прозвішчаў) увоугле можна расцаніць, як эпігонства. Асабліва адчуваецца дыханне «Сярэбранага века». Зрэшты — не самы горшы варыянт. Да таго ж адсутнасць навізны і свежасці «под луной» — з'ява звыклая, банальная. Было б інакш — усе пісьменнікі хадзілі б у класіках. Па вялікім рахунку літаратурны працэс на перайманні і трымаецца. Як заўважыў палачанін А. Раткевіч,

*Как писали в начале века,*
*так же пишем мы и в конце,*
*так же рыщем по дну сусека,*
*чтобы рифмы сыскать в грязце.*

Пры характарыстыцы асоб творцаў В. Салееў падае і дасягненні. Мы даведаемся пра дзясяткі літаратурных узнагарод і прэмій. Часам — толькі ў аднаго чалавека. Такія выпадкі іншым разам выглядаюць трохі па-брэжнеўску карыкатурна. Але ж Леаніда Брэжнева ведаюць усе. А тых паэтаў — не. Хоць

павінна быць наадварот. Хто сёння скажа, пры якіх царах пісаў Францішак Багушэвіч? Такіх знаўцаў знойдзецца багата меней за людзей, знаёмых (хоць бы па-школьнаму) з Мацеем Бурачком.

Звернем увагу, што тыя ўшанаванні — галоўным чынам расійскія. Сімптаматычна, што і літаратары ментальна і культурна прысутнічаюць у патоку расійскалітаратурным. Не сказаць, каб яны не любілі сваёй зямлі, — той жа А. Гугнін патрыёт Полацка яшчэ які! Але наконт адданасці да вялікай радзімы ўзнікае пытанне пра яе. Яно датычыцца не ўсіх, але некаторых дакладна, чый адрас не дом і не вуліца. У такіх прарэзваецца касмапалітызм ( не па форме, а па змесце, як сказана вышэй, расійскакультурны). Адзін з іх нават адкрыта прызнаецца: «Меж улочек тёмных петляю / (Нет Родины в мире!)...» (гэты верш і аўтар у разглядаемую «анталогію не ўвайшоў, тым не менш, мы вырашылі да яго звярнуцца пры разглядзе візітоўкі арганізацыі). Сам В. Салееў у сваіх развагах агаворваецца, называючы айчыннымі так званыя тоўстыя літаратурныя часопісы Расіі.

Кантрапунктам, як па мне, у характарыстыках стала ўказанне на членства ў «ряде союзов писателей России» адной паэткі. Быццам бы і Міхаіла Булгакава на іх няма:

— Ваши удостоверения? — она с удивлением глядела на пенсне Коровьева, а также на примус Бегемота, и на разорванный Бегемотов локоть.

— Приношу вам тысячу извинений, какие удостоверения? — спросил Коровьев удивляясь.

— Вы писатели? — в свою очередь, спросила гражданка.

— Безусловно, — с достоинством ответил Коровьев.

— Ваши удостоверения? — повторила гражданка.

— Прелесть моя... — начал нежно Коровьев.

— Я не прелесть, — перебила его гражданка.

— О, как это жалко, — разочарованно сказал Коровьев и продолжал: — ну, что ж, если вам не угодно быть прелестью, что было бы весьма приятно, можете не быть ею. Так вот, чтобы убедиться в том, что Достоевский — писатель, неужели же нужно спрашивать у него удостоверение? Да возьмите вы любых пять страниц из любого его романа, и без всякого удостоверения вы убедитесь, что имеете дело с писателем. Да я полагаю, что у него и удостоверения никакого не было! Как ты думаешь? — обратился Коровьев к Бегемоту.

— Пари держу, что не было, — ответил тот, ставя примус на стол рядом с книгой и вытирая пот рукою на закопченном лбу.

<>

— Ваши удостоверения, граждане, — сказала гражданка.

— Помилуйте, это, в конце концов, смешно, — не сдавался Коровьев, — вовсе не удостоверением определяется писатель, а тем, что он пишет!

Акрамя гэтага ўрыўка, на ўсякі выпадак таксама хацелася б нагадаць дыялог Майстра з Іванам Бяздомным:

— А вам что же, мои стихи не нравятся? — с любопытством спросил Иван.

— Ужасно не нравятся.

— А вы какие читали?

— Никаких я ваших стихов не читал! — нервно воскликнул посетитель.

— А как же вы говорите?

— Ну, что ж тут такого, — ответил гость, — как будто я других не читал?

Усё-такі класіку варта перачытваць. Прычым не толькі выбарна. Але і глядзецца ў яе, як у люстэрка. Ледзь не напісалася «рускай рэвалюцыі», і гэта было б дарэчы, бо ў ім адлюстраваны несмяротны афарызм: можаш не пісаць, не пішы.

Заключаецца выданне В. Салеева эсэ пад назвай «Право на критику». Прафесар задумваецца пра яе ролю (значыць, у многім і сваю) ва ўмовах глабалізацыі і інтэрнетызацыі. Сучаснае становішча аўтару бачыцца літаральна катастрафічным. У той жа час ясна абазначаецца, што роля крытыкі выходзіць на новы ўзровень (хочацца правесці аналогію з камп'ютарнымі гульнямі): «.. Литературная критика — подлинная критика, неизбывная в своей необходимости для народа и человека — фиксирует и закрепляет эти усилия («людьми зваться». — **А. Т.**). Животворно одухотворяя триединство сущего мира в единении его высших ценностей — Истины, Добра и Красоты», — заключае эстэтык.

Увогуле падобных выданняў — кніг акадэмічнай крытыкі — сёння бракуе. Іх час мінуў. Нібыта.

Прычынаю бачыцца сучасная хуткаплыннасць, якая стала тэмаю для зачыну гэтай рэцэнзіі. У актуальным культуралагічна-тэмпаральным кантэксце такія выданні мільгацяць, як знічкі.

Між тым В. Салееў, відавочна, з акрэсленым тэзісам згодны не будзе. Інačай не выдаваў бы разгледжанай тут кнігі. З аднаго боку, яе можна расцэньваць як тугу аўтара па «раньшему времени». Але з іншага — у гэтым бачыцца жаданне і надзея на паўтарэнне хоць у нейкім выглядзе чытацкай культуры і літаратурна-крытычнага фармату, дзе знойдзецца арганічнае месца і «Нобелю для Беларусі».

